


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8** (1054)

ЖНІВЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена Аляксандраўна*



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

## *ЗМЕСТ*

Францыск СКАРЫНА

# ПРА(Д)ВЕРШЫ

***па-беларуску ўзнавіў Алесь БРАЗГУНОЎ***

## Прадмова да ўсёй рускай Бібліі

**И тако младенцемъ и людемъ простымъ естъ наꙋка, ꙋчителомъ же и людем мꙋдрымъ подивление, ꙗко река дивнаꙗ: мелка, по нейже агнець брести можеть, а глꙋбока, слонъ ꙋбо пливати мꙋсить.**

**В сей книзе всее прироженое мꙋдрости зачало и конець — Богъ Вседержитель — познаванъ бываеть.**

**В сей книзе вси законы и права, имиже люде на земли справоватисꙗ имають, пописаны сꙋть.**

**В сей книзе вси лекарства, дꙋшевные и телесные, зꙋполне знайдете.**

**Тꙋ навчение философии добронравное, ꙗко любити Бога длꙗ самого себе и ближнего длꙗ Бога имамы.**

Біблія — простаму люду навука,
дзіва — настаўнікам і мудрацам.
Яна як рака чарадзейная:
льга і ягняці яе перайсці,
але слон мусіць плысці.

Тут пазнанне пачатку
прыроджанай мудрасці
і яе заканчэння —
Бога Ўсястворцы.

Тут правы і законы людскія,
усялякія лекі для душаў і целаў.

Тут пабожны закон філасофіі:
Бога дзеля сябе,
а бліжняга дзеля Бога
палюбі.

**Ащели же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делехъ, чти книги Сꙋдей или книги Махавеевъ: более и справедливее в нихъ знайдеш, нежели во «Александрии» или во «Тройи».**

**Пакли же вократце сведати хощеши много тысещей летъ летописець, чти книги Паралипомена: тамъ, почениши от Адама, даже до Седехии, останочного царꙗ Їȣдина, роды положены сȣть.**

**Потребȣеши ли наȣки и мȣдрости, добрыхъ нравовъ, часто прочитай книги Їсȣса Сирахова а Притчи Саломоновы.**

Ведаць страсна жадаеш
ты пра вояў славутых
і хаду ўсіх ваенных падзеяў —
кнігі Суддзяў чытай або Макавеяў;
ні ў гісторыі Аляксандра ані ў «Троі»
не шукай нават праўды такое.

Хочаш хутка спасцігнуць
тысячагоддзяў падзеі —
ад Адама палічаны роды
з усіх кален
да Седэкіі,
апошняга ўладцы Юдэі,
у кнігах Параліпамен.

Настаўлення шукаеш
і мудрай парады —
да кнігі Ісуса, сына Сіраха,
і Прытчаў цара Саламона
часцей зазірай
ды прыкладаў добрых звычаяў
там пашукай.

## Кніга Быццё

**Во Первыхъ книгахъ своихъ пишеть пророк Господень Моисей, пророкȣꙗ Дȣхом Светым о прешлыхъ речехъ: ꙗко Господь Богъ сотворилъ небо и землю и всꙗ, еже сȣть в нихъ; Адама, праотца нашего, и Ѥвȣ, матерь, по образȣ Своемȣ и по подобию; ꙗко врагъ, змей, прелстилъ ихъ и выгнаны быша з раю.**

**Потомъ ꙗко начаша люди множитисꙗ на земли и злии быти, прото потопъ наведе на нихъ Господь Богъ, кроме толико Ноꙗ — самого со челедию его соблюде ȣ ковъчезе.**

**Затым о розделении ꙗзыковъ, царствъ, людей и народовъ.**

**Потом о нарожении Авраамове и ꙗко Господа Бога позналъ и Той обещалъ розмножити семꙗ его.**

**Теже о житии Авраамове, внегда родисꙗ емȣ Їсаакъ, и ꙗко Господь Бог искȣшалъ Авраама, велꙗй приносити на жертвȣ сына своего Їсаака.**

Піша тут
Духам Святым кіраваны
Божы прарок Майсей,
як паўсталі нябёсы й зямля,
як бацькоў нашых, Еву з Адамам,
Бог стварыў на падобу Сваю;
пра спакусу ад змея

і нашае з раю выгнанне,
памнажэнне народу і злосці;
пра патоп і ратунак
(аднаго толькі Ноя
Бог збярог у каўчэгу і чэлядзь);
пра пазнейшы падзел на народы і царствы,
пра Аўрама і семя яго памнажэнне,
як Гасподзь выпрабоўваў яго:
«Аўраам, прынясі Ісаака ў ахвяру!»

Потреба тежъ ведати, иже со всихъ книгъ Ветхаго Законꙋ сие книги Бытьѧ и початокъ и конець книгъ Езехилѧ-пророка а Песни Песнем Саломона-царѧ сꙋть трꙋдны ко зрозꙋмению; протож и Евреи людемъ младымъ предъ тридесетма леты не давали ихъ чести длѧ великихъ тайнъ, еже замыкають в собе книги сие, понеже сꙋть над розꙋм людский.

Кніга гэтая —
побач з Песняю Песняў
і кнігаю Езэкііля —
складаная для разумення
і розум любы пераўзыдзе;
і таму іх габрэі
сваім маладзёнам
не давалі чытаць
да спаўнення
гадоў трыццаці.

## Кніга Лявіт

«Ва-икра Едонай ель Моше», то естъ по-рꙋски: «Возва Господь Моисеѧ».

Тако жъ и мы, братиѧ, не можем ли во великих послꙋжити посполитомꙋ людꙋ рꙋскаго ѧзыка, сие малые книжки праци нашее приносимо имъ.

«Ва-йікра Аданай эль Машэ» —
«Паклікаў Гасподзь Майсея».
Таксама і мы, браты,
служым людзям сваім, як умеем:
хай на большае шчэ не гатовы,
то прыносім свой сціплы дар —
кнігі словамі роднай мовы.

## Кніга Другі Закон

Авраамъ два сына имелъ естъ — единаго от рабыне, а дрꙋгаго от свободныѧ, но той, иже от рабыне, по плоти родисѧ, а иже от свободныѧ — по обетованию.

Меў Аўраам ад рабыні сына
па плоці, па абавязку;
ад вольнае — іншага:
той у свет прыйшоў
праз каханне і Божую ласку.

## Кніга Ісуса, сына Нава

Написъ, иже былъ написаный на Животворѧщем Кресте Его, светчить

словы еврейскими:
ЕГОШꙋА НОЦЬРИ, МЕЛЕХЪ ЕГꙋДИМЪ;

словы греческими:
ІСꙋСЪ О НАЗАРЕОС, О ВАСИЛЕФС ТОН ІꙋДЕОН;

словы латинскими:
ЕЗꙋСЪ НАЗОРЕНꙋСЪ, РЕКСЪ ЮДЕОРꙋМ;
по_рꙋски сѧ сказꙋет:
ІСꙋСЪ НАЗОРѦНИНЪ, ЦАРЬ ІЮДЕЙСКИЙ.

**На Яго Жыватворным Крыжы надпіс габрэйскі:**

ЕГАШУА ГА-НОЦРЫ МЕЛЕХ ЕГУДЗІМ
(ІСУС З НАЗАРЭТА, ЦАР ЮДЭЙСКІ);

словамі грэцкімі пад ім:
ІСУС О НАЗАРЭАС О ВАСІЛЕФС ТОН
ІУДЭОН;

lingua romanorum:
ЕЗУС НАЗОРЭНУС РЭКС ЮДЭОРУМ.

## Кнігі Царстваў

Многими и различными обычаи Господь Бог писма и наꙋкꙋ намъ, людемъ своимъ, далъ и дава от початкꙋ света даже и до сего днѧ. Найпервей далъ естъ Евреомъ рꙋкою Моисеѧ, раба своего, Ветхый Законъ. Потомъ намъ, хрестиѧном, ꙋсты Своими Новое Благовествование ꙋставилъ.

От книгъ пакъ сихъ Ветхаго и Новаго Закона сꙋть некои, иже пишꙋть наꙋкꙋ и сꙋды Божиѧ.

Иные же намъ писма далъ милостивый Бог, иже пишꙋть дела бывшаѧ и летописаниѧ.

Мноства спосабаў
Госпад мае,
якімі
спасылае пісанні
людзям Сваім,
вучыць і настаўляе.

Стары Запавет
даў габрэям
праз Майсея,
слугу свайго,
а Новае Дабравесце
было паслана
нам, хрысціянам,
з вуснаў святых Яго.

Многія кнігі
Запаветаў абодвух
змяшчаюць
Божыя павучэнні
і прадвызначэнні,
а некаторыя —
даўнія дзеі
й падзеі.

**Положил есми в сихъ книгахъ образци храмȣ Господьнꙗ, и сосȣдовъ его, и домȣ царева, еже ставил ест Саломон-царь. А то длꙗ того, абы братиꙗ моꙗ Рȣсь, люди посполитые, чтȣчи, могли лепей разȣмети.**

Тут змясціў я выявы
Храма Божага,
свяшчэнных сасудаў
і царскага дома,
збудаванага Саламонам.
А ўсё для таго,
каб браты мае, русь,
людзі простыя,
пры чытанні
разумелі
і мелі
адказ на пытанні.

## Кніга Іова

**В сихъ книгах открил ест намъ Богъ великие тайны светымъ Иовом. Напервей, чего ради Господь Богъ на добрих и на праведныхъ допȣщаеть беды и немоци, а злымъ и несправедливым даеть щастье и здравие.**

Праз святога Іова
вялікія таямніцы
адкрывае нам Бог
міласцівы:
чаму спасылае беды і зло
на добрых і праведных,
а несправядлівы
пышнее ў шчасці-здароўі,
як і зласлівы...

**И всꙗкомȣ человекȣ потребна чести, понеже ест зерцало житиꙗ нашего, лекарство дȣшевное, потеха всемъ смȣтнымъ, наболей тымъ, ониже сȣть въ бедахъ и в немощахъ положены, надежа истиннаꙗ востаниꙗ изъ мертвыхъ и вечного живота.**

Кожны мае яе прачытаць,
бо яна ўсё жыццё адлюструе,
стане лекам душы,
супакой
дасць таму, хто смуткуе.

Тым, хто ў немачы, у бядзе
ці ў нейкай яшчэ патрэбе,
кніга гэтая — шлях да жыцця
вечнага ў небе.

## Кніга Юдзіфі, удавы

**Потомъ на Вселенскомъ соборе въ Никии свꙗтыми отци дозволена намъ сиꙗ Книга Юдифъ чести к нашемꙋ наꙋчению, абыхомъ, ꙗко зеръцало, женꙋ сию преславнꙋю пред очима имеюще, в добрыхъ делехъ и в любви Отчины не толико жены, но и мꙋжи наследовали и всꙗкого трꙋжаниꙗ и скарбовъ длꙗ посполитого доброго и длꙗ Отчины своеꙗ не лютовали.**

На Ўсясветным саборы ў Нікеі
святыя айцы
падалі для нашай навукі
чытанне кнігі Юдзіфі,
каб мы,
прыклад маючы слаўнай жанчыны,
пераймалі яе ў добрых справах,
у любові да ўласнай Айчыны,
у шуканні дабра ўсеагульнага
не зважалі на працу і скарбы.

## Кніга прытчаў Саламона

**Многократъ преже того въ притчахъ глаголалъ ест к нам Господь Богъ, нежели приꙗлъ человеченство от Пречистое Богородици Марии, свꙗтыми отци и пророки, а наболей царемъ Саломоном, онъ бо просилъ естъ от Господа Бога мꙋдрости и разꙋма.**

Не раз і раней,
да таго, як прыняў наша цела,
чалавечае
ад Прачыстае Дзевы Марыі,
гаварыў з намі Бог
праз айцоў і пракокаў,
а найбольш праз цара Саламона:
той выпрошваў у Госпада Бога
толькі мудрасці й розуму,
а болей нічога.

**Пожиточьны же сꙋть сие книгы чести всꙗкомꙋ человекꙋ, мꙋдромꙋ и безꙋмномꙋ, богатомꙋ и вбогомꙋ, младомꙋ и старомꙋ, наболей тымъ, ониже хотꙗт имети добрые обычае и познати мꙋдрость и наꙋкꙋ. Долгота бо дней, и лета живота, и миръ приложатсꙗ имъ, милосердие и правда не оставꙗть ихъ, естъли же пилне послꙋшають и соблюдꙋть притчи, положеные въ книгахъ сихъ.**

Кожны знойдзе карысць для сябе,
хто гэтую кнігу чытае:
мудры й шалёны,
юны й стары,
заможны і той, хто нічога не мае.

А найбольш —
хто без прынукі
добрых звычаяў шукае,
да мудрасці і навукі
цярэбіць свой шлях. Атрымае
ён доўгія леты ў спакоі,
міласэрнасць і праўду спазнае,
калі не адкіне прытчаў,
што гэтая кніга змяшчае.

Єстъ бо в сих притчах сокрита мудрость, яковы моць въ драгом камени и яко злато в земли и ядро у ворєху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость и достанеть благославения от Господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею. Хвала и честь безчисленая — моцию ея, она убо ест мати всехъ добрыхъ речей и учитель всякому доброму умению. «В ней воистинну ест духъ разумности: святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непоскверненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый» и всякую иную имеющий в собе добрую цноту.

Мудрасць схаваная ў прытчах,
як моц у камні каштоўным,
як золата пад зямлёю,
як ядро ў шкарлупіне.
Дабраславенне і ласка
прыйдуць ад Госпада з ёю,
слава й пашана цябе не пакіне,
бо мудрасць — настаўніца
кожнага добрага ўмення
і маці
ўсялякага добрага чыну й стварэння.

Пануе ў ёй мудрасці дух сапраўды:
святы, разважлівы і адзіны,
сціплы, разумны, красамоўны,
беззаганны, рухомы, праўдзівы,
салодкі, чысты і дабратворны,
цвёрды
і ўсякае іншае
ўхвальнае цноты поўны.

## Эклезіяст, або Саборнік

В сей же книзе, рекомой Екклесиастъ, или Соборник, пишет о науце всехъ людей, посполите сущих в летехъ мужства, приводячи имъ на памет сует у, беду и працу сего света, понеже въ розмаитыхъ речахъ люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины въ царствахъ и в пановании, друзии в богатестве и въ скарбохъ, инии в мудрости и в науце, а инии въ здравии, в красоте и въ крепости телесной; неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии и в любодеянии; инии теже въ детех, въ приятелехъ, во слугахъ и во иных различныхъ многыхъ речах. А тако единый каждый человекъ имат некоторую речь предъ собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит.

Разумея же сия речи, премудрый Саломонъ краткими є словами в сей книзе, яковы во зерцале, намъ написалъ, глаголя: «Сует а над суетами» и «все суетно и утиснение духово».

Жывучы ў гэтым свеце,
кожны думкай кіруецца
ўласнаю ці ўпадабаннем:
той — да царства або панавання,
да багацця і скарбаў збірання,
той — да мудрасці й добрай навукі,
прыгажосці
і моцы цялеснай наогул;
той заможнасці прагне,
маёмасці рознае многа,
смачнай ежы, піцця,
пералюбства ліхога;
той — аб дзецях, сябрах,
слугах клопат свой мае.
Кожны з нас
сваё ўпадабанне
на мэце трымае.

Палічыў Саламон
тыя рэчы
ў сціслых выслоўях,
паказаў, бы ў люстэрку,
паўтараючы:
«Марнасць над марнасцю,
марнасць усё
і пагоня за ветрам».

## Плач Ераміі

Еремиꙗ-пророкъ Господень, в животе матки своее посвещеный. Сей почал пророковати тринадесꙗтого лета от нарожениꙗ своего и пророковалъ четырдесꙗтъ летъ в земли Іудине.

Пришол естъ з войском Навходносоръ, царь Вавилонскый, и облꙗже Ерусалимъ, и добылъ его, и сказилъ и, и заведе царꙗ и людей словутныхъ.

Еремиа же осталъ естъ с людми убогими во Ерусалиме. И тако, видꙗчи опустение и скажение града, иже наполнилосꙗ пророчество его, плакалъ, гледꙗй на Ерусалимъ, и рыдалъ, вымолвꙗꙗ слова, писанаꙗ во книжце сей, протожъ и называетсꙗ Плачь Ереминъ.

Ерамія, прарок Гасподні,
у мацярынскім улонні
атрымаў пасвячэнне;

прадказваць пачаў
на трынаццатым годзе
ад свайго нараджэння;

сорак летаў прарочыў
у Юдэйскай зямлі,
калі

цар Вавілонскі, Наўхадносар,
Ерусалім
абступіў з войскам:
здабыў,
разбурыў;

цару прыпала няволя,
і вяльможам — тая самая доля.

Ерамія ж застаўся
з убогімі ў Ерусаліме;
бачачы апусценне
і разбурэнне,
як горад гіне,
плакаў горка й рыдаў,
што прычакаў
свайго прадказання спаўнення.
Вось чаму кніжка мае
такое найменне —
Плач Ераміі.

## Псалтыр

**Псаломъ ест всеꙗ Церькви единый гласъ,**
**свꙗта ꙋкрашаеть.**
**Псаломъ всꙗкꙋю противность, еже ест,**
**Бога ради ꙋсмирꙗеть.**
**Псаломъ жестокое сердце мꙗкчить**
**и слезы с него, ꙗкобы со источника, изводить.**
**Псаломъ ест ангельскаꙗ песнь, дꙋховный темъꙗнъ:**
**вкꙋпе тело пением веселить,**
**а дꙋшꙋ ꙋчить.**

Псалом — згодны голас Царквы —
святы аздабляе.
Псалом кожную супярэчнасць
дзеля Бога спыняе.
Псалом сэрца лютае памякчае
і слёзы, бы з крыніцы, з яго выпускае.
Псалом — спеў анёла, духоўны чабор:
цела спевам узвесяляе,
а душу навучае.

**И что ест, чего в псалмохъ не найдешь Нест ли тамъ величества Божиꙗ и хвалы Его Тамъ ест справедливость. Тамъ ест чистота дꙋшевнаꙗ и телеснаꙗ. Тамъ ест наꙋка всꙗкое правды. Тамъ мꙋдрость и разꙋмъ доскональый. Там ест милость и дрꙋголюбство без льсти, и вси иншии добрые нравы, ꙗкобы со источника, оттоле походꙗть. Тамъ ест великаꙗ тайна о Бозе, в Троици единомъ, и о воплощении Господа нашего Ісꙋс Христа, и о вмꙋченьи Его невинном и о воскресении из мертвыхъ.**

Ці штосьці такое маеш,
чаго ў псалмах не адшукаеш?
Ці не тут слава Божая і вялікасць?
Ці не тут чысціня й справядлівасць?

Тут любоў, мілата, праўда, мудрая дасканаласць,
тут сапраўдная вернасць, ад сэрца адданасць.
Кожны звычай, што славай цябе надзяляе,
як з крыніцы, адсюль выцякае.

Тут таемства ў Тройцы адзінага Бога
і бязвіннай пакуты Самога
Ісуса Хрыста, і Яго ўцелаўлення,
і з памерлых Яго ўваскрашэння.

**И видечи таковые пожиткы в такъ малой книзе, ꙗ, Францишек, Скоринин сынъ, с Полоцька, в лекарскыхъ наукахъ докторъ, повелелъ есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым ꙗзыкомъ — напред ко чти и к похвале Богу, въ Троици единому, и Пречистой Его Матери Марии, и всемъ небесным чиномъ и свꙗтымъ Божьимъ, а потомъ к пожитку посполитого доброго — наболей с тое причины, иже мꙗ милостивый Богъ с того ꙗзыка на свет пустил.**

І я, Францішак, Скарынаў сын,
палачанін родам,
у лекарстве доктар,
бачачы столькі карысці
ад такое кнігі малое,
загадаў друкаваць Псалтыр
рускімі словамі
на славянскай мове —

для пашаноты і славы
Бога, адзінага ў Тройцы,
і Маці Яго, Прачыстай Марыі,
разам з нябеснымі чынамі
і Божымі святымі,

але і дзеля дабра паспалітага
народа майго:
мяне ў гэты свет Бог міласцівы
прывёў ад імя яго.





Віктар ШНІП

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-4

## Верасень

*

*1.09.2015.* Вечарам перад сном, гледзячы на партрэты бацькоў, прыдумаў радкі:

Тата і мама глядзяць на мяне
З рамак партрэтных на шэрай сцяне.
Тата і мама — іконы мае.
Вас мне жывых, як святла, не стае
Тут на зямлі, дзе заўсёды святло
Нават у тым, што ў нябыт адышло…

*

*2.09.2015.* Загрымеў гром, узняўся вецер і ўміг з дрэў пасыпалася лістота, нібыта верасень узарваў сцены лета, за якімі хаваемся мы ад восені…

*

*2.09.2015.* Дзень карацее, як дарога да Млечнага Шляху…

*

*2.09.2015.* Прайшоў доўгачаканы дождж. І ў калюгах апалая лістота адчула сябе на сёмым небе…

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008), «Проза і паэзія агню» (2010), «Пугачоўскі цырульнік» (2013), «Сабачыя гісторыі» (2013), «Тутэйшая туга» (2014), «Першы папяровы снег» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

*

*3.09.2015.* На кухні ўсе талеркі ўмеюць лётаць. Толькі пра гэта яны не ведаюць…

*

*3.09.2015.* Перад сном занатаваў: «Папера — гэта зімовае поле, на якім словы ўмярзаюць у вечнасць. Адны на час зімы, а іншыя да вогненнага патопу…» Раніцай прачытаў. І пайшоў на працу, дзе на сталах і на шафах ляжаць рукапісы, як на гарах снег, які не растае…

*

*4.09.2015.* Некаторыя перад люстэркам, як перад іконай…

*

*5.09.2015.* Поўня, як цыгарэтны попел, які прымёрз да чорнай цыраты неба…

*

*5.09.2015.* Больш як месяц таму ў Пугачах на свяце вёскі мы з Людмілай даведаліся, што нас запрасяць на святкаванне 550-годдзя Ракава. Апошнія два тыдні я кожны дзень, дастаючы з паштовай скрынкі газеты, спадзяваўся, што атрымаю запрашэнні. І яны прыйшлі сёння ў дзве гадзіны дня, і нам стала вядома, што свята ў Ракаве ўжо ў самым разгары. Гэта наша пошта!!! Сумна. Нават ні кроплі не суцяшаюць радкі з майго верша, што змешчаны на запрашэнні:

Што нам Парыж далёкі, што нам Кракаў
І Амстэрдам, і Лондан той сівы! —
Мы маем гонар свой, мы маем Ракаў,
Дзе ўсе святлом касцёла і царквы
Асветлены і вечнасці слугуюць,
Ствараюць слову роднаму прасцяг
І словы тут з анёламі сябруюць
І не губляюцца ў сівых вяках…

*6.09.2015.* Ад выдавецтва ездзіў у Шчучын на святкаванне Дня беларускага пісьменства. Дамоў прывёз два падарункі — Рычард Бялячыц падпісаў новую кнігу «Споведзь накцюрна» і святочны нумар газеты «Слонімскі веснік», якую падарыла паэтка Алена Руж.

З усяго, што чуў са сцэны, найбольш запомнілася выступленне рускага пісьменніка з Масквы Георгія Прахіна, які сказаў: «Беражыце сваю мову! Без мовы ў вас не будзе краіны! Без мовы не будзе нацыі, не будзе народа. Беражыце сваю мову!»

З усіх лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі атрымаў найбольш гучных і шчырых апладысментаў Дзяніс Марціновіч, калі яго выклікалі на сцэну, каб уручыць дыплом у намінацыі «Найлепшы крытычны твор» за кнігу «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча».

*

*7.09.2015.* Белая, як з леташняга снегу, ванна няспешна плыве па рэчцы. У ёй жоўтая лістота, як вуголле. Далёка да акіяна…

*

*7.09.2015.* Белая поўня, як пакецік з гарбатай…

*

*9.09.2015.* Пасля працы зайшоў у «Цэнтральны» ўніверсам, каб папіць гарбаты і з’есці пару канапак. Ужо не помню, калі тут быў апошні раз. Здаецца, што нічога ў інтэр’еры не змянілася. Каля акон гэтак жа як дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў таму стаяць людзі і падсілкоўваюцца. Чарга — пару чалавек. Стаў каля акна на вольнае месца. Побач маладыя кітайцы. Пра нешта гавораць, смяюцца. Гляджу на вуліцу, дзе на тратуары стаяць столікі. Насупраць мяне пад акном сядзяць тры мужыкі майго ўзросту, няспешна п’юць піва і кураць. За маёй спінай сюды-туды ходзяць людзі. У большасці маладыя. З кавенькай прайшоў стары, спыняючыся каля сметніц. Нічога там няма. П’ю гарбату. Вельмі гарачая. Трэба было б пачакаць, каб астыла хаця б крыху, але я, апякаючыся, п’ю. П’ю гэтак жа, як у свае маладыя гады, калі, будучы беспрацоўным, прыходзіў сюды, каб пагрэцца і падсілкавацца на тыя капейкі, што ў мяне яшчэ былі. Выходжу на вуліцу. На ганку сядзіць стары з кавенькай. Побач стаіць купка моладзі з цыгарэтамі. Па праспекце шнуруюць машыны. У небе вечаровае сонца. У мяне ў роце ўсё апалена гарбатай, у якой быў смак восеньскай самоты…

*

*9.09.2015.* Наведаў галерэю сучаснага мастацтва «Ў», дзе прэзентаваліся адразу тры новыя кнігі — Людмілы Рублеўскай «З’яўленне Інфанты», Леаніда Галубовіча «Поўня» і Юрыя Несцярэнкі «Звычайны шоу-бізнес». Напачатку зайшоў у кнігарню «ЛогвінаЎ». Сярод выданняў у бязлюднай зале, як кніжны Бог, стаяў Алесь Разанаў. Убачыў мяне, заўсміхаўся і адразу набыў выгляд паэта. Абмеркаваўшы працу над кнігай «Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж», якую яшчэ ўсё афармляе мастачка, Алесь Сцяпанавіч звярнуўся да маладзенькай кнігакрамніцы: «Вы ведаеце, хто гэта?» Дзяўчына, зірнуўшы мне ў вочы, адказала: «Ведаю. Віктар Шніп». — «А вы ведаеце, хто ён Рублеўскай?» — «Муж!» Задаўшы яшчэ некалькі пытанняў і атрымаўшы правільныя адказы, мы з Алесем Сцяпанавічам пайшлі на прэзентацыю. Людміла выступала першай. Потым Леанід, які пачаў з паказу магніціка на лядоўню з надпісам: «Писал с утра до вечера, а читать нечего!» Настрой знаёмы. Аднак было што паслухаць у кожнага з выступоўцаў. Несцярэнка выканаў шэсць песень. Сярод якіх прагучалі на словы Рублеўскай і Галубовіча. Спецыяльным госцем вечарыны стаў паэт і бард Ігар Кахановіч, у якога нядаўна ў серыі СБП выйшаў вершаваны зборнік «Астэроід». Пасля прэзентацыі можна было набыць кнігі. Я пайшоў у кнігарню і купіў «Поўню». Вярнуўся, каб атрымаць ад Галубовіча аўтограф, а яго і след прастыў. Дамоў з Людмілай вярталіся пешшу па праспекце. Нас праводзілі сябры аж да Чырвонага касцёла. Каля кнігарні «Цэнтральная» бачылі Сяргея Харэўскага, які вёў экскурсію. Людзі ішлі за Сяргеем, як за апосталам ягоныя вучні. Перабегшы праспект, не спыняючыся, удзельнікі экскурсіі прайшлі каля бюста Дзяржынскага і зніклі ў змроку скверыка. Дамоў з Людмілай вярнуліся амаль у дзесяць гадзін. Перад сном чытаў вершы Галубовіча, узгадваючы тыя гады, калі мы пасля вечарын не разбягаліся, як мышы ў свае норы, а працягвалі гавэнду, пакуль не канчаліся грошы…

*

*10.09.2015.* Іду праз сквер. Пад нагамі апалая лістота. На лаўцы сядзіць стары, як на лаве падсудных…

*

*10.09.2015.* Шаткую капусту. З далёку, з дваццатага стагоддзя чуецца голас мамы: «Асцярожна з нажом!»

*

*10.09.2015.* Зайшло сонца. Цёмна і сцюдзёна, нібыта сонца і не было. Гляджу з акна, як з «Чорнага квадрата» Малевіча…

*

*10.09.2015.* Сярод поля зялёнае дрэва, як прывід з прамінулага лета. Няспешна ідзеш басанож да яго, нібыта баішся спалохаць. Пад нагамі сухая трава. Калючая, як іголкі. Балюча, але маўчыш. Наперадзе дрэва, як твая душа, што развітваецца з полем, якое чакае зімы…

*

*11.09.2015.* Поўня — гэта кропля вечаровага мёду, які дапамагае ад цёмнага настрою…

*

*11.09.2015.* Каля крамы стары прадае лісічкі. Грыбы, як залатыя…

*

*11.09.2015.* У апошнія дні жніўня і першыя вераснёўскія, калі вучыўся ў школе, амаль заўсёды пад вечар хадзіў у лясок, што паблізу нашай хаты. Раскладаў вогнішча і пёк цэлае вядро маладой бульбы. Сам еў і прыносіў бацькам і сястры з братам. Бацькі, відаць, думалі, што мне вельмі моцна есці хочацца, а я, кожны дзень, капаючы лапатай бульбу, думаў пра тое, што як давядзецца яе выбіраць па-сапраўднаму, то яе ўжо меней будзе на полі…

*

*11.09.2015.* Каля сметніцы старыя пажаўцелыя газеты, як лістота апалая з дрэў, якія ўжо не існуюць…

*

*11.09.2015.* Каля лаўкі апалае лісце, як разліты каньяк…

*

*12.09.2015.* У палац пасля рэканструкцыі першымі запусцілі начальнікаў. Як катоў…

*

*12.09.2015.* Ездзіў на свята горада. У раёне Палаца спорту каля вялікага «белкніжнага» шапіка з адзінаццаці гадзін нейкі час сядзеў за столікам з шыльдай «Кнігі з аўтографам аўтара».

Падышла бабулька. Павіншавала «белкнігаўцаў» са святам. Яны тут жа ёй далі ў падарунак сцяжок. Бабулька, прачытаўшы пад малюнкам надпіс «Лета з добрай кнігай», сказала: «Добрыя кнігі крадуць!»

Спыніліся каля мяне жанчыны. Пачалі гартаць кнігі. Пацікавіліся, колькі каштуюць. Даведаўшыся кошт, старэйшая сумна ўздыхнула: «Каб былі па 50—60 тысяч, то набылі б…»

Пажылая жанчына разгарнула майго «Пугачоўскага цырульніка», пачала чытаць. Засмяялася. Відаць, на нешта смешнае натрапіла. «Падпішыце!» — усміхаючыся, падала кніжку…

Падышоў сівавалосы барадаты хударлявы мужчына майго ўзросту. У яго на пінжаку была прымацаваная зялёна-чырвоная стужка. Не пытаючыся пра кошт кніжак, мужчына сказаў: «Бяру дзве! Падпішыце!» — «Як вас завуць?» — пацікавіўся я і пачуў у адказ: «Раман Давыдавіч!»

Сівабароды невысокага росту мужчына, усміхаючыся, запытаўся: «Пазнаеш?» — «Не!» — адказаў я, і мужчына, не назваўшыся, сказаў: «Памятаеш, гадоў пятнаццаць таму мы разам ездзілі з выступленнямі па дзіцячых аздараўляльных лагерах?» — «Памятаю! Тады з намі былі кампазітар Уладзімір Буднік і паэт Алесь Пісьмянкоў. Даўно ўжо іх няма…» — уздыхнуў я, і мы яшчэ некалькі хвілін пастаялі, паўспаміналі памерлых сяброў…

Стары, беручы маю «Заўтра была адліга», сказаў: «Мяне кошт не цікавіць! Мне трэба аўтограф!»

Жанчына ў гадах, прачытаўшы ў «Пугачоўскім цырульніку» зацемку пра гумарыста Уладзіміра Ермалаева, сказала: «Я добра ведала Уладзіміра Фаміча. Святлейшай душы быў чалавек!»

Праз гадзіну да мяне далучылася Людміла Рублеўская. Уся чытацкая ўвага пераключылася на яе, і я пачаў рэкламаваць Людмілiны кнігі…

Нам на замену прыйшлі Міхась Пазнякоў і Анатоль Зэкаў. Людзей каля Палаца спорту ўсё болела і болела. Сказаўшы: «Я змерз на працы!» — я прапанаваў Людміле пайсці ў кавярню пагрэцца. І мы пайшлі…

*

*12.09.2015.* У зладзеяў беспрацоўя няма…

*

*13.09.2015.* Узгадаўся дурны жарт. Дакладней, я сам не памятаю, што і як было, а мне ўсё расказаў малодшы брат Валодзя. Бацька, вярнуўшыся з працы, лёг паляжаць і заснуў. Убачыўшы гэта, мы з братам да бацькі на ложак паклалі пад коўдру фуфайку і гумовыя боты — нібыта, накрыўшыся з галавой, з бацькам ляжыць жанчына. На стол паставілі талеркі з ядой, бутэльку і паналівалі вады ў чаркі. Самі селі за стол і прытварыліся п’янымі. Хутка з працы вярнулася мама. Далей няма чаго расказваць. З таго часу я ведаю, што з бацькоў жартаваць нельга…

*

*13.09.2015.* Сёння дзень танкіста. Узгадаліся 70-я гады мінулага стагоддзя. Мне было гадоў адзінаццаць. Якраз у час зімовых вакацый у нашым раёне праходзілі вайсковыя манеўры. На ўездзе ў вёску сапсаваўся танк. Даведаўшыся ў бацькоў, што гэты танк савецкі, а не нямецкі, я з сябрамі пайшоў паглядзець на баявую тэхніку. Танкістамі былі вузкавокія хлопцы, якія кепска размаўлялі па-руску. Аднак праз нейкі час мы дамовіліся, што мы ім прынясём самагонку, а яны нам дадуць патронаў і па шлемафону. Толькі адзін з нас, не памятаю хто, прынёс пляшку. Ён і атрымаў патроны і шлемафон. Астатнім дазволілі пасядзець у танку і панаціскаць на кнопкі…

*

*13.09.2015.* Сяджу дома каля акна. У двары ў метрах дзесяцці, насупраць мяне, хлапчук гадоў дванаццаці залез на дрэва. Сядзіць у кроне і назірае, хто пад ім ходзіць. Ён, відаць, думае, што яго ніхто не бачыць, бо ён не бачыць

мяне, а я назіраю за ім, як ён назірае за тымі, хто ў двары. Магчыма, гэта я, яшчэ дванаццацігадовы, сяджу на дрэве, бо быў жа час, калі вось так я лазіў на дуб каля нашых сотак і глядзеў на зямлю і неба, каб потым пісаць вершы. Гляджу на хлапчука з думкай: «Хаця б не зваліўся!» Праз хвілін дзесяць да дрэва падышла маці і з крыкам «Злазь, а то паб'ю!» сагнала малога на зямлю…

*

*14.09.2015.* Амаль ува ўсіх кнігарнях крамнікі не прапаноўваюць купіць новыя выданні, а толькі сочаць, каб ніхто нічога не ўкраў…

*

*15.09.2015.* Удзельнічаў у святкаванні 95-годдзя Валожынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Яе дырэктар Ірына Зянько ў сваім выступленні апавяла, як у 1920 годзе жыхар Валожына стварыў бібліятэку, у якой было ўсяго некалькі соцень кніг і пяцьдзясят чытачоў. Кнігі ў асноўным былі на польскай мове, але сёе-тое мелася і з рускай класікі. Беларускамоўных не было і блізка. Цяпер у бібліятэцы некалькі соцень тысяч выданняў. Кожны дзень да кніжных паліц прыходзяць, каб пачытаць штосьці новае, больш як сто чалавек. Прысутнічалі на свяце і дзяліліся ўспамінамі не толькі былыя супрацоўнікі бібліятэкі, але і самыя актыўныя чытачы, якім былі ўручаны падарункі — кнігі. Пасля ўрачыстасцей разам з гасцямі з бібліятэк Валожыншчыны паўдзельнічаў у пасяджэнні народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь», якім кіруе паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч. Чытаў вершы, адказваў на пытанні. Прыемна было паслухаць творы маіх старэйшых зямлячак Марыі Шакун і Соф'і Русецкай. Сабраўшыся ехаць дадому, на вуліцы каля бібліятэкі нечакана сустрэў сябра з Маладзечна Міхася Казлоўскага. Ён прыехаў у Валожын з хлопцам па справах. Міхась падзяліўся навіной — мае кнігу «Выбраныя творы Вольгі і Сяргея Сахаравых», якую ён падрыхтаваў і выдаў у «Кнігазборы». Томік ёмісты. 580 старонак. У выданні добры ілюстрацыйны матэрыял. Міхась хацеў мне зрабіць падарунак, але машына была замкнёная, а ў мяне праз пяць хвілін прыйшла маршрутка. І ўсё ж без новай кнігі я дамоў не вярнуўся — Валянціна Францаўна падарыла зборнік твораў удзельнікаў «Руні» «Помнім і жывём», у якім прадстаўлена больш як трыццаць маіх землякоў…

*

*16.09.2015.* Сыплюцца зоркі, як пясок у пясочным гадзінніку, у якім жывём мы…

*

*16.09.2015.* Вяртаюся з працы. Следам вецер гоніць рудое лісце каштанаў, як попел недагарэлых рукапісаў, якія паліць верасень…

*

*17.09.2015.* Ноччу снілася бульба. Вялікая. Ляжыць на полі і ніхто яе не збірае. Я іду з кошыкам, а ў ім клубкі нітак. Усе розных колераў. Я бяру белы. Падкідваю ўгору і з неба пачынае сыпацца снег. Робіцца холадна. Я прачынаюся. Цёмна. За акном белая поўня, як клубок нітак…

*

*18.09.2015.* У Валожыне бываю некалькі разоў на год. Праўда, апошнім часам дабіраюся да землякоў з сябрамі на машыне ці з начальствам, таму

горада амаль не бачу. Прыехалі, выступілі, павячэралі — і дамоў. Нядаўна ездзіў сам па сабе на маршрутцы. Гадзіна — і я ўжо ў Валожыне. Сышоў на аўтавакзале прама ў дождж. Вецер. Забег у памяшканне. У змроку каля акна на лаўцы сядзіць жанчына і чытае газету. На дзвярах, дзе раней была кавярня, вялікімі літарамі абвестка, што тут можна папіць гарачую гарбату і з'есці смачныя канапкі. Хачу зайсці. Дзверы не адчыняюцца. Пад абвесткай драбнюсенька: «Временно не работает». Пайшоў у прыбіральню, у якую гадоў пяць таму можна было зайсці толькі заткнуўшы нос. Цяпер усё чысценька і без смуроду. Прагрэс! Вярнуўся ў памяшканне аўтавакзала. Узгадалася, як тут на пачатку 80-х бываў раз на месяц амаль пяць гадоў запар, калі ездзіў праводзіць літаб'яднанне «Рунь» пры раёнцы. Перапісаў расклад аўтобусаў і пайшоў у горад. На вуліцы дождж. Ад аўтавакзала да цэнтральнай плошчы ісці пад доўгую гару. Пакуль дайшоў — вымак, хоць і быў з парасонам. Спыніўся каля помніка Папу рымскаму Яну Паўлу II, што каля касцёла Святога Язэпа. Падумалася з усмешкай: «Я ўзышоў на гару. Пайшлі далей разам!»

*

*18.09.2015.* Ужо некалькі гадоў выбіранне бульбы мне толькі сніцца. На жаль…

*

*18.09.2015.* Прыходзіў Юрась Пацюпа. У час адпачынку ён быў у маці ў сваіх Азёрах. Чысціў студню. У ёй скончылі жыццё самагубствам два мясцовыя каты. Вада верхаводка, таму неглыбока, метраў пяць. Сусед адпампаваў ваду, а потым Юрась па драбіне залез у студню і падаставаў усё, што туды патрапіла. Пазнаходзіў грузілы да вядра, якія гадоў пад сорак таму абарваліся і ляжалі на дне. У маіх Пугачах і ў наваколлі студні вельмі глыбокія. Гэтым летам амаль усе СМІ пісалі: «У Валожынскім раёне ў вёсцы Гярвелі раніцай 16 ліпеня загінуў 26-гадовы мужчына, які капаў пітную студню. Глыбіня складала 25 метраў, калі раптоўна абрынуўся грунт…» Памятаю, як у Лягезах, калі я там гадаваўся да школы ў бабулі Ганны, мае дзядзькі Віця і Ваня з аднавяскоўцамі капалі студню. Капалі некалькі дзён. Потым доўга даставалі ваду белую, як малако, і мне, малому, думалася, што гэта сапраўднае малако. А ў гады тры, пасучы гусянят на поплаве каля ляска, я ўваліўся ў студню, якой ужо ніхто не карыстаўся і якая была схаваная ад людскога вока ў крапіве і лопусе. Добра, што ў студню было накідана ламачча, і яно на метры два сядзела ў ёй, як у горле смерці косткі. Я ўпаў на ламачча. Быў лёгкі і таму далей не праваліўся. Бабуля адшукала, і мяне дасталі. З таго часу я заўсёды зазіраю ў студні, каб убачыць іх халодную і галодную глыбіню…

*

*18.09.2015.* Стары сядзіць на лаўцы. Побач па апалай лістоце скачуць вераб'і, як цацачныя…

*

*19.09.2015.* Зайздрасць з'ядае чалавека, як чарвяк яблык, які на руцэ ў Евы…

*

*19.09.2015.* Больш як сем гадоў (1978—1985), калі быў тунеядцам, я кватараваў у старых мінчан Марыі (1902—1985) і Мацвея Цяслёнкаў (1908—1991).

Для іхніх суседзяў я быў студэнтам філфака, які добра вучыцца і піша вершы. Я ж тады нідзе не вучыўся і нідзе не працаваў. Баба Марыя Цяслёнак (у дзявоцтве Куніцкая) была стрыечнай сястрой крытыка Сымона Куніцкага (28.2.1902, в. Гарані Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 14.10.1940, Калыма). У 1925—28 гг. вучыўся на рабфаку БДУ. Першае апавяданне надрукаваў у 1928 г. (газ. «Чырвоная змена»). У 1929 г. выйшаў яго першы крытычны артыкул. У 1931 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. У 1931 г. залічаны як крытык у БелАПП ад Мінскай філіі. У 1932—36 гг. працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Арыштаваны 27.11.1936 г. 1.10.1937 г. асуджаны на 10 гадоў лагераў. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 18.12.1954 г. Пра свайго сваяка Марыя Сцяпанаўна часта распавядала. Я быў малады і асабліва не ўслухоўваўся ў аповеды старых. Цяпер шкадую. Дзед Мацвей Сцяпанавіч у трыццатыя гады доўгі час працаваў у Купалаўскім тэатры рознарабочым. Добра ведаў усіх артыстаў. Распавядаў пра іх. Сёе-тое ў маіх дзённіках тых гадоў запісана. Праўда, вельмі мала. Шмат дзед Мацвей расказваў пра Мінск часоў нямецкай акупацыі. Пасля вайны ў 1945 годзе Мацвею Сцяпанавічу за палітыку далі дзесяць гадоў. Працаваў у Бадайбінскім раёне Іркуцкай вобласці на залатых прыісках. Пра гэта ён мне распавядаў не горш, чым пісьменнік Варлам Шаламаў у сваіх калымскіх апавяданнях. Дамоў з ГУЛАГа дзед Мацвей вярнуўся пасля смерці Сталіна ў 1953 годзе. Потым да пенсіі працаваў дворнікам. Кожны дзень чытаў кніжкі. Чытаў услых, таму дзед для мяне быў як радыё, па якім штовечар перадаюцца літаратурныя творы. Сёння, узгадваючы Марыю і Мацвея Цяслёнкаў, для якіх я быў як сын (на пытанні суседзяў, хто такі ў іх жыве, яны адказвалі: «Наш сын!»), я кажу вялікі дзякуй ім, што яны былі ў маім жыцці…

*

*20.09.2015.* З Людмілай выйшлі з дому а дванаццатай. Адведалі Ніла Гілевіча. Ён пра ўсё, што хацеў ведаць, па парадку, як на ўніверсітэцкім іспыце, распытаўся. Мы, здаецца, адказалі на ўсе пытанні на дзявятку. Людміле падарыў кніжку «Эпіграмы», а мне 18-ы том свайго Збору твораў у 23-х тамах. У кніжцы напісаў: «Дарагому Віктару Шніпу на ўспамін пра нашы сустрэчы і гутаркі. З радасцю, што ў гэтым томе ёсць мая Вам падтрымка. Сардэчна — Ніл Гілевіч. 20.9.15.» Перад тым, як рабіць подпіс, зачытаў радкі пра мяне і ўрыўкі з вершаў. Незаўважна ў размове праляцелі дзве гадзіны. На вуліцы пачаўся дождж. Паабяцаўшы, што не будзем абмінаць кватэру Ніла Сымонавіча, мы развіталіся. Праз дождж пабеглі ў Нацыянальны мастацкі музей, каб паглядзець выставу карцін Адама Глобуса. Хацелі пакінуць запіс аб уражаннях, але не знайшлі дзённіка для водгукаў. Ці яго няма, ці яго ўжо скралі? Паглядзеўшы старыя іконы з Веткі, пайшлі на выставу «Ад рэалізму да імпрэсіянізму. Жывапіс ХІХ—ХХ стст. з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі». Карцін няшмат. Сярод іх творы І. Рэпіна, І. Шышкіна, В. Пярова, А. Саўрасава, В. Верашчагіна, В. Паленава, А. Куінджы, К. Каровіна, І. Левітана. Як эпіграф да выставы, словы Паўла Траццякова: «Мне не трэба ні багатай прыроды, ні эфектнага асвятлення, ніякіх цудаў — дайце мне хаця б лужыну брудную, ды каб у ёй праўда была, паэзія, а паэзія ва ўсім можа быць, — гэта справа мастака...» Паэзія ў выставе ёсць. Зазірнулі ў дзённік водгукаў. Ужо шмат напісана ўдзячных слоў музею, але ёсць і такія: «У Вас божий дар!», «Каровин рулит!», «У меня внучка шестилетняя лучше рисует. Валерий. Минск.». І тут жа адказ Валерыю: «Жлоб!» Вярталіся дамоў праз дождж з кнігамі ад Гілевіча і са святлом ад убачаных карцін…

*

*20.09.2015.* Гаворачы пра жыццё-быццё, Ніл Сымонавіч паскардзіўся: «Пражыў 80 гадоў, дзіцячыя не лічу, а ні разу не быў на шашлыках. Усё працаваў і працаваў, як на катарзе. Іншыя на выхадныя за горад, а я дома ў кабінеце — то нешта пішу, то нешта рыхтую да друку. Словам, я не ведаю, што такое шашлыкі. Праўда, пра гэта асабліва не шкадую».

*

*21.09.2015.* Нярэдка даводзіцца чуць і чытаць пра беларускую мову: «З вялікім задавальненнем размаўляў бы, калі б усе вакол яе выкарыстоўвалі…» І мы чуем, і мы паўтараем: «Усе пачалі на роварах па горадзе ездзіць, і я пачаў!», «Усе пачалі татушкі рабіць на целе, і я зрабіў!», «Усе пачалі апранаць вышымайкі, і я апрануў!» І зусім не чуем: «Усе пачалі труціцца, і я атручуся!», «Усе пайшлі тапіцца, і я іду!», «Усе пайшлі вешацца, і я павешуся!» І ва ўсіх выпадках «усе» — гэта не ўсе, а толькі тыя, якія ствараюць міф, што яны прадстаўляюць усіх. Таму хачу паведаміць, што ўсе пачалі з задавальненнем размаўляць па-беларуску. Давайце далучайцеся да усіх, а то будзеце не ў трэндзе…

*

*21.09.2015.* Гаршкі, як званы з вырванымі языкамі…

*

*22.09.2015.* «У драматурга Дзялендзіка нядаўна чатыры кніжкі выйшла. Адна ў вашым выдавецтве. Тоўстыя, як цэгла! Выдайце мяне хаця б таўшчынёй з трунную дошку!» — кладучы мне на стол рукапіс, сказаў (ён так сябе называе) «літаратар сярэдняй рукі»…

*

*22.09.2015.* Вецер. У двары за першай апалай лістотай, як за мышамі залатымі, бегае малады чорны кот…

*

*24.09.2015.* Працоўны дзень пачаўся з сустрэчы з Міхасём Казлоўскім. Ён з Маладзечна прывёз у падарунак сябрам вялікую валізу новых выданняў — сваю кнігу «Цяпло айчынных камянёў» і том «Выбраных твораў» Вольгі і Сяргея Сахаравых. Наклады невялікія — па сто асобнікаў. За свае грошы шмат не выдасі. Мяне асабліва парадавала кніга самога Міхася. У анатацыі напісана: «Вуліцы і дамы Маладзечна і Радашковіч, што памятаюць крокі вядомых пісьменнікаў і мастакоў роднага краю, гісторыя і жыццё насельнікаў невялічкай заходнебеларускай вёскі, літаратурныя партрэты знакамітых землякоў сталі галоўнымі героямі новай кнігі аўтара». Для мяне гэтая кніга будзе настольнай, бо яна пра мае родныя мясціны, пра маіх землякоў. Гартаючы выданне, падумалася: «Дзякуючы вось такім руплівцам, як Міхась Казлоўскі, жыла, жыве і будзе жыць Беларусь!» Узгадаліся ягоныя словы, звернутыя да некаторых «добразычліўцаў»: «Калі не можаце нічым дапамагчы мне ў выданні кніг нашых славутых землякоў, дык хоць не перашкаджайце і, трымаючы ў руках зробленае мной, не кажыце: «Мы б лепей зрабілі!» Зрабіце! Буду толькі рады!»

*

*24.09.2015.* Еду ў тралейбусе з працы. Тэлефануе Леанід Маракоў. Цікавіцца, як набыць у выдавецтве сваю кніжку. Тлумачу і пытаюся: «Ты ж бела-

рускі пісьменнік, а чаму ў фэйсбуку стаў пісаць па-руску?» — «Так мяне болей людзей чытаюць!» — адказаў Леанід. «Пачні пісаць па-кітайску і тады цябе паўтара мільярда змогуць прачытаць!» — сказаў я. Леанід прапанаваў пра ўсё гэта пагаварыць пры сустрэчы.

*

*25.09.2015.* Некалькі тydняў таму з Людмілай быў запрошаны на тэлебачанне для ўдзелу ў перадачы «Дыяблог», якую сёння запісвалі ў студыі. Па нас дахаты прыехала машына. У «Дыяблогу» ўдзельнічаю другі раз, таму ведаю дарогу да тэлебачання. Шафёр жа не павёз нас простым шляхам па праспекце, а, нібыта спецыяльна, паехаў па тых мясцінах, дзе мы рэдка бываем. Напачатку праехалі каля дома, дзе жыў Максім Лужанін. Узгадаліся гасцяванні ў яго. Потым каля Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, які мы з Людмілай у свой час закончылі. Мінаючы траўматалагічную бальніцу, узгадалася, як мы туды цэлы месяц ездзілі да сына, які ў школе на ўроку фізкультуры зламаў руку. Успаміны, на жаль, сумныя. Сустрэўшыся на тэлебачанні з Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай, адразу ад іх ветлых усмешак, хоць на вуліцы і захмурэла, пасвятлела на душы. Пакуль я здымаўся, Людмілу ў грымёрцы рыхтавалі да запісу, а на вуліцы пачаўся дождж.

*

*25.09.2015.* «Дыяблог» пра літаратуру. У слове «дыяблог» ёсць д’ябал і Бог. У сапраўдных пісьменніках жыве і д’ябал, і Бог. Чаго болей? Каб ведаць, трэба чытаць…

*

*26.09.2015.* Амаль дваццаць гадоў, як пішу «Сабачыя гісторыі». Дапісаўся! Учора вечарам Максім прынёс маленькую аўчарку. Ноч прайшла спакойна…

*

*27.09.2015.* Праходзіў паўз Кальварыйскія могілкі. З дрэў злятае лістота, пакрываючы магілы залатым саванам. Адно старое дрэва, якое цалкам агалілася, стаіць, як вялізарны чорны помнік усім, хто пахаваны на Кальварыі…

*

*27.09.2015.* Вечарам Максім пайшоў да сяброў і пакінуў на Люду і мяне сабачку Міёну. Напачатку яна была спакойная, а потым, калі заўважыла, што яе кармільца няма, пачала шукаць яго і скуголіць. На канапе, дзе спіць Максім, Міёна ўнюхала гаспадарскае адзенне. Доўга спрабавала ўзлезці туды, але так і не ўзлезла. Высака. Люда ёй дапамагла, і сабачка, лёгшы на Максімавы нагавіцы і рубашку, пачала іх вартаваць…

*

*28.09.2015.* Поўня — нанебны гадзіннік, на якім не кожны бачыць стрэлкі…

*

*28.09.2015.* Паглядзеў серыял «Есенин». Някепскі. Галоўнае — гучаць вершы паэта. Нам хаця б двухгадзінныя мастацкія фільмы пра Уладзіміра Жылку, Уладзіміра Дубоўку, Уладзіміра Караткевіча. Я ўжо не кажу, што трэба фільмы пра Купалу, Коласа, Багдановіча, Танка. Спадзяюся, што некалі будуць кінафільмы пра ўсіх лепшых беларускіх пісьменнікаў, але, на жаль, мы іх ужо не зможам паглядзець…

*

*29.09.2015.* У мінулую дажджлівую суботу патэлефанаваў кампазітар Эміль Наско і запрасіў на творчую вечарыну, якая сёння прайшла ў філармоніі ў Малой зале імя Рыгора Шырмы.

Пасля працы да вечарыны ў мяне было вольных паўтары гадзіны. Зайшоў у «Цэнтральны» ўніверсам, каб папіць гарбаты і з'есці пару канапак. Чарга была нядоўгай. Няспешна падсілкоўваючыся, узгадаў, што гадоў дваццаць таму мы з Людмілай мелі магчымасць пасяліцца ў гэтым доме ў чатырохпакаёвай камуналцы на пятым паверсе. Там жылі нашы сябры і яшчэ адна сям'я. Надумаўшы раз'ехацца, яны нам прапанавалі аб'яднацца з Людмілінай маці і жыць у адной кватэры. На той час у гэтым аб'яднанні было некалькі мінусаў. Першы — пяты паверх і няма ліфта. Другі — адчыніш фортку і свежага паветра не дачакаешся. Да ўсяго на праспекце стаіць бясконцы гул машын. Трэці мінус — пад кватэрай станцыя метро. Ну і самы маленькі мінус — жыццё з цешчай, якая, хоць і цудоўная жанчына, але яна даўно ўжо прывыкла жыць адна. Таму па суме гэтых прычын мы і адмовіліся ад пераезду на праспект…

У касе філармоніі, адстаяўшы пяць хвілін у чарзе, купіў білет на творчую вечарыну Эміля Наско. Канцэртная зала амаль была запоўнена. Так атрымалася, што побач сядзеў з мужам літаратуразнаўцы Лідзіі Савік і жонкай паэта-перакладчыка Рыгора Рымскага. Гучалі песні на словы Пушкіна, Лермантава, Твардоўскага. Найбольшую колькасць кветак атрымала спявачка Вольга Шаўчэнка. Цудоўная спявачка. Прыгажуня. Калі б быў у зале Сяргей Ясенін, думаю, ён бы адразу закахаўся ў яе, як у Айседору Дункан, і пасля вечарыны прызнаўся б у каханні. У выкананні харавой капэлы імя Рыгора Шырмы прагучала мая «Балада Рыгора Шырмы». Здаецца, някепскі твор атрымаўся. Потым кампазітар запрасіў на фуршэт. Я напачатку пайшоў, але праз пяць хвілін, пакуль збіраліся госці, не развітваючыся, уцёк, бо я не Ясенін...

*

*30.09.2015.* Маладзік, як восеньскі лісток, які не захацеў падаць на сырую зямлю…

*

*30.09.2015.* Ізноў будуць танцы. Танцы на граблях…

*

*30.09.2015.* Завечарэла. У скверы зажаўцеліся ліхтары, як закрасавалі. Адзін не запаліўся. Стаіць белы, як дзьмухавец…

## Кастрычнік

*

*1.10.2015.* Удзельнічаў у чарговым пасяджэнні суполкі «Літаратурнае прадмесце». Збіраліся ў майстэрні народнага мастака Беларусі Івана Міско. Прысутнічала каля дваццаці жывых творцаў і паўтысячы мемарыялізаваных знакамітасцяў. Гаварылі пра прафесіяналізм у творчасці. Чыталі вершы, слухалі песні. У печцы гарэў агонь, які чакаў свайго часу, каб ператварыць у попел напісанае, але не дачакаўся. Патух, як памёр з голаду…

*

*2.10.2015.* З сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў Пугачы.

Адведалі бацькоў на Ракаўскіх могілках. Восеньская лістота, як пясок…

Вянкі на свежых магілах, як незапаленыя кастры інквізіцыі…

Непадалёку ад помнікаў — падасінавік, як злеплены з пластыліну…

У Ракаве зайшлі ў краму, каб купіць атруты для вясковых пацукоў і мышэй. Няма. Нядаўна ўсю разабралі…

У Бузунах пустая буслянка на пазалацелым дрэве. Чорная, як згарэлая…

На палях стаіць кукуруза, як войскі, якім няма куды адступаць…

У Пугачах восень. Светла і сумна. Пахне бульбоўнікам і познімі кветкамі, назвы якіх я не памятаю…

Ад суседкі даведаўся: «Некалькі дзён таму на нашым перакрыжаванні загінуў Андрэйка! МАЗ з пяском урэзаўся ў ягоную машыну. Андрэйка быў харошым чалавекам…»

У хаце на стале ляжыць мая кніга «Заўтра была адліга». Ляжыць, нібыта яе тут нехта чытае…

Яблыкаў няма ні на яблынях, ні на зямлі. Сёлета наш сад адпачываў…

Прыляцела сарока. Села на плоце. Нібы пераканаўшыся, што тут свае, паляцела некуды…

Узаралі агарод. Дзядзька Толя вадзіў каня, а я хадзіў за плугам і, думаючы пра бацькоў, час ад часу чуў маміну просьбу: «Адпачні!»

Віця адрамантаваў варотцы. Бацькі былі б задаволеныя…

На лаўцы каля хаты сядзела сястра і парадкавала буракі і моркву. Хустка на ёй была завязана, як некалі ў мамы…

Вяртаючыся ў горад, я доўгі час у думках яшчэ быў у вёсцы. Там усё роднае…

*

*3.10.2015.* Зацьменне сланечніка…

*

*3.10.2015.* Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі. Папрасіў зайсці ў майстэрню пагаварыць. Алесь рыхтуецца да адкрыцця выставы «Пагоня на Грунвальд», прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння Кастуся Тарасава. Ідучы ў краму па корм для нашай сабачкі Міёны, заглянуў да сябра ў майстэрню. Алесь паказаў новую карціну «Чорны квадратасланечнік», якую стварыў па маім аднайменным вершы. Гледзячы на карціну, я пажартаваў: «Цяпер засталося толькі вуха адрэзаць!» «Не! Не буду рэзаць!» — усміхаючыся, адказаў Алесь і даў мне пачытаць кнігу «Ван Гог. Письма», што выйшла ў 1966 годзе ў выдавецтве «Искусство». Каб не забыцца, каму даў кнігу, Алесь напісаў маё прозвішча на сцяне майстэрні і адчыніў акно, праз якое я і пайшоў далей па справах…

*

*3.10.2015.* Слухаючы верш Іосіфа Бродскага «Не выходи из комнаты…», натхніўся на чатыры радкі:

Не прызнайся ў каханні, бо зробіш памылку,
І зашый сабе рот, і схавайся на небе,
Або ў вёску пустую ўцячы, нібы ў ссылку,
І жыві там сто год на вадзе і на хлебе…

*

*3.10.2015.* Вецер па полі гоніць апалае лісце, як Залатую Арду…

*

*4.10.2015.* На лаўцы каля пад'езда каштан, як няўдалы перапечаны калабок, які ўцёк з казкі…

*

*4.10.2015.* Ён быў спакойны, як кулямёт…

*

*4.10.2015.* Патэлефанаваў Георгій Барташ і выказаў жаданне паглядзець нашую сабачку Міёну. Праз хвілін дваццаць прыйшоў са сваёй кнігай вершаў і перакладаў «Ботиночки», якая некалькі дзён таму выйшла з друку. П'ючы гарбату, гаварылі пра будучую прэзентацыю і наогул пра паэзію. Я разгарнуў выданне і натрапіў на верш, які запомніўся з дня, калі Людміла пісала да кнігі прадмову:

Ноябрьским утром, рано на рассвете
Уйду в страну, где тишь и благодать.
Но птахи малые, как будто дети,
Бессовестно продолжат щебетать

Возок, стуча, проедет по брустчатке,
Неспешно туча в вышине пройдёт,
И Бог — а он ведь женщина — рукой в перчатке
Мне по лицу, прощая, проведёт…

Прачытаў і ў думках сказаў: «Вельмі хораша…», а ўслух не паспеў, бо да нас забегла Міёна. На жаль, Георгій цяпер мала піша. Па некалькі вершаў у год. Новую кнігу з такімі тэмпамі давядзецца чакаць доўга. А «Ботиночек» магло і сёння не быць, калі б у лімаўскім артыкуле, расказваючы пра выступленне паэта на вечарыне ў Музеі Максіма Багдановіча, не прадставілі яго, як аўтара праекта «Фестываль аднаго верша», і больш да гэтага нічога не дадалі. Прачытаўшы гэта, Георгій вырашыў выдаць сваю кнігу…

*

*6.10.2015.* Мінулай ноччу на 91-м годзе жыцця памёр пісьменнік Алесь Савіцкі. Ганаровы грамадзянін горада Полацка. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Нарадзіўся Алесь Ануфрыевіч 8 студзеня 1924 года. Гэта па пашпарце. А па-сапраўднаму — 8 студзеня 1925. У час вайны ён паправіў сабе дакумент, каб узялі ў партызаны. З 1942 года — партызан атрада «Смерць фашызму», з 1943 г. — камандзір падрыўной групы атрада «Бальшавік» брыгады імя Варашылава на Віцебшчыне. У 1944—45 гг. удзельнічаў у вызваленні Літвы, Польшчы, у баях за ўзяцце Берліна. Быў тройчы паранены. Пачаў пісаць вершы яшчэ ў партызанскім атрадзе ў 1943 годзе. Першае апавяданне «Рыбацкае шчасце» надрукаваў у 1948 годзе ў полацкай абласной газеце. Алесем Савіцкім напісана шмат цікавых твораў. Асаблівай папулярнасцю ў юных чытачоў карыстаецца аповесць-казка «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка». Разоў дзесяць мне давялося выступаць разам з Алесем Ануфрыевічам. Памятаецца, як гадоў дваццаць таму мы з ім удзельнічалі ў вялікім пасяджэнні ў АН Беларусі, дзе ішла размова пра сучасную літаратуру. Выступаючы, Алесь Савіцкі не толькі называў імёны тагачасных маладых творцаў, а натхнёна па памяці цытаваў вершы. Тады ён прысутных добра ўразіў, калі прачытаў верш Анатоля Сыса, бо раней усе думалі, што Савіцкі ведае творы толькі тых пісьменнікаў, якія займаюць пасады і працуюць у рэдакцыях.

хуценька бяром труну і закрываем ёю прорву. Ад жаху я прачынаюся. Навокал цёмна. На вуліцы бялее снег, як мерзлае малако…

*

*6.01.2016.* Мы любім фільмы, у якіх людзі перажываюць розныя выпрабаванні, а самі ў жыцці з падобным баімся сутыкацца…

*

*7.01.2016.* Марозная раніца. З Міёнай гуляю па Мухлі. Навокал кусты і дрэвы, як з чорнага лёду. На сасонках сядзяць вароны, як прымерзлыя. Які ўжо раз, праходзячы каля плота з варотцамі, гляджу на завесы і ў сабе чую галасы сяброў з дзяцінства: «Хочаш Маскву ўбачыць? Прыкладзі язык да замка!» Колькі тады мяне не прасілі, я ні прыклаў, а цяпер хочацца паспрабаваць. Праўда, Маскву я і так бачыў. Нейкую хвіліну гляджу на варотцы і, усміхнуўшыся, іду далей па заснежанай Мухлі, як па краіне дзяцінства…

*

*8.01.2016.* Да нас з Людмілай дадому прыходзілі літпрадмесцеўцы, каб па нашай ужо старой традыцыі разам сяткаваць Каляды. Былі Таццяна Будовіч, Таццяна Барысюк, Таццяна Пратасевіч, Наталля Кучмель, Усевалад Гарачка, Рагнед Малахоўскі, Георгій Барташ, Мікола Кандратаў, Аксана Спрынчан з Альжбетай, Маргарыта Прыка, Павел Дарохін, Вадзім Крук, Юрась Нераток, Дар'я Лёсава, Вераніка Ляўчук, Кірыл Бандэрс, Віктар Лупасін, Алесь Емяльянаў. Спявалі песні, чыталі вершы, жартавалі, успаміналі пасяджэнні «Літпрадмесця», вечарыны, прэзентацыі кніг, вандроўкі. Я фатаграфаваў. Сёетое атрымалася прыгожа, але здымкаў не выстаўляю, бо абяцаў не хваліцца, як нам было хораша. Наша сабачка Міёна адзін раз прарвалася да застолля. Пахадзіла пад сталамі і, нікога там не знайшоўшы, вярнулася да сябе ў пакой. У гэтым годзе «Літпрадмесцю» будзе 14 гадоў…

*

*9.01.2016.* Заснежаны далягляд. Са снегу, як з марской пены, узышло сонца…

*

*9.01.2016.* На хвілю праглянула сонца. Пад маім акном заснежаны куст бэзу, нібыта ў квецені…

*

*9.01.2016.* Патэлефанаваў зямляк і мой даўні сябра Лёня Шчарбінскі. Ужо ідзе трэці год, як непадалёку ад Валожына ён займеў хату. Лёня распавядаў пра новую гаспадарку, а я слухаў і ўяўляў, як яму там хораша. Сябра з цягам часу збіраецца са сваёй Людмілай жыць у вёсцы круглы год, а цяпер, яшчэ працуючы, бывае частымі наездамі, бо мае машыну. Новы год Лёня сустракаў у вясковай хаце, напаліўшы ў печы. Гаварылі мы амаль гадзіну, аж мне захацелася ўсё кінуць і паехаць у Пугачы ў бацькоўскую хату і жыць там, як Андрусь Горват, і весці дзённік, і кантактавацца з аднавяскоўцамі, і быць самым шчаслівым на свеце…

*

*9.01.2016.* Учора ў час каляднага гасцявання Таццяна Будовіч папрасіла знайсці для яе «Крыніцу» за 1995 год, дзе змешчаны матэрыялы пра Юрыя

Гуменюка. Яна піша пра трагічныя лёсы паэтаў. У нас ёсць усе нумары гэтага выдання, калі не лічыць некалькіх самых апошніх, на якіх хоць і было напісана, што гэта «Крыніца», але яны ўжо тым часопісам, які і сёння актуальны, не былі. Амаль гадзіну перабіраў наша з Людмілай часопіснае багацце. Не знайшоў. Але ж «Крыніца» гэтая з Гуменюком павінна ў нас быць. Нават падумалася, што Юрый не хоча, каб пра яго пісалі як пра трагічнага паэта. Шукаючы патрэбную «Крыніцу», натрапіў аж на тры асобнікі часопіса «Беларусь» №6 за 1997 год. Чаму так шмат? Стаў гартаць. Акрамя таго, што тут змешчаны матэрыял Людмілы пра школу-ліцэй мастацтваў, дзе вучыліся нашы дзеці, ёсць вершы Рыгора Барадуліна, да якіх я пісаў прадмову. На той час, працуючы ў «ЛіМе», я дапамагаў на паўстаўкі Янку Сіпакову ў «Беларусі» ў аддзеле культуры. Узгадалася, як браў вершы для друку ў Рыгора Іванавіча, а потым, напісаўшы да іх прадмову, зачытаў паэту па тэлефоне. Рыгор Барадулін адобрыў. Здаецца, някепска было: «Трава, прабіваючыся праз асфальт, імкнецца да святла. А святло ў паэзіі — сімвал жыцця, свабоды. Але што такое свабода? У кожнага на гэтае пытанне ёсць свой адказ. Аднак свабоды без адказнасці перад Айчынай, перад маці, перад памяццю продкаў — не бывае. Менавіта разуменне адказнасці за свае ўчынкі з чалавека робіць Чалавека.

…У французскага паэта Беранжэ ёсць такая прыпавесць. У пекла, у суседнія катлы, трапляюць душы двух сучаснікаў — паэта і тырана. Агонь пад паэтавым катлом невялікі, з чаго небарака цешыцца, а пад былым уладаром — шугае полымя… Паэт чакае, што вось-вось адмучаецца за свае невялікія грахі. Але з гадамі агонь пад ім павялічваецца і ператвараецца ў вялізарнае вогнішча. А агонь пад суседам-уладаром амаль затухае. Абураны несправядлівасцю паэт патрабуе тлумачэнняў. І вось ён чуе: уладар пры жыцці нарабіў шмат ліхога і адразу пасля смерці людзі клялі яго, але праз гады і на яго самога і на ліха, ім зробленае, забыліся… А тыя зярняткі ліха, што пакінуў паэт у сваіх творах, з гадамі далі ўсё болей і болей усходаў. Усё болей чытачоў падпадала пад уплыў таго ліха, і канца яму не відно…

Вялікая адказнасць пісьменніка перад сваім народам. Тым больш у таго, каго ўжо назвалі «народным». Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, думаецца, годна нясе крыж правідэнцыйнай паэтавай службы. Як ніхто, ён ведае цану слова — умее ўкласці ў адну лексічную адзінку столькі інфармацыі, колькі часам не змесціць і паэма; адорвае другім жыццём забытыя беларускія слоўцы і нараджае новыя словы.

Свабода і адказнасць для паэта — два непарыўна звязаныя паняцці, аднолькава важныя для ўзлёту, як два крылы».

*

*9.01.2016.* Дзякуючы нашай аўчарцы Міёне ведаю ў сваім двары амаль усіх Гражданоў. Радуе, што ёсць і адэкватныя людзі, для якіх Сабака, гэта Сабака, а не вораг. Сусед Дзіма цяпер вітаецца здалёку. Сёння цікавіўся: «Кусаецца?» — «Не!» — адказаў я, і пачуў: «Ну тады пазыч тысяч пяцьдзясят, а то я каго-небудзь пакусаю!»

*

*10.01.2016.* Пісьменнік Віктар Марціновіч у гутарцы з карэспандэнтам «НН» сказаў: «Пад шэрым небам Мінска я нікому непатрэбны». Тут жа пад матэрыялам з’явіліся каментары. Зразумела, ананімныя. Адны пішуць, што Віктар Марціновіч нам патрэбны, іншыя, што няхай ён едзе ў сваю Эўропу і там балдзее ад таго, што ён такі вялікі пісьменнік. Нехта Ігар І. Іваноў згадаў

і мяне: «І як Вы, Віктар, можаце пра гэта ведаць, калі я не прачытаў яшчэ аніводнай Вашай кнігі?

Я і Шніпа яшчэ не прачытаў. Але ўжо ведаю — патрэбен. Патрэбен мне Віктар Шніп. Патрэбны яго «Пугачоўскі цырульнік». Патрэбны Граждан і Сабака. Патрэбна яго колішняя размова ў ваенкамаце. Шпацыр з мамаю. Шмат чаго.

Чалавек не горшы за сабаку. Мае права паскуголіць. На людзях навошта?

Сабе схлусіць можна. Людзей абражаць навошта? Здраджваць навошта? Хто асудзіць чалавека, які з'ехаў з Беларусі, толькі за факт — перасёк мяжу, жыў у другой краіне? А вось таго, хто пакрыўдзіў свой этнас, сваіх чытачоў, сваіх грамадзян, асудзяць?»

*

*12.01.2016.* Цэлы дзень з неба сыплецца і сыплецца снег. Жывём, як у снежным гадзінніку…

*

*13.01.2016.* У нябесным белым моры птушка, як чорны ветразь…

*

13.01.2016. Вясковы зімовы вечар. На вуліцы другія суткі мяцеліца. У роднай хаце цёпла. Я вярнуўся ўвесь аблеплены снегам з Гаіка, дзе катаўся на лыжах. Бацькі адпачываюць. Мама ляжыць на печы, бацька на ложку каля печкі, у якой поўна гарачага вуголля, як золата. Брат і сястра глядзяць «Калыханку». Пачуўшы, што я вярнуўся дамоў, мама кажа: «Ідзі павячэрай!» На кухні на стале ў каструлі вараная, яшчэ цёплая, бульба, на патэльні смажаная вясковая каўбаса, у місцы квашаная капуста, а ў другой грыбы. Вячэраю…

Гарадскі зімовы вечар. На вуліцы другія суткі сыплецца снег. У кватэры не холадна. Вярнуўшыся з працы, вячэраў. Мінула некалькі гадзін. Дакладна не памятаю, што еў…

*

*14.01.2016.* Удзельнічаў у калядным кірмашы мусаў, якую традыцыйна ў час святкавання старога Новага года праводзіць у Музеі Максіма Багдановіча суполка «Літаратурнае прадмесце». На жаль, не ўсе, хто збіраўся на аўкцыён, прыйшлі. Дзедам Марозам быў Усевалад Гарачка. Ён называў сябе Маразцом і час ад часу пытаўся ў прысутных, ці задаволеныя маразамі і снегападамі. Мы маўчалі і ўсміхаліся. Маразец, калі пачалася імпрэза, захацеў, каб мы яму выбралі Снягурку. Выбралі Юлю — супрацоўніцу музея. На аўкцыёне прысутныя набылі за сімулякрыкі (грошы «Літпрадмесця») кнігі Адама Глобуса «Толькі не гавары маёй маме», Людмілы Рублеўскай «Сутарэнні Ромула», Георгія Барташа «Ботиночки», маю «Заўтра была адліга» і яшчэ шмат цікавых рэчаў, якія спатрэбяцца ў жыцці творчых людзей. Увесь час, пакуль адбываўся аўкцыён мусаў, над намі пад столлю лёталі вялізарныя Камарык-Насаты тварык і Мушка-Зелянушка. Праўда, не ўсе гэта бачылі…

*

*15.01.2016.* Георгій Барташ з сябрамі, пачынаючы з 2007 года, у час навагодніх свят праводзіць фестываль аднаго каляднага верша, у якім звычайна ўдзельнічаюць каля ста паэтаў, што жывуць у нашай краіне і ў блізкім замеж-

жы. Я з Людмілай Рублеўскай, Андрэем Хадановічам і Наталляй Капай ва ўсіх гэтых фестывалях быў у журы. Сёлета давялося прачытаць 98 аўтараў, чые творы былі дасланы пад псеўданімамі, і выбраць з іх дзесяць фіналістаў і аднаго пераможцу.

Фінальная вечарына прайшла ў Галерэі TUT.BY. Народу было поўная зала. За дзесяць хвілін да пачатку імпрэзы Георгій Барташ раздаў сябрам журы сцэнар, з якога мы даведаліся прозвішчы сваіх фіналістаў і пераможцаў. На гэты раз са сцэны гучалі вершы на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Сярод незнаёмых фіналістаў былі і даўно знаёмыя прозвішчы — Міхал Бараноўскі, Сяргей Балахонаў (не прыехаў, але мы яго змаглі пабачыць і паслухаць па камп'ютары), Алесь Ліпай, Ігар Клепікаў, Таццяна Нядбай, Аляксей Арцёмаў (прыслаў сваё відэапрывітанне з Тулы), Алесь Плотка, Таццяна Барадуля, Эдуард Дубянецкі, Ірына Ляшкевіч, Дзяніс Кандрацьеў.

На ўсё жыццё гэтая вечарына павінна запомніцца фіналістцы фестывалю Ганне Авоце, якая, прачытаўшы свой верш, са сцэны сказала: «Каваль! Калі ты яшчэ не супраць таго, каб я выйшла за цябе замуж, то я цяпер табе кажу, што я згодная!» Каваль устаў з крэсла, абняў паэтку і пацалаваў!

Кожны з сяброў журы назваў свайго пераможцу. Першай атрымала прыз ад Юрыя Завадскага (Украіна) Таццяна Скарынкіна. Уручаў Андрэй Хадановіч. Потым ад Дзмітрыя Строцава Андрэй Бастунец. Вольга Базылёва прызнала найлепшым верш Аксаны Спрынчан, якая не змагла прысутнічаць на вечарыне, бо ў гэты ж час у бібліятэцы імя Цёткі вяла спектакль тэатра «Арт. С». Сяргей Сыс назваў пераможцай Кацю Аліхвер. Людміла Рублеўская — Рамана Абрамчука, Вольга Гронская і Андрэй Хадановіч — Антона Рудака, Наталля Капа і Вольга Базылёва — Раксалану Жаркову (Украіна), Андрэй Хадановіч — Уладзя Лянкевіча. Я свайго пераможцу выклікаў да мікрафона апошнім, калі з пачатку вечарыны мінула амаль тры гадзіны. Не ведаю, што думаў Стась Карпаў, калі імпрэза падыходзіла да завяршэння, а я хваляваўся: «Хаця б ён не сышоў дамоў раней часу!» Не сышоў. І так атрымалася, што Стась Карпаў стаў асноўным пераможцам. Яго выбраў яшчэ і Віктар Жыбуль, і амаль усе сябры журы яго верш прапанавалі для ўдзелу ў фінале. Дарэчы, на леташнім фестывалі асноўнай пераможцай была Марыйка Мартысевіч, чый верш я прызнаў найлепшым.

Амаль тры гадзіны праляцелі, як тры хвіліны. За гэты час прысутныя паслухалі каля пяці дзясяткаў вершаў і песень. Усе песні былі выкананы прафесійна, а вось вершы некаторыя фіналісты і пераможцы чыталі са сцэны кепска і магчыма ў некаторых слухачоў узнікала пытанне: «Чаму ён лепшы? Нічога асаблівага ў гэтым творы няма!»

Вялі вечарыну Георгій Барташ і Міхал Бараноўскі. Георгій на завяршэнне выканаў цудоўную песню на словы Вольгі Базылёвай у сваім перакладзе на рускую мову, сказаўшы з усмешкай: «Увесь гэты фестываль і вечарына былі задуманы толькі для таго, каб я цяпер вам паспяваў, а вы паслухалі!»

*

17.01.2016. «Запарожац» у снезе, як муха ў павуціне…

*

17.01.2016. У белай вопратцы па заснежаным прасторы ідзе Паэзія…

***Слуп і пудзіла***

*18.01.2016.* Некаторыя рэдактары так рэдагуюць твор, што ад яго застаецца, як ад жывога дрэва (калі твор параўнаць з дрэвам), гладкі слуп. Ёсць і аўтары, якія напісаўшы, добры твор, потым усё упісваюць у яго і ўпісваюць, як ім здаецца, патрэбныя дадатковыя абзацы. І дасканалае дрэва (твор) ператвараецца ў пудзіла, на якім вісяць паношаныя штаны, дзіравыя шкарпэткі, закарэлыя хусткі, пажаўцелыя газеты і яшчэ шмат якая непатрэбшчына…

*

*18.01.2016.* Вяртаючыся з працы, зайшоў у краму. Стаю ў чарзе. Нехта мне тэлефануе. Бяру мабільны. З тэлебачання. «Віктар Анатольевіч, мы вас хочам запрасіць у перадачу пра духоўнасць!» — чую прыемны жаночы голас. «Добра. Прыйду калі трэба і пра што будзем размаўляць?» — цікаўлюся. «Пра іконы. Вы ж вядомы рэстаўратар. Вамі адрэстаўрыравана шмат ікон…» — «Якіх?» — «Старажытных!» — «Не можа быць! Я ж паэт, а не мастак!» — «Ой, прабачце!» — ускліквае мая суразмоўца і развітваецца. Ідучы дадому і думаючы пра іконы, я ўзгадаў свае «Балады беларускага шляху». У іх я сапраўды рэстаўратар…

P. S. Надзея Вусава з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, прачытаўшы мой запіс у фэйсбуку, паведаміла, што мяне пераблыталі з іх музейным рэстаўратарам Аркадзем Шпунтам…

*

*19.01.2016.* Гуляю па Мухлі з сабачкай Міёнай. Убачыўшы мяне, падышоў Граждан: «Я тут на выхадныя ў вёску павязу сваю сабаку вешаць. Магу і тваю павесіць за кампанію…»

*

*20.01.2016.* Над зімнім вячэрнім горадам вышчарбленая поўня, як чэрап беднага Ёрыка…

*

*23.01.2016.* Удзельнічаў ва ўшанаванні памяці свайго земляка ксяндза Уладзіслава Чарняўскага (14.01.1916—22.12.2001). У Вішнева выехалі ад Чырвонага касцёла ў дзевяць гадзін раніцы. Даехалі хутка. У вялікім аўтобусе было амаль поўна людзей. З іх знаёмыя — Ірына Багдановіч і Алесь Пушкін. Я сядзеў з Алесем Квяткоўскім, які ў падарунак Музею Уладзіслава Чарняўскага падрыхтаваў карціну з выявай святара.

У касцёл прыйшло і прыехала шмат народу. Пакуль чакалі пачатку малітвы, мне здавалася, што яе будзе весці сам ксёндз Чарняўскі…

Мароз градусаў пад дваццаць. З каплічкі цячэ крыніца. Папіў вады. Цёплая…

Да канца малітвы з Алесем Квяткоўскім не былі. Пайшлі ў Вішнеўскі дом культуры. Ішлі доўга. Чамусьці ўявілася, што мы з Алесем партызаны, якія прыйшлі ў мястэчка, каб паглядзець, ці ёсць тут немцы. Немцаў няма. Усе свае людзі…

Пастаялі каля хаты, дзе нарадзіўся Шымон Перас. Узгадалася Алесева карціна, на якой наш славуты зямляк сядзіць каля студні. Студня, дарэчы, стаіць у двары сядзібы…

У Доме культуры мяне з Алесем сустрэлі наша валожынская паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч і дзяўчаты-зямлячкі, якія працуюць у бібліятэцы. Нас тут жа напаілі гарбатай, пачаставалі печывам. Мы, ачуняўшы ад марозу, пайшлі паглядзелі Музеі Уладзіслава Чарняўскага і Шымона Пераса. У музеі ксяндза ёсць здымак, на якім я з Уладзіславам Чарняўскім і пляменніцай Янкі Купалы Ядвігай Раманоўскай. Пра існаванне гэтага здымка я не ведаў. Яму гадоў пад трыццаць…

У зале, дзе праходзіла ўрачыстае мерапрыемства да 100-годдзя Уладзіслава Чарняўскага, поўна народу. Многія стаялі, бо не было вольных месцаў, каб сесці. З Маладзечна прыехаў Міхась Казлоўскі з сябрамі. На жаль, не змаглі пагаварыць…

Хораша выступіў пробашч касцёла святых Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк. Я занатаваў з яго выступлення некалькі радкоў. Сярод іх: «Біблія — гэта кветка ўсіх народаў…»

У сваім выступленні Уладзімір Гілеп узгадаў пра сакратара ЦК КПБ Аляксандра Кузьміна, да якога ён неяк прыйшоў, каб пагаварыць па справах. Прыйшоў, а Кузьміна няма. Ад сакратаркі Уладзімір Аляксандравіч даведаўся, што Кузьмін паехаў у Вішнева да ксяндза Чарняўскага. Пра што яны маглі гаварыць? Гілеп выказаў меркаванне, што ксёндз і сакратар ЦК гаварылі пра веру і культуру…

Фэлік Янушкевіч узгадаў пачатак 90-х, калі ўпершыню ў Мінску на вуліцы каля касцёла Святога Роха была беларускамоўная імша. Яе правёў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі…

Па дарозе з Мінска ў Вільню ўсе касцёлы былі апаганены камуністамі і толькі касцёл у Вішневе заставаўся святым месцам для ўсіх...

Фэлік Янушкевіч прапанаваў збіраць сведчанні і подпісы, каб ксяндза Уладзіслава Чарняўскага залічылі да ліку святых. Першымі ў вялікім тоўстым сшытку паставілі свае подпісы святары. Спіс подпісаў ад прысутных у зале распачалі Фэлік Янушкевіч, Алесь Пушкін, Алесь Квяткоўскі і я…

Дамоў вярталіся не як з простага мястэчка Вішнева, а як са святога Вішнева…

*

*24.01.2016.* Марозна. Градусаў пад дваццаць. Сонца прасвечваецца праз шэрань, што на галінах дрэў, як праз радкі белай паэзіі. З Людмілай на Мухлі выгульваем сабачку Міёну. «Да вясны яшчэ далёка…» — кажу я і Міёна кідаецца разграбаць снег, нібыта пачынае шукаць вясну. Каркнула варона, і мы ўсе ўтраіх паглядзелі на яе. Яна сядзела ў шэрані дрэва, як у сваім белым свеце. Сядзела, як чорная прынцэса, якая толькі ноччу з птушкі ператвараецца ў дзяўчыну. Да ночы яшчэ далёка…

*

*25.01.2016.* Напрыканцы мінулага года ў «ЛіМе» быў змешачны мой расповед пра тое, якія выданні пабачылі свет у «Мастацкай літаратуры» ў 2015 годзе. Гаворачы пра кнігу «Недаспяваныя песні», у якой змешачны вершы паэтаў, што загінулі ў час вайны, я ўзгадаў верш Міколы Сурначова «У стоптаным жыце» і выказаў меркаванне: «Калі б Сурначоў не загінуў на Заходнім фронце ў 1941-м, мы, можа, мелі б яшчэ аднаго народнага паэта». На жаль, я назваў недакладную дату смерці паэта і мне пра маю памылку сёння сказаў, патэлефанаваўшы, Мікола Чарняўскі: «Сурначоў загінуў 20 красавіка 1945 года пад Берлінам. Гэта прыкрая памылка, але ж не абразлівая, як у адным з нумароў «ЛіМа» пісьменнік Даір Слаўковіч быў названы Даірам Сляповічам…»

*

*26.01.2016.* Каля дарогі кусты ў шэрані, нібы скруткі калючага дроту…

*

*26.01.2016.* Раніцою да мяне на працу прыходзіла Наталля Адамовіч, каб узяць пару экзэмпляраў «Блокадной книги». Сёння дзень памяці яе бацькі. Была ў царкве. Я распавёў, як недзе ў гэтым месяцы дваццаць дзевяць гадоў таму мы з Людмілай Рублеўскай, будучы студэнтамі Літінстытута, адведвалі Алеся Міхайлавіча, які падлечваўся ў адной з маскоўскіх бальніц. Амаль гадзіну ехалі на аўтобусе некуды на ўскраіну Масквы. Выйшлі, а навокал усё замецена. Вецер. Мароз. Змрочна. Адно што надавала добрага настрою — апельсіны, якія ў нашай торбе свяціліся, як сонейкі. У Адамовіча ў палаце вельмі доўга не сядзелі, бо дактары не дазвалялі. Даведаўшыся, што мы ў хуткім часе збіраемся пабрацца шлюбам, Алесь Міхайлавіч нас па-бацькоўску благаславіў. Слухаючы мяне, Наталля Аляксандраўна светла ўсміхалася. На развітанне нагадала, што 31 студзеня спаўняецца 90 гадоў сыну Якуба Коласа Міхасю Канстанцінавічу: «Абавязкова павіншуйце! Ён вас цэніць!»

*

*26.01.2016.* У фэйсбуку Jan Karczewski 22 студзеня ў каментары да майго новага верша напісаў: «Балада закаханага наркамана». Мае вучаніцы гэтым вершам выйгравалі дэкламатарскія конкурсы. У нас гэта магчыма. Давайце далей, Віктар!»

*

*27.01.2016.* Пацяплела. І ў снегу з’явілася свая забава. Снег з’язджае са стрэх…

*

*28.01.2016.* Прыемныя весткі раствараюцца ў табе, як драбок цукру ў вядры з вадой, а непрыемнасці, нават велічынёй з муху, трапіўшы ў тваю душу, вырастаюць да памераў слана…

*

*29.01.2016.* Пасля абеду мяне на працы наведаў Вячаслаў Рагойша і падарыў краязнаўчы альманах «Наш гонар — Ракаў», які ён з землякамі і роднымі падрыхтаваў і выдаў да 550-годдзя Ракава. Шкада, што гэтае выданне не пабачыла свет да святкавання юбілею нашага слаўнага мястэчка. Шмат у ім цікавых матэрыялаў і здымкаў. З Ракаўскіх хронік можна даведацца і такое: «04.08.1919 года Ракаў быў захоплены польскімі войскамі. На канец 1919 года ў Ракаве жыло 3332 чалавекі. З іх 53,7 % палякі, астатнія — яўрэі, беларусамі ніхто не назваўся». На 1 студзеня 2015 года ў Ракаве жыло 2530 жыхароў. Падпісваючы альманах, Вячаслаў Пятровіч напісаў: «Таленавіта-высакароднай сям’і Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай, якая мае самае цеснае дачыненне да Ракава і Ракаўшчыны, з нязменнай сімпатыяй і найлепшымі пажаданнямі. Вячаслаў Рагойша. Ракаў—Мінск, студзень, 2016».

*

*29.01.2016.* Удзельнічаў у вечарыне, прысвечанай 95-годдзю Івана Шамякіна, якая прайшла ў Музеі Максіма Багдановіча. Выступоўцаў было шмат. Гаварылі цікава, але падоўгу. Дочкі Івана Пятровіча сядзелі ў першым радзе,

таму не бачылі, што ў іх за спінамі робіцца. Пад канец вечарыны, якая цягнулася больш як дзве гадзіны, палова людзей (студэнты) паўцякала. Ішоў дамоў са злым пытаннем: «Калі ўжо нашы старыя паважаныя пісьменнікі і літаратуразнаўцы зразумеюць, што, чым даўжэй яны гавораць, тым меней іх слухаюць?»

*

*29.01.2016.* Амаль цёпла. На Свіслачы, дзе растаў лёд, з'явіліся качкі, як коцікі на вярбе…

*

*30.01.2016.* Знакамітаму фізіку Стывену Хокінгу, які ў дваццаць адзін год быў паралізаваны, цяпер 74 гады. У гонар свайго дня народзін у Каралеўскім інстытуце Лондана ён прачытаў лекцыю, у якой сказаў: «Трэба заўсёды помніць, што, у якія б цёмныя часіны вы ні трапілі, выхад з іх заўсёды ёсць. Выхад ужо ў іншы сусвет». Узгадаўшы ў сваім жыцці цёмныя часіны, згаджаюся з фізікам. І яшчэ трэба помніць, што выхаду няма толькі з магілы…

***Ты падумай…***

*31.01.2016.* Цёплая раніца. Крама. Малочны аддзел. У метрах двух ад мяне крамніца гадоў сарака пяці выкладвае для продажу пакеты з малаком. Каля яе стаіць невысокі, па ўзросце амаль пенсіянер, грузчык. Яна прывабная. Ён не пудзіла ў сваёй ватоўцы, але і не прыгажун. Чую, як грузчык пытаецца: «Што ты сёння вечарам робіш?» — «Нічога», — адказвае жанчына і працягвае выкладваць малако. «Паехалі да мяне пасля працы», — прапануе мужчына. «Чаго?» — «Чаю пап'ём, тэлевізар паглядзім». — «Я і дома пап'ю і тэлевізар пагляджу». — «Дык на канапе паляжым». — «Я і дома паляжу». — «Дык, можа, чым вясёлым на канапе зоймемся». — «Не ведаю…» — «Ты падумай. Будзе ўсё добра…» — кажа грузчык і адыходзіць ад крамніцы.

*

*31.01.2016.* Наваколле стала шэрым і толькі снег, як белы асфальт, ляжыць на палявой дарозе…

## Люты

*

*1.02.2016.* Гумовыя Гражданы амаль нічым не адрозніваюцца ад жывых Гражданаў…

*

*2.02.2016.* Пазнаёміўся з аўтарам помніка Уладзіміру Мулявіну Алесем Каструновым. Ён дапамагаў Людміле Крушынскай забраць дзясятак асобнікаў кнігі пра Песняра, якая нядаўна выйшла ў свет. Шмат не гаварылі. Сустрэнемся 10 лютага на кніжнай выставе, дзе будзе прэзентавацца выданне, там і пагаворым, і паслухаем мулявінскіх «Песняроў». Развітаўшыся з Каструновым і вяртаючыся з вуліцы на працу, сустрэў народнага артыста Рэспублікі Беларусь маэстра Міхаіла Фінберга. Сказаў яму пра прэзентацыю. Міхаіл

Якаўлевіч адразу ж адказаў: «Не пайду! Мяне не запрасілі ў філармонію на юбілей Мулявіна. Усе былі, а мяне не было. Учора святкавалася 60-годдзе Беларускага тэлебачання, а я там працаваў яшчэ ў 1966 годзе. Зноў не запрасілі. Там былі ўсялякія голыя дзеўкі, а мяне не запрасілі…»

*

*2.02.2016.* Артыст Ігар Сідорчык, які часам па тэлебачанні коратка прадстаўляе кніжныя навінкі, папрасіў мяне параўнаць два выданні пра Уладзіміра Мулявіна. Першы фаліянт выйшаў у 2004 годзе, а другі месяц таму. Каб доўга не распавядаць, я сказаў: «Першае выданне — гэта прыстойны драўляны дом, дзе прадстаўлена жыццё і творчасць Мулявіна, а цяперашняе — гэта Палац Рэспублікі…»

*

*3.02.2016.* У панядзелак у выдавецтва па справах заходзіў Адам Глобус. Сядзелі ў кабінеце Алеся Бадака. Размаўлялі пра літаратарскае жыццё-быццё, узгадвалі свае маладыя гады і сяброў, якіх ужо няма. Валодзя падарыў нам па кніжцы. Мне — свой «Дом». Ва ўвесь час нашай размовы мне хацелася паклікаць сакратарку і папрасіць, каб яна сфатаграфавала нас на мой смартфон. Не паклікаў. Неяк было няёмка гэта рабіць. Яшчэ сфатаграфуемся. Сёння прыходзіў Васіль Зуёнак: «Я тут на Нямігу ў краму прыехаў. Убачыўшы, што да вас недалёка, вырашыў наведацца». У нашай размове некалькі разоў Васіль Васільевіч паўтарыў, што яму ўжо 80 гадоў і цяпер у яго кожны дзень жыцця на ўліку. І я паклікаў сакратарку, каб яна сфатаграфавала нас. Зуёнак тут жа скінуў куртку, і мы сфатаграфаваліся…

***Працяг у наступным нумары.***



# ЗОРАЧКІ З КАЎША

***Паэзія членаў Полацкага народнага літаратурнага аб’яднання «Надзвінне»***

**Ала ІВАНОВА**

## ДОЎГАЕ ВЯРТАННЕ

Дагарала світальная зорка,
Плыў туман над санліваю рэчкай.
Было неяк шчымліва і горка,
Пахла мёдам, травою і грэчкай.

Толькі мы, нібы птушкі у вырай
Адляталі у свет ад парога.
Стала нашай дарадчыцай шчырай
У гады даўжынёю дарога.

О, як часта мы марылі ўпотай
Аб сустрэчы з расстайным тым ранкам.
Ды з’язджалі ў жаданні, каб потым
Зноў вярнуцца квяцістым світанкам.

Але дзе яно, наша вяртанне?
Закружыла жыццё так трывала.
Усё меней надзей на спатканне,
А гадочкаў ужо нам нямала.

Толькі памяць так часта вяртае
У забытыя родныя вёскі,
У куток, дзе зямліца святая
Ды ля могілак продкаў бярозкі.

**Галіна ЗАГУРСКАЯ**

* * *

Вось і для прароцтваў ноч паспела,
Я сягоння ў цёмнай ночы госць
І перабіраю з ёй нясмела,
Што было, што будзе і што ёсць.

Што было — таму даю ацэнку,
А над тым, што будзе, варажу.
Зоркі ззяюць, ноч прыкрыла зрэнкі.
Што хвалюе, ёй я раскажу.

Спадзяюся, што мне ноч падкажа,
Што рабіць, мой зразумеўшы боль,
І на вагах зоркавых узважыць
Мне жыццём адведзеную роль.

А яшчэ падкажа мне, што будзе,
Што яшчэ сустрэнецца ў жыцці,
Каб далей мне не брысці ў заблудзе,
А дарогай роўнаю ісці.

…Нешта сапраўды я зразумела,
А да нечага не здолела дайсці,
Хоць і для прароцтваў ноч паспела —
Надта ўсё складанае ў жыцці.

**Анатоль КІРУШЫН**

## ВЕЧАР НАД ДЗВІНОЙ

Дзвіна з адбіткам аблачын
Плыве да мора нетаропка.
Гляджу на човен, покуль кропкай
Той не сплыве у далячынь.

Глядзіць Сафія тут на плёс,
Нібы ў люстэрка, і на плыні
Крыжы імкнуцца да вышыняў
І нас завуць у сінь нябёс.

Апошні промнік на крыжы
Ускінуў водблеск залацісты —
І стала ў сэрцы светла, чыста,
Што б лёс цяпер ні варажыў.

Прыходзіць у душу спакой,
Глядзяць на ўсё іначай вочы
Тут прад іконай дзіўнай ночы
Над светлай ціхаю Дзвіной.

**Наталля КРАСКО**

* * *

*Глядзі,*
як халодныя кроплі на акне
збіраюцца разам і струменямі-патокамі
змываюць бруд са шкла, сумненні з душы.
*Чуеш?*
Гэта не дождж грае санаты ды элегіі,
гэта светлы сум ціха стукаецца
ў шкло.
*Адчуваеш*
халодны подых яго
за сваёй спінай?
*Гані!..*
Гані яго ад сябе.
Гані ад сэрца, душы, думак.
*Ідзі!..*
Ідзі ў дождж, пад дождж, ідзі разам з дажджом.
Павольна кроч па апусцелым горадзе.
*Удыхай!..*
Удыхай яго чыстае ад пылу і спешкі
паветра, поўнае бязважкіх нябёсаў.
*Ідзі!.. Ляці!.. Растварыся!..*

**Мікалай БАЛДОЎСКІ**

## НАВЕКІ

Часта я ўспамінаю, хоць збеглі гады,
Эпізод на пероне вакзала.
— Не хачу ад’язджаць, — я прамовіў тады.
— Заставайся, — ты мне адказала.

Прамільгнула слязінка, пакінуўшы схоў,
Заміргалі збянтэжана вейкі.
— Заставайся, — прамовілі вочы ізноў,
Ну а вусны шапталі: «Навекі…»

І цягнік развітальна па рэйках памчаў,
Разразаючы час і паветра…
З той пары мы займелі надзейны прычал
І па лёсе адны кіламетры.

Берагу я каханне цяпер, як тады,
Зберагаю надзейна і верна,
І на беразе нашым квітнеюць сады —
Гэта дадзена звышай, напэўна…

***Пераклад з рускай Г. ЗАГУРСКАЙ.***

**Таццяна КУЖАЛЕВА**

## СНІЦЦА ЯБЛЫНЬ БАЦЬКОЎСКІХ КВЕЦЕНЬ

І калыска, і песня маці
Ўспамінаюцца часта мне.
Голас бацькавы ў роднай хаце
Зараз чуецца, як у сне.

Бачу лавачку пад акенцам
І бацькоўскі ў прысадзе клён,
І дзяўчынку з люстэркам-шкельцам,
З валасамі, нібыта лён.

Сніцца яблынь бацькоўскіх квецень
І пялёсткаў бялюткіх пах,
Што разносіць дзівосны вецер
У маіх летуценных снах.

**Уладзімір КУЦ**

## ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Пайшоў ён ад нас у дваццатым стагоддзі,
І хоць праляцелі, як птушкі, гады,
Нашчадкам здаецца, што побач ён ходзіць:
Такі ж прыгажун і такі ж малады.

Жытнёвае поле яго сустракае
І дорыць у вершы яму васілёк,
А ён гэту кветку пяшчотна ўплятае
У свой паэтычны чароўны «Вянок».

Для кніжкі цудоўнай, хоць сціплых памераў,
Дзе ж думак ён столькі крылатых узяў,
Каб гэты «Вянок», нібы зорка Венера,
Над роднай старонкай дзівосна заззяў?!.

Цяпер яго твораў агністыя промні
Ляцяць да нашчадкаў нястрымна здалёк,
А мы яго вершы з удзячнасцю помнім:
Ён — зорка Радзімы, яе васілёк!

**Таццяна ЛЯЎКОВІЧ**

## МАЛАЯ МЯДЗВЕДЗІЦА

У начным паднябессі, што свеціцца,
Як мільён светлячкоў над зямлёй,
Заблукала Малая Мядзведзіца
У трох зорках ад маткі сваёй.

Памігцела і вочкі заплюшчыла —
Усё роўна не бачна — ані!
І сузор'ем павісла над пушчаю —
Хоць малыя, а ўсё-ткі агні.

А матуля за дзетку спужалася:
Ледзь не знікла у цемры начной!
І як толькі дастаць атрымалася,
Ухапілася моцнай рукой.

І дагэтуль трымае на повязі.
Можа смешна? Мо дзіўны сюжэт?
А вакол гэтай быццам бы дробязі
З той пары існуе наш Сусвет.

**Уладзімір ТАЧЫЛА**

## ЖЫЦЦЯ МАЙГО СЛЯДЫ

Мая зямля, мяне ты гадавала,
Цябе, як маці, я з маленства знаў.
Характар мой ты ў полі шліфавала,
Нібы нарог, якім мой дзед араў.

Тваіх вятроў дыханне мне знаёма,
Мае сляды на ростанях дарог,
І сцежка ад матулінага дома
У свет вяла турботаў і трывог.

Дзе б я ні быў, на дом не забываўся,
Ды толькі зараз я пазнаў спаўна
Смак яблыка, што з яблыні зрываўся,
Пасаджанай дзядулем ля гумна.

Шляхі далі мне сталасць і развагу,
Дабру ёсць мерка пэўная свая,
Нібы Радзіме, даў яму прысягу
І да сябе стаў жорсткім удвая.

Куды б мяне няўмольны лёс ні кінуў,
У сэрцы застанецца назаўжды
Куточак светлы, частачка Радзімы,
Дзе праляглі жыцця майго сляды.

**Віталь ШАЛАЕЎ**

## НАШ АРНАМЕНТ

Чырвоны з белым — колеры-браты,
З сівых часоў яны заўсёды з намі,
Бо з іх не горш, чым з нітак залатых,
Стваралі продкі родны наш арнамент.

Бель узялі, напэўна, ад снягоў,
І ад бяроз бялюткіх, што на ўзлессі,
І з белых росаў з ранішніх лугоў,
І ад буслоў у сінім паднябессі.

А чырвань — гэта сонца на зары,
Тут і святло дрыготкае лучыны,
І кроў, што праліваль ваяры,
Ад ворагаў баронячы Айчыну.

Удумліва, грунтоўна, на вякі
Тварылі продкі вобразы-узоры,
Каб неслі шчасце коўдры, ручнікі,
Каб у жыцці ніхто не зведаў гора.

Прыродным дарам і майсэрствам рук
Яны спявалі гімн зямлі і маці.
Праз сімвалы і колер, без навук,
Жыццёвай неслі мудрасці багацце.

**Ала ШВАЙКО**

* * *

Лета, лета... Сінь нябёсаў.
Вочы ззяюць. Балазе
Час на сонечных калёсах
Нам Купалле зноў вязе...

Таямнічай казкай ночка
Карацей, чым буслаў нос...
Прыгадаеш праз гадочкі
Вогнішч іскры да нябёс.

Як пляла вянкі да пары,
Каб у возера кідаць,
Бегла ў лес з надзеяй-марай
Кветку-папараць шукаць.

Як тваім цяплом сагрэта
Расхінулася душа,
Паімчала за Сусветам
Міма зорачак з Каўша.





Валерыя РАДУНЬ

# ДЗВЕ ГІСТОРЫІ ГОРАДА Ў

## Качка

Качак на возеры ў парку горада Ў заўсёды было шмат: цэлыя чароды.

Яны паважна плавалі ўздоўж набярэжнай, усім сваім выглядам паказваючы, што іх можна і трэба карміць. Лепш за ўсё — батонам. Можна без разынак. Дзеці з ахвотай кідалі ім у ваду па паўбулкі, хлеб прызыўна гайдаўся на невялікіх хвалях, і качкі спрытна кідаліся на яго. Дзеці радасна пішчалі і скакалі.

Так рабілі ўсе качкі, акрамя адной. Яна, мажная, даволі вялікая, з чырвоным пярсцёнкам на лапцы, проста кідацца на хлеб лічыла непрыстойным. Тая качка ўвогуле не любіла ні мітусні, ні шуму, нават калі за гэта можна было атрымаць кавалак хлеба. Яна чакала «свайго» чалавека. «Свой чалавек» прыходзіў кожны дзень, у нейкай смешнай вопратцы і прыносіў булкі — з разынкамі ці макам, еў сам і частку кідаў ёй. Гэта быў яе ўласны чалавек, і тых качак, што хацелі паласавацца нечым з таго, што ён кідаў, яна адганяла як мага далей.

У той дзень, «свой чалавек» чамусьці спазняўся, і качка, цяжка падняўшыся ў паветра, прысела пагрэцца на парапет ля альтанкі — акурат па-над летнім кафэ каля самай вады, амаль над ягонай галавой.

Сівы чалавек, Андрэй Міхайлавіч Зязюлька, ішоў да поспеху з самага юнацтва. І, што характэрна, амаль дайшоў. Махінацыі з жыллём аднойчы прывялі яго ў горад Ў — лепшага месца, чым схавацца ад тых, каго ён, як кажуць, «кінуў», ды і ад крэдытораў, было проста не знайсці. Пяць гадоў таму, апынуўшыся тут, ён дастаў з кейса адзін з васьмі сваіх пашпартоў — і замест пана Анджэя Яскі стаў Зязюлькам А. М., інжынерам са сталіцы,

---

*__Радунь Валерыя (Саротнік Валерыя Васільеўна)__ нарадзілася 27 чэрвеня 1988 года ў Мінску. Скончыла перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (2011).*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «След дождя» (2012), «Море в конверте» (2015), шматлікіх публікацый у беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы («ЛіМ», «Звязда», «Маладосць», «Полымя») як уласных твораў, так і перакладаў з розных моў (англійскай, кітайскай і г. д.).*

*Прызёр конкурсу апавяданняў газеты «Звязда» (2006 і 2008 гг.). Лаўрэат Міжнароднага конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (2016).*

які, па новай легендзе, накапіў трохі грошай, каб ажыццявіць сваю мару — адкрыць невялічкае турыстычнае агенцтва. Агенцтва пражыло прызначаныя яму пяць год і абанкруцілася — як і планаваў Зязюлька. А грошы тых, хто так і не даехаў да свайго адпачынку, адпачывалі зараз у яго невялічкім кейсе.

І вось спадар Зязюлька піў каву на набярэжнай і марыў пра будучыню.

Качка пра будучыню не марыла. А вось абадраны кот без імя і паловы хваста, што з’явіўся аднекуль з-за сметніцы, марыў пра гэтую самую будучыню не горш за Зязюльку. І ў той будучыні бачыўся сняданак — тлустая, вялізная качка, што сядзела на парапеце. Кот злаўчыўся, скокнуў і…

Андрэй Міхайлавіч занерваваўся — на лацкан яго прыгожага касцюма ляпнула качыным памётам. Не, кот не здолеў схапіць качку — але ж спужаць яе атрымалася.

— Ах ты, дрэнь! — выдыхнуў Андрэй Міхайлавіч, гледзячы ў след качцы, што хутка неслася воддаль ад парапета, катоў і людзей. А крыху далей быў бераг. На беразе — машына з адчыненым багажнікам. Качка са страху кінулася туды, праз багажнік уляцела ў невялікі салон і забілася пад сядзенне ля кіроўцы, у самую цемру.

А машына неўзабаве паехала. Кіроўца, нічога не ведаючы, уключыў вясёлую песеньку па радыё.

Зязюлька сядзеў у хімчыстцы і пакрысе губляў цярпенне. Яго пінжак ужо даволі даўно знік у нетрах хімчысткі на «хуткую чыстку», а мажная прыёмшчыца як села на тэлефон, так і не злазіла з яго — Зязюлька падлічыў — сорак чатыры хвіліны і восем секунд.

— Прабачце, — як мага ветлівей прагаварыў нарэшце ён. — Вы не маглі б…

— Мужчына! — неахвотна адказала прыёмшчыца, прыкрываючы трубку тэлефона далонню. — Ці вы не бачыце — я размаўляю!

— Але мой пінжак… — пачаў Зязюлька.

— Чакайце! — гучна абарвала яго прыёмшчыца. — Вам жа сказалі — пахуткаму зробяць, дык чакайце!

Зязюлька незадаволена хмыкнуў, хацеў яшчэ нешта сказаць, але махнуў рукой, падхапіў свой кейс і пайшоў у кафэ насупраць: каб кубкам кавы падняць сабе настрой.

Ён не заўважыў за вуглом чорны джып і двух непрыемных суб’ектаў у салоне.

— Ну што, звані шэфу, мы яго знайшлі, — сказаў адзін.

— Мабыць, адразу ж і прывязём? — спытаў другі, з усмешкай торгнуўшы затвор пісталета.

— Не, — адрэзаў першы. — І думаць забудзь. Шэф, у натуры, пакуль паразмаўляць загадаў. Так што ствол хавай і звані.

Тым часам, спадар Зязюлька з папяровым кубачкам кавы пад мудрагелістай накрыўкай вяртаўся ў хімчыстку, асцярожна несучы каштоўны свой кейс, ледзь не прыціскаючы яго пяшчотна да грудзей. У думках ён ужо грэўся на Лазурным Беразе і піў дарагі каньяк, але…

Але тут качцы закарцела вылезці з-пад сядзення старэнькага чырвонага «гольфа», які ехаў акурат па той дарозе, якую пераходзіў Зязюлька. Яна, мякка кажучы, спужалася. І з дзікім крыкам падхапілася пад столь салона, пачала біцца крыламі ў вокны, лабавое шкло і самога кіроўцу, які спужаўся не менш за качку.

Машына рванулася, бы звар'яцелая ластаўка, і стукнула «мэрседэс» мэра, што стаяў пры дарозе. Не моцна. Нашмат больш яна зачапіла Зязюльку. А дакладней — яго кейс, які ў прыгожым піруэце паляцеў на другі бок дарогі і знік за нейкім плотам…

А вакол «мэрседэса» і «гольфа» сабраўся невялікі натоўп, пад'ехала ДПС, з рэстарана насупраць выскачыў раз'юшаны мэр, абураны кіроўца «гольфа» выкараскаўся з-за падушкі бяспекі, а следам за ім — качка.

Невядома чаму — ці то галава ў яе закруцілася, ці ад жаху, перажытага ў машыне, у няшчаснай птушкі страціўся інстынкт самазахавання: замест таго, каб хутчэй знікнуць, яна, наадварот, кінулася ў натоўп, узляцела над галовамі людзей, «пацеміўшы» па ходзе руху мэра і двух ДПСнікаў, і прызямлілася акурат на грудзі спадару Зязюлку.

Апошняе, што ён убачыў, перад тым, як страціць прытомнасць, быў зласесны качыны сілуэт на фоне васількавага летняга неба…

* * *

Участковы Федзя Дзежкін прыходзіў карміць качак кожны дзень у абедзенны перапынак. Яму толькі-толькі стукнула дваццаць два, ён не так даўно скончыў акадэмію, і, поўны мрояў і надзей, як гаварыў начальнік, маёр Гуськоў, з «ірвеннем», вартым лепшага прымянення, накінуўся на працу. Але ўсё на самай справе было не так, як у яго любімых фільмах пра міліцыянераў — ні табе гучных спраў, ні цікавых выпадкаў, ні страшэнных таямніц… І ўсё ж Дзежкін, па натуры аптыміст і ў нечым яшчэ хлапчук, не адчайваўся — хто ведае, можа, справа яго жыцця яшчэ наперадзе?

І ён паціху вучыўся простым, штодзённым клопатам, памыляўся і зноў вучыўся — бо практыка, як любіў паўтараць Гуськоў за чаем з жончыным печывам, — лепшы настаўнік. Час ад часу Дзежкін выдаваў нешта такое наіўнае ці бязглуздае, што маёр ціха лаяўся, махаючы рукамі, бы млын пад шквалістым ветрам. Тады малады ўчастковы стараўся асцярожна выслізнуць за дзверы і хуценька зрабіць нешта сапраўды карыснае.

Але не зараз — зараз усё было ціха і спакойна, начальнік на яго не злаваў, і Федзя, як і кожны дзень у абедзенны час, проста карміў качак ля парапета над летнім кафэ. Толькі яго ўлюбёнцы, вялікай качкі Мацільды, як Дзежкін яе празваў, чамусьці не было. І хлопец, задуменна скінуўшы астатнія крошкі ад смятанніка чужым качкам, пайшоў паволі на працу.

У двары ля дома нумар дваццаць два ён ледзь не наступіў сабе на шнуркі і, коратка крэкнуўшы, прысеў іх завязаць. Раптам за цагляным плотам нешта стукнула, завішчэлі тармазы і проста яму пад ногі ўпаў металічны кейс, даволі цяжкі, мяркуючы па гуку, з якім ён бразнуўся аб асфальт.

Федзя захістаўся і ад неспадзявання ажно сеў на зямлю, выпусціўшы адначасова і папку, і фуражку. Некалькі секунд ён няўцямна разглядаў кейс, а потым, мала што яшчэ разумеючы, усхапіўся на ногі, падняў фуражку і папку, кінуўся да мураванага плота, ускочыў на лаўку ля яго і паглядзеў на вуліцу. А там ужо пад'ехала «хуткая дапамога», і мэр з нейкім чалавекам лаяліся ля дзвюх пашкоджаных машын.

Федзя, здрыгануўшыся, паглядзеў на кейс. Асцярожна, цераз плячо. Кейс ляжаў на месцы — на шчасце Дзежкіна, у двары нікога не было.

Федзя хуценька спусціўся з лаўкі і асцярожна падышоў да кейса. Нешта падказвала хлопцу, што кейс прыляцеў адтуль, дзе здарылася ДТЗ. Але трэба было б высветліць, чый ён. А да гэтага — што знаходзіцца ў кейсе.

Дзежкін кінуўся адчыняць кейс — замкі крыху паламаліся ад падзення, ды раптам адскочыў: а калі там бомба?

Стаіўшыся воддаль, ён сумленна пачакаў дзесяць хвілін, а потым цікаўнасць узяла верх над прафесійнай логікай. Федзя набраў поўныя грудзі паветра, адчыніў кейс і абамлеў.

Столькі даляраў адразу ён не бачыў ніколі.

Праз пару хвілін Федзя ўжо бег на месца здарэння — трэба ж знайсці таго, каму належаў кейс. У галаве нават на імгненне не ўзнікла думка аб тым, каб пакінуць грошы сабе, а душа ажно спявала ад радасці: нарэшце ёсць сапраўдная справа. І цяпер вельмі важна было яе не згубіць.

Ачуняўшы ў шпіталі, Зязюлька падхапіўся на ложку і ашалела агледзеўся. Галава ў яго круцілася і крыху ныла, рукі і ногі былі на месцы. Страшнаваты ўспамін — цяжкая, нібы каменная фігура качкі на грудзях — пачаў адступаць і здаваўся цяпер нейкім кашмарам. Ён саслізнуў з ложка і ўважліва агледзеў рэчы, што чакалі яго на табурэце побач — адзін з пашпартоў, якраз на Зязюльку, застаўся ў кішэні. Нават кашалёк быў на месцы. І раптам Зязюльку нібы маланкай працяла: кейса нідзе не было.

А наша качка, якая ледзьве не трапіла пад машыну, важна куляючыся з лапы на лапу, збегла ад яшчэ аднаго, на гэты раз, рудога, але не менш галоднага ката і, сама таго не ведаючы, прыклыпала ў двор шпіталя. Цяжкі дзень выматаў птушку, і яна асцярожна прыладзілася на клумбе, пасярод «альпійскай горкі».

Якраз каля яе і прайшоў Федзя, моцна прыціскаючы да сябе кейс і азіраючыся па баках. Ён не заўважыў, што за ім, ціхенька і ледзь паводдаль ад яго рушаць два непрыемныя суб'екты бандыцкага выгляду.

Бандыты ў сваю чаргу не заўважылі машыну, што «села» ім на «хвост» яшчэ ў цэнтры горада і людзей, што цікавалі за імі ад самай дарогі да шпіталя.

Калі Федзя і бандыты зніклі з поля зроку, невядомыя пераглянуліся, кіўнулі адзін аднаму і пайшлі назад да сваёй машыны.

А качку ўсё гэта ўжо не турбавала. Яна салодка спала ў клумбе, хаця вечар быў яшчэ зусім не позні.

Зязюлька ж кідаўся па палаце, нібы звар'яцелы. Потым ён выскачыў у калідор, разбудзіў медсястру на посце, але тая з лаянкай пагнала Зязюльку спаць.

— Вы не разумееце! — завываў Зязюлька. — Там жа… — ён хацеў сказаць пра грошы, але своечасова прыкусіў язык.

— Знойдзецца ваш чамадан, куды ён дзенецца! — медсястра з сілай заштурхала Зязюльку ў палату і рашуча зачыніла дзверы.

А «чамадан» не спяшаўся знаходзіцца, бо ўчастковы Дзежкін надоўга затрымаўся на посце медсястры.

— Цікава, — сказала яна, — столькі людзей, і ўсе яго шукаюць.

— Каго? — пацікавіўся лысаваты мужчына ў белым халаце, што сядзеў і чытаў нешта з тэлефона за стойкай на канапе — відаць, гэта быў дзяжурны ўрач.

— Ды Зязюльку гэтага, Віктар Віктаравіч, — адазвалася, абярнуўшыся, медсястра.

Федзя не паспеў і брывом павесці, як з боку палаты пачуўся нейкі грукат і гукі валтузні.

Калі яны з медсястрой і дзяжурным урачом кінуліся туды, дзе належала быць пацыенту, спадару Зязюльку — іх сустрэла пустая палата з расчыненымі вокнамі, перакуленымі крэсламі і вопраткай на падлозе.

Федзя з урачом высунуліся з акна — нешта белаватае ў вячэрнім змроку хутка мільгала ва ўнутраным двары, імкнучыся да адной з арак-выхадаў са шпіталя.

— Спадар Зязюлька! — крыкнуў урач, а Федзя слаба паспадзяваўся, што не прыйдзецца даганяць небараку — мала што ў яго з галавой здарылася. — Вярніцеся!

Белаватая фігурка ў двары здрыганулася, падскочыла і пабегла да іншай аркі.

Федзя паправіў фуражку, на ўсялякі выпадак праверыў пісталет, страсянуў кейс і пабег следам за дзяжурным і санітарамі даганяць колішняга пацыента. Калі Федзя выскачыў на двор, Зязюлька белаватым прывідам усё яшчэ кідаўся ў розныя бакі, а паколькі выхадаў са двара было чатыры, выбар у яго атрымліваўся някепскі.

— Спадар Зязюлька, спыніцеся! — зноў закрычаў дзяжурны ўрач. — Хадзем назад! Вы не разумееце, што робіце…

Зязюлька разумеў. Яшчэ тады, калі ён у роспачы глянуў у акно і ўбачыў старых знаёмых, што ціха прабіраліся да галоўнага корпуса шпіталя. І першай яго мэтай было апярэдзіць іх. Ён узяў пашпарт і кашалёк, заткнуў іх за гумку на трусах, расчыніў акно, асцярожна, трохі хістаючыся, залез на падаконнік і скочыў на казырок, што, на шчасце, аказаўся пад вокнамі палаты. Адтуль — на зачынены смеццевы бак і, нарэшце, на зямлю. А там да яго ўжо беглі «сябры» ў чорных скураных куртках, з пісталетамі пад пахай.

Зязюлька, што было сілы, замітусіўся па двары, спачатку кінуўся да аркі, што вяла на дарогу — але хлопцы ў скуранках былі бліжэй да яе. І Зязюлька, не збаўляючы хуткасці, змяніў напрамак. Але на гэты раз шлях яго шалёных уцёкаў ішоў проста праз клумбу, на якой спала качка. Качка падхапілася з крыкам, бліснуўшы крывава-чырвоным пярсцёнкам на лапе. Зязюлька таксама закрычаў ад нечаканасці: гэта была яна, тая КАЧКА! Закрычалі і бандыты, на якіх качка наляцела пасля спалоханага aферыста. Закрычалі і Федзя з дзяжурным урачом, кідаючыся на бандытаў. Тыя вывернуліся, але Мацільда, перапуджана ўзняўшыся ў паветра, стукнулася ў іх ізноў і пляснулася на дзяжурнага, а той, у сваю чаргу, — на Федзю. Пачалася мітусня, людзі спатыкаліся і падалі адно на аднаго. Качка крычала, біла людзей крыламі, раз за разам спрабуючы ўзляцець. «Трымайце! Каб цябе! Брыдкая птушка!» — чулася ў двары шпіталя, і цікаўныя медсёстры і пацыенты высоўваліся з вокнаў, каб зняць на тэлефон тое, што робіцца ўнізе.

А Зязюлька скочыў да чацвёртай аркі, куды, на яго шчасце, заязджаў грузавік з прадуктамі для сталовай. Праслізнуўшы ў шчыліну паміж машынай і сцяной аркі, ён, у адным шпітальным халаце, пабег уздоўж дарогі, якая вяла да вакзала.

Качка ж, нарэшце здолеўшы ўзляцець, неслася цяпер прэч ад гэтага страшэннага месца. Дзесьці ў дварах за шпіталем яна плюхнулася на бліжэйшы балкон і праз адчыненыя дзверы пракавыляла ў пакой — там нікога не было, толькі настольная лямпа свяціла мякка і ўтульна.

Качка агледзелася і ля самага балкона ўбачыла адчынены чамадан. Што ў ім было, птушку не турбавала, як і тое, як яна апынулася ў чалавечым жытле. Там яна адразу ж заснула, вырашыўшы падумаць пра ўсё зранку.

Тым часам бандыты, адбіўшыся ад урача і ўчастковага, кінуліся да трэцяй аркі, у якой мог знікнуць Зязюлька.

— На вакзал, — аддыхаўшыся сказаў адзін. — Зуб даю.

— Ага, — згадзіўся другі.

І яны памчалі да свайго джыпа, які стаяў непадалёк.

Дзяжурны з Федзем крыху ачомаліся і зразумелі, куды знік Зязюлька.

— Давай на вакзал! — пляснуў рукамі ўрач.

— Туды? — спытаў Федзя, намацваючы рукамі кейс — той быў цэлы і нават не адчыніўся.

— У яго ж страсенне, — працягваў урач. — Упадзе там яшчэ…

І яны кінуліся ў кірунку вакзала.

— А мне што рабіць?! — крыкнула медсястра.

— Выклікайце міліцыю, — параіў Федзя, напаследак абярнуўшыся.

Ганна Іванаўна даўно збіралася ў адпачынак. Некалькі гадоў — галоўнаму бухгалтару турфірмы не так проста было гэта зрабіць. Але ў гэтым годзе ўсё вырашылася само сабой: фірма абанкруцілася і ўсе, хто там працаваў, апынуліся на вуліцы. Ганна Іванаўна час ад часу марыла, як бы даць начальству, якое знікла, добрага выспятка — кабета яна была мажная, ледзь праходзіла ў дзверы бухгалтэрыі, а пан Зязюлька быў вельмі сціплай камплекцыі.

Што ўдумаў! Аферыст, каб яго качкі заелі!

Але як бы сумна ўсё гэта ні было, новую працу Ганна Іванаўна знайшла хутка — да пенсіі далёка, вопыту хапае, сувязі патрэбныя ёсць. А вось моладзі, што ўголас усхліпвала ля дзвярэй былога агенцтва, трэба было дапамагчы. Хоць неяк. Хуценька ўладкаваўшы сваіх маладых калег ды знаёмых, Ганна Іванаўна запісалася на фітнес і, каб канчаткова супакоіцца і не задавіць спадара Зязюльку дзе-небудзь пры сустрэчы, пачала збірацца на дачу: паспелі клубніцы. Лепшага сродку ад стрэсу Ганна Іванаўна не ведала.

У пятніцу вечарам яна, пакінуўшы ля балкона адчынены чамадан, піла на кухні гарбату пад любімы серыял. А раніцай, уся ў сваіх думках, яна нягледзячы, зачыніла чамадан і пацягнула яго да дзвярэй — таксі ўжо чакала. Чамадан падаўся Ганне Іванаўне падазрона цяжкім, але жадання адчыняць яго зноў не было, і яна проста патрэсла яго як след, каб рэчы лепш ляглі ўнутры, ды пацягнула ўніз па лесвіцы. Клубніцы чакалі!

* * *

Спадар Зязюлька сядзеў на вакзале за калонай і ўжо пачынаў нервавацца.

Ён дрыжачымі рукамі сунуў касіру грошы, неяк набыў білет да раённага цэнтра, недалёка ад горада Ў, дзе можна было б крыху адседзецца з тымі грашыма, што ў яго яшчэ засталіся. І схавацца ад сваіх праследавацеляў, што прачэсвалі вакзал у пошуках Зязюлькі. Следам за імі з'явіліся ўрачы і ўчастковы з кейсам — на які Зязюлька мог толькі прагна глядзець здалёк, чуючы, як калоціцца сэрца.

На яго шчасце, за бруднай калонай у канцы залы чакання ніхто не дадумаўся шукаць Зязюльку. Да цягніка заставаліся лічаныя хвіліны, а бандыты,

ды і прадстаўнікі закона, не заўважыўшы яго, прабеглі з шумам-гамам у другую залу.

Самы час быў выслізнуць да пуцей і збегчы! І тое ў Зязюлькі амаль атрымалася б, калі…

— Спадар Зязюлька?! — раптам аклікнулі за імгненне да таго, як ён урэзаўся ў нешта вялікае і мяккае. Гэтым вялікім і мяккім была Ганна Іванаўна. Яе ружовая кофтачка злосна паблісквала стразамі, капялюшык з іспанскай саломы пагрозліва ссунуўся на бок, а ў вачах гарэла прага помсты.

— Га-а-анна Іванаўна? — разгублена прамармытаў Зязюлька

Ганна Іванаўна падняла Зязюльку за грудкі сантыметраў на трыццаць над зямлёй і страсянула так, што з яго зляцелі тапкі. Яна закрычала на ўвесь вакзал:

— А каб ты праваліўся паразіт! Міліцыя! Я злавіла махляра!

— Гэй, ты! — пачулася побач. — Кінь яго! Ён наш!

Гэта былі бандыты. Адзін з іх наставіў на Ганну Іванаўну пісталет.

У зале ўзнялася паніка. Ганна Іванаўна ад нечаканасці расціснула пальцы, і Зязюлька пляснуўся на падлогу. На падлогу таксама пляснуўся і чамадан Ганны Іванаўны. Замок у яго адчыніўся, і адтуль вывалілася качка.

Так, так, тая самая качка, з чырвоным пярсцёнкам на лапцы. І зараз не зусім разумела, што творыцца навокал.

Зязюлька са звярыным крыкам кінуўся наўцёкі. Бандыты пабеглі за Зязюлькам. Адзін з іх спатыкнуўся аб качку і расцягнуўся на падлозе, пацягнуўшы за сабой другога. Зязюлька тым часам дабег да выхаду на перон і ўрэзаўся ў Федзю з кейсам.

— Гэта вы, спадар Зязюлька! — радасна крыкнуў Федзя. — Я павінен перадаць вам ваш…

— Гэта наш кейс, — бандыты падскочылі на ногі і цяпер трымалі на мушцы і Зязюльку з Федзем. — Слухай сюды, мент, — хрыпла сказаў адзін з малойчыкаў, — кладзі кейс на падлогу і штурхні да нас.

— Э, братан, а ці гэта быў наш план? Мы ж за ім… — здзівіўся другі.

— Лёлік, ты што, дурны?! — прыкрыкнуў на сябра першы. — Там жа бабкі! А з такімі бабкамі, як гэты пацук нацягаў, нам ніхто не патрэбны!

Федзя разгублена глядзеў на Зязюльку. Той з жахам глядзеў на кейс. У зале было пуста, толькі Ганна Іванаўна застыла, бы грэчаская скульптура, ля свайго чамадана і, не магла зрушыцца з месца.

І толькі качцы было ўсё роўна. Яна трохі ачуняла ад няўдалага падарожжа ў чамадане і цяпер асалавела глядзела па баках, не разумеючы, што робіцца навокал.

Якраз у той момант, калі Федзя, нарэшце, прыдумаў, як штурхануць кейс і дастаць свой пісталет, адначасова з усіх уваходаў у залу з’явіўся АМАП. Бандыты выпусцілі зброю. Зязюлька сціснуўся ў камяк. Ганна Іванаўна, страціўшы прытомнасць, гучна бразнулася на падлогу.

— Крак! — сказала качка.

* * *

Федзя стаяў на галоўным уваходзе вакзала і глядзеў, як «упакоўваюць» бандытаў. Хто ж ведаў, што за імі таксама цікавалі і даўно збіраліся ўзяць.

За клумбай урач з «хуткай» паіў сардэчнымі кроплямі Ганну Іванаўну і злаваў, бо выклік паступіў на раненне — усе чамусьці вырашылі, што жанчыну падстрэлілі.

Побач, у асобную машыну, вялі Зязюльку.

— Гэта яна! — мармытаў ён, дрыжачымі рукамі хапаючы міліцыянераў за рукавы формы. — Гэта птушка! Яна дэман! Пачвара! Схавайце мяне, калі ласка, схавайце!

— Абавязкова схаваем, — чалавек у форме маёра лагодна падтрымліваў яго пад локаць, падсаджваючы ў машыну.

— А куды мы едзем?

— Да нас. У госці. Качак у нас няма, не бойцеся.

Тым часам, качка паволі выкацілася на прыступкі ўвахода ў вакзал.

— Мацільда! — усклікнуў Федзя, убачыўшы чырвоны пярсцёнак. — Дык вось ты дзе! А я булку ўсю іншым качкам скарміў…

Качка, калі б магла, адказала б, што ёй зараз не да булкі. Яна ўзнялася і паляцела да возера, дзе потым з тыдзень хавалася ў кустах: прыгод з яе было досыць.

Ніхто не ведае дакладна, што здарылася са спадаром Зязюлькам — ці то яго прызналі псіхічна хворым і адвезлі ў шпіталь, ці то пасадзілі… Адно зразумела: яму яшчэ доўга ў кашмарах бачыўся абрыс качкі.

Ганна Іванаўна даехала на дачу і сабрала такі ўраджай клубніц, як ніколі. Там яна добра адпачыла і перадала суседкам усе плёткі з горада.

Што да ўчастковага Федзі, ён усё гэтак жа ходзіць у абедзенны перапынак на возера — карміць качак. І ўсё гэтак жа чакае сваю Вялікую Справу.

І дачакаецца, напэўна...

## Смерць аўтара

Аднойчы на вуліцы горада Ў з’явіліся два рыцары. У сярэднявечных даспехах, у кальчугах, з мячамі на поясе, са шлемамі пад пахай, яны аб нечым пыталіся ў гараджан.

І ніхто не здзіўляўся. Бо, як у кожным цывілізаваным горадзе, які стаміўся ад сучаснага жыцця, у горадзе Ў такстама былі рэканструктары і ралевікі. А яшчэ дзякуючы Зялёнаму замку — галоўнай славутасці горада, дзе, як казалі, колькі год таму завёўся свой прывід — сюды часта прыязджалі здымаць кіно.

Таму ніхто нават не звярнуў увагі на двух старажытных воінаў, якія ніяк не маглі перайсці дарогу. Трое падлеткаў, ціхенька хіхікаючы, здымалі іх на тэлефон. Цікаўная старая падазрона глянула на іх з-пад акуляраў і нешта сказала сваёй суседцы. Мужчына, што выгульваў сабаку побач, шмаргануў павадок на сябе, непрыемна зіркнуў у бок рыцараў і знік у пад’ездзе.

Праз нейкі час ваяўнічая пара здолела, нарэшце, апынуцца на процілеглым баку дарогі і пачала блукаць сярод сціплых пяціпавярховікаў, нібыта ў лесе, шукаючы патрэбны нумар на сцяне.

— Скажыце, калі ласка, найпрыгажэйшая пані, — спытаў адзін з рыцараў у здзіўлена-спалоханай жыхаркі дома Ганны Акрадзеўны, якую яны сустрэлі ў пад’ездзе, — дзе жыве Алек Джонс?

— Хто? — не зразумела жанчына.

Адзін з рыцараў дастаў дзіўны шматок тканіны і прачытаў, як па складах:

— Мі-ка-лай-аў-сян-кін.

— А, Коля! — нервова пасміхнулася Ганна Аркадзеўна, і хоць яна працавала псіхіятрам у шпіталі горада Ў, на хвіліну нават засумнявалася ў сваім

псіхічным здароўі. — Дык вы фанаты? Вы да яго? Падымайцеся на пяты паверх, сорак другая кватэра. Там дзверы налева, не згубіцеся.

Рыцары праводзілі жанчыну зацікаўленымі позіркамі пакуль яна, трымаючыся за парэнчы і спалохана гледзячы на іх, спускалася па лесвіцы.

Алек Джонс, ён жа Коля Аўсянкін, узяў псеўданім не проста так.

Па-першае, як вы карабель назавеце, так ён і паплыве: загадкавае імя, пад якое можна прыдумаць псеўдагістарычную казку з адносна неблагім сюжэтам і гумарам — і, калі пашанцуе ці зоры складуцца, як трэба, вы станеце вядомым аўтарам. А па-другое, як жа прыемна было хаця б тут змяніць прозвішча, што надакучыла яшчэ ў школе мянушкай Геркулес. Нехта, вядома, не пагодзіцца: Геркулес, гэта, канешне, і аўсянка ў кардонным пачку, але ж таксама і старажытны міфалагічны герой. Герой, — фыркаў з горыччу Коля. Герой, у якім метр з кепкай, худы, нязграбны. З'яўляцца на канвентах і канферэнцыях фантастаў ён вельмі не любіў, бо ўласная знешнасць дый унутраны настрой не спрыялі цёплым сустрэчам з калегамі і фанатамі. Так Аўсянкін, вядомы як Алек Джонс, атрымаў рэпутацыю самага загадкавага аўтара сярод маладых фантастаў, да якіх ужо каторы год, ці то забываючыся на час, ці то здзекуючыся, адносілі яго крытыкі.

У той дзень, калі ў горадзе Ў з'явіліся рыцары, ён якраз збіраўся закончыць перадапошнюю кнігу са свайго цыкла «Іранічнае фэнтэзі», як сам яго называў. Усё сходзілася, усе «хвасты» самі абрубаліся, усе стрэльбы стралялі — Коля ледзь у далоні не пляскаў ад таго, як гладка ўсё абяцала скончыцца. Сэр Сібелі і сэр Гэбельдорыус павінны былі сысціся ў апошняй вялікай бітве акурат напрыканцы гэтай кнігі, Святы Меч Гераль — у гэтай кнізе, зразумела, — не дастанецца нікому.

І ў той самы момант, калі Аўсянкін збіраўся націснуць на «захаваць» у кутку тэкставага рэдактара, у дзверы пазванілі.

Коля раздражнёна і шумна ўздыхнуў, падняўся нехаця і пайшоў адчыняць.

Далей усё здарылася так хутка, што ён нават спалохацца не паспеў. Дзве высокія, нават магутныя, постаці адцяснілі яго з цёмнай вітальні ў калідор, а адтуль — у «кабінет», маленькі, светлы пакойчык, дзе Коля працаваў над сваімі раманамі.

— Прывітанне, о шаноўны Творца! — хорам сказалі абедзве фігуры.

Праз хвіліну недарэчнага маўчання Коля моўчкі апусціўся ў старое любімае крэсла, няўцямна гледзячы на нязваных гасцей — у яго не было ні слоў, ні моцы нешта сказаць ці падумаць. А рыцары сэр Сібелі і сэр Гэбельдорыус, тыя самыя, пра каго ён толькі што пісаў, не пераставалі гаварыць.

— Мы доўга былі ворагамі, — казаў стройны і светлавалосы сэр Сібелі, якраз так Аўсянкін сябе яго і ўяўляў. — А потым зразумелі, што настаў час спыніць варожасць.

— Трэба было нешта рабіць з тым, што чынілася навокал, — падхапіў чарнявы і стрыжаны «пад гаршчок» атлетычнага складу сэр Гэбельдорыус. — І вырашылі ісці да чараўніка, да Мартынуса. Ён сказаў, што нам, каб зразумець, як жыць далей, трэба трапіць да Вас, о Творца!

— І што яшчэ сказаў Мартынус? — хрыпла спытаў Коля, да якога толькі цяпер вярнулася мова.

— Ён сказаў, пане Творца, што калі мы хочам цябе пабачыць, то павінны чымсьці ахвяраваць, — сказаў сэр Гэбельдорыус.

— Мы ахвяравалі нашыя жыцці *там*, — падхапіў сэр Сібелі, — і вось, мы прыйшлі да цябе.

Коля заплюшчыў вочы. Расплюшчыў. Зноў заплюшчыў. Прытомнасць паціху вярталася да яго — і свядомасць намагалася хоць як-небудзь апраўдаць тое, што рабілася. І першае, што падумаў: гэта сон. А што, можа быць. Другое — гэта жарт фанатаў. А чаму не? Вунь, маладой жанчыне, якая напісала цыкл пра вядзьмарку, фанаты нават малюнкі дасылаюць і мяккую цацку фіялетавай лісы з таго рамана пашылі па матывах. Што ж гэта атрымліваецца — вось яна, слава?..

Коля ўжо смела агледзеў рыцараў з ног да галавы: так і ёсць, гэты шлем ён бачыў у Празе, на экскурсіі, нават сфатаграфаваў — няхай будзе, маўляў. А выяву гэтай кальчугі ўвогуле ўзяў у інтэрнэце на гістарычным сайце, калі твор пісаў. Тут яго яшчэ раз кальнула непрыемнае пачуцце — усё, што было на рыцарах, цалкам адпавядала вынікам яго «аўтарскіх даследаванняў». Для антуражу і каб па-сапраўднаму было, Коля шукаў хоць нешта пра адзенне і быт таго часу, пра які ён пісаў. Нават спрабаваў вылічыць, колькі можна захоўваць малако і масла без лядоўні ды колькі можна хадзіць у даспехах, іх не здымаючы…

Але, калі гэта фанаты — да таго ж, рэканструктары, што ім перашкаджае сабраць неабходны ўбор?

Увесь флёр сюррэалістычнасці ад гэтых думак цалкам некуды знік. Коля уздыхнуў і сказаў:

— Адно пытанне, хлопцы: гэта жарт?

Рыцары паглядзелі адзін на аднаго.

— Пане творца, — працягваў сэр Сібелі. — Мы… мы шчыра рады бачыць і чуць вас.

— І мы да вашых паслуг, — падхабіў сэр Гэбельдорыус. — Вам не трэба засмучацца. Мартынус, мабыць, хоць і звар'яцелы стары чараўнік, але папярэдзіў, што вы не паверыце нам. Ён параіў адразу расказаць вам канец нашай гісторыі.

І яны пачалі расказваць. Коля слухаў, адчуваючы, як унутры ўсё халаднее. Ні адзін фанат — ды што фанат, нават выдавец! — не павінен быў ведаць такіх падрабязнасцей — і ён мог паклясціся, што нікуды не «зліваў» рукапіс.

Заставалася адно — ён спіць. Або перапрацаваўся да рыцараў у вачах. Хацелася верыць у першы варыянт, і Коля здаўся.

— Добра. Добра, добра, добра, я вам веру. Толькі што вам ад мяне трэба?

Рыцары крыху памаўчалі.

— Мы хацелі даведацца, — прабасіў Гэбельдорыус, — за што.

— Што — за што?

— За што вы дазволілі забіць маю сям'ю? — роспачна спытаў Сібелі.

— І майго бацьку, — дадаў Гэбельдорыус.

Хвіліну Коля хапаў ротам паветра, не ведаючы, як растлумачыць сваім персанажам — нават у сне, бо для сябе Коля ўжо вырашыў, што ўсё гэта дрэнны сон — яго аўтарскія «закідоны» і «вывіхі», усё тое, што ён намагаўся сказаць жыццёвым бязладдзем абодвух рыцараў. Так, характар сэра Сібелі, і Коля добра гэта разумеў, раскрыўся лепей, калі загінула яго сям'я. Да таго ж персанажаў у рамане стала зашмат. І — Коля ў нечым нават ганарыўся гэтым, — у яго пачало атрымлівацца нешта вельмі рэальнае і жорсткае, у стылі знакамітай «Гульні тронаў», аўтар якой, яшчэ не скончыўшы сагу, паназабіваў столькі народу, што хапіла б на невялікае паселішча. Што ж датычылася сэра Гэбельдорыуса, Коля стараўся зрабіць яго ліхадзеем: такімі, як кажуць літаратуразнаўцы, цёмнымі фарбамі яго

намаляваў, але нічога не атрымлівалася — персанаж ніяк не хацеў быць злым і жорсткім. Нават Колева малодшая сястра, вунь, не адзіны раз гаварыла, что Гэбельдорыус падабаецца ёй нават больш за пратаганіста. Нарэшце, Коля здаўся і прыляпіў Гэбельдорыусу вельмі сумную гісторыю са смерцю бацькі і ўсім, што з гэтага вынікала, раз за разам лаячы сябе за няўменне напісаць моцнага, абгрунтавана адмоўнага персанажа, а не байранічнага, неадназначнага небараку. Ён і сам разумеў, дзе «накасячыў» — думаў, што перапіша. Але нешта перапісаць не атрымлівалася. Добра яшчэ, падумаў Коля, яны не ўспомнілі пра фінальную бітву і ўсіх, хто там умудрыўся загінуць.

— Э… і дзеля гэтага вы… прыйшлі да мяне? — разгублена прагаварыў Коля, намагаючыся адцягнуць непрыемную размову, якая магла завяршыцца ўдарам мяча — няхай і ў сне, гэта наўрад ці было б прыемна.

— Так, о Творца! — амаль хорам адказалі рыцары.

— Дык ты скажаш нам, дзеля чаго ты гэта зрабіў? — працягнуў сэр Сібелі.

У Колевых думках пранеслася мноства вельмі разумных версій, а сярод іх Барт у абдымку са сваёй знакамітай тэорыяй аб «смерці аўтара». Не тое, каб Коля вельмі захапляўся ёй, але ён пра гэтую тэорыю чытаў і нават нешта зразумеў. Трэба было чапляцца хаця б за гэтую саломінку. Задурыць ім галаву і, лепш за ўсё, прачнуцца. Тым часам, уяўны Барт у Колевай галаве радасна памахаў яму рукой, і Аўсянкін выпаліў:

— Я… я… разумееце, я толькі… толькі праваднік тэксту. Ну-у, вы, вы, вас не існуе, вы толькі тэкст, тэкст які… адным словам, паводле тэорыі Ралана Барта, вы абодва…

І тут ён зразумеў, якую лухту нясе. Тады, ад адчаю і жадання хутчэй скінуць з сябе морак сну, Коля амаль закрычаў:

— Ды згіньце вы абодва куды-небудзь! Калі вы і існуеце, дык я не ведаю, НЕ ВЕДАЮ, што вам адказаць! Вас задаволіць адказ — «я вырашыў, што так лепей»? Не? А калі не, сыходзьце адсюль!

Праз колькі хвілін рыцары, збянтэжаныя і самотныя, выйшлі з Колевай кватэры…

Ува многіх фільмах і кнігах ёсць такія персанажы — яны прыходзяць, каб усё растлумачыць чытачу. Гэта як вядомы вобраз бармэна, якому на падпітку можна расказаць усё, і, здараецца, атрымаць неабходны адказ. Іх уводзяць падчас наўмысна, як голас аўтара, і яны могуць раздражняць, але да такіх персанажаў лепш прыслухоўвацца.

Дворнік Апанас Нілавіч быў бы амаль такім персанажам, калі б жыў у кнізе ці фільме. Не, ён не прыставаў да ўсіх з тлумачэннямі іх жыцця, як любяць некаторыя. Але, калі чалавеку і сапраўды патрэбна была парада ці падтрымка — ён з'яўляўся аднекуль і знаходзіў гэтыя самыя патрэбныя словы. Як адзін маленькі зялёны магістр з фантастычнай сагі, ён, невысокі, кволы стары, нібы выпраменьваў спакой і разуменне. Пра яго ў двары хадзілі легенды — казалі, што ён быў калісьці прафесарам філасофіі, а яшчэ, што ён сапраўдны мільянер, але такое багацце яму непатрэбнае, і таму Апанас працуе дворнікам.

Словам, шмат чаго гаварылі — але, што цікава, толькі добрае.

Так здарылася, што Апанас Нілавіч быў тады адзіным у двары, хто з трывогай паглядзеў услед двум самотным рыцарам, якія выйшлі з пад'езда.

А сэр Сібелі і сэр Гэбельдорыус, не адчуваючы яго позірку, тым часам, пабрылі па вуліцы ў кірунку моста. Там яны спыніліся, паклалі шлемы на

зямлю і, абапершыся на парэнчы, доўга глядзелі ў далячынь. А потым сэр Сібелі сказаў:

— Што будзем рабіць, шаноўны мой вораг?

Гэбельдорыус развёў рукамі.

— Ты ведаеш, калі глядзець адсюль, ні наша суперніцтва, ні нашы бойкі не маюць ніякага сэнсу. Падумай сам — тут мы не дзелім Святы Меч Гераль, да якога імкнуліся абодва. Тут няма нашых армій, няма інтрыг… Нашы жыцці там парушаны, калі не сказаць, што там нас больш увогуле няма, памятай пра гэта.

Сэр Сібелі нечакана падхапіў:

— Ведаеш, сэр Гэбельдорыус, ты маеш рацыю. Калі б я толькі мог… я б пачаў жыццё ізноў. Тут.

— Дык што нас трымае? — павярнуўся да яго Гэбельдорыус. — Вось толькі… вырашыць бы, што рабіць.

Яны паглядзелі на Колеў дом, які добра было бачна з моста.

— Хадзем, развітаемся з Творцам, — прапанаваў сэр Сібелі.

— Хадзем, — згадзіўся сэр Гэбельдорыус. — А калі ён нас ізноў выганіць?

— Усё роўна, пайшлі. Мы знойдзем, што адказаць на гэтае ягонае «я так вырашыў», — сэр Сібелі паправіў меч, падняў з зямлі шлем і падаўся ў бок дома Творцы.

— Ізноў вы? — уздыхнуў Коля, адчыніўшы дзверы перад рыцарамі — А вы адны? Больш нікога няма?

— А што здарылася, Творца? — спытаў сэр Сібелі.

— Тут былі браты Феату, — пацёр бок Коля. Ён добра памятаў, чаму і як яны загінулі — два маладыя ганцы, што патанулі ў балоце, не паспеўшы данесці вестку аб наступленні арміі сэра Гэбельдорыуса. Гэта ўсё, разумеў Аўсянкін, меней і меней было падобна да сну. Асабліва боль у баку — каб толькі добрыя браты Феату нічога яму не зламалі.

Рыцары спачувальна паківалі.

— Дык чаго вы прыйшлі?

— Мы хацелі развітацца, — прамовілі яны. — Калі вам няма чаго сказаць, калі вы не ведаеце, што нам рабіць — мы будзем вырашаць свой лёс самі. Мы пачнём новае жыццё тут.

— Ну, як хочаце, — Коля стомлена пацёр вочы. — Ідзіце ўжо.

Рыцары моўчкі няўклюдна патапталіся ў вітальні, потым асцярожна выйшлі на лесвіцу і нечакана адчулі сябе па-сапраўднаму свабоднымі.

Прайшоў тыдзень з таго дня, як рыцары з’явіліся ў горадзе Ў. Не так многа, здаецца, але чаго толькі за гэты час не здарылася!

Сэр Сібелі, з лёгкай рукі Апанаса Нілавіча, стаў працаваць гідам у Зялёным Замку — і адкуль толькі ў дворніка такія сувязі? На ўсе пытанні Апанас Нілавіч заўсёды хітравата пасміхаўся. Калі Аўсянкін спытаў, як ён уладкаваў сэра Гэбельдорыуса на працу пажарным, то пачуў адказ:

— Рабі дабро, і ў цябе будзе шмат сяброў.

Аднойчы, недзе ў сярэдзіне лістапада, на працы ў сэра Гэбельдорыуса выдалася свабодная хвілінка, і ён вырашыў зайсці да Творцы. Ён і сам не ведаў, чаму.

Сэр Сібелі і сэр Гэбельдорыус сустракаліся час ад часу — выпіць піва і пагаварыць пра жыццё. Яны на дзіва хутка прыжыліся ў такім незразумелым для сярэднявечных жыхароў месце, як горад Ў. Апанас Нілавіч тлумачыў гэта тым, што ў іх галовах ёсць нейкія веды ад аўтара. Але дагэтуль Сэр Сібелі

ніяк не мог даравацъ Творцу таго першага «знаёмства». Сэр Гэбельдорыус, наадварот, у нечым нават Колю зразумеў і дараваў — да таго ж, жыццё *тут* яму падабалася куды больш, чым у казачным сярэднявеччы, адкуль яны збеглі — хаця б тым, што тут гарачая вада лілася проста з крана.

І вось, нарэшце, сэр Гэбельдорыус купіў невялікі торт і выправіўся да Колі ў госці.

Калі сэр Гэбельдорыус узнімаўся па лесвіцы, ён ледзь не сутыкнуўся з дзяўчынай у аксамітнай доўгай сукенцы, па якой ён пазнаў лэдзі Дану. Трэба сказаць, яе лёс у рамане таксама атрымаўся не салодкім — каханы загінуў, замуж выдалі за нялюбага, які таксама загінуў — Коля тады вырашыў «паддаць Шэкспіру», бо напрыканцы перад ёй стаяла непрыемная маральная дылема з выбарам: жыццё сябра, сэра Сібелі, ці будучыня яе народа. Гэбельдорыуса лэдзі Дана не заўважыла, яна была як ніколі раззлаваная, і… невыносна прыгожая. Коля стаяў на лесвіцы пахмурны, на яго шчацэ гарэў заўважны след ад аплявухі — Гэбельдорыус ледзь не рассмяяўся ўголас, бо так добра ляпнуць па фізіяноміі магла толькі лэдзі Дана. Коля, заўважыўшы старога знаёмага, панура кіўнуў яму:

— А ты заходзь, толькі калі ласка, не заві мяне Творца, у мяне ўжо алергія на гэта слова.

Гэбельдорыус не стаў пытацца ў аўтара, што такое «алергія» — ён вырашыў, што гэта рэч непрыемная, бо ён просіць не называць сябе гэтым словам, і зайшоў у кватэру. Унутры было цесна ад герояў. «Здаецца, да Мартынуса схадзілі не толькі мы», — падумаў Гэбельдорыус, чухаючы стрыжаную патыліцу. Каго там толькі ні было!

Кароль Барус, уласнай асобай, сядзеў у зале на крэсле, як на троне, разпораз з кіслай мінай пераключаючы каналы тэлебачання. Яго першы міністр круціўся на кухні — шукаў нешта ў лядоўні. Сам Мартынус, стары чараўнік, намагаўся зачараваць мікрахвалёўку, каб яна хутчэй аддала яго бутэрброд. Недзе ў глыбіні кватэры чуліся галасы — Гэбельдорыус пазнаў іх таксама, гэта былі прыдворныя дамы Сесіл і Радыя.

Сэр Гэбельдорыус паставіў торт на стол у Колевым кабінеце — там, як ні дзіўна, нікога не было.

— Ну, як справы, як жыццё? — спытаў аўтар, разліваючы гарбату па кубках.

— Добра, о… пане аўтар, — пасміхнуўся сэр Гэбельдорыус. — А ў вас?

Яны размаўлялі даволі доўга, нават сталі дыскутаваць пра маштабныя бітвы. — Коля хацеў пачаць новую кнігу, але для гэтага патрэбна была кансультацыя. Неўзабаве торт скончыўся, сэр Гэбельдорыус пайшоў да караля Баруса — глядзець тэлевізар і лаяць сучасныя норавы.

А Коля выйшаў на вуліцу, — крыху падыхаць паветрам.

— Што, «дзеці» да цябе прыехалі? — у двары шчыраваў Апанас Нілавіч.

— Та-а-ак, — працягнуў Коля. — Мяне нішто ўжо не здзіўляе. Усе. Усе, разумееце? Яны ўсе перабраліся сюды. Сёння вось прыйшлі. У госці.

— А чаму б і не, калі ім добра? — дворнік зняў кепку і працёр лоб.

— І што мне далей рабіць? — Коля правёў рукамі па твары. Апанас Нілавіч, як заўсёды, добра пасміхнуўся.

— Пісаць, Мікалай. Пісаць і пісаць.

— А калі яны зноў прыйдуць? Новыя? Ой, што я гавару…

— Калі прыйдуць — тады і думаць будзеш, — Апанас Нілавіч абтрос мятлу і пачаў асцярожна змятаць лісце з тратуара. — Але зіма хутка. Не думаю, што прыйдуць.

Коля вылупіўся на старога.

— Чаму вы так лічыце?

— Я не лічу, — падміргнуў яму дворнік у адказ, — я ведаю.

Коля пайшоў дадому. Ідэі ў галаве раіліся, бы пчолы, перасільваючы страх.

Ён адкрыў ноўтбук, акно тэкставага рэдактара, і пачаў набіраць. Як ніколі ў жыцці ён ведаў, што збіраецца напісаць.

Тым часам у сваёй дворніцкай каморцы Апанас Нілавіч агледзеўся па баках і асцярожна адчыніў невысокую дзверцу недзе ў кутку. Па-за дзверцай былі паліцы, што сыходзілі некуда далёка ўглыб будынка. Дворнік узяў сшытак у старой скураной вокладцы, што стаяў паміж банкай з маленькай галактыкай, якая паблісквала ў цемры, бы навагодняя ёлка, і дзіўным прыборам, падобным да гадзінніка.

Ён разгарнуў сшытак на патрэбным месцы, дастаў стары хімічны аловак і пасміхнуўся.

— Чаму я так думаю, чаму я так думаю… Ведаю.

І дапісаў у канцы главы, што пачыналася словамі пра з’яўленне рыцараў:

«І Коля стаў зноў пісаць. А зімой… зімой да яго не завітаў ніхто з тых, каму на паперы ён даў жыццё, і Коля ламаў галаву — гэта таму, што піша лепш цяпер, ці проста не сезон? Але ніхто не прыходзіў. І яму нават стала не хапаць шумнай кампаніі сваіх персанажаў…»

Стары задаволена паглядзеў на тое, што атрымалася, схаваў сшытак, выйшаў з каморы і зачыніў дзверцы.

Так, зіма павінна была быць… спакойнай.





Вольга РУСІЛКА

# ТЭРЫТОРЫЯ СЭРЦА

* * *

— Нішто сабе!
Ніхто табе
ніколі і нідзе
не скажа,
па які талан
па свеце ён ідзе.

Не ведае,
не думае,
баіцца звар'яцець.
А я вось,
на бяду маю,
спрабую зразумець.

Тапчу бяду
пастылую,
абцасамі душу.
Гадую
легкакрылую
спагадную душу.

---

*__Вольга Іванаўна Русілка__ нарадзілася 17 ліпеня 1959 года ў вёсцы Берліты Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1985). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*

*Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 25 г. Віцебска, загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Цяпер — дацэнт кафедры літаратуры названай навучальнай установы.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Табе» (1996), «Ажына» (2004), «B.I.P» (2009), «Сцежка, сцежачка, сцяжынка» (2014).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2004), Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (2014).*

* * *

Мне прысніўся званок тэлефона.
Ён прачнуцца прымусіў мяне
і падумаць пра родных і блізкіх.
Павярнуўшыся тварам к сцяне,
перабрала імёны, як нізкі
важкіх лёсаў на тонкай струне.
Хай нам лёгка і светла жывецца,
а таму, хто ўжо спіць, — добрых сноў.
На маёй тэрыторыі сэрца
непадзельны трывога — любоў.
І хай нітка жыцця не парвецца.
Мне прысніўся званок тэлефона…

* * *

Адгані ўсе трывожныя думкі.
І разумныя думкі гані.
Каб надоўга пазбавіцца суму,
мы распалім над рэчкай агні.
Над сапраўднай ракой, над Дзвіною,
хай у вечнасць агонь зазірне.
Нам не будзе да ранку спакою.
Хто ж у ночку такую засне?

* * *

А змоладу вада ў рацэ
вінам іскрыстым пеніцца,
і ночкаю не муляе каханая рука.
І верыш, што да лепшага
усё, вядома, зменіцца
ад аднаго
чаканага званка.
А ў сталасці, а з восені
душа ў руцэ калоціцца…

* * *

Гэта праўда пра мяне.
Гэта праўда.
Як віно на палыне,
горкі лёс.
Як не знаў ты пра любоў —
і не знаў бы.
Менш лілося б на зямлі
марных слёз.

* * *

Ну што ж, трымайся.
Трымайся за паветра.
Калі ўжо нельга прадыхнуць,
хапай напоўніцу
праклятай адзіноты
і — рэзкі выдых.
Як ні дзіўна, памагае.
Трымайся за ўспаміны.
Нібыта на кавеньку,
на іх абапірайся
асцярожненька.
Трымайся за надзею.
Як птушка з перабітымі крыламі,
яна ўсё-такі імкнецца
узляцець.
Ну што ж, трымайся.
Трымайся, браце, за мяне.

* * *

Ці далёка да дзяцінства?
Пяцьсот дваццаць кіламетраў.
Сем гадзін язды машынай.
А каб раптам пехатой…
Я б пайшла і пехатою,
ды ўжо цяжка ходзяць ногі,
ды трымаюць моцна сцены,
справы, праца і сям’я.
А яно жыве ціхенька
у старой бацькоўскай хаце
цёплым светлым успамінам
і шчымліваю слязой.

* * *

Мой верш не з гартаванай сталі,
З каменняў іскры не сячэ.
Паэтамі адзінкі сталі,
А сотні — у чарзе яшчэ.

Як напісаць, каб нас пачулі,
Усхваляваць, узняць, здзівіць?
Спяваю моваю матулі,
А голас ціхі — не звініць.

Ды раптам возьме нотку тую,
Што чулую кране душу.
Я на народ не прэтэндую,
Я для адзінак і пішу.

# НЯЗБЫЎНАЯ МАРА БАРЫСА МІКУЛІЧА



*Творчаму чалавеку наканавана быць самотнікам — нягледзячы на ўсе магчымыя знешнія праявы камунікабельнасці, таварыскасці, грамадскай актыўнасці. Такая думка падмацоўваецца жыццём і спадчынай таленавітага пісьменніка Барыса Мікуліча (1912—1954), аўтара «Аповесці для сябе» (1946—1949), беспрэцэдэнтнага двухмоўнага твора ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя, адметнага сваёй адкрытасцю, эмацыйнай і факталагічнай напоўненасцю пры абмалёўцы свайго і чужога драматычнага лёсу. Унікальны выпадак, калі аўтарская шчырасць рэпрэсаванага пісьменніка разгорнута зафіксавана і не падлягае сумненням. «Непрычасанасць» выказаных думак захоплівае і не можа не выклікаць павагу да чалавека, які выжыў насуперак усім невыносным абставінам, здолеў захаваць і развіць свой інтэлект, абуджаны хваляй нацыянальнага энтузіязму 1920-х.*

*Барыс Мікуліч неаднаразова і, як правіла, у падзагалоўках акцэнтаваў увагу на зваротнай скіраванасці напісанага твора* ***да*** *або* ***для сябе,*** *лакалізоўваў яго перадгісторыю сваёй біяграфіяй або жыццёвым вопытам блізкага кола людзей, асабліва ў напісаным у 1946—1948 гадах: «з аповесці майго жыцця» («Вецер на світанні»), «запіскі земляка» («Вандраванне ў той свет»), «аповесць пра маіх знаёмых» («Зялёны Луг») і інш.*

*Было б абсалютна памылковым і прасталінейна-звадлівым пайсці фармальным шляхам і адназначна разглядаць такое акцэнтаванне ў якасці своеасаблівай тэндэнцыі звужэння пісьменніцкага мікракосму, што, зрэшты, папросту не лагічна, а часам (як у «Аповесці для сябе») абвяргаецца ў тэксце самім Б. Мікулічам: «“Повесть для себя”? Нет! Я хочу, чтоб этот “конспект” повести был для всех, чтоб они любили и ценили жизнь и чтоб не расставались с мечтой!..»*

*Мяркуем, такім чынам аўтар сямі кніг, беспадстаўна зняволены ў 1936-м ва ўзросце 24 гадоў, вырваны з рэчышча актыўнай грамадска-культурнай дзейнасці і кінуты ў звыродлівую сістэму гвалту і прыніжэння, магчыма, нават ненаўмысна, пасля выхаду на волю імкнуўся сканцэнтраваць, засяродзіць сваю творчую самасць-самоту, якая ў невыносных умовах дапамагла яму выжыць і*



*Хата ў в. Церахавічы Лагойскага раёна, дзе была напісана аповесць «Зялёны Луг». 1950-я гг.*

*захаваць свой пісьменніцкі патэнцыял — у спадзяванні напоўніцу рэалізаваць яго і спраўдзіць свае планы-мары. Гісторыя сусветнай літаратуры ведае ў нечым тыпалагічна блізкія прыклады мастацкага пісьма, якое нараджалася з уласнага драматычнага вопыту, жудасных выпрабаванняў і расчараванняў, з устаноўкай на «чытво не для ўсіх», «зразумее толькі той, хто сам перажыў» — гэта творчая практыка пісьменнікаў «страчанага пакалення», спароджанага Першай сусветнай вайной.*

*Маё асабістае адкрыццё Б. Мікуліча-пісьменіка было ў свой час звязана з прачытаннем яго аповесці «Развітанне» (1947), прысвечанай апошнім месяцам жыцця М. Багдановіча. Твор захапіў новымі, нечаканымі фактамі з біяграфіі класіка літаратуры. Аўтар абапіраўся на ўспаміны Змітрака Бядулі, у чыім арандаваным доме жыў пясняр чыстай красы. І такім чынам нязмушана і памастацку пераканаўча запачаткаваў сваю адмысловую ролю звенчака розных пісьменніцкіх пакаленняў, асабістую пачэсную місію ў пераемнасці нацыянальных класічных традыцый.*

*У розныя гады справу выдання і асэнсавання творчай спадчыны Барыса Мікуліча ажыццяўлялі С. Грахоўскі, Д. Бугаёў, М. Мушынскі, Т. Грамадчанка, В. Дэконская, Л. Савік. Але і сёння нельга сказаць, што ўсе творы пісьменніка сабраны і гатовы да сустрэчы з чытачом і даследчыкам. Вартая новага выдання і знакавая «Аповесць для сябе»: як ні дэкларавалі выдаўцы, але і ў часопісным, і ў кніжным варыянце яна выйшла з многімі купюрамі.*

*У свой час пра належнае захаванне спадчыны брата-пісьменніка рупілася Марыя Мікуліч, сёння такі адмысловы сваяцкі клопат працягвае Тамара Сакалова. Пра папулярызацыю творчасці Б. Мікуліча дбае Святлана Калюта, загадчыца бібліятэкі № 4 г. Бабруйска, якая цяпер носіць імя пісьменніка-земляка. Асноўная рукапісная спадчына Б. Мікуліча, дакументы захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Інстытуце літаратуразнаўства імя Я. Купалы НАН Беларусі.*

*Твор Б. Мікуліча, да якога мы звярнуліся гэтым разам, — аповесць «Зялёны Луг», рукапіс і машынапіс якой зберагаюцца ў рукапісным фондзе бібліятэкі згаданага акадэмічнага інстытута. Адметны выдавецкі лёс гэтага твора. Аповесць*

*была выдадзена толькі аднойчы, і адразу ў перакладзе на рускую мову Міхаіла Гарбачова. Кніга «Повести» (1960), укладзеная С. Грахоўскім, выйшла ў Маскве ў выдавецтве «Советский писатель». Сюды разам з названым творам увайшлі і некаторыя іншыя, што папярэдне ўбачылі свет на мове арыгінала. У выданні спадчыны Б. Мікуліча, наколькі нам вядома, гэта адзіны выпадак, калі спачатку з'явіўся пераклад, а справа расчыткі рукапісу і выдання аўтарскай версіі зацягнулася амаль на 60 гадоў.*

*Твор напісаны ў 1947 годзе ў вёсцы Церахавічы паблізу Лагойска. Тут, у хаце стрыечнага брата Вінцэся, Б. Мікулічу яшчэ да 1936 года асабліва добра працавалася.*

*Пісьменнік звярнуўся да тэмы адбудовы вызваленай ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў аднайменных вёскі і калгаса «Зялёны Луг». Падзагаловак «Аповесць пра маіх знаёмых» скіроўвае на пошукі прататыпаў герояў сярод мясцовых жыхароў канца 1940-х гадоў. А паколькі многія персанажы твора адметныя сваімі пасадамі на ўзроўні калгаснага і раённага начальства, думаецца, пры выяўленні падабенстваў з рэальнымі асобамі могуць дапамагчы не толькі ўспаміны тутэйшага насельніцтва, але і важкая пісьмовая крыніца — двухкніжнае выданне «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Лагойскага раёна» (2003, 2004).*

*Час, калі пісаўся «Зялёны Луг», адметны ў гісторыі беларускай літаратуры. Рэпрэсіямі 1930-х была амаль поўнасцю вынішчана нацыянальная творчая інтэлігенцыі. Новая пісьменніцкая генерацыя (Мележ, Шамякін, Быкаў), што зусім нядаўна памяняла армейскія шынялі на цывільную вопратку, яшчэ толькі ўбіралася ў творчую сілу. У саюзных маштабах культурнага жыцця і яго ідэалагічных каардынатах пазначыўся відавочны пераходны перыяд: знешні вораг і ўнутраная «контррэвалюцыя» пераможаны. Усё гэта накладвала адбітак на характар вызначэння магчымых супярэчнасцей, канфліктаў у мастацкім пісьменстве новага часу.*

*У гэтым кантэксце, чытаючы і асэнсоўваючы «Зялёны Луг», іншыя друкаваныя і недрукаваныя творы Б. Мікуліча, разумееш іх важную гістарычную ролю ў пераемнасці прафесійнага сталення, жанравай разнастайнасці беларускай літаратуры, высокай культуры творчасці наогул.*

*Аповесць дэманструе пісьменніцкі почырк сталага аўтара, майстра сваёй справы. Мікуліч прафесійны ва ўсім: уступе-ўверцюры, архітэктоніцы твора, абмалёўцы персанажаў, мастацкіх дэталях. Пры чытанні гэтай аповесці і ўсёй прозы Барыса Мікуліча апошніх гадоў міжволі ўзгадваецца французскі раманіст Гюстаў Флабер (1821—1880) і яго ўласны, вынайдзены пасля шматлікіх спроб, рэцэпт скрупулёзнай працы з мастацкім тэкстам, які, думаецца, карысны і для сённяшніх творцаў: пазбавіць фразу нават налёту белаватага тлушчу, пакінуць толькі мускулы.*

*Твор выкананы на высокім прафесійным узроўні. Увогуле, почырк майстра не ў апошнюю чаргу пазнаецца па лёгкасці і нязмушанасці пісьма — каб не было заўважна ані хмурынкі цяжкай чалавечай долі, грамадскай несправядлівасці. У гэтым нязломнасць гуманістычных перакананняў Б. Мікуліча. Дыхтоўна зроблены тэкст аповесці ўсё ж не павінен «закалыхаць» нашу гістарычную памяць, таму, чытаючы твор, не лішне раз-пораз узгадваць моцна кантрастныя з «Зялёным Лугам» драматычныя радкі з «Аповесці для сябе», кшталту наступных: «Я видел идущие полчища паразитов — прямо на полу и то, как дивный поэт Владимир Х. тронулся и грыз их зубами».*

*На заканчэнне адзначым, што тэксталагічная праца была ажыццёўлена дзякуючы спрыянню кіраўніцтва Цэнтра даследаванняў культуры, мовы і літаратуры Інстытута літаратуразнаўства імя Я. Купалы НАН Беларусі. Асобныя словы ўдзячнасці адрасуем Марыі Пінчук, загадчыцы бібліятэкі названага інстытута і захавальніцы яго архіўных збораў.*

**Мікола ТРУС**

Барыс МІКУЛІЧ

# ЗЯЛЁНЫ ЛУГ

*Аповесць пра маіх знаёмых*

## I

Пчаліны рой прыляцеў у разбураны вулей, і ў гэтым была надта вялікая Ганчына радасць. Цяпер ужо ў яе быў пэўны клопат і не так балела сэрца, калі старая самотная жанчына глядзела са свайго пагорка на зруйнаванае сяло. Грудкі цэглы ды парасцягненае бярвенне, рэдкія голыя каміны ды леташняе сцябло траў… А цяпер над пагоркам лёталі руплівыя пчолы, напаўняючы паветра працавітым гудам, а сэрца старой — надзеяй. Вясна была халодная, дзьмулі з захаду рэзкія вятры, наганяючы парваныя хмары, з якіх сек то халодны дождж, то дробны, быццам град, снег. Пчолам было надта цяжка змагацца з такой чортавай пагодай, многія з іх гінулі — і ад холаду, і ад нястачы харчоў. У голым полі, можа, дзе зацвіталі першыя пралескі ды на ўзлессі, можа, гарэлі рэдкія сінія ды жоўтыя сны, але пчолам, відаць, не ўсім шчаслівілася да іх дасягнуць. Многія з пчол, слабыя, гінулі. Ёсць нешта вельмі сумнае і жаласлівае ў выглядзе паміраючай пчалы. Ні руплівасці, ні працавітага гудзення, ні ваяўнічай імклівасці. Ціхае кволае зумканне, імкненне знайсці ямінку, шчылінку, каб забіцца ў яе, схавацца ад сонца, ад галасоў сваіх крылатых сяброў, ад прынаднага паху кветак, да якіх ужо не даляцець… Ганна брала пчолак на далоні і яны слаба тыкаліся ў глыбокія боразны зморшчын, нарэшце падалі на зямлю. У гэткую хвіліну прыгадваліся старой сыны. Яна так стаяла з працягнутай далонню і позірк яе прасветленых на момант вачэй блукаў недзе далёка, на людзях, сярод сыноў. Яна, можа, што і думала, але не, мусіць, не думкі паглыналі яе ўвагу, а быццам прывід жывых сыноў паўставаў перад ёю. Потым схамянецца — падхарчаваць бы пчолак цукровай вадзіцай ці пераваранымі у вадзе мядком… Але ў маленькім скляпку, які адзін і ўцалеў на пагорку, нічога такога не было ў старой, каб прадаць ці вымяняць на цукар. У склепе было надта нядобра, сцюдзёна, але ўсё лепш, чым пад небам, добра, што ён хоць уцалеў ад немцаў, бо зямлянку скідаць не вэдлуг яе сілы.

Хоць і халодная, але ішла вясна і трэба было што рабіць. Пчала б’ецца за жыццё, а чалавеку тым больш не прыставаць трэба, аж пакуль ногі ходзяць па зямлі. Ганна бачыла, што навокал на руінах хто-дзе пачаў варушыцца, значыць — і ёй трэба было рабіць. Але як было рабіць, з чаго пачынаць? Пры немцах сеялі аднаасобна, хто як, а цяпер на сяле частка крычала, каб так і сеялі, а частка дбала пра калгас, і Ганна ўзяла руку апошніх. Нарэшце на кані верхам прыехаў з раёна ўпаўнаважаны, доўга гутарыў і нарэшце-такі аднавілі калгас. З саўгаса, дзе пры немцах быў маёнтак, прывезлі сеялку, жатку, а потым дзяржава пачала даваць у крэдыт жывёлу і, значыцца, зноў пачалі ажывацца.

Рупіла Ганне дайсці да мястэчка, каб хаця даведацца аб сынах, але пакуль што не было аддыхі ад работы: яна, як і даўней да вайны, штодня рабіла ў калгасе, быццам не мінялі гады і быццам сын Антон па-ранейшаму кіраваў калгасам. У гэтыя цяжкія часіны Ганна вырашыла, што яна павінна ўзяць бок тых, хто пачаў аднаўляць калгас, бок сына свайго Антона, які невядома дзе быў, бок забітай яго жонкі Ніны. Надта мала засеялі ў тую першую вясну пасля вайны, надта цяжка было ўсіх людзей зноў заахвоціць да супольнай работы, цяжка было сабраць патрэбны інвентар, які парасцягвалі за гады

вайны. Ганна штодня ішла на работу з салодкай надзеяй, што, можа, сёння прыйдзе з вайны сын Антон ці сын Тодар, першы — добры і вясёлы гаспадар, другі — яшчэ зусім маладзёнак, матчын пястун. Усё цяпер рабіла старая так, быццам ведала, што большы сын глядзіць на яе працу шэрым сваім вясёлым вокам і кажа — гэта добра, а гэта — дрэнна.

Нарэшце выдаліся ціхія, цёплыя дні, і Ганна пайшла ў мястэчка за 15 вёрст. Ішла яна не спяшаючыся, але спора, гаспадарлівым і бывалым вокам аглядаючы свет. Вось тут апошні раз бачылася яна з сынавай, іх гналі ў мястэчка, а Ніна ўпіралася, яе два разы ўдарылі, а потым яна паваліліся, яе прыстрэлілі. Вось тут… гэта было-такі гадоў трыццаць пяць таму назад… светлавалосы Паўлік пераняў маладую Ганулю, прыступіўся, і яна сказала — калі бацькі аддадуць, пойдзе за яго... А гэта Паўлу толькі і трэба было. Тады стаяў тут на развілках белы новы крыж з фартушкамі, ён стаяў скрозь усе гады, яго не чапалі, ён толькі счарнеў, а немцы прыбілі да яго надпісы з назвамі вёсак. Няма цяпер гэтага крыжа, толькі буйная шыпшына засталася. У гонях дзвюх ад дарогі скрозь быў вясёлы лес, немцы яго пасеклі і цяпер адны толькі жоўтыя пні віднеюцца навокал — на іх выступілі кроплі жывіцы. Вось абгарэлы танк. Руіны вёскі. І ўсюды, як кінуць вокам, дружная вясновая зеляніна. Прырода рупна залечвае свае раны, чалавеку гэта цяжэй.

У мястэчку яна пайшла ў райваенкамат. У цесных ад розных рэчаў і скрыняў пакоях народу было не так многа. Відаць, што толькі-толькі тут ладзіўся парадак і яшчэ не паспелі як след усё папарадкаваць. Яна прыгледзелася да ваенных і выбрала аднаго — светларусага, як Тодар, з пісягом падкоўкай на падбародку. Ён нешта пісаў, нахіліўшыся над сталом, і падпяваў сваёй рабоце. Ганна прыступілася да яго. Ён перапыніў работу і пачаў слухаць. Старая бачыла, як ураз вясёлыя аганькі згаслі ў шэрых вачах, твар зрабіўся ўважлівы, сур'ёзны.

— Пачакай, матка, тут, — нарэшце сказаў светларусы, — пра меншага сына мы нічога яшчэ не ведаем, а пра Антона Красуцкага… — Ён рэзка, нагой, адсунуў крэсла і выйшаў з пакоя.

У цяжкім хваляванні прайшло некалькі мінут. Тады здавалася — гадзіны прайшлі. Гэта ж тры гады не мела магчымасці маці даведацца пра сыноў. Чакала, што яны прыйдуць самі, яна перамые ім бялізну, свежага сена прынясе і пакрые яго чыстай пасцілкай, каб стомленыя сыны нарэшце адпачылі як след. А яна, маці, будзе ціхенька сядзець і глядзець на змораныя іхнія, салдацкія твары. Светларусы нарэшце прынёс нейкія паперы і скрыню, якую ён паставіў на стол. У дзвярах мільгануў нейкі чалавек і спехам прычыніў іх.

— Вось… — сказаў хрыпла светларусы… — Ваш сын Антон Красуцкі, гвардыі капітан, загінуў, як герой…

Не, тады не плакала Ганна. Яна ўзяла паперы, два Антонавых ордэны, скрыню з ваеннай вопраткай і несла ўсё гэта ашчадна, як калісьці насіла малога. І толькі дома, у сырым склепе, частыя слёзы паліліся на зашчытны фрэнч, на картачку, на два ордэны, на гэта ўсё — што засталося ад старэйшага сына. Яна нават не звярнула ўвагі на грошы, якія былі тут. Што ёй — старой — былі яны? А над пагоркам хадзіла вясновае сонца, руплівыя пчолы, памацнеўшы, лёталі, несучы нектар і пяргу, напаўняючы паветра заўзятым гудам. Спяваў жаўрык, даносіўся стук сякеры. Раптам яна пачула галасы.

— Вот добрае месца, сухое, вясёлае!

Яна глянула праз шчыліну ў дашчатай фортцы і ўбачыла незнаёмага чалавека, з круглай бародкай, бародка — рудая, з асобнымі сівымі валасамі. Побач з ім стаяла дзяўчына — невялікая, але ладная, вастраносая, быстрая. На плячах у дзяўчыны была блакітная хустка — тонкая, шаўковая. Ганна выйшла да іх.

— Што вам тут трэба, людзі?

Дзяўчына адвярнулася, а чалавек, гасячы ў вуснах непатрэбную ўсмешку, адказаў:

— Хату будзем тут ставіць, мы — прыезджыя.

— Хату тут буду ставіць я, — сказала Ганна. — Сорак гадоў тут стаяла наша хата. Гэта — мая сядзіба.

Рудабароды паглядзеў на самотны вулей, на груду цэглы, на зарослы маладой спорай травой склепчык, і ўжо не хаваў усмешкі, а так, смеючыся, лагодна заўважыў:

— Колькі табе, старая, трэба? Мы твайго палаца не кранем. Месца добрае сухое, вясёлае.

Дзяўчына пайшла з пагорка і стала на вуліцы, узіраючыся ў далечу. Там, куды яна глядзела, быў выган, на выгане пасвіліся каровы, над каровамі было веснавое неба — без хмурынкі. Сонечны спакой панаваў у свеце. Дзяўчына пазяхнула, і лёгкае хваляванне прайшло па ўсёй яе зграбнай постаці.

— Не мне палац, — абурана сказала Ганна, — а сынам… Вось… — Яна пабегла ў скляпок, вынесла адтуль ордэны і зноў, паказваючы іх, сказала: — Вось…

Чалавек пальцам паскроб у барадзе. І месца яму падабалася, і сварыцца не хацелася. Гэта было выразна відаць па яго твары.

— Ну, што ж, — сказаў ён, — не хочаш, каб былі суседзямі, твая ласка. Толькі хто будзе будаваць. Смешна!

— Тата, пойдзем! — паклікала дзяўчына.

## II

Прозвішча іх было Шаршні. Іх усяго было трое — Стафан Шаршэнь, гэты самы чалавек, з рудой барадой і непатрэбнай усмешкай, яго жонка, большая за яго ростам, шырокай касці жанчына, спраўная ў рабоце, як мужык, і такая ж спраўная за чаркай, Альжбета, і дачка іхняя — вастраносая Агата. Жылі яны аж за трыццаць вёрст адсюль, недзе за Гайнай, але надумаліся бліжэй перабрацца да мястэчка. У сельсавеце ім далі дазвол, а старшыня калгаса, Тамаш Гурка, «часовы старшыня», як сам ён сябе называў, флегматычна сказаў, што няхай самі прыгледзяць сабе сядзібу.

Яшчэ раз Стафан спрабаваў быў уламаць Ганну, каб саступілася з пагорка. На гэты раз з ёю гутарку вяла Альжбета, але скончылася яна тым, што Альжбета грамавым голасам зычыла Ганне «зубамі грызці гэтае каменне». Выбралі яны сабе сядзібу каля ракі, там, дзе да немцаў стаяла калгасная лазня. А ўжо цераз дні тры аж чатырма коньмі прывезлі бярвенне, крыло гонтавай страхі. З пагорка Ганна часам глядзела на тое, як ходзіць сярод бярвення Агата, а аднаго разу ўвечары бачыла, як яна стаяла над ракой на кладцы, і старой было прыкра, што яна — адна, што старэйшы сын — забіты, сынавая — таксама, а меншы… няма ведама, дзе меншы сын. І каб не паддавацца скрусе, яна ішла да Тамаша і строгім, роўным голасам казала яму, што трэба агледзець косы, касілку, бо яны без догляду, што будаўніцтва кароўніка ідзе дужа марудна, мужчыны лянуюцца.

— Дай мне святы спакой, сваццечка! — адмольваўся Тамаш. — Ну, хіба я не раблю? Я сам з сякерай. Казаў, што не трэба мне гэтага старшынства. Пасля немцаў адурэў народ і мне ім не кіраваць. Я табе кажу — часовы я.

А яна на гэта яму казала, што хоць і часовы, але гаспадарыць трэба, — як дзяржава ўправіцца з вайной, тады і калгасамі зоймецца. Папрыходзяць мала-

дыя з фронту, тады яго заменяць. Тамаш адмахваўся, а нарэшце казаў, што яму хату ставіць трэба, у зямлянцы абрыдла. Ганна ішла ад свата, не супакоеная, з такім адчуваннем, як у чалавека, які прагне піць, а вада салёная. Ганна ўсё думала, што калі няма сыноў, няма сям'і, калі вялікае гора, дык усю гэту нястачу можна поўна пакрыць працай. Яна многа рабіла ў гэтую вясну і не адчувала стомы. Нікому яна не скардзілася на сваё адзіноцтва, ніхто не бачыў яе слёз, бо рэдка хто з даўнішніх суседзяў заглядаў да яе ў «палац».

За вайну падраслі дзеўкі і хлопцы, па вечарах яны спявалі ля ракі, і ў гэтым хоры чуўся нізкі, грудны, але надта моцны голас Агаты. Сярод дзевак яна зрабілася верхаводам, а з хлопцаў кпіла — сасункі, хіба гэта хлопцы? Альжбета і Стафан складалі перавезеную хату, а Агата хадзіла рабіць у калгас. Скора да іх, да прыезджых, прызвычаіліся, толькі Ганна не забывалася на тое, што Стафан паквапіўся быў на яе сядзібу.

Аднаго разу ў вёску прыйшоў грузавік. Ён спыніўся каля Ганчынай сядзібы. Трое ваенных сышло з яго, адзін з іх быў той самы, з якім бачылася старая ў ваенкамаце. Ганна рушыла да іх. Зноў падумала, якое падабенства з Тодарам. Светлавалосы моцна пацiснуў яе руку, твар быў узрадаваны — гэта ж старыя знаёмыя.

— Мы, матка, да цябе, прымай гасцей.

Яна аж усхвалявалася.

— Куды ж вас, дзеці? Мой палац… — І самой зрабілася прыкра, што сказала Стафанава слова.

— Нічога, мы людзі прызвычаеныя! Лейтэнант! От наша матка. Я схаджу да старшыні, а вы тут упраўляйцеся.

Ля машыны сабраліся дзеці, а неўзабаве падышоў хто і з дарослых. Чарнявы хлапец, якога назваў русавалосы лейтэнантам, глянуў на ўсё пашыранымі вачамі, нібы хацеў ураз усё ўвабраць і ўсё запомніць. І прыціхшы чалавечы груд слухаў тое, што ён казаў:

— Ваенком даручыў нам, матка, пабудаваць вам хату. Вот мы выражам дрэва, прывязём, а старшыня дапаможа з людзьмі. Вы хочаце мець хату, матка?

Тут ужо старая не хавала сваіх слёз. Потым прыйшоў русавалосы з Тамашом. Гутарылі доўга, аб усіх дробязях. Потым госці мыліся ў рацэ, іхнія ўзбуджаныя галасы разносіліся па ўсёй вёсцы. А як наступіў адвячорак, чарнявы лейтэнант, — дзятва ўжо ведала, што завуць яго Юркам, — дастаў з машыны баян і, граючы, ціха заспяваў рускую, вельмі зразумелую ўсім песню:

Ты теперь далеко-далеко,
Между нами снега да снега…
До тебя мне дойти не легко,
А до смерти — четыре шага…

Дзяўчаты ўжо гарачым, трапяткім колам абкружылі ваенных. Гэта кола — як вянок з яркіх палявых красак, а Агата — гарыць ярчэй за ўсіх. Вось яна нахіліла сваю залацістую галоўку, блакітная хусцінка ледзь кратаецца на грудзях ад дыхання, тонкі, трохі вузкаваты твар увесь чыста ружовы, ясныя вочы — з аганьком.

— Танцаваць! — кажа Юрка і пачынае граць «Афіцэрскі вальс». Ажыў забыты Ганчын пагорак. Пары круцяцца ў вальсе, лёгкім віхрам узнімаюцца над натоўпам жарты, смех. Капітан сядзіць з Ганнай, то слухае, што Тодар прыйдзе, то распытвае, як жывецца. Ганна ўсё не можа зрабіць так, каб слёзы не каціліся па шчацэ. Вось, здаецца, няма іх, а як гляне на русавалосага, на пісяг на падбародку, на ўвесь яго харошы твар і сляза сама сабой пакоціцца.

Яна ўжо хоча, каб і ён патанцаваў, але ваенком уздыхае і кажа, што старая рана не загаілася і танцаваць не дае. Нарэшце моладзь сыпанула за гарманістам па сяле. Ён ідзе павольна, па правую руку — адзін з прыезджых, па левую — Агата, і гарманіст усміхаецца ёй. Песня ідзе аберуч з танцам — даўно не было ў Зялёным Лузе такога гуляння. То заціхаюць, то, быццам пук ракет, узнімаюцца ўгору вясёлыя галасы і смех. А вось яны ўжо далёка, з выгана ляцяць вясковыя прыпеўкі:

Кучаравая бяроза, зялёныя венікі,
Калі я табе не пара —
Выпішы з Амерыкі!..

Ходзяць па сяле вясёлыя пары, а над імі ходзяць цёплыя зоры, і ўсё ахоплена радасцю і вясёласцю, а зрабілася гэта па волі гарманіста —

Кучаравая бяроза, не губляй зялёны ліст,
Не хачу дружка з Амерыкі —
Даспадобы гарманіст!..

— Правільна гуляюць! — сказаў ваенком. — Знудзела моладзь па музыцы, па песнях, а цяпер — смела спявай! — І да Ганны: — Ты, матка, не бядуй. Я прыстроюся ў машыне на начлег, а ў наступны раз калі прыеду, будзем у хаце гуляць наваселле. Толькі глядзі, кіруй, каб рабілі добра… — Ён узняўся і пайшоў да машыны, і толькі тут Ганна заўважыла, што ён цяжка ступае на правую нагу…

## III

Ці не таму любіць чалавек працу, што ў ёй захавана чароўная сіла — арганізоўваць людзей? Гарачыя ў Юркі вочы, а яшчэ больш гарачыя — пальцы рук. Гляньце, як спрытна яны перабіраюць па ладах баяна, услухайцеся, якія гукі нараджаюцца пад імі! Здаецца, грае ён звычайную «Мяцеліцу» ці «Зямлянку», або зусім старыя «Златыя горы», але нешта раптам зусім новае, зусім нечаканае загучыць у гэтых знаёмых мелодыях… І тады слухаеш, слухаеш баяніста і баішся толькі аднаго, каб не спынілася гэтая ўрачыстая музыка.

На Ганчыным падворку штодня гучыць музыка. Гукамі сякер і піл пачынаецца яна раніцай, а тады, калі сонца з захаду коса кладзецца на пагорак, тады грае баян. І збіраецца сюды моладзь. Ваенком Харчанка паехаў, загадаўшы чарняваму гарманісту Юрку Чарнушэвічу будаваць старой хату. Некалькі дзён у сяле была і машына, на ёй вазілі лес. Пагаварыўшы з гаспадарамі, «часовы старшыня» Тамаш прыйшоў у дапамогу да трох ваенных і прывёў з сабой яшчэ двух цесляроў. Яны пачалі рубіць хату, а шафёра ад гэтай работы вызвалілі — ён згадзіўся вазіць лес і для іншых пабудоў. Работа закіпела яшчэ больш суладна тады, калі — спачатку жартам, а потым усур'ёз Юрка сказаў дзяўчатам і хлапцам, што граць дарма не будзе. І павялося так, што адвячоркам прыходзіла моладзь, трохі рабілі, — хто бервяно абчэша, хто мох перабярэ, глядзіш — і зроблена работа. «Усенародная будоўля»! — падміргваў Ганне чорным вокам Юрка і гучаў баян яго амаль штовечар. Да сенакосу паставілі хату, накрылі яе пакуль што драніцамі, пачалі складаць хлеў, але тут старая ўсхвалявалася.

— Досыць, Юрачка, досыць! Асака стаіць сцяной, трэба касіць. Досыць мне і гэтай дапамогі. Няхай мужчыны косяць! — казала яна.

Доўга не згаджаўся Юрка, але нарэшце Ганна пераканала яго, што ўсё зроблена як мае быць, а тут яшчэ і Тамаш уставіў слова: галоўнае зроблена, а маленькія недаробкі як-небудзь паміж справай з рук збудзем.

— Добра, матка, няхай будзе па тваім, — з лёгкай рукі ваенкома Харчанкі так клікалі Ганну цяпер усе.

І зрабілася ціха на пагорку. Па новай хаце, па чыста падмеценаму дзядзінцу, да скляпка і невялікага хляўка ходзіць Ганна і прыслухоўваецца да гукаў баяна. Ціхі вечар апускаецца на зямлю — птах з сінімі крыламі. Юрка Чарнушэвіч грае каля хаты Шаршнёў. Там і моладзь сабралася. Ганна разумее, што яму — маладому — куды цікавей сядзець побач з прыгожай Агатай, чым з ёю, але старая ніяк не можа зрабіць так, каб непрыхільнасць да Шаршнёў канчаткова знікла з яе думак. Назаўтра Юрка ад’язджае ў раён. Яны, прыгожыя, многа зрабілі: пабудавалі хату старой, падсабілі многім прывезці лесу, скончылі крыць страху Шаршню, нарэшце, аж тыдзень касілі на калгаснай сенажаці. Ганне хацелася, каб апошні вечар хлопцы правялі ў яе, але хіба яна магла спаборнічаць, — так яна і падумала, — стаць побач з маладымі. І зноў туга агарнула яе. Яна засвяціла газоўку, на новы стол паклала Антонавы паперы, фотакартку, ордэны, і ціхія слёзы пабеглі па шчоках…

А тым часам, над ракой, Юрка стаяў з Агатай. Баян ён аддаў тутэйшаму хлопцу, які так-сяк умеў граць вальсы і полькі, і пад гэтае гранне цяпер у Шаршнёвай хаце гуляла моладзь. Юрка ўзяў Агату за руку, яна не пярэчыла, а калі наважыўся пацалаваць — ухілілася, моцна рукой упёрлася ў грудзі, ціха засмяялася, і смех сведчыў — не пацалуеш, калі не захочу…

— Чаму, Агата? — аксамітным шэптам пытаецца хлапец. — Чаму адсоўваешся?

— Паедзеш — забудзешся, навошта? — пытаннем жа адказала яна.

— Не верыш, значыць?

Агата як бы жартам, але моцна адпіхнула яго ў грудзі і з срабрыстым смехам знікла ў сінім змроку. Гэты смех — агністы след ад падаючай зоркі. Юрка падаўся за ёй, але ісці ў тлум хаты, дзе ліха танцавала моладзь, не хацелася, ён закурыў і стаў ля плота. Адсюль яму былі відаць асветленыя дзверы хаты, у хвалістым святле іх узнікалі і праносіліся імклівыя пары, часам іх захінала шырокая постаць хлапца, які выходзіў на дзядзінец. Надта дрэнна граў вясковы хлапец на яго добрым баяне — аднастайна, на двух-трох галасах, Юрка ўсміхнуўся гэтаму гранню, але ўсмешка не адагнала лёгкага суму, які раптам агарнуў яго, а толькі як бы зрабіла гэты сум больш выразным. Сочачы за асветленым экранам дзвярэй, ён, аднак, бачыў зусім іншае — бачыў тое, што паказваў экран сэрца. З вобразнай выразнасцю ішла чарада думак, то сённяшняе, то недалёкае мінулае…

Ён успомніў, як прыйшоў у родную вёску з вайны, гэта было месяцы тры таму назад. Жудасная пустэча сустрэла яго, страшная самота падказала: вось за што я змагаўся, вось за што паранены... Звычайная, але заўсёды жудасная гісторыя: хата спалена, сям’я закатавана немцамі. Суседзі яго запрашалі, частавалі, спачувалі, але ён ужо ведаў, што для яго не скончылася цяжкая дарога вайны, у канцы якой мірсціўся бацькаў дом, яго няма, ён ведаў, што ён не застанецца на гэтых руінах, а пойдзе адсюль…

Капітан Харчанка даў некалькі даручэняў і адно з іх было вось гэта — пабудаваць старой Красуцкай хату. Ён выканаў і гэтае даручэнне, але цяпер чамусьці яго не гнала ў раён, каб адтуль ехаць на новае месца… Чаму? Пары кружацца, смех звініць, мігцяць, быццам маленькія зоры, агні прыгорка… Сіняя ноч стаіць у свеце, у якім адгрымелі грымоты вайны. Мірнае неба над Юркам, а на сэрцы — няма спакою. Чаму? Колькі разоў на вайне, у цяжкія моманты, якія трапляюцца кожнаму салдату, ён з цёплай усмешкай думаў аб роднай вёсцы, аб бацьках, аб малой сястры, аб суседскай дачцэ, якая...

У кожнага юнака была свая дзяўчына, аб якой і думаецца, і ўздыхаецца, дзяўчына, якая ў думках — і найлепшая, і найпрыгажэйшая… Бывае, блісне вачмі і абпаліць сэрца, але ад гэтага — не балюча, а соладка… І вось цяпер… такія ж вочы ў гэтай зграбнай невялікай Агаты. Не верыць яму! Яна, мусіць, думае, што салдацкае сэрца — няпэўнае. Памыляецца! Ён паедзе да Харчанкі і скажа: амба, капітан! Ты, кідаючы мяне з сяла ў сяло, ад даручэння да даручэння, вылечыў ад пакутлівай хваробы, якая завецца самотай. Цяпер — сэрца знайшло прытулак. Але Агаце аб гэтым — ні слова! Вось яна паяўляецца на экране. За ёю — туманнае святло, у якім мільгаюць пары, а яна ўглядаецца ў цемру — шукае Юрку.

— Агата!

Але яна не ідзе на голас, а, пастаяўшы хвіліну, зноў знікае ў хаце. Да Чарнушэвіча падыходзіць райваенкаматаўскі шафёр Зуб і прысадзісты хлапец у паношанай салдацкай вопратцы — кур’ер Харчанкі. Ад кур’ера пахне гарэлкай.

— Развітаўся? — ляскае рукой па Юркавым плячы кур’ер. — «Последние нонешні дзянёчак»? — У гэтага невялікага крываногага чалавека моцныя рукі — Юрка заўсёды любаваўся ягоным спрытам у рабоце. — А мы, — кажа далей кур’ер, — наведаліся да Ганны, матка ўсё цябе чакала, паўпляшкі берагла, але мы адно сказалі, што ты ўзяты ў палон гэтай востравокай, і выпілі за ўдачу.

— Дарма, я б прыйшоў…

Зуб засмяяўся — нізкім смехам, кароткім.

— Бач ты! На два фронты, таварыш лейтэнант, нягодна змагацца. За пачастункам пагонішся — дзеўку страціш, за дзеўкай пабяжыш… — Ён раптам спыніўся і сплюнуў. — Да ўсходу паедзем. Нам ваенком, мусіць, зноў пуцёўку прыдумаў. — І засмяяўся: — Будаўнічы батальён капітана Харчанкі!

Юрку хацелася сказаць: амба, ён ад’ездзіўся, але стрымаўся — не прымусіш жа іх не кпіць. Тут зноў загаварыў кур’ер і выручыў гэтым Юрку:

— Тры дамы пабудавалі — раз! На дамоў дваццаць лесу навазілі — два! Два хлеўчукі і адну варыўню скідалі — тры!

— Страху ў Агацінай хаце накрылі — чатыры! — пакпіў Зуб.

— Але я мяркую, — не падхапіў гэтага жарту кур’ер, — што заняткаў у нас яшчэ наперадзе чорт яго ведае колькі. У ваенкома бачыў спіс. Трынаццаць удоў, якім капітан мае аказаць дапамогу. Значыць, нам будаваць яшчэ хопіць.

— Праграма! — сказаў Зуб і пачаў выбіваць акурак з муштука далоняй — сухімі хлапкамі. — Пойдзем патанцуем, таварышы, апошні раз у Зялёным Лузе.

— Для нас з табой — у апошні, а для каго — мо і не ў апошні.

«Здагадаўся!» — падумаў Юрка.

— Я не танцую, нага замінае, — сказаў.

— Пойдзем, пойдзем, калі не танцуеш — дык паспачувай!

І як толькі яны ўвайшлі ў хату, дык з розных бакоў Чарнушэвіча пачалі прасіць, каб узяў баян. Ён і сам бачыў, што дамарошчаны гарманіст ушчэнт спрацаваўся — русы кудзер прыліп да спацелага лба, а на твары застыла ўсмешка, якая адно казала: я змарыўся, але пакорна выконваю вашыя загады, буду граць, аж пакуль не звалюся. Гарманіст ахвотна аддаў Юрку баян і сеў побач — з захапленнем аматара сачыць за працай майстра. З нізкага голасу пачаў майстар — і павольная мелодыя «Афіцэрскага вальса», Юрка любіць гэты вальс, — тады ў Вене, уначы, пры сальнай свячы, калі таварышы віталі яго з наданнем лейтэнантавай годнасці, ён таксама граў гэты вальс, а таварышы казалі — «Наш! Наш вальс! Лепш венскага, братцы!» І кожны раз, калі бярэцца яго граць Юрка, ён успамінае гэты вечар — у чужой інертна-напало-

ханай, але прывабнай Вене... Як тады хацелася на радзіму! І вось яна — радзіма! Вось ён — родны кут!

— Гэта ж за столькі гадоў пагулялі! — кажа расчырванелая дзяўчына, спыняючыся каля Юркі. — Чакалі такога свята!.. — Яна не скончыла, але па бліскуча-захопленых вачах было ўсё зразумела.

— Танцуй! Танцуй!

Дзяўчыне ўсміхаецца чорным вокам выдатны гарманіст, нахіліўшы галаву да баяна, амаль паклаўшы яе на яго. А ў парах, што кружацца па хаце, лёгка плыве і Агата. Танец дзяўчат — гэта белыя лілеі на трапяткой паверхні азёрнай, і Агата — самая буйная, самая прывабная з іх…

Плыве «Афіцэрскі вальс» над сялом, над зямлянкамі, над рэдкімі яшчэ новымі хатамі, над абваленымі, абгарэлымі печамі, па якіх ужо расце трава. Прырода залечвае свае раны, а чалавеку хоць і цяжэй, але падаўна трэба. Хто з пажылых, ачнуўшыся ад чуткага сну, уловіць вухам гукі гулянкі, уздыхне — шкадуючы, што ідуць гады, радуючыся, што ў свеце зноў пануе пакой, і хай-такі гуляе сабе моладзь!..

## IV

Тамаш праводзіў Чарнушэвіча з таварышамі і, хаця бралася толькі-толькі на дзень, пайшоў ад гасцінца праз калгасную сенажаць да ракі — там па кустах укасіць хоць крышку і сваёй рабой. Але, праходзячы праз сенажаць, убачыў недакошаны ражок, нехта з касцоў адстаў. Тамашоваму гаспадарскаму воку было непрыемна бачыць гэты недаробак і ён аж спыніўся. Хто ж гэта касіў? — думаў ён. — От гультай, от абібок! — Тамаш не мог цярпець недаробак, усё рупіла рабіць так, каб справа заканчвалася сёння, каб назаўтра можна было рабіць новае. Ён не цярпеў і недаедзенай міскі круп, і недапітай чаркі. На стале — недаёд, на полі — няўрод! — казаў ён і ўсе зналі Тамаша за спраўнага гаспадара. І калі зноў пасля нямецкае нягоды пачалі збіраць калгаснае дабро ў супольную гаспадарку, усе пашкадавалі, што сярод іх няма іхняга былога старшыні Антона Красуцкага, а пашкадаваўшы, вырашылі за старшыню зрабіць даўнішняга ключніка — Тамаша. Ён без кніг ведаў, без запісаў, хто што забраў у свой двор з калгаснага дабра, і цяпер рупна збіраў яго. Аднак, сам Тамаш казаў, што не яму старшынстваваць, што ён «не ўмее камандаваць», а жонка яго, гэткая ж руплівая, аднак — куды спрытнейшая за мужа кабета, казала, што «Тамаш да начальства талентаў не мае». Дык пагадзіліся на тым, што ён возьмецца часова, а потым мо’ раён нараіць каго ў старшыні. І бывала ўгоніць чалавека ў злосць, дык ён адно адмахнецца рукой і скажа: я — часовы, рабіце, як ведаеце. Тамаш добра ведаў, што трэба рабіць, але і сапраўды да ўсяго не хапала «таленту».

А трэба было рабіць край як багата.

Багата зямлі дзірваном легла за гады нямецкага панавання. Сёлета на працэнтаў шэсцьдзясят узнялі, а рэшту не адужалі. Ледзь управіліся з сяўбой, узяліся за калгасныя будынкі — усё ж гэта папалена: і кароўнік, і свіран. А тым часам падышла касавіца і ўсе сілы кінулі на сенажаць. Трэба прызнацца, не ўсе добра браліся за работу. Якія там свірны, калі самі ў гнілых ямах сядзім, — казалі. Тамаш разумеў, што трэба будаваць хаты. Дзяржава давала пазыку, дарма пілавалі дошкі, але гэтага было мала. Трэба было арганізаваць у калгасе рабочую сілу, бо калі яе не арганізаваць, дык кожны сабе будзе рабіць і тады калгасная гаспадарка адсунецца на задні план. Тамаш быў вельмі задаволены, што прыехаўшыя з раёна хлапцы дапамаглі вывезці лес, добра, што і хату

старой Ганне паставілі. Ён усё важыўся пайсці ў раён, каб яшчэ далі машыну, але падаспела касавіца. І вось тут упершыню сутыкнуліся Тамашовы жаданні з людскімі намерамі: многія ўхіляліся ад касьбы, спасылаючыся на тое, што ў сваёй сядзібе трэба спачатку лад знайсці. У Тамаша не хапала сілы з некаторымі сварыцца, ён тады махаў рукой, кідаў сваё ўлюбёнае — От, абівалка! — браў касу ці сякеру і рабіў сам. Вось у працы ён адыходзіў, злосць сціхала, рабілася лёгка на сэрцы. А да ўсяго — яшчэ і Тамашыха мэнчыла чалавека.

— Навошта табе заядацца з людзьмі, — казала траха што не кожны вечар Кацярына, бегаючы па дзядзінцу і робячы амаль дзесяць работ узапар. — Ці табе больш за ўсіх трэба? Ты ж часовы! Не трэба заядацца з суседзямі. Я і так сёння ў сне бачыла, што наш зруб гарыць.

Гэты зруб — новы, недаканчаны — быў тым самым каменем, аб які білася даўняя сямейная згода. Рубіў яго Тамаш кароткімі раніцамі ды адну-дзве гадзіны парабляў увечары, каб не адрываць часу ад калгаснай работы. Але, ведама, часу было гэтага мала, а чалавеку карціла рабіць, і ён нияк парабляў у нядзелю, потым і ў другую. Тут Кацярына не змаўчала.

— У святкі рабіць — грэх! Усё адно ў гэтай хаце не будзе шчасця. Пабойся бога! Учора, як заходзіла сонца, я ткі бачыла чорны крыж на небе. Будзе бяда.

Столькі прыкмет і столькі знаменняў было ў Тамашыхі, што спакойны і трохі з гумарам Тамаш пачаў не на жарты злавацца на жонку. Гэтага не рабі, гэтага не трэба, тады не бярыся! Дайце рады! Ён цяпер ахвотна выпраўляў Кацярыну ў царкву, а сам тым часам браў сякеру і хоць бервяно, але такі дакладаў да будыніны. І чаму б суседзям не будавацца — спакваля, покуль гарачая пара — памаленьку, а потым, як поле да парадку давядзём, грамадой возьмемся. Дык не, не ўсе так разважаюць. Недарма кажуць — што не чалавек, то і розум.

Тамаш пастаяў над недакошаным ражком і пайшоў махаць касой. Праз нейкую абівалку рабая яго без травы будзе!

І тут ён успомніў учарашнюю гутарку са Стафанам. Тамаш прыйшоў да яго і заспеў на дзядзінцы. Стафан распілоўваў плашкі, каб зрабіць зруб сваёй, нядаўна выкапанай, крыніцы.

— Добры вечар!

— Добры вечар! — адказаў Стафан і па твары прабегла непатрэбная ўсмешка, схаваўшыся ў рудых вусах, крануўшы іх. — Прынясі старшыні лаўку! — гукнуў ён у хату.

— Дарма! — аж збянтэжыўся Тамаш — я тут у халадку. — Ён сеў на новых прыступках і колькі хвілін сачыў за спрытнымі Стафанавымі рукамі.

— Ну, як, ажываешся?

— Не прывыкаць! Толькі сядзіба малая. Сотак трыццаць прырэзаць па закону палагаецца. Ганна ў суседзі не пусціла, а ёй, старой ды адзінокай, і не трэба…

— Па восені і без Ганнінай сядзібы знойдзем адкуль адрэзаць, — сказаў Тамаш. — Старую абіжаць не можна, яе сыны за нас ваююць, адзін голаву злажыў. Быў у нас за старшыню, шкада такога чалавека. Цяжкая доля старой выпала.

— Кожнаму выпала цяжкая доля! — неяк чмыхнуў у рудыя вусы Стафан. — Агата! Нясі капшук, старшыню пачастуй.

«От, халера, дылындыча адно — старшыня, старшыня!» Агата прынесла капшук, у ціхім надвячоркавым паветры прагучала скрыпічная фраза — «Добры дзень!» «Выліты партрэт, уся па бацьку, толькі той руды, абівалка».

— Ці не пакошваеш заўтра, Стафан? — не закурваючы, прыступіўся Тамаш.

Той узняў галаву ад плашак і калючыя вочы спыніліся на Тамашовым твары, ледзь ніжэй носа. «І чаго чалавек пасміхаецца?» Тамаш нават пальцамі скрабануў сваю пасівелую бараду.

— Агата штодня ў калгасе робіць, ты гэта ведаеш. А я ўпраўляюся з хатай і хлявом, паркан пастаўлю, тады таксама пайду рабіць. Я ж член новы, у вас не ўсе робяць апрача мяне.

— На іншых не спіхайся, пра іх гаворка не ідзе. Я ў цябе пытаюся. Сенажаць, як лес, стаіць і дні такія, што грэх не касіць. Пагодай карыстацца трэба.

— Упраўлюся, пайду.

Адчуванне неспакою ўзнікла ў Тамаша. Так заўсёды ў яго было, калі чалавек не хацеў з ім пагадзіцца, і было дзіўна, чаму ідзе наўпрэкі, калі тое, што кажа Тамаш, бессумненнае і пільна патрэбнае.

— Дык ты мяркуеш, што з касьбой можна і пачакаць?

Стафан падагнаў плашку да плашкі, потым паклаў сякеру і сеў на зямлі. Прысадзісты, здаровы, з крутой кароткай шыяй, сядзеў ён перад Тамашом і пасміхаўся. Стружка прычапілася да рудога вуса і пакіўвалася пакваля — нібы і яна смяялася.

— Уласць нам кажа з зямлянак вылазіць, ажывацца, — ад простага адказу вось чым ухіліўся Тамаш. — Я б меў права ад цябе дапамогі прасіць, але мне пашэнціла хату на знос прыдбаць, дык я і без вашай дапамогі ўпраўлюся. Толькі не замінай, братка. Я раблю ўгодную дзяржаве справу.

Не, не тое, што трэба, казаў гэты чалавек. Тамаш добра разумеў, што зусім не тое, але ў яго не было слоў, каб адказаць, як след.

— А пакошваць трэба, — адно сказаў ён і ўзняўся, каб ісці. Каля брамы ўжо сказаў: — У цябе і так усё тут, як мае быць. Так, быццам і не гарэў ты, а пераехаў з месца на месца.

— Я не чакаю, покуль з неба зваліцца. Я — гаспадар! — услед засмяяўся Стафан.

Ужо з-за лесу стрэліў порсткі сонечны прамень. Ужо ў неба падняўся жаўрык. Ішла лагодная летняя раніца. Тамаш павярнуў з сенажаці да сяла. Дружна бяруцца зернавыя на калгасным полі. Шкада, што не ўдалося засеяць усё, што меркавалі, увосень будзе зноў цесна. Але як ні біўся за гэта Тамаш, многія не падтрымалі. Вось, напрыклад, хударлявы чорнабароды Нічыпар. Калісьці ён быў добрым супольнікам, рабіў у калгасе, спраўна, пагодліва жыў з суседзямі. А і ён больш пільнавацца стаў сваёй сядзібы і часам не-не, а ўздыхне: які шнур у яго быў пры немцах!.. Многім атруцілі мазгі гэтыя нямецкія гады, некаторых збілі з той роўнай дарогі, па якой ішлі аж з трыццатага года. Цяжка звычайнаму чалавеку, не вельмі нават пісьменнаму, такому, як Тамаш, лячыць гэтых людзей. От бы быў жывы Антон, ён быў чалавек з галавой, умеў да кожнага знайсці патрэбную сцежку, умеў бачыць не толькі тое, што чалавек каторы робіць, але і што мяркуе рабіць… Шкада, што не пераказаў Тамаш сваю гутарку Юрку Чарнушэвічу ці Зубу, яны — франтавікі, парадзілі б, што рабіць, дапамаглі знайсці такое слова, ад якога ўсе доказы Стафанавы разляцеліся б ушчэнт. З такімі думкамі выходзіць Тамаш на дарогу.

Насустрач ідуць мужчыны з косамі, наперадзе якраз дыбае Нічыпар.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

Спыніліся. Закурылі.

— З поўдня ў копны пакласці можна будзе. Дзяўчат накіруем.

— А сёння мяркуем пад лесам заняць, на паплавах хай яшчэ расце, там асака важная.

— Малаткоў разжыцца, — кажа нарэшце Нічыпар.

Адзін з касцоў сплёўвае.

— А свайго чаму не ўзяў?

Нічыпар маўчыць. І дапраўды — чаму не ўзяў? Гэта ж у кожнага гаспадара ёсць і бабкі, і малаткі, але некаторыя хаваюць, шкадуюць для калгаса. Тамаш дастае з кішэні малаток і дае Нічыпару.

— Навошта мне твой, — кажа той, але малаток бярэ.

Разыходзяцца.

Ужо каля самай вуліцы Тамаш сустракае Стафана. Ён быццам наганяе касцоў. У руках у яго ненасаджаная каса.

— Добрай раніцы, старшыня!

«Абівалка чортава! Гэта ж столькі працягне покуль насадзіць касу! Але ўсё ж пайшоў».

Гарачы, тлумны пачынаецца для Тамаша дзень. Адных ён выпраўляе абганяць бульбу па першым разе, трох мужчын — на будаўніцтва свірна. Брыгадзіру загадвае выправіць на сенажаць дзяўчат з граблямі. Сам жа пасля ўсяго гэтага бярэцца разбіраць жняярку. Хутчэй бы ўжо Мтэсаўскую майстэрню аднавіць, а то цяпер прыйдзецца жняярку везці аж за пятнаццаць вёрст, а адрамантаваць край як трэба.

Кацярына ўжо даўно выглядае Тамаша. Гэта жарты — скора поўдня, а чалавек яшчэ не снедаў. І навошта яму гэты клопат? Усё кажа Кацярыне, што дабра з гэтых клопатаў Тамашу не будзе. Увесну недасеялі, будаўніцтва ідзе слаба, гаспадары назаляюць, каб дапамаглі з калгаса, коней мала і тыя толькі-толькі асілоўваць пачынаюць па траве. Рахманы чалавек яе муж, вось і не адбіўся ад людзей. А людзі, ведама, рады, каб хаця ад іх клопат адпіхнуўся. А Тамашыхі тады не было на сходзе ды яна і не надта спадзявалася, што такога спраўнага ключніка за старшыню абяруць. Каб ведала, не дапусціла б. Хаця і супакойваў Тамаш, што ён — часовы, але клопату не менш. А ўсе прыклады сведчаць, што непатрэбная гэта справа — старшынства.

Сухая і руплівая, Кацярына ў той пары, калі няведама — ці сорак ёй, ці пяцьдзясят год. Прырода, мусіць, доўга меркавала, аж пакуль злучыла ў адну пару Тамаша з Кацярынай. Выйшла гэтая пара ў адно, абое руплівыя, абое працавітыя. Толькі абышла іх доля — няма дзяцей. Дык якраз тую колькасць клопатаў і пяшчоты, што аддае маці сваім дзецям, не было каму аддаць Кацярыне. Частку іх яна аддала Тамашу, але з таго ўжо было гэтага вельмі і вельмі, а частку Кацярына скарыстала на бога. Тамаш, сказаць, не быў нехрысцем, але рэдка ўспамінаў бога, а ў царкве, мусіць, гадоў дваццаць не быў. Затое Тамашыха выказвала асаблівую актыўнасць у рэлігійных справах і гэтым набыла сярод многіх жанчын нешта накшталт павагі. Бог Тамашыхі быў адменны. Не толькі збаўца ад гора і пакут чалавечых, але і караючая рука. І ведала Тамашыха безліч прымоў, нагавораў, умела ўгледзець знаменне.

От, скажам, барабаніць лыжкай па стале не можна, бо людзі языкамі аббарабаняць. Калі нясеш малако ў гладышы, укінь у яго драбок солі, каб людзі не нагаварылі благога на карову. Забараняецца смецце месці праз парог, бо паросная свіння не прынясе добрых парасят. Гэтак жа не можна выносіць смецце пасля заходу… Спатрэбілася б шмат новых і старых заветаў, каб упісаць усе гэтыя забабоны. Яны спалучаліся ў Кацярыны з практычным розумам, з неадольным імкненнем дапамагаць і мужу, і людзям. Цяпер, калі яны рабілі ў калгасе, яна малілася за дождж і пагоду, за ўраджай — для калгаса так, як раней малілася для сваёй гаспадаркі. Як даўней пераймала першы воз з жытам хлебам і соллю, так і цяпер выбягала з рушніком, у якім ляжаў хоць блін, насустрэчу калгаснаму возу з першымі снапамі. Вось такі быў

Кацярынін бог — частка хрысціянскага, частка паганскага, і чалавекалюбны Хрыстос, і каварны Д’ябал, і дзед-вадзяны — у адным. Тамаш такі пасміхаўся ў пасівелую бараду на гэта ўсё, але Кацярына верыла, што гэтыя яе веды абароняць і яго, і яе.

Нарэшце Тамашыха ўгледзела мужа.

— Ты доўга нашча хадзіць будзеш? Ідзі падсілкуйся.

— Святым духам сыты! — пажартаваў той, апускаючыся на бервяно. — Міркую ў нядзелю ў раён паехаць, няхай змяняюць. Мне з людзьмі не ўправіцца.

— Я даўно кажу тое ж самае! — паставіла перад мужам міску шчаўя, забеленага малаком. — Нашто табе гэты клопат. Учора ў сне… — Але, глянуўшы ў Тамашоў твар не даказала. У гэты час па вуліцы прайшлі жанчыны з граблямі. — Міскі абрусом прыкрый, я пабягу.

— Куды?

— На сена. Гэта ж глядзі, старая Ганна і тая ідзе, а мне і сам не загадвае.

— А вось Альжбета не ідзе ж, — ні то да яе, ні то сам да сябе заўважыў Тамаш. — І Стафан не надта рупіцца.

— Яны — прыезджыя, чужыя. У іх свае думкі.

І, падсунуўшы мужу гладыш з квашаным малаком, Кацярына подбежкам пусцілася даганяць жанчын.

— А чаму нельга зрабіць так, каб усе людзі працавалі ў такой згодзе, як сям’я? — уголас падумаў Тамаш.

## V

Сярод лета раптам прыехаў шафёр Зуб па Ганну. Ваенкам Харчанка запрашаў старую да сябе. Зашчаміла сэрца ў Ганны: што там чакае яе? Хоць і сардэчны чалавек Харчанка, але… але да яго першага прыходзяць і страшныя, і радасныя весткі. Якая цяпер будзе? Думкамі сваімі трывожнымі падзялілася з Тамашом, а той суцешыў, як умеў:

— Што ты, свацейка, бярэш да галавы… Не кліч бяды, яна сама прыйдзе.

Праз дзень паміж зялёнага мора багатага лета запыліла дарога і, як асеў пыл, усе, хто быў у гэты час на сенажаці, на вуліцы, на дзядзінцах убачылі: з машыны саскочыў ваенны і дапамог злезці старой Ганне. Пабегла чутка: Тодар прыехаў. Але Агата, якая была на сенажаці, хоць і не разгледзела, але сэрцам адчула, што гэта — не Тодар, а іншы.

— Гэта — Юрка! — не захоўваючы радасці крыкнула яна так, што ўсе дзяўчаты пазайздросцілі. Кожная ж з іх насіла ў сваіх высокіх грудзях гэтую патрэбу — радасці.

Чарнушэвіч давёў старую да новай хаты, яны аб нечым пагутарылі, дзяўчаты бачылі, што старая паківала яму галавой. Чарнушэвіч узяў свае чамаданы і пайшоў у край сяла, пад раку. Агата не стрымалася — пабегла. Лёгка неслі яе пругкія моцныя ногі, вецер абвяваў яе стан. Гэта — як разьбяр, што знайшоў найпрыгожыя формы.

— Юрка! Юрачка!..

І, забыўшыся на тое, што над імі — не месяц, а дзённае сонца, што не зоркі глядзяць на іх, а чалавечыя вочы, яны сустрэліся ў абдымку і ён сведчыў: усё!

— А бацькі як?

— Што бацькі? — казала яна, ідучы побач. — Маё шчасце… мой Юрачка!

Ой, Юрачка, што не жэнішся,
Прыйдзе зімачка, дзе падзенешся!

Колькі жартаўлівых прыпевак спявалі на тым вяселлі дзяўчаты! Колькі розных танцаў танцавалася! Колькі жартаў казалася! Гэта было першае вяселле пасля вайны. З раёна прыехалі начальнікі, і гэта было вельмі важна — вялікая павага да Юркі ўзмацнілася больш. Толькі не прыехаў ваенкам — ён перасказаў, што заняты, але на хрэсьбіны будзе абавязкова. І Ганна не прыйшла. Яна прынесла гасцінец маладым — чашку пахучага зеленаватага мёду, а на бяседзе не засталася.

— Слёз не магу стрымаць, а што з іх людзям?

Сяло ведала: Харчанка прачытаў ліст з далёкай Венгрыі ад сына Тодара, жывы, але паранены, пытаецца, ці хто з радні астаўся. Сам ваенкам склаў пры Ганне адказ — і пайшоў той ліст — праз дзяржавы, на захад, несучы матчыну любоў сыну. Божа ж мой, каб льга было, дык старая кінулася да сына, струджанымі нагамі, здаецца, дайшла б у гэтую самую Венгрыю. Паранены? Без ног? Без рук? Усё адно! Сын! Родны, адзіны! Як у ліхаманцы жыла старая, беручыся за дзясятак спраў, кідаючы іх, абліваючы слязамі сухі, дзелавы ліст сына ў ваенкамат. Без Ганны прайшоў сход і аб зменах яны даведаліся ад самага ж свата, які прыйшоў да яе — вясёлы. Ён, як малы, падкідаў на далоні ключы.

— Зноў, сваццця, ключнік! Адбіўся, хай яны! Юрачку за старшыню абралі. Не часовы, а форменны!

Ганна слухала ўсё гэта, а ўваччу стаяў чамусьці Стафан з яго непатрэбнай, абразлівай усмешкай.

— Ці добра будзе, сват, ён малады, а ты як-ніяк гаспадар.

— Ён — чалавек ваенны, у яго за плячыма фронт! Адужае, сваццця.

Горача ўзяўся за справы новы старшыня. Грандыёзныя планы і смелыя думкі нараджаліся ў яго маладой галаве, але не ўсё з гэтых планаў, на жаль, можна было ажыццявіць адразу ж. Трэба было вырашаць больш пільныя, надзённыя пытанні — будаваць дамы для пагарэльцаў (а ў марах ён бачыў Зялёны Луг — у каменных катэджах!) і выводзіць іх з зямлянак, нажываць цягло, інвентар, сварыцца з начальнікам МТС, сварыцца, шчыра кажучы, прыходзілася з многімі. Баян стаяў у новай, купленай у мястэчку, шафе, Чарнушэвіч нават забываў часам, што ён умее граць і ўспамінаў аб гэтым толькі тады, калі да яго прыходзілі і прасілі баян, каб пайграць. Трэба было арганізоўваць і вырошчваць калгасны статак, дабудоўваць ферму, свіран, а як надышло жніво, сутыкнуўся з такім цяжкім пытаннем: план сяўбы не быў выкананы цяпер, трэба было аддаваць дзяржаве пазыку, выконваць хоць і зменшаны, але налічаны на ўсю пасяўную плошчу план хлебапаставак і ў выніку заставалася зусім мала для размеркавання. Аднаго не мог зразумець Чарнушэвіч, што некаторыя калгаснікі, выказваючы сваю незадаволенасць малой аплатай працадня, нейкім чынам абвінавачвалі ў гэтым яго, Чарнушэвіча!

— Самі сеялі, самі і ешце! — але гэтымі словамі не вельмі адмахнешся ад гострых пытанняў. Ён гэта добра разумеў, разумеў і тое, што не меў права такімі словамі адпіхвацца ад тых, хто галадаў у дні «нямецкага новага парадку», хто страціў усё ў вайне, сядзіць цяпер у зямлянцы і з надзеяй глядзіць на яго, на старшыню, як на аплот дзяржавы. Ён ірвануўся ў раён і там дапамаглі яму: адтэрмінавалі зварот пазыкі і, зняўшы частку збожжанарыхтовак, пераклалі на іншыя ў раёне, больш моцныя калгасы. Многае было зроблена, дні Чарнушэвіча былі напоўнены з раніцы да пазна клопатамі і сумятнёй, але справы ўсё насоўваліся на яго.

Аднаго разу, дамалаціўшы жыта, Чарнушэвіч, запылены, потны (ён нарэшце сам стаў падымаць у барабан снапы) прыйшоў дахаты. Каля трох месяцаў ён жыў сямейным шчаслівым жыццём, але, прызнаваўся, і не бачыў гэтага жыцця за работай. Ён сеў на лаве і адчуў, што дужа стаміўся, што, прыйшоўшы з фронту, ён і не адпачываў — спачатку страшная пустэльня роднага сяла, потым «баявыя заданні» Харчанкі, цяпер — гэты калгас… Ён так сядзеў на лаве, утаропіўшы перад сабой вочы, быццам упершыню бачыў і гэтую хату, і гэтах незнаёмых людзей — цесця і цешчу. Толькі тады адвёў ад іх вочы, як адчуў, што нехта сцягвае з ног боты. Ён убачыў: Агата сцягвае боты, стоячы на каленках, а побач, на падлозе, стаіць таз з вадой.

— Што ты? — ён нават пачырванеў.

— Што ж я? — расчырванелы твар узняла да яго Агата, і вочы яе свяціліся каханнем і шчасцем. — Ты змарыўся, Юрачка, я памыю табе ногі…

Ад акна, дзе ён кітаваў шыбу, азваўся цесць:

— Змарыўся, зразумела. Нашто так забівацца? Нікога не здзівіш. З’еш хоць вала — адна хвала!

Чарнушэвіч глянуў на Шаршня і злавіў яго ўсмешку. Падумаў: чаго пасміхаецца? Спачувае ці кпіць?

— Я б па-ваеннаму ўсё паставіў. Людзей — па вучастках, загад, выконвай! — дадаў цесць, а ад печы дачуўся грукат — Альжбета выцягвала паранку для свіней і моцна грукнула саганом па прыпечку. Правільна кажа цесць, ён разумны чалавек. А Агата ўжо стаяла з конаўкай і рушніком і тут жа, над тазам, ён памыўся. Яна палівала яму, а ён, мыючыся, думаў: вось яно — шчасце!

— Трэба брыгадзіра талковага паставіць. Ты, цесць, не згодзішся?

Той аж засмяяўся.

— Не! Што ты. Тут трэба каго свайго, з Зялёнага Луга. Мы — прыезджыя, нам яшчэ веры няма.

— Дык і я ж — прыезджы?

— Ты іншае. У цябе… — Ён далоняй ляпнуў па ўласных грудзёх, намякаючы на зяцевы медалі і ордэны. — Табе вера ўсюды. Я лепш табе так дапамагу, як свайму… сыну.

Потым быў вечар. Чарнушэвіч сядзеў на ганку цесцевай хаты, курыў, з асалодай адчуваючы поўны спакой у сваім целе. Тут яго ў другое здзівіла Агата, але на гэты раз — прыемна. Яна прынесла баян. Месяцы тры не браў, аж з вяселля. Свет вачэй яе ў надыходзячым змярканні быў ужо агнём.

— Што?

— «Афіцэрскі вальс», Юрачка.

У гэты раз зайграў ён адменна: павольна, з ціхімі, доўгімі лірычнымі варыяцыямі, якія прыдумаў калісьці сам. І пад гукі ўласнай музыкі зноў паўстала: Вена… а яшчэ раней — прывал на беразе Прута… «Лепш за венскі, гэты наш вальс». Зусім ціха ён сказаў да Агаты, якая прытулілася да яго пляча шчакой:

— Якія мы там бачылі дамы па вёсках! Ёсць і дрэнныя, але ёсць і такія, якім пазайздросціш. У нас трэба будаваць так, а не халупы з вокнамі ў зямлю. І яшчэ я, Агата, думаю, што на месцы разбітай вёскі можна паставіць новую, і дынаму — каб асвяціць Зялёны Луг электрычнасцю. Як ты мяркуеш?

— Добра, Юрачка, усё добра. Але цяпер ты адпачываеш. Ты ж маеш права хоць са мной адпачыць?

Вядома — ён мае права на гэты адпачынак. Ён падумаў так, але ўжо не сказаў: за нізкай брамай збіралася моладзь, прыцягненая яго музыкай.

## VI

У раёне, куды ездзіў Чарнушэвіч са справаздачай, ягоныя планы ўхвалілі. На паседжанні ў раёне прысутнічаў і Харчанка, іменна ён сказаў:

— Млын і электрастанцыя — гэта вельмі добра. Калі гэта спалучыцца з матар'яльным дабрабытам, з новай хатай, з павялічанай аплатай за працадзень — лепшага жадаць няма чаго. Будуй, умацоўвай!

І калі акрылены падтрыманнямі старшыня вярнуўся ў Зялёны Луг, ён пайшоў у хату Тамаша, дзе часова размясцілася праўленне, заспеў тут некалькі чалавек, сеў і, захапіўшыся, пачаў гаварыць аб электрастанцыі. Яго слухалі ўважліва, з павагай, падтрымлівалі. Толькі Нічыпар, які прытуліўся да дзвярэй з цыгаркай — такой жа вялікай і тонкай, як ён сам, між іншым, сказаў:

— З вясны можна будзе і гэта.

— Чаму з вясны? Яшчэ да снегу далёка.

— У нас яшчэ дзесяць сямействаў у норах, а пяць хат небам крытыя…

— Заўтра ж усіх на будаўніцтва, — рэзка сказаў да брыгадзіра Жука старшыня.

— І са свірна зняць? Там страху толькі да паловы паклалі.

— Зняць, зняць!

Хоць, здавалася, усё добра ў гэтай гутарцы, але нешта як бы засела ў мазгу Чарнушэвіча — непрыемнае, дакладней — няёмкае. Гэта — у голасе Нічыпара. Нейкая захаваная, пахмурная іронія. А электрычнасць будзе — троха што не ў голас падумаў ён. За вячэрай Агата паведаміла навіну: прыехаў Тодар Красуцкі, без левай рукі.

— І ўвесь чыста, казаў, як рэшата!

Чарнушэвіч устаў быў з-за стала, каб пайсці да Ганны, павітацца з госцем. «Зусім забыў матку!» Але Агата стрымала — ноч на дварэ, а чалавек здарожыўся ды яшчэ і хворы.

— Сем ці восем раненняў!

«Як яна лёгка пра гэта гаворыць! А калі б — гэта я?»

— Значыць, многа гора паспытаў чалавек.

— У кожнага ў гэтую вайну было сваё гора, — азваўся з-за пераборкі цесць. — Лепш не ўспамінаць! — Услед уздыхнула маўклівая Альжбэта — гучна, хрыпавата.

Толькі ў канцы наступнага дня выбраў старшыня вольную хвіліну, каб зайсці да Красуцкіх. Прашоўшы ўжо паўдарогі, ён крута павярнуўся, прыйшоў у цесцеву хату, зняў гімнасцёрку і надзеў кіцель — калі ў промені сонца бліснулі два медалі і два ордэны, ён усміхнуўся сам сабе ў люстра. Падцягнуты, ён прайшоўся па вуліцы да Ганчынай хаты. Прайшоў дзядзінец. Ужо тры рамоўніка, — адзначыў, — малайчына старая! Ганны, мусіць, не было. Пераступіў парог і ўбачыў: ля вакна, спінай да яго, у паношанай, але чыста пасціранай гімнасцёрцы стаіць русавалосы хлапец. Левы, парожні, рукаў засунуты за дзяжку, у пальцах трымае нешта і разглядае. Хлопец не заўважыў старшыню.

— Што там цікавае? — голасна сказаў Чарнушэвіч, робячы вялікія крокі да хлопца. — Пчала?

— Не! — Хлапец узняў на прыйшоўшага блакітныя вочы (твар быў бледны, стомлены, відаць — доўга ляжаў у шпіталі). — Гэта — шэршань, называюць — філант. Ён паралізуе пчол і корміць імі свае лічынкі.

— І многа паядае?

— Па шэсць пчол на кожную лічынку, многа!

Вы — лейтэнант Чарнушэвіч? Вельмі вам дзякую за дапамогу матцы, за гэту хату.

— Э, глупства! — весела адказаў Чарнушэвіч, працягваючы да параненага руку. — З прыездам! Прыйдзецца гэтага ворага пчалінага забіць.

— Ён ужо мёртвы. Сядайце! — паціскаючы працягнутую руку, адказаў Тодар Красуцкі.

Чарнушэвіч сеў, а хлапец стаяў. «Мусіць, радавы, па старой прывычцы — чакае дазволу старэйшага». Падумаўшы гэта, ён і спытаўся:

— Радавы?

— Гвардыі сяржант.

— А гадоў?

— Дваццаць трэці. З восьмай групы пайшоў. І от… — Ён паказаў абрубак рукі.

— Дзе страцілі?

— У Венгрыі, ужо даўно. Ляжаў у шпіталі, потым у санаторыі.

— А выглядаеце паршыва. І тут трэба адпачыць.

— Нее… — зусім дзіцячая ўсмешка кранула пухлыя Тодаравы вусны. — Мне б хацелася рабіць, таварыш лейтэнант. Мне б хацелася… — Ён не скончыў, сеў на нізкі ўслончык пры сцяне, на твар нібы лёг цень.

— Не бядуйце!

Трэба неяк суцешыць гэтага хлапца, але Чарнушэвіч не мог знайсці патрэбных слоў. Ён таксама сціх. Колькі хвілін стаяла ў хаце цішыня. За вокнамі ў яркім восеньскім дні сцішана гудзелі пчолы. Прыйшла на дзядзінец Ганна, з хлява вывела цялушку і кінула ёй бярэмя травы. Усё гэта бачыў Чарнушэвіч і чакаў прыходу старой. Але тая яшчэ нешта рабіла на дзядзінцы.

— Маці ваша прыйшла!

Тодар усхапіўся, выйшаў за парог і голасна сказаў, што ў іх госць.

— Які госць! Свой я тут! — узнімаючыся насустрач старой, смяяўся Чарнушэвіч. — Учора, матка, позна прыехаў, выбачайце, што не зайшоў…

— Зусім, зусім забыўся на старую! — мякка папракала Ганна Чарнушэвіча. — Запрацаваўся.

— Так, матка, і аддыхі няма!

На стале паявілася пачатая бутэлька гарэлкі, мёд. Колькі ні адмаўляўся Чарнушэвіч, але прыйшлося і выпіць, і паспытаць мёду. Тодар не піў і маці не-не, а ўздыхала са скрухай, затрымліваючы позірк на бледным сыновым твары. Чарнушэвіч расказваў аб сваіх планах. Ён бачыў, што Тодар слухае яго надта ўважліва, і гэта заахвочвала. Ад млына і электрастанцыі думкі перабеглі на перажытае, ён пачаў успамінаць.

— Нам бы так будавацца, як за мяжою! — нарэшце сказаў ён. — Мне давялося бачыць адну гаспадарку, нешта накшталт хутарка…

Калі ён спыніўся, Тодар з бледнай усмешкай на твары ціха заўважыў:

— А я там не мог… Усё было чужое. Хай тут беднае, але сваё.

— Правільна, сынок, — з любосцю сказала маці.

Нарэшце Чарнушэвіч развітаўся. Ідучы, ён падумаў, што Тодар — не памочнік, на яго няма чаго разлічваць. А ён меркаваў — хоць рахункаводам яго, Таню прыйшлося адпусціць на вучобу, можна было б Стафана прызначыць, але самому гэтага рабіць не хацелася — як-ніяк радня. Радня! Ён усміхнуўся пры гэтым — хутчэй бы дахаты. Там чакае Агата, спакой, адпачынак. Як мала адпушчана чалавеку шчасця! Стафан — талковы чалавек, з ім прыемна і пагутарыць, карысна параіцца. Вось да Альжбеты ніяк не можа прызвычаіцца Юрка… Дзіўна, што троха не ўвесь час маўчыць гэтая жанчына, і

дагэтуль не зразумела, ці прыхільна ставіцца яна да зяця, ці не. Няўжо і Агата будзе такой — маўклівай, пахмурнай? Чымсьці нагадвае яна рабочага вала…

— Я вас шукаю, — гэта Ляксей Жук, брыгадзір. — Няшчасце, Юры Піліпавіч! «Зорка» завалілася, не даглядзелі.

Гэта чамусьці раззлавала Чарнушэвіча.

— Не ведаеце, што рабіць? Пашліце па ветэрынара! Здаецца, не малыя!

Аднак, трэба было ісці. У новай, яшчэ недакрытай стайні вакол маладой кабылкі стаялі мужчыны. Заклапочаны конюх Сіліван сядзеў на кукішках і глядзеў на кабылу, якая, закінуўшы галаву, ляжала на зямлі, пацямнеўшая ад поту. Тут-жа быў і Стафан і даваў парады.

— Паставіць яе трэба на ногі.

— Пашліце па ветэрынара! — суха сказаў старшыня. — Такую кабылу не даглядзець! Нават дробязі самай не можаце зрабіць. Здаецца, размеркавалі абавязкі, усе вы — гаспадары… Эх! Не ваенныя людзі, адно і скажаш.

— Не трэба клікаць ветэрынара, — раптам пачуў ён Шаршнёвы словы.

— Чаму? — аж здзівіўся, спыняючыся.

— Пойдуць гутаркі, следства… Кабыла ўсё адно не падымецца.

Але Чарнушэвіч настаяў на сваім. Ветэрынар прыехаў, кабыла акалела. Ветэрынар патрабаваў, каб рабілі дэзінфекцыю стайні, каб коней памылі. Зноў старшыні быў клопат і выходзіла, што Стафан раіў зусім не пустое. Не, — думаў Чарнушэвіч, — я яшчэ дрэнны гаспадар, трэба прыслухоўвацца да гаспадароў. Яму было непрыемна, што прыходзіцца займацца ўсім чыста, што людзі чакаюць ад яго і загаду, і парады. І павялося так, што ўсё часцей і часцей Стафан пачаў умешвацца ў гаспадарку, дапамагаць яму і ўжо часцей і часцей цэлы рад гаспадарчых пытанняў вырашаўся без яго і ён нарэшце атрымаў магчымасць заняцца тым, чым хацелася: млыном і электрастанцыяй. І тут, на гэтай будоўлі, ён зноў гарэў, аддаючыся працы дазвання. Гэта стала для яго і асноўным, і галоўным.

## VII

Хоць і абяцаў Харчанка старой Ганне прыехаць на наваселле, але ні летам, ні ўвосень не выбраўся ён у Зялёны Луг. У яго жыцці адбылася змена. Праўда, гэтая змена не перайначыла яго распарадку, аднак надала большага клопату. Раней ён павінен быў клапаціцца аб добрым папаўненні ў Савецкую армію, аб падрыхтоўцы маладых салдат, аб тым, каб дапамагчы ўдовам і сіротам, цяпер гэтыя абавязкі не адпалі, а зрабіліся толькі часткай вялікай работы, ускладзенай на яго: Харчанку выбралі сакратаром раённага камітэта. Першым у Зялёным Лузе даведаўся аб гэтым Тодар Красуцкі. Ён быў у мястэчку, зайшоў у ваенкамат і там даведаўся аб зменах. У райкоме ён і не спадзяваўся ўбачыцца з новым сакратаром, ён запытаўся ў аднаго з работнікаў, ці можна аформіць у Зялёным Лузе партыйную арганізацыю з трох чалавек — на тую пару прыехаў камуніст-настаўнік і, значыцца, цяпер было тры камуністы: Чарнушэвіч, настаўнік і ён. Райкамавец сказаў, што такое пытанне трэба ўзгадняць непасрэдна з адным з сакратароў, і не паспеў Тодар агледзецца, як яго паклікалі да Харчанкі. «Вось які ён», — разглядаў Тодар капітана Харчанку, аб якім столькі чуў ад маці. Малады яшчэ чалавек, з пісягом на падбародку, уважлівыя, цёплыя вочы. «Сядай!» — і закідаў пытаннямі пра матку, пра калгас, пра тое, як ідзе будаўніцтва, пашкадаваў, што мала прыйшлося зернавых на працадзень. Раптам абарваў гутарку, на хвіліну задумаўся, вочы бліснулі маладым агнём.

— Ведаеш што? — сказаў неяк вельмі вясёла. — Пасядзі трохі тут, я ўпраўлюся са справамі і паедзем да вас.

Тодар астаўся ў кабінеце сакратара. Прыходзілі розныя людзі. Адзін дакладваў аб тым, што спажывецкая кааперацыя адкрыла новых адзінаццаць крам, у якія паступілі гэткія і гэткія тавары. А кніжкі? Не толькі падручнікі для школ, а палітычная, сельскагаспадарчая, мастацкая літаратура? Работнік райсаюза замяўся. Мы ж не маем магчымасці арганізаваць кнігарні, значыць — продаж кніг трэба наладзіць праз райсаюзаўскую сетку. Райсаюзавец сказаў, што гэта — справа лёгкая і будзе зроблена. Потым прыйшла жанчына з нейкага далёкага сяла, скардзіцца на старшыню, — пры размеркаванні дошак, якія прывезлі для новабудоўлі, яе абышлі, а ў яе хата стаіць раскрытая. Харчанка тут жа пазваніў у райвыканком і сказаў, што трэба дапамагчы жанчыне, якая прыйдзе. Пасля гутарка ішла аб тым, што некалькі школ недаўкамплектаваны выкладчыкамі, цэнтр не прысылае, трэба, каб «нажалі» праз абком. Сакратар запісаў аб гэтым у настольны блакнот. У дзверы раптам прасунуўся дзіўны маленькі дзядок, пад пахай ён нёс нейкія пруткі, — мусіць, венік, — падумаў Тодар. Дзядок жвавенька падбег да стала сакратара і паклаў перад ім венік. Не, гэта быў не венік, а маладыя дрэўцы.

— От, таварыш Харчанка, экзэмпляры раслін, якія можна выкарыстаць для пасадкі цэнтральнага сквера.

«З такой драбязой ідуць!» — падумаў Тодар, але ў наступную хвіліну гэтая думка знікла сама сабой. Тодар бачыў, што Харчанка з сімпатыяй ставіцца да дзядкі, распытвае, спрачаецца.

— Вялікі знаўца, — сказаў ён да Тодара, калі рухавы дзядок высунуўся з кабінета. — Калісьці даглядаў графскі парк, той, што немцы пасеклі. Адменны быў парк! — і пасля паўзы: — Нічога, мы новыя насадзім сады і паркі!

І яшчэ шмат прыходзіла розных людзей — па гаспадарчых, па партыйных, па асабістых справах. З большасцю Харчанка гутарыў карэктна, толькі на аднаго ўзняў голас:

— Не ведаю, чым вы там захапіліся! Насенны фонд чаму не засыпалі? Усе вашыя мерапрыемствы паламанага пятака будуць не варты, калі калгас застанецца без насення, а калгаснік без хлеба. Пайдзіце да Іванчанкі, ён з вамі паедзе ў калгас.

Нарэшце Харчанка выклікаў сакратарку і сказаў, што прыём скончаны і ён едзе ў Зялёны Луг. Калі сакратарка выйшла, Харчанка з усмешкай сказаў да Тодара:

— Вот колькі спраў!

— І колькі дробязей, таварыш капітан!

— Дробязі… Усё наша жыццё з гэтых дробязей складваецца… — сказаў ён неяк сцішана.

Паехалі ўтрох: Харчанка, Тодар і інструктар райкома, таксама былы ваенны. Густое асенняе сонца афарбавала зямлю ў яркія рэзкія тоны. У акантоўцы чорна-сіняй хвоі стаяць чырвоныя клёны. Гэта — як языкі полымя і дзіўна, што яны не падпалілі лесу. У спакоі ляжыць рудое поле, а над ім празрыстае паветра, ядронае і таксама спакойнае. Праехалі крыж, а за ім — абломкі цягача. Можа, ён і штурхнуў думкі Харчанкі:

— Нямецкія фашысты, — сказаў ён, — пакінулі пасля сябе не толькі сляды варварскага разбурэння. Яны пакінулі і ў свядомасці нашых людзей след. Яны намагаліся выпаліць з нашых людзей пачуццё калектывізму, свабоды, сацыялістычных прынцыпаў. Народ выстаяў супроць спакусы, але ў свядомасці многіх фашысцкая атрута зрабіла свой разбуральны ўплыў. Вось чаму мы асабліва ўважліва падтрымліваем кожную новую партыйную аргані-

зацыю на вёсцы. Праз сельскіх камуністаў нам лягчэй будзе рабіць уплыў на калгасныя масы. Я ўпэўнены, што ваша тройка скора абрасце новымі людзьмі, толькі да іх трэба ставіцца ўважліва, правяраць іх.

— Добрага здароўя, матка! — яшчэ з машыны прывітаў Харчанка старую. — Мая праўда: сына прычакалася! А то ўсё непакоілася, што толькі аб горы людзям павінен паведамляць, што будуць клясці.

— Ну, за што ж вас клясці, таварыш ваенком!

Маладзенькі інструктар уставіў слова:

— Ён не ваенком. Таварыш Харчанка цяпер — сакратар раённага камітэта партыі.

Ганна замяшалася. Харчанка ўзяў яе пад руку, а да хлапца сказаў:

— Глупства! Не перашкаджайце нам. Я і ў райкоме астаўся салдатам. Ну, пойдзем, матка, хату сваю паказвай.

Старая ажывілася, зірнула на пачырванеўшага райкомаўца і сказала безапеляцыйна:

— Ваенком ці сакратар, нам усё адно, ён — наш, мілы чалавек.

Тады ў вечары аформілі партыйную арганізацыю ў Зялёным Лузе. Сакратаром выбралі Тодара. А Ганне дасталося ад Харчанкі — як гэта яна згадзілася, каб хату накрылі драніцамі!

## VIII

На сухую зямлю, на ціхую, лёг снег. І пацягнулася зіма. Звычайная зімовая цішыня панавала ў свеце, але работа ішла сваім чарадом. Дабудоўвалі кароўнік, на млыне ішоў мантаж рухавіка, рабілі сані, рамантавалі інвентар. З хлапечым імпэтам увязаўся ў жыццё калгаса аднарукі Тодар. Ці гэтая работа, ці паветра радзімы зрабілі свой уплыў, але твар зноў быў малады, пад скурай пульсавала здаровая кроў. Па вечарах шумна было ў Ганчынай хаце. Старой моладзь не назаляла, наадварот — яна быццам рада была маладым гучным галасам. Не было яшчэ клуба і Тодар у матчынай хаце арганізаваў «паходную хату-чытальню», як, смеючыся, назваў ён гэтыя вячэрнія сходкі. Тут чыталіся газеты, кніжкі, тут, крышку шапялявячы, грымеў патэфон, часам, адарваўшыся ад сваіх машын, прыходзіў сюды і Чарнушэвіч з баянам і вясковыя хлопцы, як і раней, з цікавасцю сачылі зграбную хаду пасталеўшай, але яшчэ больш прывабнай Агаты. Тут жа арганізавалася партыйная школа. Тодар быў душой гэтай шумнай грамады і многія нават не заўважалі, што ў яго няма рукі. Аднак, аб гэтым ніколі не забывала Ганна і старалася рабіць так, каб вызваліць сына ад хатняй работы, ад такой, якую ён рабіць не можа. Калі што трэба было Тодару рабіць, дык ён злаваў, траціў многа сілы, каб адужаць, прызвычаіцца, і Ганна бачыла, што многа на гэта ідзе ў сына энергіі. Але ён ні разу не паскардзіўся, ён быў упарты, самалюбівы чалавек.

Напраканцы зімы прыйшоў інструкцыйны ліст, у якім прапаноўвалася праўленню калгаса распачаць работы па снегазатрыманні. Зіма сёлета, — пісалася ў лісце, — адменная, мала снегу, значыць — мала вільгаці ў глебе, трэба зрабіць так, каб увесь снег растаў на палях, каб палі ўвабралі ў сябе як мага больш вільгаці.

— Колькі жыву, такога не бачыў і не чуў! — сказаў Нічыпар і сплюнуў.

— Бог снег паслаў, бог і дождж пашле, — даверліва казала Тамашу Кацярына. — Гэта ніколі не было, каб чалавек мог што зрабіць замест бога.

— Ды там жа вучоныя людзі пішуць, пустое не будуць малоць, — не згаджаўся з жонкай Тамаш. — Бог богам, а чалавечы розум — моцная рэч.

Кацярына злавала:

— Маўчы хаця! Ты ў нядзелю робіш, ты і бога забыў.

— Ат жа не валіцца! — пасміхаўся Тамаш, паказваючы на столь новай хаты.

Гутарак вакол ліста было многа. Чарнушэвіч параіўся са Стафанам. Той сказаў, што ліст — не загад, і можна выконваць, і можна абысціся. Вядома, восень была сухая, снег потым лёг малы, вільгаці ў зямлі трохі як бы і малавата, але нешта не верыцца, каб там рознымі хваёвымі лапкамі можна было затрымаць веснавую ваду. На гэты раз Стафан нічога пэўнага не парадзіў, але Чарнушэвіч вырашыў, што ліст можна падшыць у справу, а самому заняцца электрастанцыяй.

Усё было гатова, ужо ставілі слупы, толькі была затрымка з праводкай. І тут трохі выручыў цесць. Аднаго разу ён запрог каня і некуды паехаў. К вечару ён прывёз два вялікія скруткі палявога кабеля. «Адкуль» — аж узрадаваўся Юрка. «Трафейны» — сказаў нібы сур'ёзна. З мястэчка нарэшце прыехаў манцёр, спачатку не хацеў рабіць праводку з гэтага проваду, але потым памякчэў.

Калі Тодар прыйшоў да Шаршнёў у хату, якраз закончылі праводку. Стафан скруціў у пальцах новенькі патрон, што павіс на чырвоным провадзе над сталом, манцёр сядзеў на лаве побач з Чарнушэвічам і той з захапленнем апавядаў:

— У стайні — лямпачка! Кароўнік таксама асветлены. Малочная ўся электрыфікавана! І гэта ўсё ад маленькага рухавічка.

Тодар здагадаўся, пра што ідзе гаворка, але ўсё ж запытаўся:

— Дзе гэта такое?

— У Германіі бачыў.

— Ага!

Агата падсунула Тодару табурэтку.

— Заўтра ў вашай хаце будзем рабіць мантаж. Па нядзелі з раёна провад прывязуць, тады вонкавую праводку зробім, і ўсё будзе гатова. Шкада, што клуба няма.

— Шкада. Хоць бы хату-чытальню на першы выпадак, — сказаў Тодар. — Трэба пабудаваць адзін хаця дом, каб і праўленне ў ім было, і хата-чытальня.

— Будзем будаваць! — упэўнена сказаў Чарнушэвіч.

— Але ёсць больш пільныя справы. Райаддзел папярэджвае, што вясна будзе сухая.

— Ты пра гэты ліст? Гаспадары кажуць — глупства.

Тодар зірнуў на Стафана. Той не выпускаў з рук патрон і пасміхаўся.

— Што кажуць — гэта не важна. Дзяржава многае робіць, што старым людзям здаецца непатрэбным і дзіўным. Каналы будуюць, мары, новыя расліны вырошчваюць.

— Я гэта ведаю, сяржант…

Можа, і не хацеў перапыняць яго, але Стафанава ўсмешка прымусіла.

— Мяркую, што трэба зрабіць тое, што прапануецца ў лісце.

— Каб хаця людзям занятак даць, — заўважыў Стафан. Пусціў з пальцаў патрон і ён пачаў гойдацца. — Усё гэта глупства! Можа, для якой краіны гэта і добра, а ў нас засухі не было ніколі.

— Але можа быць.

— Хто гэта ведае, што будзе. Прырода свае законы правіць.

— А людзі свае.

З гутаркі нічога не выйшла. Тодар аж узлаваўся, што Чарнушэвіч маўчаў, а ўвесь час адказваў яму Стафан, не прапускаючы слова. Тодар нарэшце развітаўся, вырашыўшы адкласці гутарку да іншага разу. Ён папрасіў, каб з раёна

прыслалі лектара. Лекцыя на тэму, як чалавек кіруе прыродай, адбылася ў перапоўненай Ганчынай хаце, слухалі яе надта ўважліва, бо лектар гаварыў аб цікавых справах. Аб тым, як воляй бальшавікоў перарабляецца чалавек, як гэты волат-чалавек перарабляе прыроду, прымушаючы яе быць паслухмянай. Аб тым, як за паўночны круг прыйшлі яблыні, як жоўтыя пустыні аджылі ад вады, што прыйшла па каналах, як па маленькіх рэчках пайшлі акіянскія параходы, як успыхнула ў мядзведжых кутках электрычнасць… Пад канец завітаў у хату і Чарнушэвіч. Спачатку ён разглядаў людзей, думаў аб сваім, а потым і яго захапіў лектар. Пасля лекцыі Тодар пераказваў змест ліста і прапанаваў арганізаваць брыгаду для работы па снегазатрыманню. Але тут паднялася Галя Краўчанка, камсамолка, і сказала, што некалькі чалавек моладзі хоча арганізаваць сталую брыгаду, гэтая брыгада правядзе работу па снегазатрыманню, усю веснавую работу, сяўбу, будзе даглядаць пасевы, але няхай праўленне вызначыць для брыгады пэўныя ўчасткі.

— Кабеты! — трохі з гумарам крыкнула Кацярына. — Дзяўчаты, мусіць, нас і за работнікаў не ўважаюць?! Старшыня! Я таксама хачу ў брыгаду.

— Ты, Кацярына, старэйшых збяры, — ціха падказала Ганна, але ўсе гэта пачулі.

Так ад размовы пра каналы, акіянскія караблі, пра цуды навукі і тэхнікі гутарка перайшла да надзённых, бытавых пытанняў жыцця Зялёнага Луга, і ў хаце стала горача, тлумна. Побач з Тодарам ужо стаяў Чарнушэвіч і адказваў на безліч пытанняў. Добра, што настаўнік здагадаўся адвесці да сябе прыезджага лектара, а то, не раўнуючы, астаўся б госць без вячэры. Нарэшце афармілі дзве жаночыя брыгады і, шумна перагаворваючыся, народ высыпаў з хаты. Тодар і Чарнушэвіч стаялі побач. Старшыня павёў чорным вокам на хлапца.

— Ты — неўрымсловы! — хрыпла сказаў.

Тодар пайшоў і адчыніў дзверы. У хаце было накурана, белым клубам уварвалася марознае паветра.

— Трэба прыслухоўвацца да людзей, — сказаў сакратар партарганізацыі, — да перадавых людзей. Мы з табой камуністы і наша справа ўзначальваць рух мас, накіроўваць яго ў адпаведнае рэчышча.

— Я, па-твойму, не звяртаю ўвагі на людзей? Адарваўся ад мас?

Тодар колькі хвілін пазіраў на Чарнушэвіча. Той стаяў у расшпіленым кажушку, а пад кажушком — кіцель з ордэнамі і медалямі. На плячах яшчэ знаць былі пасачкі ад пагон.

— Не, таварыш лейтэнант, я гэтага не сказаў. Аднак, ты слухаеш такіх людзей, якія не надта любяць новае, савецкае.

— Напрыклад? Ружовыя Тодаравы шчокі як бы ад упартага Юркавага позірку пачалі бляднець, а вочы разам з гэтым — цямнець, і раптам у глыбіні гэтых заўсёды адкрытых, а цяпер няяк звужаных вачэй бліснуў агонь.

— Напраклад? Ты вельмі хочаш, каб я назваў прозвішча? Калі ласка! Хоць бы Шаршня.

Руку, якой абапіраўся аб стол, звяло ў кулак. Ім бы грукнуць па стале, але стрымаў.

— Гэта мой цесць, радня… Ды адкуль ты нарэшце ўзяўся такі? Камуніст!

Тодар ужо супакоіўся. Ён прычыніў дзверы. Добра, што маці затрымалася на вуліцы.

— Адкуль узяўся? Біяграфію? — Ён весела, па-хлапечаму, па-маладому. — Нарадзіўся тут, у Зялёным Лузе, і ведаю кожнага… Вучыўся, потым на

вайну пайшоў. І вот там, перад адной атакай, прынялі ў партыю. Пытанняў няма, таварыш лейтэнант?

Чарнушэвіч сеў.

— Ты п’яны ці дурэеш…

— Не, я не дурэю, — Тодар апусціўся побач. — Я паважаю вас, як старэйшага, старэйшага і па гадах, і па званню, і па стажу. Аднак, я сказаў тое, што думаю. Табе здаецца, што гэты ліст — дробязь, але ўсё наша жыццё складаецца з такіх дробязей. — Ён паўтарыў словы Харчанкі, але думкі аб гэтым нават і не ўзнікала, словы былі — яго, уласныя. — Дробязі складаюць цэлае. От цяпер у нас ёсць дзве брыгады, вясна пакажа, што спаборніцтва павысіць дысцыпліну, дасць эфект, наша ж гаспадарка запушчана, калькі зямлі дзірваном парасло за гады акупацыі. Нават калі прагноз райаддзела і няправільны, гэтай работай мы не пагоршым, а палепшым справу…

— Чаму не пагутарыць аб гэтам са мной? — перапыніў яго старшыня. — Ты думаеш — я супроць. Дзіўны чалавек! Я толькі не ўпраўляюся.

Тодар сказаў, што Чаршушэвіч надта захапіўся электрастанцыяй, млынам. Гэта дрэнна? Не, ніхто не кажа, што дрэнна. Але апрача гэтага — ёсць тысячы больш пільных патрэб. Чарнушэвіч нарэшце паскардзіўся, што ў яго няма на ўсё часу, што рукі да многага не дасягаюць. Калі прыйшла Ганна, яны спакойна гутарылі паміж сабой і яна ніколі б не здагадалася, што яшчэ за некалькі хвілін перад гэтым гатовы былі абразіць адзін аднаго. Яны абмеркавалі і такое пытанне, каго прызначыць рахункаводам, бо з раёна не даюць — няма. Чарнушэвіч памянуў на Шаршня. Красуцкі на гэта сказаў:

— Няхай робіць. Лепш кіраваць ім, чым ён будзе кіраваць намі.

## IX

У канцы сакавіка падзьмулі вятры і снег стаў знікаць, прыпякло сонца, пабегла вада і ўраз пачалася вясна. У Тамаша было многа работы: ішла ачыстка насення, частку яго трэба было абмяняць на сартавое, самому ездзіць у раён на базу. Адным словам, сустракаўся ён з жонкай толькі позна, але, нягледзячы на гэта, Кацярына закідвала яго навінамі, як кулямі. Жарты — Кацярына была брыгадзірам палявой брыгады, у яе ўваходзілі пажылыя жанчыны, брыгада спаборнічала з дзяўчатамі. Брыгада Краўчанкі прарабіла ўвесь цыкл работ па затрымцы снегу і цяпер усе бачылі, што ў акружэнні хвойных галін снег на ўчастках брыгады затрымаўся значна далей, чым усюды. Аднак, гэта яшчэ нічога не азначае! Кацярына пазірала то на неба, то на раку, брала мокрую, рудую зямлю на далонь, расцірала яе пальцамі. Яна даводзіла, што скора трэба сеяць, як толькі кранецца рака. Лёд пайшоў, буйная веснавая вада пагнала яго, завярцелася каля новага млына, усе хадзілі глядзець, як ён працуе, і прызналі: добра! Нарэшце скончылі праводку і аднаго разу хаты асвяціліся электрай. Бяда была толькі ў тым, што не было механіка, і Чарнушэвічу прыйшлося спехам вучыць хлапца, а пакуль той адважыцца рабіць самастойна — прыходзілася многа часу траціць самому каля рухавіка. Кацярына аж заходзілася: мы засеем, а ў іх яшчэ снег! Як жа яны, Тамашок, па снезе сеяць будуць Сплыве!

— Дай мне святы спакой, Кацярына! — адмахваўся Тамаш. — І нашто ты ўвязалася ў гэта?

— Як нашто? — аж узлавалася Кацярына. — Табе дык можна было за старшыню быць, а мне і брыгадзірам няможна?

Тамаш хацеў быў напомніць, што тады, калі ён быў часовым, яна яго дапякала, але толькі адмахваўся.

На участках брыгады Кацярыны пачалі сяўбу. Тамаш адпусціў насенне, а калі жонка сказала — ты там лепшага дай — так на яе зірнуў, што яна змоўкла. Напрыканцы дня ў свіран прыйшла Галя Краўчанка. У кароткай ватоўцы, у палінялай хустцы, тоненькая, з пухлымі, як у дзіцяці, вуснамі. Прыйшла і села на засек.

— Па насенне?

— Не, дзядзя Тамаш, за парадай. Сеяць ці не? У нас і снег, і мокра надта! Кажуць, сплыве.

Тамаш зірнуў на яе. Сумны твар, сінія вочы — мутныя, ад слёз ці што? Павар'яцелі! Старая кіпіць, як саган, а гэтая плакаць, быццам па хлапцу. Але сэрца ў Тамаша — мяккае, не пашанцавала, што сваіх дзяцей няма. Сеў ён побач з Галяй.

— Пасееце, не бядуй.

Галя даверліва заспяшалася:

— Тодар кажа, каб сеялі. Ён і кніжку паказваў, у адным калгасе сеялі па суцэльным снезе. А я баюся…

— Тодар калі кажа, слухайся, ён хлапец — во! Прысылай заўтра па насенне.

— Праўда? — устрапянулася, як птушка. — Не чакаць, сеяць?

— Сеяць!

І ўжо адыходзячы, Галя спынілася каля варот і ціха сказала:

— Дзядзя Тамаш! Агата з нашай брыгады пайшла… да Кацярыны! Гэта ж такі падрыў!

— Управіцеся і без яе!

І назаўтра, зачыніўшы свіран, Тамаш сам пайшоў з сяўнёй на участак Краўчанкі. На мокрай раллі вялікімі плямамі бялеў снег, а над раллёй веяла гліца, якая сушыла ў сейбітаў вусны. П'ючы з гладыша халодную сыроватку, Тамаш лінуў крыху на далонь і абцёр твар.

— Праз ноч ад гэтага снегу анізвання не застанецца. Вецер — сухі.

Чорныя лясы ахуталіся ледзь прыкметным сінім дымком. Губляючы пер'е, шпацыравалі па полі худыя галкі. А за купаўём грымела рака, выплёскваючыся з берагоў. Вясна панавала ў сэрцы.

А Чарнушэвічу вясна прынесла нечаканы цяжар: адкрылася на назе рана. Ён нікому аб гэтым не казаў, бо лічыў, што хварэць у такую гарачую пару немагчыма, па-ранейшаму разам з Красуцкім бывалі на ўсіх участках. Чарнушэвіч настаяў, каб на першае мая закласці першы вянец клуба, і сам яго рубіў. Адрываць ад сяўбы мужчын не было як, супроць гэтага быў Тодар, але ўпарты Чарнушэвіч выцягваў з канторы Шаршня і хоць пару гадзін яны вазіліся на будаўніцтве. Потым Шаршэнь бег рабіць зводку, а Чарнушэвіч, стамлены, валіўся на ложак. Нага балела. Ён крывіўся. Аднаго разу ён адмахнуўся ад цесця:

— Ну, усё… падпішыце за мяне.

Той сказаў: парадак.

Агата здагадалася, што Юрка хворы. Перад яе настойлівасцю цяжка было ўстаяць і яна зрабіла перавязку. Нага надта балела. Чарнушэвіч сказаў:

— Тодару трэба сказаць, што я хворы.

— Ён у раёне. Не клапаціся, Юрачка, тата ўсё зробіць.

— А дзе бацька?

— На бульбе.

Ну, значыць, управіліся добра! Штодня раён патрабаваў дакладных звестак аб ходзе сяўбы, дзяржава няспынна ажыццяўляла кантроль. Кожнае

звяно вялікай гаспадаркі павінна было працаваць бесперабойна, бо краіне трэба было залечваць нанесеныя вайной раны. Тамашыха аж бралася варажыць — чыё проса будзе лепшае.

— Усё супраць іх. Сеялі ў снег — раз, у нядзелю рабілі — два, Агата з іх брыгады пайшла — тры!

І, прыступаючы да Тамаша, недаверліва папытвала:

— Хіба толькі ты лепшае насенне даў?

— Дай святы спакой! — адмахваўся Тамаш.

У праўленні задаваў тон Шаршэнь. Рахункавод і цесць старшыні, ён трымаўся тут гаспадаром, але без нораву прыслухоўваўся да мужчын, а сваю рахункавую гаспадарку вёў узорна — кожны меў магчымасць атрымаць даведку аб налічаных працаднях хутка і дакладна. Памеркаваўшы, ён дазволіў мужчынам узяць коней і засеяць свае прысядзібныя ўчасткі. Сам таксама аблюбаваў участак цаліны, узараў і засеяў бульбы. Калі Нічыпар спытаўся — каму? — Стафан ухіліўся ад простага адказу: па восені будзе відаць…

Тодар, вяртаючыся з мястэчка, куды ездзіў па пытаннях пенсіі, быў здзіўлены і цішынёй, якая панавала на полі. Няўжо ўправіліся? Цёплы майскі дзень, ужо невідочныя жаўрыкі звіняць у блакітным небе. Недаўменне яшчэ больш ахапіла, калі ўбачыў на сваім гародзе дзяўчат з брыгады Краўчанкі: яны супольна засявалі яго.

— Вядома, я магу толькі дзякаваць за дапамогу, але хіба ўжо ўправіліся ў калгасе? Сёння ж серада!

— Стафан усім дазволіў рабіць, — сказала Галя. — Ужо другі дзень на сябе робяць.

Тодар пайшоў у праўленне. На парозе сустрэла яго Кацярына, павіталася. Шаршня не было. На сцяне вісела вялікая карта: супроць кожнага прозвішча калгасніка значылася колькасць адпрацаваных дзён, унізе карты стаялі лічбы засеенага, па культурах. Тодар не мог не адзначыць вялікага парадку ва ўсім гэтым. Ён сеў за стол, дастаў з кішэні блакнот і адным пальцам пачаў падлічваць запісы ў ім. Незалежна ад вестак, якія паступалі ў праўленне, Тодар штодня вёў запіс засеенай плошчы на ўчастках, якія спаборнічалі паміж сабой. Лічбы гэтыя дапамагалі яму весці ў брыгадах гутаркі, на іх паказваць, хто ідзе наперадзе ў спаборніцтве. Атрымлівалася разыходжанне запісаў у блакноце з данымі карты на 17 гектараў. Магчыма, гэтую розніцу даюць два-тры дні, у якія Тодар зрабіў запісы вэдлуг выпрацоўкі папярэдніх дзён. Сумненне запала ў Тодаравы думкі. Ён яшчэ раз падлічыў свае запісы. На гэта раз зусім зблытаўся — адной рукой яшчэ было неспадручна працаваць. Пачаў утрэцяе.

— Чаму ў будні дзень спынілася работа?

— Работа ідзе, людзі абсяваюць свае гаспадаркі, — спакойна адказаў Стафан.

— Такая пастанова праўлення?

Той маўчаў. На твары была ўсмешка, няпэўная — не то кпіць чалавек, не то здэтанаваны.

— Ці, можа, дазвол Чарнушэвіча? Каб зняць усіх з працы, патрэбна пастанова праўлення.

— Людзям трэба сеяцца.

— Безумоўна! Але гэта робіцца не так, гамузам. Гэта трэба рабіць так, каб не спынялася работа ў калгасе. Я вас пытаюся — Чарнушэвіч дазволіў?

— От прычапіўся! — выйшаў з раўнавагі Стафан. — Вядома, дазволіў. Праўленне збіраць — цеганіна.

— Цеганіна? Нарэшце, ёсць партарганізацыя, са мной трэба ўзгадняць. Адмяніце распараджэнне, а я ўзгадню з Чарнушэвічам. Покуль ён хворы, я буду кіраваць работай.

Яны памаўчалі. У акно Красуцкі бачыў: ідуць дзяўчаты, паперадзе — тоненькая Галя Краўчанка, ужо без звыклай ватоўкі, але ў той жа палінялай касынцы, малая, як дзіця. У іх да яго — жаласлівасць, бязрукі! Нічога не зробіш! Іншага пачуцця, мусіць, і не выклічаш — каму патрэбен калека? Прыкрыя думкі… Адагнаць іх! Як назаллівую мушыну!

— У нас нявыкананы план сяўбы, а вы адрываеце і людзей, і цягло…

— У нас засеяна ўсё.

— А 17 гектараў? Па маіх даных не хапае 17 гектараў.

Стафан зірнуў на яго. На хвіліну — усмешка знікла. Але адразу ж запанавала на твары зноў. Ён узняўся і падышоў да сцяны, на якой вісела карта паказальнікаў. Ён стаяў перад ёю — прысадзісты, ёмкі, моцны чалавек, з крутой шыяй, і караткапалая рука, растапыраная, ляжала на лічбах карты.

— У цябе памылка.

Гэта было сказана безапеляцыйна, цвёрда, упэўнена.

— Магчыма, — сказаў Тодар. — Зверымся. — Маладосць — даверлівая. — Але зараз я пайду да старшыні.

Чарнушэвіч вельмі ўсхваляваўся, сабраўся нават у праўленне, але Агата пераняла.

— Тата прыйдзе, тады разберацёся. Ты ж і не палуднаваў.

І калі Красуцкі пайшоў з хаты, Агата падала полудзень і шклянку гарэлкі.

— Любы мой, Юрачка… беражы сябе.

Потым ён прачнуўся ад цішыні — усе пайшлі з хаты. Адкрыў вочы. Заходзіла сонца. Барвовыя промні яго ляжалі на падлозе. І раптам Чарнушэвіч убачыў: Альжбета, вялікая, масіўная, і нейкая маленькая, як грыб лісічка, старая. Стаяць у трох кроках ад ложка і, нешта шэпчучы, ківаюцца — згодна, неяк механічна. Ён узняўся на локцях.

— Што гэта вы робіце?

Шух — і бабулькі няма, хвіліну Альжбэта нязграбна мітуснулася каля дзвярэй і таксама выбегла. А замест іх — у раме дзвярэй стаіць і ўсміхаецца прывабная Агата.

— Юрачка, родненькі… гэта дапаможа… нага хутчэй загоіцца… Не бяры ўсур'ёз. Ад гэтага не пагоршае…

Ён сеў. Абурэнне, сорам, здзіўленне і агіда — што пераважала?

— Як жа не браць усур'ёз? Не пагоршае? Ты забылася, што я член партыі, што я… салдат?

Не, ён не чуў болю, калі шпарка прабег хату, дзядзінец і апынуўся каля ракі.

Пацямнела.

І раптам у цёмным купаўі за ракой — ціха свіснула, свіст рассыпаўся званочкамі… быццам парвалася намітка і прыгожыя перлінкі пакаціліся па металёвай роўніцы, і ад гэтага ўзнікла навала чароўных гукаў…

Салавей!

І ў вачах: попел гарадоў, вёсак, трупы, багата трупаў… Дым над светам і дым на душы… Як жа ён абыдзецца без Агаты?

## X

Палі зазелянелі. На ўчастках Краўчанкі дружна паднялося проса, на ўчастках другой брыгады проса ўзыходзіла слаба, але нарэшце і тут поле пакрылася парасткамі. Тое ж было і з яравымі. Розніца ў росце проса, аднак, была прыкметна доўга. У сухой зямлі зерне доўга абыходзіла, там, дзе было больш вільгаці, расло спарней. Так казалі ўсе.

— Як сажнём — убачым. Восень пакажа.

Пад самую страху падняўся зруб хаты-чытальні. Чарнушэвіч праводзіў тут цэлы дзень і з захапленнем арудаваў сякерай. Нарэшце ён дасягнуў таго, аб чым увесь час клапаціўся: зладжана і добра працавалі брыгады, не трэба было папіхаць. Ён мог цяпер аддацца любімай справе. І тут выплыла непрыемнасць. І зноў пачалося з Тодара.

— Мы абманулі дзяржаву на 17 гектараў.

«Кар’ерыст ці вораг?» — мільганула ў Чарнушэвіча думка. — «Хоча зваліць мяне і прыбраць усё да рук». Было вельмі непрыемна ад такой думкі, але да яе Юрка звяртаўся ўсё часцей і ўсё настойлівей.

— Гэтага не можа быць! — сказаў ён груба, рэзка. — Ты ўсюды бачыш недахопы, абман… Тут не мая памылка, а твая.

— Не! Цяпер упэўнены.

Думка аб тым, што ў раён далі няправільныя звесткі, не пакідала Тодара з таго самага часу, як ён размаўляў з рахункаводам. Але ўпэўненасць, з якой вёў гутарку Стафан, выключная акуратнасць яго справаводства пасеялі ў Тодара сумненне ў сваёй праваце, ён адступіў, але не здаваўся. Аднаго разу ён зайшоўся да Краўчанкі. Дзяўчына сядзела над ворахам газетных выразак.

— Што гэта ў цябе?

Крыху асмушчаны твар Галі пачырванеў — густа і ўраз. Яна рукой прыкрыла выразкі.

— Так сабе… старыя заметкі з газет… — Потым, зірнуўшы на Тодара, раптам адчула, што ён — зразумее. — Як прачытаю аб рэкорднай выпрацоўцы жней, схаваю заметкі. Вот і падабрала матар’ял. Ты глядзі, 10 000 снапоў вяжуць. Мне так хочацца, Тодарка, гэты вопыт скарыстаць і ў нас. А на полі так усё павольна расце!

Апошняе — так шчыра і непасрэдна, што Тодар не ўтрымаўся ад смеху. Хоць і маладая, ёй у партыю час… І ён даверліва расказаў аб сваіх сумненнях. Галя спачатку спалохалася — як жа так абманваць дзяржаву? Потам абурылася. Але абурэнне вылілася на Агату — за тое, што кінула іхнюю брыгаду. Што бацька — тое і дачка! Аднак Тодар яе супакоіў і папрасіў аб дапамозе — перамераць пасевы. З трыма камсамолкамі з сваёй брыгады ў тры выхадныя дні Галя зрабіла абмер сваіх пасеваў. Ніхто асабліва ў Зялёным Лузе не звярнуў на гэта ўвагі — прызвычаіліся да таго, што Галя са сваімі дзяўчатамі траха што не начуюць на ўчастках. І праполкі, і падкормкі… Цяпер у Тодаравых руках былі безумоўныя доказы таго, што падлік ягоны — правільны: было засеяна на 16,33 гектара меней, чым па звестках.

Чарнушэвіч схамянуўся: Стафан падвёў. Ён прагледзеў штодзённыя зводкі: усюды было падпісана прозвішчам Чарнушэвіч. Ён ужо не стрымаў абурэння, крыкнуў на цесця, расхваляваўся так, што да яго не падступілася і Агата. Кароткая Стафанава шыя налілася чырванню, а твар — зрабіўся шэрым, быццам уся кроў з яго адхлынула, і знікла звычайная ўсмешка, твар быў злы, жорсткі.

— Ты… Ён першы раз сказаў Чарнушэвічу «ты». — Ты даручаў мне падпісваць звесткі, чаго ж цяпер крычыш? Я табе славу зрабіў — твой калгас

першы закончыў сяўбу, нават апярэдзіў «Бальшавіка». Сямнаццаць гектараў! У такой гаспадарцы — гэта дробязь.

Моўчкі выйшаў Чарнушэвіч з хаты. Твар гарэў, быццам па ім ударылі. Падвёў! Тодар капаў, капаў і падкапаўся. Наладжанае жыццё… Агата… і ўсё гэта можа рассыпацца з-за гэтага промаху. Але каму тады верыць, калі свой, родны чалавек падводзіць? На фронце было прасцей: вораг — ёсць вораг… А тут… Калі Тодар паклікаў яго на партсход, Чарнушэвіч разам з цeслярамі ставіў на хаце-чытальні кроквы. Чарнушэвіч спусціў з рыштавання ногі, хвілінку пасядзеў так, зірнуўшы наўкола, і адчуў, што яму моцна не хочацца злазіць уніз. Адсюль, згары, было відаць далёка наўкола — новыя хаты Зялёнага Луга, слупы з правадамі, млын, новы свіран, стайні, раку, а за ёй — у яркай зелені: калгасныя палеткі, ахутаныя лёгкім цёплым дымком. Не! Ва ўсім гэтым ляжыць і яго праца, яго любоў!

## XI

Ганна добра зразумела, аб чым казаў сын Васілю, быстраму хлапцу, выпраўляючы яго ў райком. І калі той пайшоў з хаты, старая спакойна, але ціха сказала сыну:

— Падумай, Тодар, што робіш! Калі я гаравала ў адзіноце, праліваючы слёзы над Антонавымі ордэнамі, не ведаючы, дзе ты, Юрка прыехаў, будаваў мне хату, быў — як сын, маткай клікаў. Мне яму рукі цалаваць трэба, Тодарка, зразумей гэта. Ён маё гора адзінотнае стараўся развеяць, за яго баянам прыйшлі сюды маладыя… Тодарка, сынок… Нашто з-за дробязі чалавека так нізка ставіць, ён жа сардэчны чалавек, свой!.. — Думак было многа, а слоў не хапала, ёй усё здавалася, што сын не заразумее яе, як след.

— Не аб гэтым, мама, гаворка.

Ён гэта сказаў — суха, адвярнуўся і рукой пачаў складаць у палявую сумку паперы. Перад ёй стаяў яе сын — малы, меншы… Ад таго, што парожні левы рукаў запраўлены за дужку, постаць незвычайна тонкая, простая. Але тонкі твар — ужо не хлапечы, сталасць і выпрабаванні зрабілі яго мужным. Зведзеныя ў адно бровы — упартая рыса характару. Зусім нядаўна ён прыбягаў з кніжкай са школы, шумна хваліўся матцы сваімі поспехамі… А цяпер? Ганна зразумела — не варта гаварыць.

Па дарозе запыліла машына, потым схавалася за прыдарожным купаўём і ўжо загойдалася на выгане — сіняя, рухавая, на фоне зяляніны.

— Харчанка едзе! Капітан! — дзятва апанавала машыну, і, вылазячы з яе, Харчанка павітаўся з дзятвой. Услед за сакратаром выйшлі яшчэ двое — той самы, што прыязджаў калісьці, і пажылы, лысы яўрэй у запыленым пінжаку. Яўрэй казаў да інструктара райкома:

— Надзвычай добрыя пасевы… Вы бачылі, якое проса? Тут людзі папрацавалі як мае быць.

— Да вайны Зялёны Луг быў лепшым калгасам, — казаў, ідучы, Харчанка. — Адраджаецца калгас, адраджаюцца і традыцыі. А, вось і сакратар! — Ён прывітаўся з Красуцкім. — А дзе галава?

— На будаўніцтве.

Харчанка сказаў да лысага:

— Агледзім.

Яны агледзелі ўсё: і свіран, і ферму, і стайню, пасядзелі каля млына, пабывалі на будаўніцтве хаты-чытальні. Харчанка папракнуў Чарнушэвіча,

што столь у хаце-чытальні нізкаватая, прапанаваў пабудаваць побач летнюю сцэну, пацікавіўся, калі была апошні раз кіно-перасоўка. Ён хадзіў па калгасу, аглядаў гаспадарку, гутарыў з людзьмі і бачыў, што добра і паўнакроўна жыве працоўная сям'я.

— За ўсё гэта вы малайцы! У вас ёсць усе магчымасці, каб зрабіць рашучы крок, — да заможнасці.

Чарнушэвіч адчуваў, як гарыць усё яго цела. Сакратар хваліць, а пра тое маўчыць. Няўжо на сходзе аб гэтым паставіць пытанне? Ён ужо сам гатоў быў сказаць, што пратэстуе супроць пастановы партарганізацыі — выключыць. Аднак, Харчанка апярэдзіў. Сказаўшы Красуцкаму, каб сабралі калгаснікаў на гутарку, ён абняў Чарнушэвіча за плечы і павёў з грудка людзей, якія хадзілі з імі.

— Ну, выкладай, — сказаў Харчанка і апусціўся на траву.

Уся яго постаць — мірная, спакойная. Ён з асалодай ляжыць на траве, яму прыемна глядзець на зялёна-блакітную роўнядзь ракі. Каўнер кіцеля расшпілены, у руках — галінка. Чарнушэвіч апусціўся побач. Лепячы цыгарку, парваў паперу. Харчанка пачаставаў папяросай. Чарнушэвіч не ведаў, з чаго пачынаць, і Харчанка здагадаўся:

— Выключылі? — Харчанка кіўнуў. — Значыць правільна. Але ты скажы — не дагледзеў ці надумысля?

І тут Юрку прарвала: заспяшаўся, каб усё, усё выкласці, нібы баючыся, што мірная постаць знікне, што будзе іншы перад ім чалавек. Яго не перапыняў, часам абмахваючыся галінкай, і потым сказаў:

— Перадаверыў і папаўся. Так заўсёды бывае, калі чалавек страчвае тое, што бальшавікі называюць пільнасцю. У цябе дзве памылкі, Чарнушэвіч. Першая ў тым, што ты, франтавік, салдат, вырашыў, што раз вораг знішчан на фронце, значыць, усё ў жыцці змянілася, усе супярэчнасці зніклі, запанавала згода. Другая ў тым, што, захапіўшыся адным, ты выпусціў з-пад увагі іншае. Мы хвалім цябе за тое, што ты добра адбудаваўся, што ў вас не на паперы, а на самай справе ёсць жывое спаборніцтва, што ў вас растуць кадры сельскіх камуністаў. Але ты забыў, што вакол цябе людзі і што дабрабыт гэтых людзей — аснова. Красуцкі правільна сфармуліраваў, што ты абмануў партыю, дзяржаву… А скажы… партарганізацыя знае, што не ты падпісваў рад звестак?

— Не, таварыш капітан… Але вы ўявіце… які тут вораг? Гэта ж мой цесць! Я яго добра ведаю…

— Добра? Радня значыць… Цікава!

Потым, калі яны ішлі на сход, Харчанка сказаў:

— На райкоме я пастараюся цябе адстаяць. Суровую вымову. Ты — франтавік, ты выправішся. А вот старшынёй табе аставацца не прыйдзецца. Як?

— Цяжка згадзіцца.

На сходзе гутарка ішла аб міжнародным становішчы і аб тым, як выконваецца краінай пасляваенная сталінская пяцігодка. Харчанка гаварыў жыва, вобразна і ўжо скора захапіў сваёй гутаркай усіх прысутных. Увага ўсіх прымусіла і прыезджых — лысага таўсцяка і інструктара — спыніць сваю гаворку. Яны цяпер, седзячы за сталом пад клёнамі, таксама захапіліся тым, што кажа сакратар райкома. Ён умеў падаваць факты, што і малапісьменны Нічыпар, і спрактыкаваны ўпаўнаважаны па нарыхтоўках з аднолькавай увагай слухалі яго. Прастатой і папулярнасцю адзначалася сакратарова мова, факты, якія ён падаваў, не чаргаваліся адзін за адным, а згрупоўваліся, з'ядноўваліся ў цэлае з-пад гэтага цэлага, як з-пад кама зямлі парастак, праглядаў ужо вынік.

І кожны, слухаючы Харчанку, думаў пра тое, што ў вялізнай, гіганцкай барацьбе за мір, за магутнасць краіны, за дабрабыт яе насельнікаў, і ён бярэ пасільны ўдзел, а многім хацелася, каб гэты ўдзел — быў большы.

Здавалася, непрыкметна сакратар райкома ўвёў у гутарку аб жыцці савецкай краіны і жыццё калгаса Зялёны Луг. Добрыя пасевы, добрыя будынкі, вялікія поспехі… Вялікі разварот перад яшчэ большымі здабыткамі. Дзяржава будзе дапамагаць, але дзяржава патрабуе адданай працы, сумленных адносін да сацыялістычнай маёмасці. Раптам Харчанка за руку падняў Красуцкага і сказаў — раскажы, як гэта ў вас… Многім гэты выпадак з 17 гектарамі быў невядомы… Як Тодар скончыў, Нічыпар з месца крыкнуў:

— Няхай рахункавод скажа, каму ён засеяў бульбу на выгарах?

Шаршэнь не адказваў. Дзвесце вачэй глядзелі на яго. Толькі дзве пары — Юркавы і Агаціны — не сачылі за ім.

— Ну, адказвайце.

Шаршэнь узняўся з месца. Прысадзісты, з кароткай моцнай шыяй, здаровы загар на буйным насмешлівым твары. Упэўненасцю, спакоем дыхае ўся гэтая постаць. Кпліва кідае Нічыпару:

— Хіба твой маёнтак захапіў? Раскрычаўся! Усеяў трыццаць сотак, па дзірвану. У мяне сям'я, зяць…

Моладзь дружна зарагатала.

— Значыць, зяцю сеялі? Ну, а як гэта ў вас выйшла, што наблыталі ў зводках?

— Ды ён не зблытае! — крычалі з месца. — Цесць зяцю дапамог!

На ўсё гэта не паспеў адказаць Стафан. Прабіраючыся паміж людзей, да яго падышоў упаўнаважаны па нарыхтоўках. І ў наступіўшай цішыні адбылася такая гутарка:

— Выбачайце… як ваша прозвішча?

— Шаршэнь.

— А імя, калі ласка?

— Вы тутэйшы?

— Жыву тут.

З месца сказала Ганна:

— З год, мусіць, як да мяне ў суседзі прыходзіў.

— Значыць, прыезджы? Выпадкам не з Міханавіч?

Шаршэнь маўчаў. Тады паднялася Агата і спакойна сказала:

— Так, таварыш, мы з Міханавіч! Тата, чаму ты маўчыш?

На шырокім дабротлівым твары прыезджага мільганула ўсмешка — некаторым здалося, вінаватая:

— Вам не вядома, таварыш Шаршэнь, прозвішча Рабіновіч? Соня Рабіновіч?

Усе ўбачылі, усмешка спаўзла з Шаршнёвага твару, схлынула кроў, быццам зусім іншы стаяў перад усімі чалавек. Лысы яўрэй павярнуўся да Харчанкі і сказаў:

— Выбачайце, што затрымаў. Зараз я вам усё растлумачу…

## XII

У 1943 годзе, у канцы зімы, немцы пачалі масавае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва. Двое, хлапец гадоў чатырнаццаці і маладая жанчына, Соня Рабіновіч, жонка савецкага афіцэра, вырваліся з мястэчка і, хаваючыся, прабіраліся да Міханавіч. Голад і стома прымусілі гэтых дваіх пакарыцца лёсу, а да ўсяго — яшчэ стаялі маразы, Соня была ў сукенцы, без паліто. Як сцямнела, яны пастукаліся ў хату… Ім адчынілі, накармілі, пусцілі на печ. Адна

калгасніца, добрая жанчына. Людзі не забыліся, што яны — савецкія людзі. А раніцай да гэтай калгасніцы прыйшлі мужчыны і сказалі, што трэба «гасцей» выправіць з сяла, бо немцы абвясцілі: тых, то будзе хаваць яўрэяў, будуць знішчаць таксама. Хлопчык паслухаў, глянуў у акно, падзякаваў за начлег і пайшоў праз аселіцу ў лес. Зmораная і хворая Соня плакала.

— Адвесці ў лес яе, да партызан!

І вось адзін з мужчын запрог каня, наклаў на калёсы сена, гэтым сенам прыкрыў Соню. Гаспадыня дала ёй стары кажушок. Мужчыны параілі, куды везці. Аднак, Соня Рабіновіч, змучаная, хворая жанчына, не даехала да партызан. Чалавек, які вёз яе, вырашыў інакш — здаць яе ў рукі немцам.

— Мы даведаліся пра гэта ў той жа вечар. Да нас у атрад прыйшоў з Міханавіч хлапец і папярэдзіў, каб мы выйшлі на адну лясную дарогу і падабралі там гэтую жанчыну. Трое з нас пайшло, чакалі аж да раніцы, на дарозе нікога не было. Пазней мы даведаліся, што немцы павесілі Соню Рабіновіч, як павесілі многіх. Чалавек, які аддаў у рукі немцаў няшчасную ахвяру, быў…

— Тата! — істэрычна крыкнула Агата, і гэты крык рэзкім болем азваўся ў сэрцах.

Ад’язджаючы, Харчанка сказаў да Чарнушэвіча:

— Ну як, лейтэнант? Цяжка і цяпер згаджацца? Падумай, прааналізуй, зрабі вынік. Жыццё!

«Ой, гады! Гады!» — гэтыя словы свідравалі мозг, ад іх ніяк нельга было адчапіцца. — «Мы білі фашысцкую погань, ахвяравалі жыццём, а тут… яны…» — Словы патрэбныя губляліся, ніяк нельга было дакладна сфармуляваць тое, што падказвалі пачуцці. І ён усё шаптаў: «Гады… гады!»

Ён кружыў па палях, сядзеў над ракой, але ў сяло не ішоў: баяўся сустрэць людзей. А ноч, духмяная, блакітная, зорная панавала над зямлёй. І ўсё навакол маўчала — і ноч, і палі, і салавей, нібы прыслухоўваліся да ўласнага сэрца, да свайго сумлення.

— Жыццё! — сказаў Харчанка і шырока кіўнуў правай рукой, нібы паказваючы яго, гэтае самае жыццё.

Трэба ісці… Куды? Ясна, што ў хату цесця ісці немагчыма. Там… Агата там! Яна нічога гэтага не ведала? Падумаць, падумаць, прааналізаваць, зрабіць вынікі… Чарнушэвіч ціха ступаў па вуліцы. Усюды было цёмна. Толькі ў вокнах Ганчынай хаты было святло. І ўспомніў Юрка, як клікаў старую Харчанка, як клікаў і ён яе — матка! Ён спыніўся перад асветленым акном і ўбачыў Тодара. Той быў цяпер перад ім, як на экране, і ён адзначыў — як змяніўся, пасталеў чалавек. Тодар сядзеў за сталом, над паперамі. На вялікім лісце падсыхалі фарбы загалоўка насценгазеты. У пальцах Тодар трымаў маленькую цаглінку фарбы і разглядаў яе. І таму, што гэта ўсё было так падобна да першай іхняй сустрэчы, Чаршушэвіч успомніў гутарку пра філанта… Зайсці? Ён стукнуў у шыбу, і Тодар, далонню захіліўшы лямпу, стаў углядацца ў сіні змрок акна…

— Хто там? — спытаўся Тодар.

*26/IX-47 г.*
*Церахавічы.*

***Першая публікацыя. Падрыхтоўка тэксту Міколы ТРУСА.***

**Зоя ТРАЦЦЯК**

# ТЭМА «НЕПРАДВЫЗНАЧАНАГА ЗДРАДНІЦТВА» Ў БЕЛАРУСКАЙ ДАКУМЕНТАЛЬНА-МАСТАЦКАЙ ВАЕННАЙ ПРОЗЕ

## (на прыкладзе твораў А. Адамовіча і М. Гарэцкага)

На сённяшні дзень творчасць і навуковая дзейнасць А. Адамовіча — неад'емная частка айчыннай гуманітарнай прасторы. Яго літаратурная спадчына асацыюецца з распрацоўкай дакументальна-мастацкай плыні ў беларускай ваеннай прозе. Паводле Л. Сіньковай, «у 1970—80-х, са з'яўленнем кніг А. Адамовіча (бестселер "Я з вогненнай вёскі…", 1975, у суаўтарстве з Я. Брылём і У. Калеснікам; "Блакадная кніга", 1982, у суаўтарстве з Д. Граніным), а таксама пасля выхаду славутага фільма "Ідзі і глядзі" (1985, рэжысёр Э. Клімаў, у аснове сцэнарыя А. Адамовіча — яго "Хатынская аповесць" і "Карнікі"…), — са з'яўленнем усяго гэтага самі дакументальна-мастацкія стратэгіі ў сувязі з гуманітарнай (антываеннай і антыфашысцкай) праблематыкай прыцягнулі надзвычай вялікую ўвагу міжнароднай творчай супольнасці...» [1, с. 72].

Беручы пад увагу самабытнасць пісьменніцкай манеры А. Адамовіча, зазначым, што яго набыткі ўзраслі на нацыянальнай глебе. У першай трэці XX ст. узаемапранікненне мастацкага і дакументальнага прыцягнула ўвагу М. Гарэцкага. Напрыканцы 1910-х і ў 1920-я гг. паэтыка факта ўражвала не толькі айчыннага класіка, але і заходнееўрапейскіх і амерыканскіх празаікаў, якія звярнуліся да батальнай тэматыкі. У кнігах А. Барбюса, Т. Бойда, Р. Олдынгтана, Л. Рэна, Э. Хемінгуэя, А. Цвэйга пераважаў не суб'ектыўны разгляд матэрыялу, а яго адлюстраванне ў аб'ектыўным рэчышчы. Мастакі слова карысталіся выключна рэальнымі імёнамі і геаграфічнымі назвамі, ваеннымі тэрмінамі і салдацкім жаргонам, скрупулёзна датавалі занатаванае. Характэрным стала імкненне да падкрэсленай «нелітаратурнасці» тэксту, які страціў асобныя мастацкія ўласцівасці. Такім чынам, мажліва сказаць, што «дакументальнае экстрэмальна пашырыла сферу эстэтычнага» [2, с. 71].

М. Гарэцкі асвойваў патэнцыял дзённікавых запісаў, нататак і эпісталярнай спадчыны, якія занялі пачэснае месца на старонках кнігі «На імперыялістычнай вайне» (1926). Пачынаючы з другой паловы 1960-х гг., характар дакументалізму змяняецца. А. Адамовіч ахарактарызаваў новую тэндэнцыю так: «Сёння літаратура адважылася на большае: дала слова (а калі дакладней — дае мікрафон) самой народнай памяці» [3, с. 542]. Акрамя аўтэнтычнага матэрыялу народнага наратыву пісьменнік звяртаўся да пратаколаў працэсаў над нацысцкімі злачынцамі, тэкстаў прамоў гітлераўскіх паплечнікаў, матэрыялаў, што датычыліся ваенных кампаній і нацыянальнай палітыкі фашысцкай Германіі. Празаік лічыў, што «…было б дзіўна, каб пасля замоўчвання найбольш значных фактаў чытач не кідаўся б на дакументы, не адчуваў бы пякучую неабходнасць ведаць факты, усе факты» [4, с. 409].

Дакументальную плынь у сучаснай беларускай прозе працягнула лаўрэатка Нобелеўскай прэміі (2015) С. Алексіевіч. Яе цыкл «Галасы ўтопіі» ўзнік, у тым ліку, пад уплывам кніг А. Адамовіча і В. Быкава (дарэчы, наміnанта 1996 г. на тую ж высокую ўзнагароду). Напрыканцы XX — на пачатку XXI ст. айчынная літаратурная дакументалістыка сутыкнулася з новымі выклікамі, працягнула пошукі мастацкіх прыёмаў, якія б адпавядалі спецыфіцы часу.

А. Адамовіч удумліва вывучаў спадчыну М. Гарэцкага. Вынікі яго даследавання выкладзены ў шэрагу публікацый, адной з найбольш грунтоўных падаецца кніга

(«раман-даследаванне» [5, с. 329]) «Браму скарбаў сваіх адчыняю…» Асобныя праблемы гарэцказнаўства паўсталі на старонках наступных выданняў: «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры», «Узаемадзеянне беларускай і рускай “ваеннай прозы” з еўрапейскай літаратурнай і гуманістычнай традыцыяй». Бясспрэчная вартасць даследаванняў А. Адамовіча вынікала з таго, што навукоўца звярнуў увагу на айчынных пісьменнікаў (у тым ліку і М. Гарэцкага), якія «шчодра чэрпалі з сусветнай літаратурнай скарбніцы і самі так ці іначай папаўнялі яе, апіраліся не толькі на нацыянальныя традыцыі, але і на “чужых” класікаў» [6, с. 116].

Разважаючы пра «вяртанне» рэабілітаванага М. Гарэцкага, што адбылося ў 1960-я гг., А. Адамовіч заўважыў: «Быццам вярнулася з далёкага небыцця ў сваю сістэму велізарная зорка і адразу пачала гравітацыйна ўплываць на ўсю сістэму і на кожную планету паасобку — і на тыя таксама, што з’явіліся, узніклі за час, пакуль зорка адсутнічала...» [7, с. 8]. Думку мажліва распаўсюдзіць і на творчасць самога А. Адамовіча, які зведаў уплыў папярэдніка (дарэчы, таксама грамадскага дзеяча, літаратуразнаўцы і мастака слова). Дадзены артыкул прысвечаны разгляду рамана «Карнікі: Радасць нажа, або Жыццяпіс гіпербарэяў» [8] (1988, фінальная версія) у кантэксце празаічных набыткаў М. Гарэцкага.

Адным з цэнтральных пытанняў, якое паўстала на старонках твораў М. Гарэцкага, было біблейскае «За што?» Упершыню яно выкрышталізавалася ў аповесці «Ціхая плынь» (1917—1930) і ў прыхаванай форме праявілася ў філасофска-алегарычных творах «Лявоніус Задумекус» (1931—1932) і «Скарбы жыцця» (1932—1935, 1937?). Мастак слова не заўсёды падаваў сфармуляваны адказ на гэтае пытанне, то засяроджваючыся на думцы пра «нізавошта» (сусвету ўсё роўна, што адбываецца з яго насельнікамі), то шукаючы першааснову асабістых і нацыянальных праблем у гісторыі беларусаў. У другой палове XX ст. стала відавочным, што сімбіёз абедзвюх версій (які не выключаў плюралізму ў тлумачэнні грамадскіх катаклізмаў) не страціў актуальнасці. Але, паводле М. Тычыны, акцэнты змяніліся: галоўным у рамане «Карнікі» «было пытанне, якое ён (А. Адамовіч. — *З. Т.*) не раз чуў з вуснаў сваіх герояў, апавядальнікаў, відавочцаў хатынскіх трагедый, а менавіта: а хто віноўнік усяго? Хто ўсё гэта рабіў? Як ён мог?» [9, с.10].

Генезіс праблемы здрадніцтва, ператварэння «свайго» ў «чужога», чалавека ў «карніка» падрабязна разгледжаны ў творчасці М. Гарэцкага. На пачатку стагоддзя мастак слова стварыў галерэю вобразаў, дзе знайшлося месца «фанабэрыстым і заядлым афіцэрам, рускім патрыётам, родам з дробнае шляхты Магілёўскае губерні» [10, с. 373], маладому паліцэйскаму надзірацелю, які не мог «прызнацца, ідучы пад ручку з паненкай, што на сустрэчу ў белай сярмяжцы цюхціць яго бацька» [11, с. 165], акупантам-немцам часоў Першай сусветнай, што лічылі беларускіх жанчын матэрыялам «дзеля паляпшэння заняпалых народаў і дзеля найлепшага прывіцця... культуры фізічным шляхам» [12, с. 150], бальшавіку Гаршчку, які змагаўся з контррэвалюцыянерамі, узначальваў карныя экспедыцыі на вёску. Пазней з’явяцца вобразы жахлівых налпаў, што вымушалі думаць «аб працоўным імпэце рабочае клясы, аб пяцігодцы, аб жыцці ў капіталістычных умовах» [13, с. 482]. Пісьменнік паглыбляўся ў дадзеную праблему, робячы акцэнт на ўсё больш адмоўных (пасля і звыродных) праявах прадажніцтва.

І згаданыя персанажы М. Гарэцкага, і карнікі А. Адамовіча паяднаны «псіхалогіяй непрадвызначанага здрадніцтва» [14, с. 206]. Кожная дзейная асоба атрымала ўнікальную гісторыю жыцця, што быццам бы тлумачыла яе ганебныя паводзіны. Звычайным матывам, што кіраваў і нацыянальнымі рэнегатамі, і занадта апантанымі змагарамі за пераможны рух камунізму, і дзірлівангераўскімі падначаленымі («карычневым “інтэрнацыяналам” забойц у дзеянні» [15, с. 314]), было эгаістычнае жаданне захаваць ці палепшыць жыццё, пазбавіцца ад пакутлівага пачуцця непаўнавартасці, рэалізаваць хваравітыя амбіцыі. Аповед, што нараджаўся ў двух мастакоў слова, выклікаў цяжкія пачуцці, бо чытач паглыбляўся ў сферу табуіраванага: разглядаў грамадска-палітычныя і псіхалагічныя анамаліі і паталогіі. Зварот да падобнай тэматыкі, асабліва на працягу XX ст., невыпадковы, бо «…аднойчы выказанае ўжо ня можа быць вернута ў хаос ніколі» [16, с. 398], яно заўжды гучыць як перасцярога для наступных пакаленняў.

Надзвычайная канцэнтрацыя траўматычных сітуацый у кнігах М. Гарэцкага і А. Адамовіча адбілася на творчай манеры пісьменнікаў, якія апавядалі пра хваробы душы карыстаючыся шэрагам мастацкіх прыёмаў. Аўтары звярталіся і да рэчыўнага свету (літоўскі хутарок як своеасаблівы персанаж у аднайменным апавяданні М. Гарэцкага), пейзажных замалёвак, якія ўвасаблялі напружанае чаканне катастрофы (спякотнае надвор'е ў «Карніках»), у тэкстах прысутнічалі прамыя характарыстыкі ўчынкаў персанажаў, час ад часу ўзнікалі гаваркія імёны (Тупіга).

Калі М. Гарэцкі засяродзіўся на выкладзе ваеннага матэрыялу ў форме, напрыклад, дзённікавых запісаў («На імперыялістычнай вайне»), то для А. Адамовіча ўлюбёным сродкам аповеду пра сусветны катаклізм быў унутраны маналог, што часам межаваў з плынню свядомасці. Мастак слова сутыкнуўся з шэрагам цяжкасцей: «…я ўсё вагаўся, надзяліць ці не надзяліць Тупігу “голасам”. І іншых карнікаў. Потым зразумеў: трэба менавіта знутры... Каб самімі сродкамі пісьма падкрэсліць, выказаць тую небяспечную ісціну, што мяжа паміж “чалавекам” і “карнікам” не абавязкова паталагічная, а часцей за ўсё толькі сацыяльная (памылковыя ідэі), псіхалагічная (не стрываў у нейкі момант, зламіўся)» [17, с. 376].

Творы М. Гарэцкага і А. Адамовіча вызначаліся арыгінальным мастацкім увасабленнем стану снення. Сон успрымаўся не толькі як абарончая рэакцыя арганізму на шокавыя ўздзеянні, але і як іншасвет, дзе раскрываўся патэнцыял асобы. Бачна адрозненне сненняў персанажаў-ахвяр і трызненняў наяве катаў. У першым выпадку размова ішла пра вяртанне да жыватворнай крыніцы мінулага, што не дазваляла знікнуць, страціць духоўную цэльнасць пад уплывам антыгуманных абставін. Сненні карнікаў — чарговая спроба знайсці лекі ад згрызот сумлення.

Абодва празаікі праводзілі паралелі паміж ваеннымі падзеямі і цяжкай, але марнай працай. Традыцыя атаясамліваць гэтыя феномены чалавечага быцця закладзена ў «Слове пра паход Ігаравы». Вайна-праца для пісьменнікаў XX ст. — не толькі паўсядзённая муштра, стварэнне фартыфікацыйных збудаванняў, абжыванне новых месцаў дыслакацыі, абарончыя і наступальныя аперацыі, дзейнасць медыцынскіх устаноў, але і рух канвееру забойства.

М. Гарэцкі арыгінальна падышоў да дадзенай тэмы, сфакусаваўшы ўвагу на працы душы яго персанажаў (Рускі, Лявон Задума). Дакументальна-мастацкі твор «На імперыялістычнай вайне» прысвечаны ў тым ліку і змаганню галоўнага героя з сабою за захаванне чалавечых якасцей, якія выпрабоўваліся звыродствам баявых дзеянняў, зносінамі з нядобразычлівымі калегамі па службе. Мастак слова не забыўся на дзейных асоб, якія не разважалі пра маральна-этычныя катэгорыі, падпарадкаваўшыся плыні вайны і інстынкту самазахавання. Яскравымі прыкладамі з'яўляюцца юнкер Шалапутаў, які хаваўся ад артабстрэлу разам з параненымі і абразіў прысутных, пайшоўшы ў дальні кут пакоя, дзе справіў лёгкую патрэбу [18, с. 36], і «“праўдзівыя героі” — падпрапаршчык Х. і старшы феерверкер Z., якія пасылалі па розных справах пад кулі ніжніх чыноў, а самі “рабілі” ў акопе і закапвалі лапатачкамі» [18, с. 72].

Натуралістычныя дэталі не столькі функцыянавалі як мастацкая правакацыя, колькі рабіліся ілюстрацыяй да працэсу расчалавечвання. Паводле М. Гарэцкага, у той ці іншай ступені яна закранула людзей з абсалютна розным досведам, сацыяльным статусам і ўзроўнем адукацыі. Нават Лявон Задума не пазбег такога лёсу. З аднаго боку, ён жахнуўся, пачуўшы няўдалы анекдот пра ворага: «Забіты нямецкі салдат абгарэў, троху падсмажыўся. Падышла свіння і выела яму нагу. Адным словам — свая сваіх не пазнала» [18, с. 50], а з другога — дазваляў сабе цынічныя заўвагі, пакутаваў ад выбухаў агрэсіі.

А. Адамовіч працягнуў разважанні М. Гарэцкага пра вайну-працу, але сканцэнтраваўся на адмоўным складніку: акрамя ўдзелу ў масавым вынішчэнні былых суайчыннікаў, яго персанажы спрабавалі адолець пачуццё пустэчы, якое ўзнікла, калі яны перайшлі мяжу, адчулі вынікі абсалютнага расчалавечвання. Толькі Тупіга так і не здолеў заўважыць, што ён ператварыўся ў недарэчны апарат, які абслугоўваў зброю. Крыўды мінулага быццам бы мурам аддзялілі яго ад болю сучаснасці. Персанажу здалося, што ў рэшце рэшт з аўтаматам у руках ён стаў гаспадаром сітуацыі, годным працаўніком, які раўнаваўся на «лепшага»: ката Дзірлевангера.

Іншыя персанажы А. Адамовіча выдаткоўвалі больш часу на тое, каб «працаваць» над сабою. Так, былы студэнт педагагічнага інстытута, савецкі афіцэр, палонны, а потым штурмфюрар Мураў'ёў, пакутуючы ад згрызот сумлення, пасля доўгіх пошукаў вартага параўнання пачаў атаясамліваць сябе са старажытнымі князямі і воінамі, што ішлі на службу да ханаў [8, с. 134]. Далей кожнае злачынства лёгка ператваралася ў мудры акт гуманізму, бо карнік, па выдуманай ім логіцы, займаўся нічым іншым, як выратаваннем сваёй краіны.

Паводле беларускага празаіка, «працаваў» і «звышчалавек» Дзірлівангер: ён адмыслова эксперыментаваў з «жывым матэрыялам». Паддоследнымі былі не толькі жыхары акупаваных тэрыторый, былыя палонныя і тыя, хто адчуваў непадробны антаганізм да савецкай улады, але і самі немцы: яго вайсковая адзінка складалася з маргіналаў («расавых адкідаў» [8, с. 161], паводле слоў іх непасрэднага кіраўніка), што старанна выконвалі загады, каб выкленчыць права на жыццё.

Ваенныя творы М. Гарэцкага і А. Адамовіча звязаны з беларускай фальклорнай традыцыяй. Шматлікія вобразы з вуснай творчасці пераасэнсоўваліся зыходзячы з павеваў часу. Так, хата, што «ў народнай аксіялогіі беларусаў была сімвалам найвялікшай каштоўнасці» [19, с. 527], дэсакралізавалася. Яшчэ на пачатку XX ст. у апавяданні «Літоўскі хутарок» М. Гарэцкі засведчыў, што жытло не выконвала ролі бяспечнага прытулку, дзе нараджалася новае жыццё і ўсё ішло сваім спрадвечным парадкам. М. Гарэцкі канстатаваў, што трансфармацыя адбылася, калі «парушаная» Монця апынулася на ганку роднага дома. Дзяўчына несла ў сабе дэструктыўны пачатак: нянавісць да немцаў-гвалтаўнікоў, агіду да ненароджанай істоты, пагарду да святароў (прадстаўнікоў заганнай цывілізацыі), праклён вайне. Катастрофа адбылася, уплыў знешніх і ўнутраных фактараў супаў, і канстанта сялянскага жыцця страціла сэнс. А. Адамовіч аформіў гэту думку ва ўсёй яе жорсткасці: «…вось жылі людзі, пад стрэхамі жылі і не ведалі, што самае небяспечнае месца зараз — свой дах, свае сцены. Тут чалавек, як у пастцы. Хата паказвае, дзе цябе шукаць. Але людзі, паводле звычкі, лічаць, што свае сцены дапамагаюць. Хіба што гарэць!» [8, с. 55]. Жудасным апафеозам становіцца ўвасабленне вогненнага апакаліпсісу ў Борках: у нішто знесены і людское жытло, і надзеі на выратаванне мірнага насельніцтва і (гіпатэтычнае) іх катаў, бо яны не ўхіліліся ад злачынства.

Айчынная ваенная проза XX ст. не абышла тэму ўзаемадачыненняў прадстаўнікоў розных этнасаў. І досвед шараговага, і веды асоб, што спазналі акупацыю, пацвярджалі няпэўнасць у выкарыстанні лексічнай адзінкі «вораг». Чужасць выходзіла за межы нацыянальнага менталітэту, бо ўніверсальным «ворагам» былі асобы, што пад уплывам абставін, забыліся на гуманізм.

Асобна абодва пісьменнікі разглядалі штодзённыя «раскаваныя» паводзіны германскіх салдат. Менавіта побытавае раз'яднала прадстаўнікоў розных этнасаў. Мацей Мышка з рамана «Віленскія камунары» М. Гарэцкага расчараваўся ў нямецкай культуры, калі пабачыў тыповых заваёўнікаў, што ніяк не маглі спатоліць голад, а потым не маглі ўтаймаваць розныя фізіялагічныя працэсы: «ідзе па вуліцы, есць, і выпусціць газы так, што ўсім каля яго чуваць…» [20, с. 212]. Нават Адамовічаў карнік Мельнічэнка, які не меў высокіх маральна-этычных правіл, не змог прызвычаіцца да паводзін «сябры» Поля (асабліва ў дачыненні да блізкіх: маці і будучай жонкі). Каларытныя звароты да нізавога кантраставалі з сапраўднымі духоўнымі дасягненнямі немцаў.

Вяртаючыся да міжкультурных зносін, адзначым, што знаёмства з нечым новым выклікала ў персанажаў непадробную цікаўнасць. Так, Лявон Задума з захапленнем глядзеў на цагляныя хаты і будынкі нямецкіх хутароў, брукаваныя дарогі і г. д. Яго ўражваў менавіта матэрыяльны складнік быцця за мяжой, а вось духоўнае выклікала шэраг пытанняў. М. Гарэцкі сведчыў, што персанаж не адчуваў асаблівага антаганізму ні да нямецкіх вайскоўцаў, ні да мірнага насельніцтва.

Беларуская ваенная проза XX ст. паступальна асвойвала прыёмы, звязаныя з інкарпараваннем дакументальных матэрыялаў у мастацкі тэкст. Адным з першых мастакоў слова, які пачаў сістэматычна эксперыментаваць у дадзенай плыні, — М. Гарэцкі. Кніга «На імперыялістычнай вайне» ўвабрала запісы з нататнікаў

празаіка, рэальныя і стылізаваныя лісты ад баявых таварышаў, прыдуманыя эпізоды. У другой палове стагоддзя дадзеная традыцыя была працягнута. Знакавай стала постаць А. Адамовіча: пісьменніка, які спалучыў і выдатнае веданне беларускай і замежных літаратур, і захапленне публіцыстыкай, і валоданне сучаснай яму грамадска-палітычнай сітуацыяй.

Раман «Карнікі» — твор, што вызначаецца шэрагам генетычных і тыпалагічных падабенстваў са спадчынай М. Гарэцкага. Абодва празаікі абапіраліся на айчынны фальклор, узнаўляючы і пераасэнсоўваючы сакральныя вобразы (хата, шлях). Значнае месца ў мастацкай канцэпцыі пісьменнікаў займала параўнанне вайны з працай. Працай паўсталі не толькі вайсковыя аперацыі, але і ўнутранае быццё персанажаў, якія ці спрабавалі захаваць гуманістычныя каштоўнасці, ці, адмовіўшыся ад іх, саматужна апраўдвалі-тлумачылі свой выбар. Той, хто станавіўся «непрадвызначаным здраднікам», крыўдаваў на іншых персанажаў, якія не пагадзіліся з іх логікай. У катэгорыю здраднікаў траплялі дзейныя асобы з абсалютна розным досведам і адукацыяй. Пісьменнікі падкрэслівалі, што за калейдаскопам з тлумачэнняў, абвінавачванняў і самаўхвалы хавалася пустэча: персанаж механічна працягваў існаваць, але ён адчуваў, што назаўжды апаганіў душу. Мастакі слова звярталіся да балючых, табуіраваных ці паталагічных працэсаў, каб увасобіць подых сучаснасці, выявіць сапраўднае аблічча вайны. М. Гарэцкі і А. Адамовіч разважалі і пра міжэтнічныя зносіны, якія набывалі надзвычайную вастрыню, калі справа даходзіла да татальных узброеных канфліктаў.

## Спіс літаратуры:

1. Сінькова, Л. Беларуская мастацкая традыцыя ў творах non-fiction С. Алексіевіч / Л. Сінькова // Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні: матэтыялы Міжнар. навук. канф. (Мінск, 7-8 кастрычніка 2014 г.) / прадм. і ўклад. С. Гараніна; навук. рэд. А. Лакотка; Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. — Мн.: Права і эканоміка, 2014. — С. 71—76.

2. Стральцова, В. Беларуская аўтабіяграфічная проза канца ХХ стагоддзя як мастацкая сістэма: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.01.01, 10.01.08 / В. Стральцова; Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. — Мінск, 2000. — 19 с.

3. Адамович, А. Взаимодействие белорусской и русской «военной прозы» с европейской литературной и гуманистической традицией / А. Адамович // Собрание сочинений: в 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1982. — Т. 3. — С. 539—543.

4. Адамович, А. Ответы на анкету «Вопросов литературы» традицией / А. Адамович // Собрание сочинений: в 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1982. — Т. 2. — С. 409—411.

5. Тычына, М. Алесь Адамовіч / М. Тычына // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. НАН Беларусі, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — 2-е выд. — Мн.: Беларус. навука, 2002. — Т. 4. — Кн. 1. — С. 319—342.

6. Бугаёў, Д. У пошуках праўды і справядлівасці (Алесь Адамовіч) / Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны. — Мн.: Маст. літ., 2001. — С. 108—118.

7. Адамовіч, А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» / А. Адамовіч. — Мн.: Выд-ва БДУ, 1980. — 224 с.

8. Адамович, А. Каратели (Радость ножа, или Жизнеописание гипербореев) / А. Адамовіч // Собрание сочинений: в 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1983. — Т. 4. — С. 5—232.

9. Тычына, М. Называць усё сваімі імёнамі / М. Тычына // А. Адамовіч. Выбраныя творы; уклад. і камент. Н. Адамовіч і М. Тычыны, прадм. М. Тычыны. — Мн.: Кнігазбор, 2012. — С. 5—18.

10. Гарэцкі, М. Пагранічны інцыдэнт на Амуры / М. Гарэцкі // Збор твораў: у 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1984. — Т. 1. — С. 372—376.

11. Гарэцкі, М. Будзённыя з’явы / М. Гарэцкі // Творы. — Мн.: Маст. літ., 1990. — С. 164—165.

12. Гарэцкі, М. Літоўскі хутарок / М. Гарэцкі // Збор твораў: у 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1984. — Т. 1. — С. 140—154.

13. Гарэцкі, М. Лявоніус Задумекус / М. Гарэцкі // Выбраныя творы. — Мн.: Кнігазбор, 2009. — С. 471—523.

14. Корань, Л. Аб эстэтычнай рэакцыі чытача на аповесць А. Адамовіча «Карнікі» / Л. Корань // Цукровы пеўнік: Літ.-крыт. артыкулы. — Мн.: Маст. літ., 1996. — С. 206—213.

15. Адамович, А. Мысль разрешить / А. Адамовіч // Собрание сочинений: в 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1983. — Т. 4. — С. 312—319.

16. Бахарэвіч, А. Яго крыжовы паход / А. Бахарэвіч // Гамбурскі рахунак Бахарэвіча. — Радыё Свабода, 2012. — С. 397—406.

17. Адамович, А. Чтобы не прозвучал «стартовый» выстрел / А. Адамовіч // Собрание сочинений: в 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1983. — Т. 4. — С. 372—381.

18. Гарэцкі, М. На імперыялістычнай вайне (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы) / М. Гарэцкі // Збор твораў: у 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1985. — Т. 3. — С. 5—128.

19. Валодзіна, Т. Хата / Т. Валодзіна // Беларуская міфалогія: Энцыкл. слоўнік / склад. І. Клімковіч. — 2-е выд., дап. — Мн.: Беларусь, 2006. — С. 527—528.

20. Гарэцкі, М. Віленскія камунары / М. Гарэцкі // Збор твораў: у 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1985. — Т. 3. — С. 131—344.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 24 студзеня 2017 года.

## Рэзюмэ

**Зоя ТРАЦЦЯК**

### Тэма «непрадвызначанага здрадніцтва» ў беларускай дакументальна-мастацкай ваеннай прозе (на прыкладзе твораў А. Адамовіча і М. Гарэцкага)

Артыкул прысвечаны параўнальна-супастаўляльнаму вывучэнню ваеннай прозы А. Адамовіча і М. Гарэцкага. Даследуюцца дакументальна-мастацкія творы пісьменнікаў, прысвечаныя тэме здрадніцтва. Разглядаецца яго сацыянальна-гістарычныя і псіхалагічныя перадумовы. Вылучаюцца два тыпы персанажаў: асобы, што імкнуліся да захавання гуманістычных каштоўнасцей, і людзі, якія шукалі апраўдання ўласным ганебным учынкам. Прасочваецца ўплыў спадчыны М. Гарэцкага на раман А. Адамовіча «Карнікі».

**Ключавыя словы:** параўнальна-супастаўляльнае літаратуразнаўства, дакументальна-мастацкая проза, ваенная проза, тэма здрадніцтва, натуралістычная дэталізацыя, гуманістычныя каштоўнасці.

## Summary

**Zoya TRATSIAK**

### Topic of «unpremediated betrayal» in belarusian documentary-fictional war prose (on the example of A. Adamovich's and M. Haretsky's writings)

This article is devoted to comparative-contrastive study of war prose by A. Adamovich and M. Haretsky. Documentary-fictional works dedicated to the topic of betrayal are studied. Its social, historic and psychological background is singled out. Two types of characters are distinguished. They are the people who tied to preserve human values and the personalities who were seeking for some excuses for their appalling deeds. The influence of M. Haretsky's heritage on the novel 'The Chasteners' by A. Adamovich is pointed out.

**Keywords:** comparative-contrastive literary studies, documentary-fictional prose, war prose, the topic of betrayal, naturalistic details, human values.

Сяргей КАВАЛЁЎ

# ХРОНІКА БЛІСКУЧАГА ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ

***Масквін,*** *А. Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць / А. Масквін. — Мінск: Логвінаў, 2016. — 438 с.*

Апошнім часам за межамі Беларусі актыўна развіваецца беларусістыка, з'яўляюцца цікавыя публікацыі ў Вялікабрытаніі, Германіі, Аўстрыі, Славакіі, Польшчы, якія не толькі сведчаць пра ўвагу замежных даследчыкаў да беларускай мовы, літаратуры, культуры, але і ўносяць прыкметны ўклад у асваенне новых тэм і метадаў даследавання, прымушаюць айчынных філолагаў уключацца ў дыскусію, актывізаваць уласную працу. Сярод найбольш значных публікацый замежных літаратуразнаўцаў можна назваць шэраг артыкулаў Гун-Брыт Колер, манаграфіі «Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day» (Лондан, 2010) Арнольда Макміліна, «Białoruski postmodernizm. Liryka pokolenia Bum-Bam-Litu» (Варшава, 2009) Катажыны Бартноўскай, «Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze» (Люблін, 2011) Беаты Сівэк. Вельмі важна, што гэтыя аўтары публікуюць свае працы таксама ў Беларусі ў перакладзе на беларускую мову (на жаль, наватарскія ў тэматычным плане манаграфіі К. Бартноўскай і Б. Сівэк пакуль па-беларуску не выдадзены). Адной з найбольш адметных прац апошніх гадоў з'яўляецца манаграфія Андрэя Масквіна пра беларускі тэатр і драматургію 20-х гг. XX ст., выдадзеная ў 2013 г. у Варшаве пад назвай «Teatr białoruski: 1920—1930. Odrodzenie i zagłada», а ў 2016 г. у Мінску ў перакладзе Марыі Пушкінай і Алены Пятровіч — як «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць».

Ураджэнец Беларусі (нар. у 1963 г. у Нясвіжы), выпускнік Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладчык Варшаўскага ўніверсітэта Андрэй Масквін добра вядомы ў Беларусі, Расіі і Польшчы як тэатральны крытык, перакладчык і папулярызатар усходнеславянскай драматургіі, аўтар шэрагу цікавых інтэрв'ю з беларускімі і рускімі мастакамі, паэтамі, тэатральнымі рэжысёрамі. У шырокім моры яго культурна-мастацкіх і навуковых захапленняў можна вылучыць тры асноўныя кірункі.

Падчас навучання на дактаранцкіх студыях пры кафедры польскай культуры Варшаўскага ўніверсітэта А. Масквін займаўся даследаваннем рэцэпцыі творчасці Станіслава Пшыбышэўскага ў рускай культуры пачатку XX ст. Плёнам яго даследчыцкай працы сталіся шматлікія артыкулы ў польскіх навуковых часопісах, абароненая дысертацыя і ўрэшце выдадзеная ў 2007 г. манаграфія «Stanisław Przybyszewski w kulturze rosyjskiej końca XIX — początku XX wieku».

Пасля абароны дысертацыі А. Масквін працягваў нейкі час публікаваць артыкулы пра С. Пшыбышэўскага, умацоўваючы сваё рэнамэ даследчыка рэцэпцыі творчасці гэтага пісьменніка ў рускай культуры, але неўзабаве ў друку пачалі з'яўляцца яго беларусазнаўчыя артыкулы, напрыклад, пра рэцэпцыю творчасці Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Ларысы Геніюш у Польшчы.

Крыху пазней нарадзіўся і аформіўся найважнейшы навукова-выдавецкі праект Андрэя Масквіна: падрыхтоўка і выданне разам з калектывам маладых

польскіх перакладчыкаў шэрагу анталогій новай еўрапейскай драматургіі: рускай, беларускай, украінскай, славацкай. І менавіта беларускай драматургіі было аддадзена найбольш увагі; на працягу 2011—2015 гг. выйшла тры тамы: «Nowa dramaturgia białoruska» (Варшава, 2011), «Nowa dramaturgia białoruska. Życie w pułapce» (Варшава, 2014), «Nowa dramaturgia białoruska» (Варшава, 2015). Прынцыповую нязгоду выклікала, што праўда, уключэнне ў анталогію пад назвай «Nowa dramaturgia **białoruska**» выключна **рускамоўных** п'ес, без аргументацыі такой канцэпцыі ў прадмове, без вытлумачэння польскаму чытачу спецыфікі моўнай сітуацыі ў Беларусі альбо проста выкарыстаўшы больш нейтральную назву: «Nowa dramaturgia **Białorusi**».

Можна заўважыць, што А. Масквін пасля выдання манаграфіі пра С. Пшыбышэўскага доўга шукаў новую тэму і свой уласны, «фірмовы» кірунак даследавання, публікуючы артыкулы пра польска-беларускія і польска-расійскія культурныя сувязі, гісторыю беларускай літаратуры XX ст., найноўшую расійскую і беларускую драматургію, сучасны расійскі і беларускі тэатр. Цяжка было здагадацца, які шлях абярэ ў рэшце рэшт даследчык. Здавалася, гэта будзе сучасная расійская драматургія і яе рэцэпцыя ў Польшчы, але нечакана А. Масквін выдаў у 2013 г. аб'ёмную (435 с.) манаграфію «Teatr białoruski: 1920—1930. Odrodzenie i zagłada», на падставе якой быў зроблены і апублікаваны ў выдавецтве «Логвінаў» беларускі пераклад: «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць». Гэтая кніга сталася прыемным сюрпрызам для ўсіх, хто цікавіцца беларускай драматургіяй, тэатрам, культурай. Публікацыя выклікала пазітыўны рэзананс як у Польшчы, так і ў Беларусі, адбыўся шэраг прэзентацый кнігі — у тым ліку ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, якім кніга прысвечана.

Безумоўна, у манаграфіі А. Масквіна, як у кожным даследаванні, ёсць свае вартасці, недахопы, дыскусійныя моманты, пра што скажу ніжэй. Але бясспрэчным з'яўляецца факт, што гэта цалкам новая, піянерская праца ў кантэксце польскай тэатралогіі, якая ўпершыню была звернута да гісторыі беларускага тэатра, а на фоне аналагічных публікацый у Беларусі — найбольш поўнае, сістэматызаванае даследаванне станаўлення айчыннага тэатра ў 20-я гг. XX ст.

Часта бывае так, што рэкламная анатацыя, змешчаная на адвароце тытульнай старонкі альбо напрыканцы кнігі, разыходзіцца са зместам гэтай кнігі, рэальная каштоўнасць выдання відавочна «не дацягвае» да абвешчанай напачатку аўтарам альбо рэдактарам. У выпадку манаграфіі «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць» анатацыя не выклікае пярэчання пасля прачытання кнігі, з ёй цалкам згаджаешся і нават узнікае жаданне працытаваць фрагмент анатацыі ў рэцэнзіі: «У кнізе ўпершыню паўстае шмат імёнаў і падзей, якія ў савецкі час былі выкраслены з нашай культурнай памяці. Крок па кроку, рэканструюючы падзеі той пары, аўтар звяртаецца да крыніцаў, доўгія часы недаступных для даследчыкаў, такім чынам вяртаючы беларускаму тэатру ягоную памяць і гісторыю. Гэта той тэатр — па-сапраўднаму сучасны, авангардны і жывы, які мог бы адбыцца, але трапіў пад нож рэпрэсіўнай машыны, маштаб дзейнасці якой для нашай культуры стаўся катастрафічным» (с. 2).

Абапіраючыся на архіўныя матэрыялы (напрыклад, рэжысёрскія экзэмпляры п'ес, перапіску і ўспаміны рэжысёраў і акцёраў), газетныя публікацыі 20—30-х гг. (рэцэнзіі на спектаклі, дыскусійныя артыкулы), Андрэй Масквін скрупулёзна, падрабязна (больш падрабязна, чым усе яго папярэднікі) апісвае легендарныя спектаклі БДТ-1 і БДТ-2 («На Купалле», «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Цар Максімільян», «Апраметная», «Сон у летнюю ноч» і інш.), узнаўляе па гадах і нават па месяцах тэатральны працэс у Беларусі і ўнікальную атмасферу таго часу: творчую і трагічную адначасова.

У манаграфіі «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць» выкарыстана багатая навуковая літаратура на беларускай, рускай і польскай мовах. Пры

апісанні спектакляў А. Масквін абапіраецца не толькі на архіўныя матэрыялы і рэцэнзіі тагачасных крытыкаў, але таксама на некаторыя працы сваіх папярэднікаў (напрыклад, на публікацыі У. Мальцава і Т. Катовіч, найлепшых у Беларусі знаўцаў гісторыі БДТ-2). Праўда, у адрозненне ад польскага выдання, у беларускім чамусьці няма спіса выкарыстанай літаратуры.

Прачытаўшы кнігу амаль на адным дыханні, разумееш, што не столькі аналітычная глыбіня ці арыгінальнасць інтэрпрэтацый робяць на цябе як на чытача ўражанне, а менавіта старанная, прафесійная рэканструкцыя ўнікальнага для гісторыі беларускага тэатра дзесяцігоддзя, падрабязныя, дэталёвыя апісанні знакамітых і забытых сёння спектакляў, працэсу падрыхтоўкі і пасляпрэм’ернай рэцэпцыі спектакляў у тагачаснай прэсе, вытрымкі з партыйных пратаколаў і пастаноў у галіне тэатральнага мастацтва.

Напрыклад, некалькі старонак манаграфіі прысвечана бурлівай дыскусіі вакол спектакля БДТ-2 «Апраметная» паводле аднайменнай нацыянальна-адраджэнскай п’есы Васіля Шашалевіча. «Толькі М. Таўбэ ацаніў гэты спектакль надзвычай высока. Ён адзначыў выключную прыгажосць сцэнаграфіі і найноўшы ўзровень яе тэхнічнага выканання. Павуціна змяняе адценні і стварае ўражанне сапраўднага падземнага каралеўства. Музыка ўмела дапасаваная да кожнага руху і слова, а выканаўцы выдатна спяваюць і танчаць. <…> У сваю чаргу У. Лілін і В. Вольскі не хавалі абурэння з той нагоды, што «прасякнуты цьмянай і загадкавай містыкай» спектакль знаходзіцца ў рэпертуары БДТ-2 і нават быў выбраны для адкрыцця сезона ў сталіцы. «Тэксту зусім няма, а тое, што ёсць, — благое і нікчэмнае. Апраметная, ведзьмякі, чэрці — гэта безумоўна намёк на царскую Расію і панскую Польшчу», — пісаў У. Лілін. <…> Прысутныя ў зале рабочыя кепска прынялі спектакль. Калі акцёры выйшлі на паклон, яны гучна свісцелі і тупалі нагамі» (с. 191—192).

Калі ж казаць пра недахопы кнігі А. Масквіна, перш за ўсё трэба адзначыць кампазіцыйныя хібы. Не зразумела, чаму раздзел пра БДТ-2 атрымаўся ў два разы большы, чым пра БДТ-1: БДТ-1 распачаў сваю дзейнасць раней і ў яго рэпертуары асноўныя тэндэнцыі развіцця нацыянальнага тэатральнага мастацтва адлюстраваліся больш выразна. Пра вандроўны тэатр Галубка апавядаецца ў апошнім, трэцім раздзеле манаграфіі на той падставе, што ў 1931 г. (у час, які выходзіць за рамкі даследавання!) калектыў атрымаў назву БДТ-3, але ж тыпалагічна трупа Галубка — а тым больш сам Галубок як драматург і рэжысёр — бліжэй да аматарскіх вытокаў беларускага тэатра, да такіх творцаў, як Ігнат Буйніцкі і Фларыян Ждановіч. Кампазіцыйныя хібы здараюцца і ў асобных падраздзелах: напрыклад, у падраздзеле «Гістарычныя спектаклі» (Раздзел 1.) А. Масквін, парушаючы храналагічную паслядоўнасць з’яўлення спектакляў на сцэне БДТ-1, спачатку коратка згадвае пастаноўкі п’ес «Скарына» Міхайлы Грамыкі і «Вір» Яўгена Рамановіча, а потым падрабязна апісвае пастаноўку «Кастуся Каліноўскага» (аўтар і рэжысёр — Еўсцігней Міровіч). Безумоўна, «Кастусь Каліноўскі» — знакавы спектакль і архіўных матэрыялаў пра яго захавалася больш, але для разумення спецыфікі развіцця беларускага тэатра, нацыянальнай драматургіі і ментальнасці тагачаснага грамадства якраз важна, што спачатку з’явіўся спектакль пра XIX ст., потым — на хвалі поспеху «Каліноўскага» — менш паспяховы спектакль пра XVI ст. і нарэшце зусім без поспеху — спектакль пра XIII ст., пра часы Вялікага Княства Літоўскага (спроба гістарычнай рэтраспекцыі, вяртання да вытокаў беларускай дзяржаўнасці).

Гісторыя БДТ-1 разглядаецца аўтарам у жанрава-тэматычным аспекце, гісторыя БДТ-2 і БДТ-3 — у храналагічным, змена аўтарскіх стратэгій робіць манаграфію больш разнапланавай і цікавай для чытання, аднак цяжка пагадзіцца, што іскрамётная купалаўская «Паўлінка» з’яўляецца найлепшым прыкладам «сямейнай трагедыі», «Раскіданае гняздо» — усяго толькі «вобразам беларускай вёскі», а «Тутэйшыя» ўвогуле не падпадаюць пад прапанаваную класіфікацыю (дарэчы,

пра адважную пастаноўку «Тутэйшых» Мікалаем Паповым у 1926 г. А. Масквін піша да крыўднага мала і ўклад гэтага выдатнага рускага рэжысёра ў беларускае тэатральнае мастацтва відавочна недаацэньвае, у адрозненне ад укладу Сяргея Розанава, якому прысвечана амаль 60 старонак манаграфіі).

З пункту гледжання літаратуразнаўцы, у манаграфіі пра станаўленне беларускага тэатра ў 20-я гг. ХХ ст. мала ўвагі прысвечана развіццю *драматургіі*, аналізуюцца толькі асобныя п’есы У. Галубка, Е. Міровіча, М. Грамыкі, В. Шашалевіча, Р. Кобеца, увасобленыя на сцэнах трох дзяржаўных тэатраў Савецкай Беларусі. Але даследаванне называецца «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць», варта было б згадаць у кнізе і *непастаўленыя* п’есы Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага (чаму не пастаўленыя?), большую ўвагу прысвяціць драматургіі Францішка Аляхновіча і Леапольда Родзевіча, а таксама — для параўнання з беларускімі савецкімі тэатрамі — дзейнасці Беларускага тэатральнага таварыства ў Вільні.

Частковы адказ на сваё пытанне рэцэнзент атрымаў у прыватнай размове з А. Масквіным: выявілася, што даследчык рыхтуе асобную працу пра беларускую драматургію першай трэці ХХ ст., у якой падрабязна будуць аналізавацца творы як беларускіх савецкіх, так і заходнебеларускіх аўтараў.

Адзначаныя ў рэцэнзіі недахопы і хібы не змяншаюць навуковай і грамадскай каштоўнасці манаграфіі Андрэя Масквіна «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць». Унікальнасць гэтай кнігі заключаецца ў тым, што яна пераканаўча паказвае, як маленькая нацыя пры больш-менш спрыяльных культурна-гістарычных варунках можа за дзесяць гадоў выканаць у галіне развіцця тэатра працу, на якую вялікім нацыям спатрэбіліся стагоддзі: ад аматарскіх гурткоў перайсці да прафесійных калектываў, стварыць нацыянальную драматургію, творча выкарыстоўваючы здабыткі расійскага тэатральнага мастацтва знайсці свой адметны спосаб на пастаноўкі сусветнай класікі: Эўрыпіда, Шэкспіра, Мальера, Жулаўскага. Паказвае і адваротны працэс: як камуністычная ўлада, змяніўшы стаўленне да нацыянальнай культуры з пазітыўнага на негатыўнае, за кароткі час знішчае ўнікальны набытак дзесяцігоддзя, а потым і фізічна распраўляецца з тэатральнымі творцамі.

Прысвечаная перыяду 20—30-х гг. мінулага стагоддзя манаграфія «Беларускі тэатр 1920—1930-х: адабраная памяць» тлумачыць многія асаблівасці стану сучаснага беларускага тэатра: яго празмерную залежнасць ад улады, ідэалагічны і эстэтычны застой, капіраванне рускіх і савецкіх узораў, боязь авангарда і эксперымента на сцэне, арыентацыю на забаўляльнасць і відовішчнасць, падпарадкаванне густам правінцыйнай публікі. У гэтым заключаецца актуальнасць і грамадская значнасць даследавання Андрэя Масквіна.



Міхась ТЫЧЫНА

# ЯНКА БРЫЛЬ І ЛІТАРАТУРНЫ ЛАНДШАФТ XX СТАГОДДЗЯ

Сусветная літаратура XX стагоддзя не супадае з яе каляндарнымі межамі: мінулы век у Францыі пазначыў сябе ў момант публікацыі «Кветак зла» Ш. Бадлера і Парыжскай камуны, у Англіі гэту мяжу ў п'есах-дыскусіях і «новай драме» вылучыў Б. Шоў, у Германіі ў 1900 годзе «па ступенях канца мінулага стагоддзя» сышоў філосаф Ф. Ніцшэ, у Беларусі ў тым жа 1900 годзе пакінуў белы свет Ф. Багушэвіч...

На мяжы стагоддзяў нарадзіліся будучыя класікі беларускай літаратуры К. Чорны, У. Дубоўка, У. Жылка, А. Бабарэка, С. Баранавых... Гэты час апяваў Э. Верхарн: 1900 год успрымаўся «як парог, за якім паследуюць новыя адкрыцці, незвычайныя перамогі розуму, пераможнае шэсце чалавека-творцы». Т. Ман паказаў на «канец веку» пачатку Першай сусветнай вайны 1914 г.: «...гэта гістарычная вяха, якая адзначыла канец аднаго свету і пачатак чагосьці зусім новага». Новы век у абліччы сусветнай катастрофы 1914—1918 гг. пачаў разбуральныя рэвалюцыі, паўстала эпоха сацыяльных утопій і глабальнага крызісу.

Менавіта так і такім успрымаў Янка Брыль з першых гадоў існавання навакольны свет. У часы дзяцінства (будучы народны пісьменнік Беларусі нарадзіўся 4 жніўня 1917 года) гэта была паўднёвая экзотыка: горад Адэса на ўзбярэжжы чароўнага Чорнага мора стаў для яго старэйшых братоў і яго самога, малога, пяцігадовага, легендай. Пазней ён з гумарам згадваў яшчэ аднаго будучага народнага пісьменніка Беларусі Пімена Панчанку, які нарадзіўся 23 жніўня 1917 года, адно што на супрацьлеглым баку тагачаснай тэрыторыі Расійскай імперыі, а менавіта ў горадзе Рэвелі (цяпер Талін) у беларускай сям'і, якая апынулася там напярэдадні Першай сусветнай вайны ў пошуках заробку. Бацька і маці — беззямельныя сяляне з Міншчыны — вярнуліся ў Беларусь у 1921 г.

«Душа — не падарожніца», — згадваў у сталыя гады Янка Брыль выказванне Эмерсона. — У тым сэнсе, што куды б мы ні ехалі, яна — заўсёды дома... З маленства, з першых дзён свядомасці прыпамінаецца салодкае і светлае імкненне да незвычайнага. Знаёмае, абжытае — хоць і за першыя тры ці чатыры гады — вельмі прыемна было нечакана па-іншаму ўбачыць праз акенца на гарышчы або з воза сена, — якая, божа мой, вышыня!.. Свет адкрываўся куды больш прыгожа не толькі праз жоўтае ці зялёнае шкельца разбітай бутэлькі, але і ў той гімнастычнае паставе, калі ты раптам, па прыкладу трошкі старэйшага або хутчэй па нейкай інтуіцыі, нагінаўся і, ушчаміўшы галаву паміж каленямі, глядзеў назад. Усё пановаму, і тое самае, а як незвычайна прыгожа!.. Відаць, ад малечай наіўнасці ідзе і тое, што згадваецца даўно і чамусьці даволі часта...»

Прыгадваў Янка Брыль і словы, нечакана звернутыя менавіта да яго спадарожнікам, баявым партызанскім разведчыкам, які, слухаючы ўважліва, раптам вынес прысуд; «Ты, брат, павінен усё гэта апісаць!»

Жаданне «апісваць» убачанае, пачутае, прадуманае выявілася ўжо ў маленстве пісьменніка, калі ён быў уражаны нечаканым адкрыццём аб тым, што ў яго па сутнасці «было два маленствы». Бацька Янкі, Антон Данілавіч Брыль, з ранняй маладосці працаваў на чыгунцы ў Адэсе правадніком. Не будучы па натуры селянінам, хутчэй за ўсё адчуваў сябе рабочым, пралетарыем, прысылаў сям'і грошы ў беларускую вёску Загора, паблізу ад Міра на Наваградчыне, дзе гаспадарыла маці Анастасія Іванаўна, або «гаспадар», «сяды-тады наязджаючы госцем дахаты». Калі пачалася Першая сусветная вайна, бацька, паводле пазнейшых успамі-

наў Янкі Брыля, «узяў дый наогул забраў сям'ю назаўсёды ў Адэсу, усё вясковае дабро пакінуўшы адной з дзвюх замужніх дачок». Менавіта тады і там, у Адэсе, на ўзбярэжжы Чорнага мора, нарадзіўся самы малодшы ў сям'і — Янка.

Улетку 1922 года бацька, «знясілены доўгай хваробай, паддаўся жаночым уговорам» і вярнуўся з меншымі дзецьмі на радзіму ў Загору. Яна ўжо была за мяжой, у тагачаснай Польшчы, але Антон Данілавіч, як не адзін з жыхароў Заходняй Беларусі, лічыў мяжу часовай, бо колькі разоў яна пераходзіла з чужых рук у рукі і як беларусы перагукаліся адно з адным, «Ты — з Заходняй, я — з Усходняй, нашай Беларусі»: «Адкрыецца — зноў вернемся ў Адэсу». Акурат сям'і не шанцавала — бацька ў лютым дваццаць чацвёртага зноў захварэў і памёр. Усё легла на жаночыя плечы маці, Анастасіі Іванаўны, — тры хлопцы, з якіх старэйшаму не было яшчэ чатырнаццаці гадоў. Два старэйшыя браты, «маміна горкая годнасць — «вучоныя», засталіся ў горадзе Адэса, які апынуўся за мяжой, а яна «і не думала адкрывацца», паводле слоў іх самага малодшанькага брата Янкі, які ўжо ахвотна зачытваў пісьмы, браты іх «скупа пісалі адтуль».

Пражытае і перажытае сям'ёй і самім Янкам Брылём на працягу сямідзесяці пяці гадоў — «гэта і трагедыі, і няшчасці, і беды, і светлыя мары і радасці, і глыбокая вера ў людскасць ад нязломнага духу» — усё, што вярэдзіла душу і розум, было расказана пісьменнікам праз шмат часу, у 1990 годзе, у аповесці «Муштук і папка». Толькі ў жніўні сорак дзявятага года, калі Янка Брыль, праз дваццаць сем гадоў пасля выезду з Адэсы, наведаў горад свайго дзяцінства: «Таго амаль легендарнага Валодзі, які павінен быў, — як узгадваў Янка Брыль, — забраць мяне з заходнебеларускай вёскі ў савецкі горад, як толькі я падрасту, а брат, закончыўшы свой сельгасінстытут, усталюецца ў пэўную самастойнасць. З гэтага не атрымалася... А ў трыццаць восьмым Валодзю закатавалі ў Белай Царкве, паблізу якое ён працаваў заатэхнікам у саўгасе».

У апавяданні «Ты жывеш» (1966) Янка Брыль у самым яго пачатку апісвае сваю паездку ў цягніку, калі ўбачанае за акном вагона ён адзначае ў малюнку: «...залаціліся ў ранішнім чэрвеньскім сонцы тонкія, рэдкія сосны. Яны не стаялі на месцы, а беглі назад, туды, адкуль я вяртаўся, — беглі і яны, і іх доўгія цені. Нашча мне добра спявалася — ціха, журботна. Штосьці блізкае да тых соснаў, да ранняга сонца, да найраднейшага вобраза на парозе старое хаты. Штось блізкае да малітвы ўсёй гэтай мудрай, неразгаданай прыгажосці. Нашы мамы маліліся нашча».

Янка Брыль міжволі ўспамінае ранейшае, даўняе, роднае: «Трыццаць гадоў — гэта была яшчэ маладосць. Яшчэ жыла мая маці, было каму назваць мяне сынам, ува мне яшчэ заставалася штосьці ад пачатку жыцця, я яшчэ не зусім адштурнуўся ад берага — назаўсёды. І я не ведаў, што гэта была яе апошняя раніца». Далей аўтар твора пра самага дарагога ў яго жыцці чалавека слухае апавяданні радні і вяскоўцаў, дзе кожны міг расстання шмат значыць: «...што і ў той дзень яна звычайна ўстала на свой пост, нямоглая бабуля, расчыніла ў цёрле і пачала пячы аладкі для дзвюх мілых распусніц, трохгадовых унучак-блізнят. І раптам ёй зрабілася зусім дрэнна», што «...усё ж немач яшчэ адпускала, а тут — *зусім»*. Вясковыя жанчыны, і не толькі яны, але і мужчыны часам, востра адчуваючы набліжэнне свайго ўзросту да апошняга моманту, «даўно ўжо гатовы да гэтага». У роднай маці, ведаў яе сын, «яе найменшае, дзясятае дзіця», была «даўно пашыта апошняя вопратка, і ў малітвах старая не раз ужо ціхім ды шчырым шэптам сведчыла сваю гатоўнасць да боскае волі»...

Сын «усё ж не так сабе застрахаваўся словамі «як быццам», хаця ведаў — «маці была ўжо на краёчку». Ён не дараваў старому прафесару, «свяцілу медыцыны», якому ён даверыў «самым шчырым, гранічным давер'ем», а той «паглядзеў на хворую бабу, мацнуў за кончык вострага носа, махнуў рукой і адышоўся да іншага ложка: «Я не дарую яму... не дараваў і дагэтуль, за васямнаццаць год, гэтага ўзмаху вялай рукі перад тварам найдаражэйшага мне чалавека. Няхай сабе нават і проста чалавека, які вельмі хоча жыць. Яна хацела жыць. Яна глядзела на яго, прафесара, амаль зусім дзіцячымі вачыма, а потым, калі ён махнуў перад носам, ціха, ужо не думаючы пра мяне, пра абавязак маці — быць заўсёды на вышыні, — заплакала. Слёзы самі, відаць, пакаціліся з вачэй па маршчынах».

Сын і сабе таксама не дараваў, пачуўшы ад прысутных пра смерць ягонай маці, «што, паміраючы, яна хацела аднаго...» Вось яго словы: «Я не магу ні думаць, ні пісаць пра гэта спакойна. І мне не брыдка за слёзы ні перад тымі, хто будзе пра гэта чытаць, ні перад самім сабою, ужо таксама немаладым. Яна хацела, каб толькі паспеў прыехаць я, яе найменшае, дзясятае дзіця. Гаварыла пра гэта, усё правярала, ці паслалі ж хаця тэлеграму, а потым, калі адняло мову, толькі глядзела, і ёй паўтаралі, пазнаючы па вачах, што я прыеду, я хутка вось буду».

Тэлеграму Янку перадалі, калі ён прыехаў у горад «з сонечнага сасонніку». З надзеяй ляцеў упершыню ў санітарным «кукурузніку» — над палямі, лясамі ды рэкамі блізкіх, знаёмых мясцін, падскокваючы на паветраных ямах, з надзеяй жа кіраваўся ўзбочынай гасцінца да сваёй вёскі... З могілак у вёску ішло некалькі чалавек, зрабіўшы тую работу, што адабрала ў яго апошнюю надзею... Вельмі ёй не хацелася памерці зімою... яе жаданне збылося: лета толькі пачыналася. Усё жыццё яна многа і цяжка працавала: «Усё было строга і ясна падпарадкавана адной вялікай мэце. І з мужам, і пасля, як аўдавела. А потым у свеце пачалася такая ламаніна, што мэта яе перастала быць вялікай... Потым, калі закончылася ліхалецце, было ў старой не толькі тое жаданне — памерці ўлетку, але і яшчэ адно... калі ўжо трэба, як кажуць сыны, каб рухнула ўся работа яе жыцця, каб набытае горкім потам поле пайшло ў калгас — няхай ідзе, няхай будзе тое, што павінна быць, але... Але — «дай, божа, каб я памерла трохі раней».

Наогул, для аднаго жыцця нагрузкі ў маці Янкі было аж залішне: «На долю яе прыйшлося чатыры вайны, тры рэвалюцыі, пяць перамен улады, семдзесят шэсць год прасніцы, сярпа і цэпа, трохі песняў ды смеху, куды больш думак, чакання і слёз. Абедзве дачкі аўдавелі амаль услед за ёю. З пяці сыноў, што выжылі да сталага ўзросту, усе пяць былі, кожны ў свой час, салдатамі, чатыры ваявалі ў трох войнах, двое былі ў варожым палоне, двое — праз памылку — сядзелі ў роднай турме, трэці, за праўду, у панскай, аднаго, найстарэйшага, з’еў трыццаць сёмы год...»

Лёс самога Янкі Брыля склаўся надзвычай складана, але ў апавяданні «Ты жывеш» ён перайшоў да апісання гісторыі малодшага брата яго мамы — «старэнькі калека-кравец, «залатая іголачка», як казалі суседзі, і залатое сэрца, поўнае народнай мудрасці, свежасці, аптымізму, якімі ад яго не раз жывіўся і я» (пра яго шмат напісана і згадана ў многіх апавяданнях, аповесцях, рамане «Птушкі і гнёзды»). Старэйшая на дзесяць год сястра, «вывела яго, рана асірацелага, у людзі, дала яму ў рукі тую іголачку, калі ажаніўся — часта хадзіла мірыць са сварлівай жонкай, і нават старога яго лічыла нібы малым, якога кожны можа пакрыўдзіць».

Пра сябе Янка Брыль у гэтым апавяданні прыгадаў коратка: «Я быў куды больш самастойны, і ўжо даўно, гадоў з пятнаццаці, калі перастаў яе (маці) слухаць у самым, як мне здавалася, галоўным для чалавека. Мне было вельмі шкада, што я ўжо не змагу, і іменна цяпер, калі магу, акружыць яе старасць належнай апекай, зрабіць для маці тое, чаго не паспеў, не паспелі мы ўсе... Трыццаць гадоў — гэта была яшчэ маладосць».

Скончыўшы польскую сямігадовую школу ў мястэчку Турэц, Я. Брыль у 1931 годзе паступіў у Наваградскую гімназію, дзе ўжо да яго вучыўся брат Міхаіл. Яго маці нейкі час яшчэ сяк-так трывала, ведучы гаспадарку, але з кожным днём адчувала цяжар вясковай працы, а галоўнае немагчымасць падтрымліваць сваіх хлопцаў грашыма. Браты і самі ўсё добра разумелі і ўрэшце вымушаны былі перапыніць вучобу і вярнуцца ў вёску. Як ні стамляліся на штодзённай працы, тым не менш знаходзілі магчымасць чытаць кнігі, спрабавалі абодва пісаць. Янка захапляўся творчасцю Л. Талстога і А. Чэхава. Абодва знаходзілі час, каб падтрымліваць у вясковай моладзі асветніцкую і культурна-масавую працу ў роднай вёсцы, але часта наведвалі і суседнія вёскі, дзе ладзілі вечары і спектаклі, зачытвалі газеты, па магчымасці перадавалі суседзям кнігі. Сам Янка пераклаў з рускай і польскай моў п’есы. У той жа час удзельнічаў на сцэне ў ролі пастаноўшчыка і выканаўцы.

У Янкі Брыля з’явіліся сябры, сярод якіх былі маладыя паэты А. Мілюць і М. Васілёк. Пра кожнага з іх пазней ён пісаў свае ўспаміны. У асобных апавядан-

нях, урыўках з аповесцей і рамана «Птушкі і гнёзды» знайшлі абодва свае месца пад рознымі імёнамі і прозвішчамі. Жыццё не шанавала лёс А. Мілюця — яго вершы і запісы не ўсе засталіся ўцалелымі: у гады вайны яго не стала сярод жывых. М. Васілёк, як і Я. Брыль, супрацоўнічаў з віленскай беларускай прэсай і антыфашысцкім народным фронтам. Лёс наогул збліжаў іх абодвух — у часы нямецкага астрога, калі яны трапілі ў лагеры для палонных у Памераніі (Старгарад), потым у Баварыі (Байдэн). Змовіліся ў час спробаў збегчы на радзіму — М. Васілёк, як больш сталы і вопытны ўдзельнік заходнебеларускага падполля, прапанаваў першым апрабаваць магчымасць патаемна выкарыстаць сваю задуму і перадаць маладому калегу і сябру сваю падпольную рызыку.

У кнізе «Пішу як жыву» (1994) Янка Брыль надзвычай яскрава і прадумана апісаў лёс многіх сваіх таварышаў і родзічаў.

Гэта ў самым пачатку кнігі — аповесць «Муштук і папка», прысвечаная памяці свайго старэйшага брата Валодзі, закатаванага ў 1938 годзе ў Белай Царкве. Перад чытачом «Пражытае і перажытае Янкам Брылём за семдзесят пяць гадоў і расказанае вельмі ашчадна, але глыбока. Пражытае і перажытае разам з людзьмі — гэта і трагедыі, і няшчасці, і беды, і светлыя мары і радасці, і глыбокая вера ў людскасць ад нязломнага духу. І ўсё расказанае пісьменнікам вярэдзіць душу і розум».

Спачатку адбылася нечаканая сустрэча з рабочым хлопцам, шафёрам аўтобуса, які наведаў яго ў бальніцы і пасля ціхай і асцярожнай гутаркі перадаў паперыну. Гэта была першая «пахаронка» — даведка пра смяротную рэабілітацыю: «На танна-жаўтлявым лістку не вельмі спраўна было надрукавана, што ваенны трыбунал Кіеўскай ваеннай акругі 8 студзеня 1957 года перагледзеў справу аб абвінавачанні майго брата і вырашыў, што «постановление Тройки (так яно там — з вялікай літары!) при Киевском Облуправлении НКВД УССР от 28-го года в отношении Бриля Владимира Антоновича *отменено* (тут і далей падкрэслена машыністкай) и дело о нем производством *прекращено* за отсутствием состава преступления». Гэта ўжо не падкрэслена».

У студзені 1989 г., знаходзячыся ў адпачынку на Рыжскім узбярэжжы, Я. Брыль зрабіў у сваім сшытку запіс: «У каго спытацца ў Кіеве, як мне даведацца больш пра Валодзю?» У Кіеве пытацца не давялося — уранні пазваніў незнаёмы журналіст, украінскі карэспандэнт «Литературной газеты», які выказаў жаданне яго «обрадовать...». Брыль — «Ад гэтай... радасці разрыдаўся». Упершыню ён пачуў слова «Быкоўня» — украінскі адпаведнік беларускіх Курапатаў. Неўзабаве ў газеце з’явілася ў мільённым памнажэнні паведамленне: «Пры эксгумацыі сталінскіх ахвяр, закапаных у Быкаўнянскім лесе, па знойдзеных там рэчах з індывідуальнымі адзнакамі іх уладальнікаў следства здолела ўстанавіць прозвішчы чатырнаццаці бязвінна рэпрэсіраваных. Сярод іх — наш Валодзя. На месцы захавання знойдзены муштук з надпісам: «Брыль В. А. 16. IX. 1937 г.)». Толькі праз сем месяцаў Я. Брыль атрымаў на далоні лімоннага колеру касцяны муштучок, які пад зямлёй, сярод астанкаў жахлівай брацкай магілы праляжаў больш за палову стагоддзя. «Ледзь не адразу, — Янку Брылю, — падумалася, што напішу пра знойдзены муштук, нават слова гэта вынесу ў загаловак. І гэта, скажам у апраўданне сабе, відаць зусім натуральна. Калі думаць пра службу словам. Натуральна яшчэ і таму, што і ў той дзень, і пасля ды пасля да мяне ўсё ішлі ды ішлі сямейныя ўспаміны...»

У выніку цяжкой і зразумелай творчай працы ўзнікла некалькі дзясяткаў асобных раздзелаў аповесці, назвы якіх гавораць самі за сябе, вядома, тым, хто шмат і ўважліва чытаў і чытае творы Янкі Брыля. Гэта раздзелы: «Такая рамачка», «Над палавінай здымка», «Мая Адэса», «Брат № 17643», «Чаму ты пакінуў?..», «Вакол падтэксту», «Працяг», «Права болю», «Сваё». У раздзеле «Над палавінай здымка» размова пасля «сямейнай сагі» пайшла пра «высокае слова — архіў». Дома, у Загоры, на гарышчы антрэсолі былі забіты папкамі, а ў вялікай карзіне кнігі, прывезеныя з Адэсы «за польскім часам». Туды клаліся пісьмы ад замежных братоў, замежнага дзядзькі, замежных братавухаў... Свае рукапісы Я. Брыль загадзя закапаў у дубовай бачулцы, таксама адэскай, у суседняй вёсцы, у гумне дваюраднага брата. У канцы 1949 года разам з братам Міхаілам перагледзелі ўсё,

што закопвалася: пазбягалі націску падазрэнняў ды паклёпаў, датычылася ўсё вакол службы ў польскім войску ў 1939—1941 г., а таксама ўцёкаў Янкі з нямецкіх лагераў для палонных, прымусовай працы рознарабочым у гуце крышталёвага шкла, дзе прымаў удзел у акцыі палонных беларусаў за вяртанне на вызваленую Чырвонай Арміяй радзіму, праводзіў асветніцкую і палітыка-растлумачальную работу сярод землякоў, уцёк з палону ў акупаваную фашыстамі Беларусь... Сёе-тое было спалена, каб «у выпадку чаго лішне не ўскладняць біяграфію». Даваенная перапіска не захавалася. Захаваліся фотаздымкі... Па фатаграфіях і можна было шмат што аднавіць у памяці пра мінулае, родных і блізкіх...

Успаміны Янкі Брыля пра наведванне Дома творчасці «Каралішчавічы» пачынаюцца з сустрэчы з Якубам Коласам, «дзядзькам Якубам», які прыехаў на адпачынак упершыню. У памяці захавалася першая Коласава фраза — паважаны патрыярх прыйшоў паслухаць чытанне вершаў паэтаў, якія часткова запомніліся аўтару: «Во, а пра старога Якуба і забыліся». Нягучна сказаў, трохі нібыта для смеху, а больш дык з прыкметнай крыўдай, зразумелай таму, хто і сам да нечага падобнага дажыў. Запомніліся яшчэ два моманты, дзе дзядзька Якуб расказваў пра сёе-тое з трыццатых гадоў — пра тое, «што тры гады ён спаў, не распранаючыся — чакаў...» Змест гэтых слоў, нібыта зразумелых, так і застаўся тады глыбей не раскрытым». Другі раз — пайшла гутарка пра Ф. Дастаеўскага. «У тыя пасля469сталінскія дні пра Дастаеўскага гаварылася яшчэ ўсё ледзь не шэптам, а кнігу яго можна было пазычыць па блізкім знаёмстве».

У кароткім успаміне пра паэта У. Дубоўку «Асцярожнасць» Я. Брыля ўразіў яго вонкавы выгляд: «Магутны і прыгожы чалавек. Нікому, здаецца, так не падыходзіла б вялікая сівая барада, пры светлых, чыстых вачах, харошай, прыязнай усмешцы, нетаропкай, разумнай гутарцы пра адзіную справу жыцця». На яго пытанне: «І як вы маглі столькі гадоў вытрымаць за кратамі, у лагеры, у тайзе?» — Быў адказ: «У тайзе? Калі мае таварышы грэліся каля вогнішча, я націраўся снегам». — «Ну, а разбуджаны інтэлект? А пакуты ад немагчымасці пісаць, хоць бы чытаць?» — «Я так навучыўся быў адключацца, што ў самай цясноце, у самым найбольшым шоламе ды гвалце мог анічога не чуць, думаць сваё». Як ні стараліся пісьменнікі ўзняць тост за яго ці яго жонку, юбіляр касаваў усе нашы намеры неабвержным: «Таварышы, за нашу родную партыю!»

У Янкі Брыля наогул была незвычайная цікаўнасць да жыцця, да людзей, не толькі да таленавітых пісьменнікаў ці мастакоў, але наогул да ўсяго, што нечакана, ці выпадкова траплялася на яго вочы, ці гэта быў мужчына, ці гэта была жанчына, дзіця, юнак... Яго даводзілася, хаця і не так часта, як магчыма хацелася, бачыць, калі ён — пра гэта згадваў не раз яго сябра Алесь Адамовіч — нечакана даставаў з кішэні запісную кніжку, адставаў на нейкі час ад сяброў і калег і хутка-хутка рабіў накіды, якія ў неверагоднай большасці неўзабаве з’яўляліся на старонках яго кніг. Імёны і прозвішчы многіх беларускіх пісьменнікаў сустракаюцца не толькі ў артыкулах Янкі Брыля, але нават у яго апавяданнях, аповесцях, раманах.

У маладосці Янка Брыль разам з сябрам на ўсё жыццё Уладзімірам Калеснікам аб’ехаў на ровары мясціны баявой партызанскай славы, каб на свае вочы пабачыць, што адбываецца «На Быстранцы» і ці сапраўды «У Забалоцці днее». Пазней, у пару жыццёвай і творчай сталасці, Брыль выкарыстоўваў любую магчымасць, каб пабываць у блізкім і далёкім замежжы, бо толькі здалёк, на адлегласці добра бачыцца Беларусь ва ўсёй сваёй шырыні і хараստве. Няма такога кантынента, акрамя толькі бязлюднай Антарктыды, дзе не ступала нага нястомнага следапыта, які выдатна ведаў, што «Душа — не падарожніца», і напісаў радкі, вартыя самога Фламарыёна, фантаста і вандроўніка: «...Тады яе, нашай любай і страшнай Зямлі, яшчэ ніхто не бачыў зводдаль, у блакітным ззянні. Самотная, яна паволі, вусцішна круцілася ў чорнай бездані, загадкава паслухмяна і вельмі дакладна паварочвала да святла то адзін, то другі бок жывога глобуса, мокрага ад крыві і шурпатага ад руін».

Можна ў вялікай колькасці пералічваць і перагортваць напісанае і надрукаванае пісьменнікам, каб урэшце здзіўляцца яго бясконцым захапленнем і выбарам убачанага, ацэненага, прадуманага, зразуметага... У выніку ўзнікае неверагоднае

імкненне ўрэшце азірнуцца навокал, вярнуцца ў дзіцячыя, падлеткавыя, юнацкія, сталыя, дарослыя хвіліны, гадзіны, часы, дні, гады, дзесяцігоддзі і раптам жахнуцца, колькі ў нас страчана часу, змарнавана жыцця... Зноў і зноў пры думцы пра Янку Брыля нараджаецца моцна запозненае жаданне хаця б перагледзець страчанае...

У часопісе «Дзеяслоў» (2006, № 1) раптам сярод раздзелаў «Згадкі», «Крытыка», «Угодкі», дзе пазнаеш многія імёны, паміж якіх сустракаеш нечакана былых сваіх вучняў, з задавальненем чытаеш Віктара Каваленку з «Запісамі розных гадоў» і неспадзявана яшчэ жывога (у спасылцы «Нашы аўтары»: «Жыве ў Мінску») Янку Брыля чамусьці пад рубрыкай «Спадчына». Я. Брыль у апошняе сваё паўгоддзе, як можна зразумець, надзвычай старанна і дбайна падводзіў вынікі жыцця і творчасці. Менавіта таму такая бліскучая назва яго публікацыі «Яшчэ адзін...», у якой у добрым сэнсе гучыць яго канчатковае: «Рэабілітаваны».

Рэабілітаваны рэдактар навамышскай газеты «Перамога» Барыс Андрэевіч. «Людскім, вясёлым ды шчырым, цікавым чалавекам аказаўся гэты Барыс Андрэевіч Ржэўскі. Ён якраз з тых людзей, пазнаёміўшыся, неўзабаве пачаўшы і сябраваць з якімі, думаецца, што інакш яно і не магло быць, як толькі лічыць іх не проста новымі, але і даўнімі сябрамі, — такое адчуванне. Адтуль, з пушчы гучыць часамі ў маёй памяці яго захоплены голас, калі ён дэкламуе Купалава «Гэта крык, што жыве Беларусь» або нешта іншае з любімага. Жыва прыгадваюцца нашыя бясконцыя гутаркі — то ўтрох з цікава гаваркім Гіршам, то мы ўдвух з Барысам, ці ў рэдакцыйнай хаце, ці ў якой зямлянцы, а то проста ў лесе. Успамінаецца і ранне-пасляваеннае: нашыя сустрэчы, на жаль, нячастыя...»

Жыццё аднаго чалавека, як воблака ў многіх рэках і азёрах, мноства разоў адлюстроўвалася ў жыццях іншых людзей. Чалавек — самае вялікае наша багацце: гледзячы на яго, мы бачым саміх сябе, пазнаючы ў ім да сябе падобнага, пачынаем адносіцца да яго так, як адносіліся б да сябе. Так узнікае і ўмацоўваецца вялікая сувязь чалавека і людзей, так жыццё чалавека напаўняецца асаблівым маральным сэнсам. Ну, а калі гэта пісьменнік, з яго ўсвядомленым імкненнем бачыць больш і чуць больш? Вынік яго працы відавочна залежыць ад таго, колькі людскіх лёсаў увабрала пісьменніцкая памяць, колькі чалавечых абліччаў адлюстравалася ў ягонай душы. Прынамсі, многія пісьменнікі на пытанне, што было штуршком да творчасці, адказваюць: перапоўненасць жыццёвымі ўражаннямі. Дзе яшчэ, як не ў дарозе, назапашвае душа так актыўна веды пра жывое жыццё! Дык, можа, таму так любяць нашы пісьменнікі, ажно ад Скарыны і Гусоўскага, дарогу, падарожжа?

Дарога — гэта жыццё, а жыццё — гэта бясконцая дарога ў новае, нязведанае. Дзіўна нарадзіцца ў гэты свет, зразумець, які ён вялікі і чароўны, і пакінуць яго, не пабываўшы ў самых гожых яго куточках. Асабліва ў наш час, калі ўся Зямля стала агляднай і маленькай, як бацькоўская хата... Чалавек падарожнічае, але душа — не падарожніца. Да такой высновы прыходзіць Янка Брыль... вярнуўшыся з чарговага падарожжа. Душа — не падарожніца, бо проста любіць вяртацца дахаты, каб потым зноў імкнуцца ўдалячынь. Няўжо толькі дзеля звычайнай цікавасці, якая аднолькава лёгка прыходзіць і знікае? Дык жа ўсё роўна не паспееш пабываць усюды, дзе хацелася б! Цікаўнасць і захапленне праходзяць, але не праходзіць сапраўднае, тое, што ўзбагаціла агульны малюнак свету, а, адпаведна, і душу. «З набытым у вандраваннях, — робіць выснову Янка Брыль, — мне лепш бачыцца наша Радзіма, з тым, чаго яна дасягнула, і з тым, што ёй перашкаджае стаць яшчэ прыгажэйшай. У далёкай дарозе мне ўдавалася нават па-новаму збоку пабачыць самога сябе — колькі я трачу напуста і колькі я мог бы не страціць».

Лёс, які папакідаў Брыля па выбоістых шляхах гісторыі, неаднойчы даваў яму магчымасць адчуць тугу па родным кутку і як належыць узважыць пачуццё злітнасці чалавека з роднай зямлёй. Потым прыйшла пара, калі пісьменнік змог сам выбіраць свае дарогі, свядома распараджацца адпушчаным яму часам і разумна будаваць храм свайго жыцця і творчасці. Але пачуццё незадаволенасці і сумненні не пакінуць яго і тады, калі іншым, збоку, будзе здавацца: вось чалавек, якому так пашанцавала адразу, хутка зразумець, дзеля чаго ён прыйшоў на гэтую

зямлю і што ён павінен зрабіць, бо за яго ніхто не зробіць! Ці тую дарогу выбраў? Ці не шмат патраціў часу і сіл на пошукі? Ці нельга было зрабіць і больш, і лепш? Думка не супакойваецца, зноў і зноў кідае яго да самага пачатку, каб яшчэ і яшчэ раз усвядоміць, ці ўсё зроблена і што яшчэ можна зрабіць, пакуль ёсць магчымасць, ці ўсё і ці ўсіх успомніў, што і хто варты гэтага, ці ўсім аддаў даніну ўдзячнасці, здзейсніў свой паклон.

У жыцці гэта вяртанне да першавытокаў адбывалася і адбываецца мноства разоў, і чалавеку старонняму, навуковаму даследчыку, цяжка ва ўсёй паўнаце ўзнавіць гэты непад'ёмны працэс. Пісьменнік меў магчымасць прасачыць па шляху пошукаў, якія літаратурныя жанры ён засвойвае і засвоіў: апавяданні, аповесці, раман, дарожныя нататкі, літаратурныя артыкулы, лірычныя запісы, мініяцюры, эсэ, замалёўкі прыроды, сцэнкі з народнага побыту, здаровы, іскрысты гумар, вітражы, лірычную споведзь, вясёлы постскрыптум — жанры, якія не адразу спасцігаюць сучаснікі і нашчадкі. У кожнага жанру ёсць свае творчыя магчымасці ахопу зменлівай рэчаіснасці, свая глыбіня вобразна-мастацкага асэнсавання свайго часу, свае перавагі і свае недахопы. Празаік часам не-не дый ахоплівае «здалёк і зблізку» свае творчыя адкрыцці і свае ўзноўленыя магчымасці. Уражанне такое, што аўтар прадумана выкарыстоўвае і выпрабоўвае не аднойчы асвоены мастацкі матэрыял, які штораз кладзецца ў самых розных і нечаканых жанрах. Нават усёабдымны гісторыка-літаратурны раман, раман-паэма, паводле ацэнкі У. Калесніка, «Птушкі і гнёзды», не аднойчы абдуманы, не раз перапісаны, ацэнены, узважаны, не здольны ахапіць засвоены жыццёвы матэрыял, наогул усё, што ў свой час абняло і асвоіла пільнае вока і перахапіла «гусінае пяро». Поле пражытага разбіваецца на «квадраты», і кожны з іх, адзін за адным, вывучаецца ўважліва і дасканала.

На працягу 1970—1973 гг. А. Адамовіч, разам з Я. Брылём і У. Калеснікам аб'ехалі, абкалясілі з магнітафонам і фотаапаратам усю Беларусь, пабывалі ў сотнях спаленых вёсак, апыталі і запісалі больш за трыста сведкаў ваеннай трагедыі, апавяданні якіх леглі ў аснову дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...» (1975). Раздзелы з кнігі друкаваліся ў многіх газетах і часопісах («Маладосць», «Октябрь» і інш.). Перакладзеная на многія замежныя мовы, кніга стала літаратурным бестселерам. Паказальным быў пачатак рэцэнзіі рускага літаратуразнаўцы М. М. Кузняцова, які пісаў у газеце «Комсомольская правда»: «Страшней за гэту кнігу я не ведаю...» Сустракаліся ў іншых водгуках і такія словы: «Гэта кніга не магла не з'явіцца...» Аднак адзін з яе аўтараў А. Адамовіч на фактах даводзіў, што гэта далёка не так і што сам ён, як і яго сябры па пяры Я. Брыль і У. Калеснік, не адразу прыйшлі да пераканання ў неабходнасці менавіта такой калектыўнай кнігі-памяці.

«Я з вогненнай вёскі...» падвяла рысу пад цэлым этапам літаратурнага развіцця і абудзіла ў грамадстве імкненне ведаць усю праўду пра вайну і пра чалавека на вайне, якой бы жахлівай яна ні была. Выдатнымі пісьменнікамі рухала думка аб тым, што няўмольны час вельмі хутка «вымывае» з народнай памяці страшныя веды пра вайну, якой яна была для беларусаў і якой яе не ўяўляў цывілізаваны свет. Проста паміралі апошнія сведкі гэтай трагедыі, якія цудам выратаваліся ад немінучай пагібелі, нібыта дзеля таго, каб расказаць праўду нашчадкам і народам свету.

Міхась Стральцоў быў уражаны: «І цяпер мне здаецца трохі дзіўным: чаму тое, што зрабілі Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, не было ажыццёўлена раней... не, усё, мабыць, не так і проста. Мне здаецца, што нават аўтары гэтай кнігі не ўяўлялі спачатку, якога нечалавечага выдаткавання душэўных сіл будуць каштаваць «дзясяткі кіламетраў магнітафонных запісаў, тысячы кіламетраў дарог...» Без перабольшання, гэта ператварылася ў хаджэнні па чалавечых пакутах, па вогненных кручах зямнога пекла». Аднак аўтары яе, і асабліва настойліва А. Адамовіч, сведчылі, што кніга нават магла не з'явіцца, што і яны спачатку не былі пераканаunion ў неабходнасці менавіта такой калектыўнай кнігі-памяці. Беларускія людзі маюць што распавесці цэламу свету пра вайну і пра сябе. Пра тое, што мае значэнне і сэнс для ўсіх і для кожнага з нас. Пра мужнасць і стойкасць, пра нязломнасць і пра вытрымку ў самых жахлівых і невыносных

умовах татальнай вайны — пра тое, што ведае наша грамадства і што мусіць ведаць і цаніць сучасны свет.

Жанчына з Борак, што на Бабруйшчыне, дзе фашысты забілі, спалілі каля дзвюх тысяч жыхароў, ці з Красніцы Быхаўскага раёна, дзе застрэлілі каля 700 чалавек, жанчыны, мужчыны, дзеці з гэтых і многіх соцень іншых беларускіх вёсак зблізку зведалі, што такое фашызм, не толькі той, які бачыла і ведае Заходняя Еўропа, але і той, які б яна разгледзела і на сабе перажыла праз нейкі час пасля «канчатковай перамогі» Гітлера, калі б уступілі ў дзеянне планы «канчатковага ўрэгулявання ў Еўропе». Тут, на ўсходзе, у Беларусі, Расіі, Украіне, могуць расказаць свету, што фашызм скінуў з сябе ўсе маскі «еўрапеізму», расказаць усяму чалавецтву, якім «звышзверам» і «звышчалавекам» можа стаць той фашызм, калі быў упэўнены, што ніхто пра гэта не даведаецца, і раскрываўся са сваёй чорнай душой. «Тое, што Беларусь ведае пра вайну і пра нядаўняе азвярэнне людзей у цэнтры Еўропы і можа расказаць чалавецтву, — адкрываў усяму свету А. Адамовіч, — тое ведаць, можа, і страшна. Але забыць не мае права ніхто, забыць тое — небяспечна. Асабліва ў век «атамных магчымасцей», якія спакушаюць і будуць спакушаць патэнцыяльных «фюрараў».

Калі А. Адамовіч, Я. Брыль, У. Калеснік запісвалі апавяданні беларускіх людзей пра самае страшнае — пра Хатыні, то бясконца іх уражвалі незвычайныя праявы дабрыні, чалавечнасці, высакародства і адсутнасці зласлівасці ва ўмовах, калі магло здавацца, што ва ўсім навакольным свеце засталіся толькі жорсткасць і эгаізм. Колькі дабрыні, яснасці і незнішчальнай мяккасці выпраменьвалі вочы і твары, галасы палескіх жанчын, калі яны нам расказалі пра нябачаныя жорсткасці і азвярэнні людскія, — гэта не могуць перадаць па-сапраўднаму ні словы надрукаваныя, ні фотаздымкі! Але і ў друкаваным тэксце гэта, спадзяёмся, можна ўгадаць, неяк адчуць.

Беларуская зямля дала свету такіх майстроў слова, як Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік. Кожны з іх адольваў сваё ўтрапенне і свой боль, адыходзіў ад пачутага людскога болю па-свойму, адпаведна з жыццёвым вопытам, асабістым характарам і мастацкім талентам. А. Адамовіч пісаў раман «Карнікі», прагнучы «дадумваць да канца» пытанне, якое не аднойчы чуў ад людзей «з вогненных вёсак»: «Хто яны, людзі-нелюдзі?» У. Калеснік няўрымсліва шукаў сведкаў, якія ведалі, памяталі беларускага паэта Уладзіміра Жылку, каб напісаць раман-даследаванне «Ветразі Адысея». Душа Янкі Брыля прагнула душэўнай раўнавагі, гармоніі светлага і змрочнага, добрага і ліхога, якія ён бачыў у беларусах, а ў выніку была напісана, узнікла аповесць «Ніжнія Байдуны».

У сусветнай літаратуры, з якой выдатна быў знаёмы Янка Брыль, такое ўжо здаралася: французскі празаік Рамэн Ралан, страшэнна змораны шматгадовай працай над цыклам раманаў «Жан-Крыстоф», адчуў патрэбу ў рэкрэацыйным, ачышчальна-творчым смеху і напісаў аповесць «Кала Брун’ён», пранізаную «гальскай весялосцю», і гэта пасля трагедый, перажытых Францыяй у гады Першай сусветнай вайны, гісторыю, расказаную вялікім фантазёрам і брахуном, веселуном і аптымістам, самім Кала Брун’ёнам «пахучай мовай», «без фігавага лістка», «з бургундскай соллю» пра тое, што такое насамрэч французскі характар.

Байдуны, блазны, веселуны, гаваруны, пустабрэхі, гумарысты — частыя госці ў беларускім фальклоры, у творах беларускіх камедыёграфаў. Цэлы натоўп такіх смяшлівых байдуноў-самахвалаў і брахуноў-самасуяў высыпаў на старонкі аповесці Янка Брыль, каб расказаць «ад першай асобы» пра сябе і свой час, не чакаючы, што нехта апярэдзіць іх саміх і раскажа, але раскажа зусім не так, як яно ўсё было ў рэальным, штодзённым жыцці, бо галоўнае расказаць так, каб было смешна і дасціпна. Любоў да смешнага — у крыві ніжнебайдунцаў. Гэтая рыса кідаецца ў вочы адразу і трапна выяўляе адносіны гэтых людзей да свету, у якім ім выпала нарадзіцца і жыць. У Ніжніх Байдунах усё вельмі лёгка і хутка ператвараецца ў смех, і няма анічога такога, што не магло б стаць аб’ектам вясёлых жарцікаў, нязлога пакепвання, здзеклівай заўвагі, трапнага слоўца. Самае сур’ёзнае ў вёсцы, бадай што, гэта смех. Калі ты не разумееш смеху, дык табе лепш не нараджацца на белы свет, бо цябе дастануць вынаходлівымі мянушкамі,

падхопяць любое тваё слова, дададуць ад сябе і вернуць яго табе ў такім выглядзе, што ты закаешся навекі раскрываць лішні раз рот без патрэбы. Смех, свабодны, нязмушаны, дапамагае вяскоўцу жыць. Смех, жарт, досціп, вясёлая прыпавесць, народны анекдот дапамагае жыць і быць заўсёды на духоўнай вышыні і самому аўтару гэтай карнавальнай аповесці.

Усё, пра што апавядаў Янка Брыль, з чым прыходзіў да чытачоў, уражвае сваёй прастатой, яснасцю, сонечным святлом, святочнасцю. Ён ведаў цану чалавечага інтэлекту, любіў філасофію зямных мудрацоў. Але ў звыклай рэальнасці знаходзіў, выхопліваў з яе жыццёвыя ўзоры духоўных стасункаў з іншымі людзьмі, з прыродай, з культурай. Нябеснае ён бачыў у зямным, бясконцае — у канечным, вечнае — у мімалётным. Адсюль небывалае багацце ягоназіранняў, запісаў убачанага і пачутага, малюнкаў, эпізодаў і сцэн, дыялогаў і палілогаў, людскога шматмоўя і жыццёвай шматфарбнасці. Кнігі Я. Брыля можна разгортваць на любой старонцы і знаходзіць патрэбнае душы, як хлеб надзённы. Гэта не проста вынік засяроджанай на з’яве думкі, сканцэнтраванай на таямніцы медытацыі, не проста імгненная фіксацыя мімалётнага на фотаплёнцы, а сустрэча з самім сабой, з іншымі, з кім адчуваеш прысутнасць боскага. Гэта тое самае дабро, якое даецца дарма, ад душэўнай шчодрасці — дадзенае аддаецца.

Янка Брыль — адзін з першых, хто ацаніў вартасць імгнення. Ён пісаў і пра мінулае, і пра сваё пакаленне, і пра сучаснікаў. Да паняцця момантнасці існавання менавіта як паняцця Брыль рухаўся разам з іншымі. У апошняй сваёй кнізе «Парастак» народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль прадоўжыў лірычную споведзь пра свет і пра сябе:

«Прачнуўся ў дзве гадзіны і толькі пад раніцу прыдрамнуў. І — такі сон. Пада мною калодзеж, не надта глыбокі, але з мяне хапіла б. Нібыта кругі цэментовыя, нібыта зруб драўляны, а то ўсё разам — як у сне. Слабымі рукамі, развёўшы іх, трымаюся неяк з краю, нібы ў кутку (сон жа!), намагаюся правую нагу перакінуць цераз край зруба навонкі. Раз за разам. Нага слабее... І прачынаюся.

Папярэджанне нейкае? А то й ад роздуму ўвечары?..»

«Малы хлопчык увечары адзін выходзіў на ганак дома на лецішчы, стаяў і ціхенька, зачаравана любаваўся поўным месяцам, зоркамі, небам...

Краса прыроды глядзіць на самую сябе яшчэ аднымі шчырымі, наіўнымі вачыма».

«Што мне да таго, што гэта ўжо чытана мною і, мяркуючы па рознасці паметак на палях, неаднойчы, — мне зноў захацелася пабыць з ім у гадзіны часовай апустошанасці душы, і я свайго дасягаю, іду ў святлейшае.

Усё той жа Уолт Уітман з яго «Лісцямі травы».

А гэта ж і добра, і важна, што ён — з тых нямногіх, хоць іх на свеце і многа, якіх за адзін раз не прачытаеш на ўсю глыбіню».

«Міжгароднім званком віншуючы мяне са святам, як заўсёды па-вясковаму раненька, блізка знаёмая настаўніца, між іншым, сказала і такое:

— У нас гаворыцца, што ў кожнага чалавека свая свечка — свой лёс, свой век».

«Дзеці ды ўнукі, хатнія і госці, што, дзякуй ім, прыехалі. Вясёлая гутарка пасля застолля. А бабуля ўжо з печы:

— Лажыцеся, мае дарагія, адпачывайце. Заўтра ў вас будзе многа работы.

Яны смяюцца, а яна сказала сваё яшчэ раз.

Назаўтра бабулю не дабудзіліся...

Пра гэта, з няпісанай хронікі свайго роду, расказаў мне ў бальніцы супалатнік».

«Мой колішні часовы сацрэалізм вінаваты яшчэ і ў тым, што напісаў я мала, залішне ходзячы, як кот вакол гарачай місы, каля якое-небудзь новае задумы, —

а ці тое? а ці так? — замест таго, каб проста пісаць, «что Бог на душу положит». Як пісалі, скажам, Чэхаў, ці Шолам-Алейхем... Бо якраз чытаючы яго весела жывучыя апавяданні, яшчэ раз падумалася пра маё малапісанне».

«— Вашы Талстыя, Купалы, Міцкевічы — усё гэта ўжо безнадзейна састарэла!..

— Ну, вам, малады чалавек, такое, можна падумаць, не паграажае».

Адна за адной выходзілі ў апошнія гады жыцця Янкі Брыля ягоныя кнігі «З людзьмі і сам-насам» (2003), «Блакітны зніч» (2004), «Парастак» (2006). У іх увайшло многае, што не магло з’явіцца ў друку па ідэалагічных прычынах раней. Часцей за ўсё гэта старонкі, прысвечаныя балючым праблемам беларускай мовы, гісторыі, літаратуры, культуры, адносінам да ўсяго беларускага асобных пісьменнікаў, тагачасных прадстаўнікоў улады, шматлікіх чыноўнікаў. У гэтых кнігах значна пабольшала скрухі і сарказму, многія характарыстыкі «адмоўных герояў» свайго часу, чые імёны і прозвішчы альбо названыя, альбо досыць лёгка ўгадваюцца, гучаць надзвычай з’едліва, як прысуд самой гісторыі. У пісьменніка адна мэта: назваць усё сваімі імёнамі. Янка Брыль, якім мы яго ведалі і любілі і якім яго ведаем і любім, мае на гэта права.

Творчасць Я. Брыля насычаная глыбокім і часта горкім роздумам над сваім векам, над перажытым беларусамі. Яна вельмі асабістая, і адначасова выразна грамадзянская, пазначаная гуманістычным пафасам. Слынны брылёўскі лірызм і філасафізм, ягоны гумар і досціп дапамагаюць сучаснай беларускай літаратуры выбавіцца ад псеўдапафаснасці, стылявой напышлівасці. Яго творы сцвярджаюць маральную і эстэтычную каштоўнасць жыццёвага досведу асобы.

Янка Брыль напісаў і апублікаваў лірычную, вельмі шчымлівую і незвычайна светлую аповесць пра сваё першае і — ці бывае наогул такое! — апошняе каханне цягам без малога 70-ці гадоў, пачынаючы з 1937-га года, калі малады 20-гадовы літаратар пазнаёміўся з 16-гадовай гімназісткай Нінай Клаўсуць. Абаіх збліжаў дух вальнадумства і захапленне літаратурай і навукай (Ніна Брыль ведала пяць еўрапейскіх моў і выкладала замежныя мовы ў ВНУ). І апошняя кніга запісаў і эсэ з сімвалічнай назвай «Блакітны зніч», выдадзеная незадоўга да скону яе аўтара, Івана Антонавіча Брыля. Янка Брыль, адзін з самых дасведчаных майстроў пісьменніцкага цэху, які ведаў цану водгуку зычлівага чытача, за два тыдні да смерці паспеў уласнаручна падпісаць аўтографы кнігі «Парастак» шасці дзясяткам людзей, сяброў, добрых знаёмых, пісьменнікаў, крытыкаў, а яго дачка Наталля Іванаўна Семашкевіч (Брыль) аператыўна разаслала па пошце адрасатам.

Вялікі Чытач — а ягонае з’яўленне ці не адна з самых важкіх заслуг пісьменніка Янкі Брыля — ацэніць адзін з апошніх запісаў у гэтай кнізе:

«...І думаецца, што ўсё яно не так сабе, а павінна ж мець пэўны вышэйшы сэнс. Занадта вялікі, занадта прыгожы наш свет, каб яму існаваць толькі каб існаваць, без высока-разумнай мэты».

Лірычны герой Янкі Брыля ўспамінае час, калі пашыраліся межы дзіцячага ўяўлення, калі кожны дзень быў вучобай у людзей, калі кожны новы чалавек здаваўся загадкавым, як прышэлец з іншай планеты: «Вучыліся ўсе ад усіх, і вучыцца было ад каго». Сустракаючыся з людзьмі, успамінаючы моманты агульнасці чалавека і чалавецтва, Янка Брыль узыходзіць на вяршыню, з якой відаць сама Зямля з бясконцымі зменамі пакаленняў, з мноствам людзей, блізкіх, знаёмых і проста бачаных ім за «паўстагоддзе на трох сяк-так абжытых... кантынентах, з мноствам вядомых па кнігах і карцінах, па музыцы і кіно... І адно пранізвае гэтыя ўспышкі, гэтыя змены — тое, што астаецца, што памнажаецца, імя чаму — набытак чалавецтва, яго гісторыя, яго маральны вопыт, яго несмяротнасць».



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# МЛЕЧНЫ ШЛЯХ ЯК ЗОРНЫ ДОЖДЖ. ПІМЕН ПАНЧАНКА

*Паэтаў у нас шмат і паэтаў розных. Дый у кожнага з іх абавязкова ёсць верш, які ўспрымаецца свайго роду візітоўкай. Толькі далёка не кожны можа пахваліцца тым, што яго твор на слыху ці не ва ўсіх, хто любіць паэзію. Некаторыя нават і не памятаюць імя аўтара, а верш жыве нібы сам па сабе, карыстаючыся вялікай папулярнасцю. «Край паэтаў» — з шэрагу такіх твораў. Не можа не ўзнікнуць пытанне: «Дзе ж той край залатакосы, край зялёны — // Рык ласіны, // Звон пчаліны, / Мора лёну?».*

*Вось ён, гэты адказ:*

*Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,*
*Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;*

*Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,*
*Звонка чаравічкамі паляскавала.*

*Так цудоўна пра Беларусь сказаў Пімен Панчанка. Свайго роду візітоўка нашага «краю залатакосага, краю зялёнага» — творчасць і самога Пімена Емяльянавіча, паэта, публіцыста, крытыка, перакладчыка.*

## Нялёгкія шляхі-дарогі

Нарадзіўся Панчанка 23 жніўня 1917 года ў горадзе Рэвель. Так называўся тады цяперашні Талін — сталіца Эстонскай Рэспублікі. Так далёка ад Беларусі апынуліся ягоныя бацькі не ад лёгкага жыцця. Яшчэ цяжэй стала сям'і, калі гаспадара прызвалі ў войска. Жонка Дар'я Факееўна з двума малалетнімі дзецьмі мусіла пакінуць Прыбалтыку. Паехала да сваёй маці, якая жыла ў Бягомлі. Неўзабаве, дэмабілізаваўшыся з арміі, у Беларусь вярнуўся і Емяльян Арцёмавіч.

З Бягомльшчынай і звязана маленства будучага народнага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981). У Бягомлі ён скончыў сямігодку. Калі ў 1933 годзе сям'я пераехала ў Бабруйск, працаваў рабочым на мясцовым дрэваапрацоўчым камбінаце. Вучыўся на гадавых педагагічных курсах. Пасля іх настаўнічаў у школах Бабруйскага і Кіраўскага раёнаў і завочна вучыўся на філалагічным факультэце Мінскага настаўніцкага інстытута. Скончыўшы яго ў 1939 годзе, працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». На гэты час быў ужо аўтарам свайго першага паэтычнага зборніка «Упэўненасць», што пабачыў свет годам раней.

Паэзіяй жа захапіўся ў зусім юным узросце. Рана, яшчэ ў пачатковай школе, пачаў пісаць і вершы. Дэбютаваў на старонках раённай газеты «Кіравец», а ў 1934 годзе яго вершы «Ураджайнае» і «Моладзі» з'явіліся ў трэцім нумары альманаха «Ударнікі». Другая кніга Панчанкі «Вераснёвыя сцягі» выйшла ў 1940 годзе.

Была гатовая і трэцяя — «Трывожныя зарніцы», але, падрыхтаваная да друку, яна згарэла ў полымі Вялікай Айчыннай вайны.

У верасні 1939 года, калі пачалося вызваленне Заходняй Беларусі, Панчанку прызвалі ў армію. У час барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі быў на Бранскім, Калінінскім франтах. Працаваў у франтавых газетах «Красноармейская правда», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь» і ў сатырычным часопісе «Партызанская дубінка». Затым трапіў на Паўночна-Заходні фронт, пад Старую Русу. Быў ваенным карэспандэнтам газеты «Героический штурм». Далейшая старонка армейскай біяграфіі Пімена Емяльянавіча — Іран. Дэмабілізаваўся толькі ў 1946 годзе.

Вярнуўшыся ў Мінск, працаваў у часопісе «Вожык», газеце «Літаратура і мастацтва». Пяць гадоў быў галоўным рэдактарам альманаха «Советская Отчизна» (цяперашні часопіс «Нёман»). Рэдагаваў часопіс «Маладосць», выбіраўся сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Двойчы — дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Як член дэлегацыі БССР у 1958 годзе прымаў удзел у рабоце XIII сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Але галоўным для яго была натхнёная творчасць, дзякуючы якой сцвердзіўся як адзін з самых выдатных майстроў сучаснай беларускай паэзіі. Не стала Пімена Емяльянавіча 2 красавіка 1995 года.

## Май зялёны з вясёлкавай дугой

Першыя свае вершы падпісваў псеўданімам Алесь Загорны. Аднак і тыя творы даваеннага часу, пад якімі не стаіць ягонае ўласнае прозвішча, так і пазначаныя ўласным імем — па сутнасці люстэрка тагачаснай маладой беларускай паэзіі. Дый у пэўнай ступені і паэзіі, што з'явілася з-пад пяра сталых аўтараў. Аднак менавіта юнацкія вершы Панчанкі нясуць на сабе адбітак таго, што пісалася і ягонымі творчымі аднагодкамі, і іншымі аўтарамі блізу гэтага ўзросту. Для гэтых твораў характэрны душэўны неспакой лірычнага героя. Радуе яго адкрытасць і шчырасць у выяўленні сваіх пачуццяў, жаданне ўсё лепшае заўважыць і ўславіць. Падзяляеш ягонае захапленне харастсвом роднай прыроды. Кідаецца ў вочы вялікі аптымізім, які, у рэшце рэшт, быў характэрны большасці савецкіх людзей, якія імкнуліся не заўважаць цяжкасці і ўпэўнена глядзелі ў заўтрашні дзень.

Як юны Панчанка стараўся хутчэй сцвердзіцца, добра відаць з яго верша «Лірычнае»:

Закацілася сонца за гай,
        Небасхіл па-над гаем гарыць.
Я люблю гэты песенны час —
        Ціхі час вечаровай зары.
Прамінаю узгорак. У твар
        Хлебны вецер тугім б'е крылом.
Урачыста ўсплывае, плыве
        Поўны месяц за дальнім сялом.
І злятаюцца зорак раі
        Ўсё ніжэй з невядомых вышынь.
Нехта ў бубен ударыў. Гармонь
Заспявала ў соннай цішы…

Панчанка сведчыць пра пачуцці лірычнага героя да дзяўчыны, якая яму падабаецца, у лепшых традыцыях вусна-паэтычнай творчасці:

Ой ты, ночка, юнацкая ноч,
        Агарні цеплынёю мяне,
Раскажы пра каханку маю, —
        Лёгкі сум мой, як дым, праміне.

Але следам ідзе і «абавязковае», напісанае ў духу часу, у якім усё адбывалася. Аднак яно не «прывязанае», ці, дакладней кажучы, не прыцягнута за вушы. Лірычны герой, па-сапраўднаму кахаючы, заставаўся чалавекам, які любіў сваю Радзіму, тое ранне новай рэчаіснасці, якое зарой абнаўлення ахінала наваколле: «Ды нашто сумаваць, калі б'е // Ў сто гарачых струменяў жыццё! // Разгараецца ў сэрцы агонь — // Невыказнае пачуццё… // Хутка, хутка прызнанне маё, // Як даспелы арэх, ападзе». Пра каханую думаў юнак, але па-ранейшаму звяртаўся да ночы, успрымаючы яе ўжо сваёй саюзніцай. Зварот-паўтор «Мы з табой […], змоўніца-ноч // Прычакаем выдатных падзей» узмацняе ў творы фальклорную аснову, а гэта, у сваю чаргу, яшчэ больш павялічвае праўдзівасць таго, што адбываецца. З закаханым заадно ноч, значыць, з любай у яго ўсё складзецца добра:

Грукне бубен гарачы, як гром,
Разальюцца званочкі цымбал,
Будзе свята у нас, і гасцей
На вясельны запросім мы бал.
Ноч гусцее. Пагасла зара.
Зорка срэбная ўпала ў ваду.
Я іду у сяло. За сабой
Асцярожна каханне вяду.

Уяўленне пра тагачаснага Панчанку дае і такое прызнанне ягонага лірычнага героя, што прагучала ў вершы «Радзіме»:

Спакойны юнак, можа, нават крыху сарамлівы,
Не пакрыўджу і птушкі,
бо знаю: ёй хочацца жыць;
Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

У гэтыя даваенныя гады, аднак, нараджаўся і Панчанка, умоўна кажучы, бунтар — непрымірымы да несправядлівасці ў самых розных яе праяўленнях, да фальшу, крывадушнасці. З вершаў такой праблематыкі — найбольш характэрны «Абывацелі». Голас свой паэт узняў супраць тых, чый «душны свет […] даўно загніўся», // Атлусцеў, да брывей запух», а «дні напластваюцца, як копаць, // Без вялікіх трывог і падзей». Калі што і застаецца ў іх нязменным, дык толькі тое, што «спяць, ядуць і капейкі копяць, // І зайздросцяць шчасцю людзей».

Як клятва гучала:

Я хацеў бы раз'юшаным ліўнем
Змыць і сплавіць старую цвіль,
Каб у самай глухой даліне
Пышна сад пладаносны расціў.

Каб не кратала ўласнасці плесня
Чалавечых прыгожых душ,
Каб паэты складалі песні
Не з нянавісці — з сонца і руж.

Толькі яму самому давялося пісаць і пра нянавісць. Да чужынцаў, карычневая арда якіх ступіла на Беларусь. Пачалася Вялікая Айчынная вайна…

## Героі ранейшыя, героі новыя

З вуснаў Пімена Емяльянавіча загучала іншая клятва. Клятва ў вернасці зямлі, якая нарадзіла і засталася любімай назаўсёды. «Беларусь» — так называўся верш. Паэт пафасна заяўляў:

Ты ляці, маё слова, праз палі і лясы,
Прывітайся з краінай маёй дарагою.
Беларусь, я — твой воін адданы і сын,
Мае думкі і сэрца заўсёды з табою.
Ты мяне гадавала, ты мяне калыхала,
Ты мне песні, як родная маці, спявала,
Клапатліва збірала у шлях.

Аднак такая пафаснасць была да месца. Не толькі таму, што гэтага вымагалі самі абставіны, калі ва ўсёй вастрыні стаяла пытанне быць ці не быць Савецкаму Саюзу. Тое, што гаварыў паэт, ішло з самой глыбіні ягонай душы, цалкам адпавядала яго думкам і намерам. Дый, прамаўляючы сам, няхай не падасца такое сцвярджэнне гучным, ён выступаў і ад імя самога беларускага народа, упэўненага ў перамозе над захопнікамі. «Не, народа майго ніхто не сагне!» — заяўляў рашуча:

Ён, магутны, у пушчы адвечныя рушыў,
І легенды лунаюць над роднай зямлёй,
Што адважны Гаркуша
Драпежнікаў глушыць,
Што Кастусь Каліноўскі выходзіць на бой;
Што усталі з магіл партызаны Дукоры,
Каб адвагу у сэрцах юнацкіх расціць;
Што бушуе і пеніцца Нарач, як мора;
Нёман гнеўна гамоніць, і Прыпяць кіпіць.

Наколькі вядома, партыйная прапаганда, каб узняць дух народны ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у Вялікую Айчынную вайну звярнула пільную ўвагу на тых, хто ў розны час узнімаўся на абарону Радзімы. З’явіліся ордэны Неўскага, Нахімава, Суворава, Ушакова, Кутузава… Выдаваліся кнігі, друкаваліся нарысы, пісаліся паэтычныя творы. Беларускія пісьменнікі таксама не засталіся ў баку ад гэтай важнай справы. Але Панчанка першым прыгадаў Каліноўскага. Адным з першых ён узяўся праслаўляць і тых, хто здзяйсняў подзвіг у гады Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта сведчыць і верш «Герой»:

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту,
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Пра тое, як напісаўся гэты твор, Пімен Емяльянавіч успамінаў: «Увесь сорак трэці год я знаходзіўся на Паўночна-Заходнім фронце. […] Вядома, часта даводзілася бываць у часцях. І не толькі расказваць пра тых, хто змагаўся з ворагам, але і самому прымаць удзел у баях. Неяк даведаўся пра подзвіг, які пакладзены ў аснову верша «Герой». Але здарылася так, што ў час адной з бамбёжак мае запісныя кніжкі, блакноты загінулі… А ў іх жа было сапраўднае прозвішча героя. Дапамаглі мне юныя следапыты з Ноўгарадчыны. Аднойчы атрымаў ад іх прачулы ліст. Цікавіліся шмат якімі фактамі з маёй творчай біяграфіі. Пыталіся і пра верш «Герой». Тады я ім і адказаў, што запісы загінулі ў вайну. Яны заняліся пошукамі. Потым яшчэ атрымліваў лісты».

Правобразам героя стаў Сцяпан Чайкін, родны брат Героя Савецкага Саюза Лізаветы Чайкінай, закатаванай гітлераўцамі. Перад вайной ён быў старшынёй калгаса. На фронце трапіў у тую армію, у якой ваяваў і Панчанка. Дарэчы, у час вайны Пімен Емяльянавіч напісаў і нарыс «Брат і сястра», у якім расказаў пра Чайкіных, пра іх подзвігі.

Быў прататып і ў «Балады пра Міколу Сасноўскага» — малодшы сяржант Іван Фяцісаў, родам з вёскі Сасноўка Кіраўскай вобласці (Расія). Таму паэт і падаў

яго ў баладзе Сасноўскім. У адным з баёў рота — Фяцісаў тады камандаваў узводам — замацавалася на стратэгічна важным рубяжы і тры дні адбівала атакі ворагаў. Калі выкананне баявой задачы зрывалася, Фяцісаў і здзейсніў свой подзвіг:

…злосць разабрала Міколу:
«Тут кіснуць не маю ахвоты,
Каб немцы глядзелі са смехам?» —
І шпарка папоўз ён да дота.
Як свіснулі злосныя кулі —
Вада ўсхадзілася варам.
Прыкрылі ўсе каскамі вочы —
Загінуў без славы таварыш!
А ён ужо стаяў каля дота:
«Наперад, чацвёртая рота!»
І целам закрыў амбразуру,
І глотку заткнуў кулямёту.
Тры кулі заселі ў сэрцы,
Крывінкі апалі на травы…

Цяжка было Пімену Емяльянавічу вяртацца ў тыя гады — нямала ж страціў таварышаў, знаёмых. Але і не вяртацца не мог. «Ільмень, Ловаць, Лычкава, Старая Руса, Лажыны — гэтыя азёры, рэкі, паселішчы, — прызнаваўся ён, — я ўспрымаю, як частку самога сябе. Там былі і бамбёжкі, і цяжкія баі, і зацішша, і невялікія перамогі, і паражэнні… Гэтыя мясціны сталі для мяне роднымі. Іх не забудзеш…»

## Касачы — сімвал Радзімы

У вайну напісаўся і адзін з лепшых вершаў Панчанкі «Сінія касачы». Дый, бадай, не толькі ў ягонай творчасці, а і ва ўсёй беларускай ваеннай паэзіі. Прадчуваю здзіўленне чытачоў, знаёмых з гэтым творам. У ім жа нічога не гаворыцца пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. І ўсё ж «Сінія касачы» — пра вайну. Пра тую вайну, якая паўстае не праз водгулле пажараў, не праз гул гармат і аўтаматныя чэргі. Гэта вайна, якая праходзіць праз само сэрца лірычнага героя згадкамі пра тую страшную рэальнасць, што абрынулася на краіну. Ад сутыкнення з ёю з’яўляецца жаданне вярнуцца ў мірнае мінулае, ажывіць у памяці тое, што тады шмат у чым успрымалася будзённым, звыклым, а таму і звычайным. Толькі ў часіну ваеннага ліхалецця прыйшло ўсведамленне, як шмат тады было таго, чым нельга не радавацца, і наколькі многае цяпер страчана. Хацелася б, каб не назаўсёды. Вобраз сініх касачоў — гэта, без перабольшання, вобраз самой Радзімы, вобраз Беларусі.

Пачатак твора напоўнены шчымліва-радасным пачуццём вяртання ў мірныя світальныя ранкі:

А калісьці я прачынаўся ў бацькавай хаце.
Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня.
На гародзе спявае паціху маці
Пра маладога жаўнера, пра гнядога каня.

А пад вокнамі мята п’е сонца гарачае,
І глядзяць мне ў вочы красой нерастрачанай
Сінія касачы.

Гэтае шчымліва-радаснае пачуццё — не з тых згадак, якія як раптоўна прыходзяць, гэтаксама хутка і знікаюць. Пасля першай асацыяцыі з’яўляецца наступная. Яна яшчэ больш узбуйняе галоўны вобраз, ператвараючы яго ў рэальны малюнак, выпісаны выразна, пластычна, так, што асязальна паўстае перад тваім

позіркам. Ён без празмернай метафарычнай насычанасці, але ўсё адно пададзена дастаткова, каб пералсыць і адчуванне сваёй прысутнасці ў тым, без чаго пачуццё Радзімы страчвае вельмі шмат:

Маладосць з краю ў край мяне весела кідала,
Колькі кветак дзівосных пабачыў і змяў!
Ля адных вырашаў, што бадзяцца абрыдла.
Каля іншых шаптаў я чыёсьці імя.

Любаваўся, глядзеў на краіны я розныя,
А пісьмо ад сястры напявала пра росныя
Сінія касачы.

Ды радасць мінулася, знікла, як і шмат што іншае знікла з прыходам фашыстаў: «Не паспелі у шчасці як след пакупацца мы, — // Бомбы свіснулі, пырснула першая кроў. // Хата вочы закрыла дашчатымі пальцамі, // Каб не бачыць гора гаспадароў». Калі ж вялікае гора, то яно бяда для ўсіх. І не не толькі для адных людзей: «Прашаптала матуля на ростані: «Лёс такі!..» // І прыніклі журботна да градак пялёсткамі // Сінія касачы».

Ды ў памяці лірычнага героя яны засталіся ранейшымі — вабнымі, непаўторнымі ў сваёй красе і гэткімі прыцягальнымі, як і тады, калі мог штодня любавацца імі. Дзе б ні знаходзіўся, не забываў пра гэтае прыроднае хараство. Запамятаваць яго, значыць, у нечым і здрадзіць таму, што дорага і люба табе, без чаго бяднее і драбнее навакольны свет, а сам ты пазбаўляешся чагосьці вельмі важнага. Ператвараешся ў непрыкаянца, пазбаўленага той духоўнай апоры, якая дазваляе ўпэўнена адчуваць сябе на жыццёвых няўдобіцах.

Асабістае, укладзенае паэтам у вусны лірычнага героя, становіцца і часткай, прытым важнай, тыповага, бо лёс яго — гэта ў пэўнай ступені і лёс усіх, хто ў грозную часіну ўзяў у рукі зброю, каб бараніць родны край ад фашысцкай навалы, памятаючы, што жыццё альбо смерць — не гучныя словы, за гэтым стаіць лёс роднай краіны:

Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі,
За вайну перамерана тысячы вёрст.
З успамінамі крочыў над ветрамі сінімі
І з надзеяй на студзеньскім холадзе мёрз.

І заўсёды здалёк, праз прасторы вялікія
Усміхаліся мне і дамоў мяне клікалі
Сінія касачы.

Пры ўсёй прасветленай лірычнасці верша «Сінія касачы» ў ім відавочна публіцыстычнасць, але гэта так званая ўнутраная публіцыстыка, калі ўсё — перажытае, выпакутаванае, набалелае — выказваецца не поклічна-ўзвышана, але ў нечым і як бы сцішана. Яно падаецца праз сам настрой лірычнага героя, а настрой гэты залежыць ад таго, што згадвае ён, што прыпамінае ў канкрэтным выпадку. Праўда, завяршэнне твора ўжо іншага кшталту. Відавочна нават і пэўная лозунгавасць, але яна не «крыклівая». Таксама гаворыцца набалелае і, прамовіўшы яго, лірычны герой напаўняецца ўпэўненасцю, што ў далейшым усё будзе добра. Наперадзе — доўгачаканая перамога:

Нехта бруднымі ботамі, пэўна іх вытаптаў,
Выбіў градкі, спаліў невысокі паркан.
І не мае аздобы зямля працавітая,
І сумуе па кветках маўклівы туман.

Прыйдзе час — зноў збудуем мы хаты утульныя,
А цяпер — біць дык біць! І за слёзы матуліны,
І за сінія касачы.

### Паселішчы — старонкі незнаёмых кніг

Асобнае месца як у ваеннай, так і ва ўсёй творчасці Панчанкі займае цыкл вершаў «Іранскі дзённік». Яго таксама можна аднесці не толькі да лепшых ягоных набыткаў, а і да дасягненняў усёй беларускай паэзіі. Пімен Емяльянавіч з 1944-га па 1946 год, знаходзячыся ў гэтай далёкай краіне, працаваў у армейскай газеце «Советский патриот». Але ж гэта быў не проста журналіст, а журналіст-паэт. Да ўсяго ён трапіў у краіну, пра якую тады ў Савецкім Саюзе ведалі не так і шмат. Зразумела, што гэтыя багатыя ўражанні выклікалі жаданне расказаць пра іх.

Не будзем, аднак, забываць, што ён быў прывязаны не толькі да канкрэтных рэалій, шмат у чым незнаёмых яму. «Ціснула» на яго і тое, што прыехаў у Іран не як нейкі турыст (хоць якія турысцкія паездкі савецкіх людзей маглі быць у даваенны і пасляванны час, а тым больш у ваенны!), а зусім з іншай нагоды: «Я — пасланец Рэспублікі Саветаў, // Не заваёўнік, а жаданы друг» — так Панчанка заявіў (менавіта заявіў, а не проста сказаў) у вершы «***Мы першы раз за межамі Радзімы». Зразумела, што мусіў сябе адпаведна паводзіць. Дый пісаць адпаведна таксама, каб не западозрылі ў прадузятым стаўленні да гэтай краіны. Разам з тым, што таксама агульнавядома, не мог не паказваць перавагі савецкага ладу жыцця. Але было і тое, што прыходзіць без якіх-небудзь дырэктыўных указанняў. Тых, хто прыбыў у Іран, не магла не ўразіць тамашняя экзотыка. Тым больш паэта ў душы, паэта па прызванні.

Захапленне Іранам у Панчанкі непадробнае, шчырае, па-чалавечы зразумелае:

Якія горы! А сады якія!
Тут шмат зямнога цёплага дабра,
А назвы дрэў мудроныя такія,
Што цяжка нават рыфму падабраць.

Рака па скалах хвалямі грукоча,
Узмыленая, ярасна сапе.
І так ляціць, і так імчыцца —
Хоча
Нібыта абагнаць сама сябе.

Пімен Емяльянавіч быў неабыякавым да Ірана з першых дзён свайго знаходжання ў ім. Таму ўжо ў гэтым вершы моцныя і сацыяльныя матывы. Безумоўна, лягчэй і прасцей сказаць, што тым самым паэт лішні раз падкрэсліваў канстрасты не толькі ў гэтай краіне, а і ўвогуле супрацьпа’стаўляў Іран і Савецкі Саюз. Сцвярджаць — глядзець на ўсё з вышыні сённяшняга дня. Усё ж і Панчанка, кажучы словамі вядомай песні, быў «сделан в СССР». Іран ён успрымаў вачыма менавіта савецкага чалавека. З гэтага пункту гледжання шмат што пабачанае выклікала ў яго непрыняцце:

А тут яшчэ нязвыклыя кантрасты:
Палац раскошны, у мільёнаў пяць —
І дзед-жабрак. Ён мае грошы? Трасцу!
Панэль пад бок — і, калі ласка, спаць!

У роспачы, беззыходнасці прамоўлена: «Прапахшы часнаком і сонцам горад (Тэгеран. — *А. М.*), // Багаты і жабрачы горны край». Пімену Емяльянавічу і хацелася лепш зразумець «багаты і жабрачы горны край». І не яго віна, што захапляючыся гэтай паўднёвай краінай, мусіў паказваць і яе непрывабныя бакі. Такой была рэальнасць, а супраць яе Панчанка не мог пайсці.

Асаблівай вастрыні споведзь пра Іран дасягнула ў вершы «Малярыя», якім завяршаецца цыкл, прысвечаны гэтай краіне. Знітавана між сабой, ператварыўшыся ў суцэльны пласт, тое, што мела месца ў сапраўднасці, і згадкі, якія ў нечым нагадваюць мроенне, — магчыма такое пры ўздзеянні на свядомасць чалавека празмернай гарачыні. Пачынаецца як бы трызненне. Збалелая душа лірычнага героя ў гэты момант душэўнай адзіноты абвострана адчувала ўсё, што адбывалася наўкола:

І адзін я ў пустыні,
І адзін я ў пустыні…
Кроў пачне закіпаць,
Потым зноўку застыне.
Хоць шукаюць сябры — ды мяне не знаходзяць
На паблытаных сцежках вайны.
Караваны мяне абходзяць,
Заміраюць у далях званы.
Толькі жоўты пясок неабсяжнай пустыні
Нада мною галосіць
То працяжна, то сціпла.

Малюнак усё больш убірае ў сябе такое, што, здавалася б, і ўявіць цяжка. Толькі гэта ніколькі не выдумана. Усё лірычны герой перажыў, выпакутаваў, апынуўшыся ў малярыйным стане. Не так і важна, дзе мройнасць, а дзе сама рэальнасць. Істотней, што ўсё гэта ўражвае тым высокім паэтычным майстэрствам, якое даецца вялікаму таленту: «толькі жорсткі пясок агнявая пустыня // Праз вачніцы мае усё сыпле і сыпле»; «[…] гарачае сэрца малатамі куюць», «[…] вятры адыходную песню спяваюць». З’яўляецца роспач, гатовая паралізаваць усе сілы, а гэта канец. Аднак спадзяванне на ўратаванне ўсё ж надае фізічнай і душэўнай моцы, жывіць жаданне не скарыцца: «Хоць бы трошачкі ценю, // Хоць бы кроплю вады, // Хоць бы сівы арол засланіў крыллем сонца!» Гэтага жадання не меншае, нягледзячы на тое, што становішча ўсё больш ускладняецца: «Вось пяскі валасы ўжо мае замялі, // Сэрца зараз праб’е дванаццаць».

Малярыя — страшная хвароба, але куды страшней — малярыя духу. На шчасце, яна абышла лірычнага героя. Ён выстаяў у пустыні. Аднак да такога зыходу, апроч стойкасці духу, прывяло і не жаданне паміраць на чужой зямлі:

Трэба ўзняцца.
Я свінцовыя вейкі свае расчыніў,
Свет хіснуўся — такі нетрывалы і дзіўны.
Толькі я ўжо устаў,
Бо удалечыні
Я ўбачыў вялікае сонца Радзімы.

Праўда, у заключных радках верша пры строгім стаўленні да напісанага можна заўважыць і пэўную зададзенасць. Прысутнічае тая абавязковасць, што вымагала ад паэта не проста патрыятызму, а «правільнага патрыятызму». Гэта ж, вядома, савецкі патрыятызм. Аднак нельга не прыняць пад увагу, калі верш «Малярыя» пісаўся: пад творам значыцца 1945 год. «Вялікае сонца Радзімы» — той «светлы маяк», на які і трэба арыентавацца:

Хай вятры у вушах па-вар’яцку гудуць,
Хай пясок скрыпіць і рыпяць суставы,
Але я іду,
Але я дайду
Да першай савецкай заставы.

## Патрабавальна да сябе і да іншых

У Іране Панчанка працаваў не толькі над гэтым паэтычным цыклам. З'явіліся з-пад яго пяра і некаторыя іншыя творы. Прынамсі, як прызнаваўся сам ён, «завяршыў працу над многімі вершамі, якія былі задуманы яшчэ на франтах Вялікай Айчыннай». Напісаў таксама паэмы «Іспанская ноч» і «Маладосць у паходзе». Дзеянне першага са згаданых твораў адбываецца зусім не ў Іспаніі, як можа падацца з назвы. Твор прысвечаны «іспанскім рэспубліканцам, якія адважна змагаліся ў беларускіх партызанскіх атрадах». Галоўныя ж героі паэмы — іспанец Дзіега і беларуская дзяўчына Галя, для Дзіегі — сеньёра Гэля. Іх аб'ядноўвае не толькі нянавісць да ворага, а ўзаемнае каханне. Дарэчы, гэта другая вайна ў лёсе Дзіегі. З фашыстамі ён змагаўся яшчэ ў трыццатыя гады ў сябе на Радзіме.

Паэма «Іспанская ноч» адметная яшчэ і тым, што, як слушна заўважыў Дзмітрый Бугаёў, «сам верш твора знарок стылізаваны пад іспанскую паэзію. Асабліва выразна гучаць у ім інтанацыі выдатнага іспанскага паэта Гарсія Лоркі». Высокай думкі пра «Іспанскую ноч» быў і Мікола Арочка: «Чым найбольш уражвае паэма, дык гэта вобразна-рукапісным майстэрствам перадачы ўсёй нязвычнай каларытнасці іспанскага танца ў партызанскім лесе».

У паэме ж «Маладосць у паходзе» выразна адчуваюцца аўтабіяграфічныя матывы. Згадваюцца не толькі гады маленства, а і час сталення лірычнага героя. Твор заканчваецца яго вяртанннем з Ірана. Ён прыязджае ў Маскву. Пазней Панчанка яшчэ неаднаразова вяртаўся да жанру паэмы, але, трэба быць справядлівым, усё ж ягонае майстэрства найлепш праявілася ў вершах.

Знаходзячыся за межамі краіны, Пімен Емяльнавіч не быў адарваны ад Беларусі. Усё ж яна ўжо вызвалілася ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Атрымліваў лісты аб сяброў, блізкіх, знаёмых, перапісваўся і з некаторымі калегамі па пяры. Гэтыя кантакты сталі цяснейшымі пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Таму ведаў і пра тое, што робіцца ў літаратуры. Атрымаў ён і паэтычныя зборнікі «Край мой родны» Эдзі Агняцвет, «Крамлёўскія зоры» Анатоля Астрэйкі, «Шырокае поле вайны» Максіма Лужаніна, што выйшлі ў Мінску.

Захацелася падзяліцца сваімі ўражаннямі аб іх. Так з'явіўся артыкул «Ліст з Ірана». Шчыры, добразычлівы, хоць і не пазбаўлены заўваг. Толькі яны былі слушныя, бо пісаліся паэтам, які і сам ведаў цану сапраўднаму слову, дый хацеў, каб і іншыя трымалі планку мастацкасці на належнай вышыні. Абгрунтаваў і тое, чым кіраваўся, разглядаючы гэтыя кнігі: «Я знарок у асноўным спыніўся на пытаннях паэтычнай формы, бо тут у нашай паэзіі не ўсё добра. А што датычыць тэматыкі, ідэйнасці, то скажу: тэматыка цікавая і патрэбная… Знарок я таксама пісаў больш пра недахопы паэтаў, а не пра іх дасягненні. Добрыя вершы (а іх у трох кнігах нямала) пяройдуць у наступныя выданні, знойдуць дарогу (а мажліва, ужо і знайшлі) да сэрца чытача. Кепскія ж вершы могуць сапсаваць чытацкі густ і пашкодзіць самім паэтам. Вядома, некаторыя радкі гэтага ліста мне было пісаць не вельмі прыемна. Я мог бы абмінуць вострыя пытанні. Але я не хачу гэтага рабіць і не магу. Мы носім высокае званне паэтаў вялікага і гераічнага беларускага народа. Значыць, і наша паэзія павінна быць вялікай. А гэтага дасягнуць можна толькі пры ўзаемнай таварыскасці, але суровай крытыцы, без скідак папераджальных рэверансаў. Выступаць перад савецкім чытачом з шэрымі неахайнымі вершамі і паэмамі мы не маем права».

І пазней Панчанка даволі часта выступаў у ролі крытыка, пішучы як пра тых, з кім разам уваходзіў у літаратуру, так і творчую моладзь. Не чужой яму стане і публіцыстыка, звязаная з надзённымі праблемамі літаратуры і жыцця. Гэтыя матэрыялы будуць публікавацца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах. Некаторыя з іх прагучаць і ў эфіры. З асобнымі сваімі развагамі, меркаваннямі, думкамі Панчанка падзеліцца на пісьменніцкіх з'ездах, пленумах. Лепшыя з яго рэцэнзій, артыкулаў увойдуць у кнігу «На паэтычным небасхіле» (1977).

## Што прыстасаванец, што… беларускі бедуін

Другая палова 50-х гадоў мінулага стагоддзя, як вядома, звязана з так званымі адлігавымі працэсамі ў жыцці грамадства. У баку ад гэтых працэсаў не застаўся і Панчанка, у творчасці якога ўзмацніліся сацыяльныя матывы. Ужо ў 1956 годзе ён напісаў верш «Прыстасаванцы». Ён як бы пераклікаецца з яго ранейшым творам «Абывацелі». Паэт не цырымоніцца з тымі, хто сядзіць у грамадства на карку, для каго ўласныя шкурныя інтарэсы зацьмілі ўвесь белы свет. Калектыўны партрэт прыстасаванцаў розных масцей пададзены так па-майстэрску, што, хоць і гаворыцца пра многіх, можна пры жаданні ўбачыць ці не кожнага з іх, настолькі добра яны пазнаюцца. Дый як не пазнаць іх, калі што ні штрых — што-небудзь такое, дзякуючы чаму прыстасаванец «прачытваецца».

Няма сумнення ў тым, што яны «станкоў не знаюць, араць не ўмеюць, // Да воза з гноем не йдуць і блізка». Затое «разумнае, вечнае, добрае сеюць // Між мас працоўных амаль з калыскі». Паступова партрэт прыстасаванцаў усё больш канкрэтызуецца, паўстаюць тыя ці іншыя непрывабныя бакі іхняга жыцця і дзейнасці. Не людзі, а «людишки». Па-беларуску — нікчэмныя людзі. Праўда, самі яны сябе такімі не лічаць. Жывуць вольна дый прывольна:

Закончаць нешта з тугой нацяжкай,
Запас прыдбаюць цытатаў розных.
Дзяцей у школе вучыць ім цяжка,
Лягчэй, выгодней вучыць дарослых.

Пафас верша не проста выкрывальны. Пры жаданні ў яго моўнай тканіне лёгка заўважыць з’едліва-іранічнае адценне. Гумар жа пры гэтым саркастычны. Усё робіцца для таго, каб яшчэ больш падкрэсліць, што тыя, чые «застылі твары кароўім лоем, // Нос падпірае тупая веліч. // Глядзяць з пагардай на ўсё малое, // Балбочуць нешта ды ружавеюць», як у народзе кажуць — нулі без палачкі. Пустымі нарадзіліся, пустымі і жывуць, як бы ні стараліся даказаць, што чагосьці варты:

Цытата з вока, цытата з вуха,
І зуб у роце блішчыць цытатай.
Глядзіш з сумненнем на сына-зуха —
Кім ён змайстрован? Наўрад ці татам.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць.

Аднак «Прыстасаванцаў» Панчанка пісаў усё ж з аглядкай на цэнзуру. Не мог гэтага не рабіць. Баяўся, што верш, у якім і так шмат негатыўнага, можа не трапіць у друк. Агаварыўся, што такіх, каго ён паказаў, «сярод народа такіх нямнога». Але і не адмовіўся ад таго, што «вельмі ж хітра яны шкодзяць, // Нам замінае вось гэта погань, // Як пыл дарожны ў цяжкім паходзе». Але запэўніў:

Іх распазнаюць людскія вочы,
Ні ў якіх норах ім не схавацца.
Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

Пазней Панчанка напіша цудоўны верш «Бедуіны». Ён з шэрагу тых жа «Абывацеляў», «Прыстасаванцаў», дый іншых твораў, у якіх паэт змагаўся з мяшчанствам, выкрываў «рэчавую прыроду» асобных сваіх сучаснікаў. Між іншым, беручыся за гэтую праблему, падыходзіў да асэнсавання яе з самых высо-

кіх патрабаванняў. Якіх — дакладна прыкмеціў Уладзімір Гніламёдаў: «Сучаснае мяшчанства ён судзіць судом нашай гераічнай гісторыі, судом свайго салдацкага сумлення». У якасці прыкладу Уладзімір Васільевіч прывёў такі верш, які таксама хочацца працытаваць:

Сумую я па тых,
Што згаслі, нібы свечкі.
А тут і б’юць пад дых
З усмешкаю, па-свецкі.

Там свечак не было,
Свяцілі нам ракеты.
Сляпіла і гуло
Усюды без прасвету.

Успомню тых людзей —
Гатоў хвастаць па мордзе
Таго, хто бой вядзе
З-за імпартнай камоды.

Такому не відно
Красы зямнога шара.
Ён верыць у адно:
Манеты ўсё рашаюць.

Я іншай веры сам:
Бліжэй было б да шчасця,
Каб удалося нам
Хутчэй суняць мяшчанства.

Ды пра верш «Бедуіны»… Як вядома, бедуіны — арабы-качэўнікі, насельнікі Аравійскага паўвострава і Паўночнай Афрыкі. Нягледзячы на суровыя ўмовы пражывання, яны не скардзяцца на свой лёс, у чым пераканаўся і сам паэт, наведаўшы тамашнія мясціны: «Здаецца, бяда: // Спякота, // Пустыня, // Гнеўнае сонца, // Пыл. // Вятры гарачыя і густыя // Гудуць, // Як тэлефонныя слупы. // А ў бедуінаў // З пустыняй // І злітнасць, і роднасць, // Як у нас з нізінамі і далінамі…» Здавалася, нам да Сахары далёка, «Ды паўзла мода // Быць тубыльнымі бедуінамі».

У аснове паняцця «бедуіны», канешне ж, якая-небудзь сувязь са словам «бяда» адсутнічае. Але Панчанка выкарыстаў каранёвае «бед», як вытворнае ад «бяда», каб, дзякуючы яму, ахарактарызаваць ілжывых бедалаг, гэтакіх бедуінаў мясцовага значэння. Атрымалася здорава. Дзе проста з усмешкай, дзе з досціпам, а дзе з іроніяй, праз якую праступае непрыняцце тых, хто прывык з любой нагоды скардзіцца на свой лёс, быццам адбылося штосьці трагічнае:

Пакінуў жонку,
Жонка пакінула,
Суседзі дачу будуюць —
Крах… Катастрофа…
Планета загінула…
Нашы бедуіны бядуюць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У мяне прыяцель калісьці быў,
Слёзна бажыўся,
Што будзе іншым,
А потым ізноўку
Горка запіў
Бедуінчык.

Выснова, што вынікае як падагульненне разваг паэта, пазбаўлена якога-небудзь, няхай і ледзь прыкметнага дыдактызму, хоць ён, здавалася б, і напрошваўся. Замест яго Пімен Емяльянавіч па-жыцейску мудра разважыў:

Бедуінам сапраўдным
І пустыня — казырная карта,
У іх разумныя кемныя твары…
А нашых бедуінаў
І бедуінак смаркатых
Я паслаў бы
Павандраваць
Па Сахары.

## Ачышчальныя навальніцы і магічны крышталь паэзіі

Калі ж казаць пра кнігі Панчанкі другой паловы 50-х гадоў і пазнейшыя, дык гэта выглядае наступным чынам: «Выбраныя творы» (1956), зборнік сатыры і гумару «Гарачы лівень» (1957), «Кніга вандраванняў і любові» (1959), «Нью-Йоркскія малюнкі» (1960), «Тысяча небасхілаў» (1962), «Чатыры кантыненты» (1964)… Іх крытыка, чытачы сустракалі прыхільна. Гніламёдаў, для прыкладу, «Кнігу вандраванняў і любові» назваў «сапраўднай літаратурнай падзеяй». Асабліва слыннаму крытыку і літаратуразнаўцу спадабаўся верш «Трэснула, грукнула, грымнула з покатам…», які працытаваў у сваім артыкуле «Як само жыццё», у якім разглядаў творчасць Панчанкі. Дарэчы, гэты артыкул даў назву і «кнізе бягучай крытыкі» Гніламёдава (так вызначыў яе абсягі сам Уладзімір Васільевіч), што выйшла ў 1980 годзе. Згаданы ж артыкул напісаны двума гадамі раней, у 1978 годзе, амаль праз дваццаць гадоў пасля выхаду «Кнігі вандраванняў і любові». Часу, каб яшчэ глыбей асэнсаваць (а то і пераасэнсаваць) свае першыя ўражанні Гніламёдаву было больш чым дастаткова. Ды ён застаўся ранейшай думкі.

Магчыма, некаторыя прыхільнікі творчасці Панчанкі і запамяталі ўжо гэты верш, таму не лішне прыгадаць яго:

Трэснула, грукнула, грымнула з покатам,
Хлынула цёплае неба на дол.
    (Вось і сімфонію слухаем, покуль там
    Творцы сядзяць за музычнай нудой).

І бліскавіцы без нудных лічыльнікаў
Суткі ўсхвалёвана паляць сябе.
    (Прыстасаванцы хаваюцца ў шчыліны,
    Слон кабінетны трывожна сапе).

Травы ачысцяцца, дрэвы памыюцца,
Лівень не зломіць іх — стануць дужэй.
    (Кажуць, што крытыкі больш не памыляцца.
    Бог беражонага не зберажэ).

Я навальніцы люблю ачышчальныя,
Што працінаюць да донца душы.
    (Кажуць, не прымуць больш касы ашчадныя
    Ў сейфы свае махляроў барышы).

Смолкія почкі маланкай палушчаны,
Свежа і зелена. Ясныя дні
    (Кажуць, што заўтра ўсе алілуйшчыкі
    Выступяць супраць сваёй балбатні).

Як не пагадзіцца з Гніламёдавым: «Тыповы верш Панчанкі гэтага часу. Я ўспамінаю яго, калі гаворка ідзе пра ёмістасць і шматзначнасць паэтычнага слова, пра яго сацыяльнасць, праблемнасць — па-мастацку плодную, насычаную гуманістычным зместам. У гэтым вершы якраз добра відаць магічны крышталь панчанкаўскай індывідуальнасці — яго шырокае дыханне, уменне жывапісаць гукам, мелодыяй, асвяжаць позірк на свет, амаладжваць яго, узнімаць настрой».

Водгулле «ачышчальных навальніц» чутно і на старонках панчанкаўскіх кніг «Пры святле маланак» (1966), «Снежань» (1972), «Крык сойкі» (1976), «Вячэрні цягнік» (1977), «Маўклівая малітва» (1981), «Дзе начуе жаўранак» (1983)¸ «Горкі жолуд» (1988)… Назваў не ўсе, бо выдаваўся Панчанка даволі шмат. Аднак прыходзіў да чытача не важкімі «цаглінамі», што вельмі любяць практыкаваць некаторыя паэты, а і тоненькімі зборнікамі. Асобныя з іх і ў кішэню лёгка пакласці. Гэта і добра, бо паэзія — на тое яна і паэзія, каб тое, што надта ўсхвалявала цябе, пастаянна знаходзілася з табой. «Панчанкаўскія ж «ачышчальныя навальніцы» трэба ўспрымаць, як тыя працэсы, што адбываліся ў жыцці грамадства і хоць зрэдку ўскалыхвалі яго, бо былі і пазітыўныя змены. Але не так шмат, як гэтага хацелася. На іх чуйна рэагаваў паэт. Не мог не рэагаваць у сілу адметнасці свайго таленту. Дый пісьменніцкага і грамадзянскага тэмпераменту — таксама.

Пра кнігі «Пры святле маланак» і «Снежань» Варлен Бечык зазначыў, што яны «народжаны нібы адным пачуццём, адным дыханнем. Трапяткія, пяшчотныя і суровыя словы ў паэта поўняцца то ўсмешкай, то пафасам, то болем, то радасцю — яны запаветна вынашаныя і пераканальна адказныя, самапатрабавальныя і зычлівыя, смелыя ў позірку на супярэчнасці жыцця, настойлівыя ў сцвярджэнні праўды». Рыгор жа Барадулін быў лаканічны, аднак у кароткім прысвячэнні Пімену Емяльнавічу сказаў шмат:

Верш ягоны з байцамі хадзіў у атакі.
Звык паэт, лёгкай славай не абцяжараны,
Махлярам паказваць, дзе зімуюць ракі,
І сябрам падказваць,
«Дзе начуе жаўранак»!

## Пацерка да пацеркі

Шмат хто з беларускіх паэтаў у розны час выступаў у абарону роднай мовы. Не толькі ў сваіх вершах, а і з розных трыбун, таксама ў публіцыстычных артыкулах. Ды толькі верш Панчанкі «Родная мова» прыкметна вылучаецца з гэтых заклапочана-ўсхваляваных, трывожна-набалелых споведзяў. Чым — здагадацца не цяжка. Канешне ж, найперш тым напалам пачуцця, якое нязменна спадарожнічала яму, калі браўся выказваць асабліва набалелае, тое, пра што маўчаць больш было не толькі невыносна цяжка, а і балюча.

Штуршком жа для напісання гэтага твора, як прызнаваўся сам Пімен Емяльянавіч, стала сказанае тагачасным першым сакратаром ЦК КПСС Мікітам Хрушчовым у першай палове 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Мікіта Сяргеевіч, апантаны ідэяй пабудовы камуністычнага грамадства, зазначыў, што ўсё адбудзецца хутчэй, калі народы Савецкага Саюза загавораць па-руску. Гэта, па ягоным перакананні, паспрыяе іх яшчэ большаму з'яднанню, што важна на шляху да камунізму.

Сказанае першай асобай краіны болем адгукнулася ў сэрцы, у душы Панчанкі. У такіх поглядах ён убачыў замах на існаванне беларускай мовы. Тым больш, што, сказанае Хрушчовым, партыйнае кіраўніцтва ўспрыняло як заклік да дзеяння. Пачалі закрывацца школы з беларускай мовай навучання. Занепакоены лёсам

роднай мовы, у 1964 годзе Пімен Емяльянавіч і напісаў гэты верш. Гаворку сваю пачаў ціха, стрымана. Дый як іначай, калі прызнаваўся ў любові да яе, а сапраўднай любові шкодзіць празмерная пафаснасць у выяўленні пачуццяў. Чужая ёй і крыклівасць, лозунгавасць. Не прымае яна і ледзь не грукату ў грудзі, каб толькі звярнуць на сябе ўвагу. Затое, чым цішэй прамаўляецца, тым больш шчыра, праўдзіва:

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Але інтанацыя твора змяняецца, калі споведзь кранаецца балючых струн душы. Адразу ж з’яўляюцца ярка выражаныя публіцыстычныя матывы. Рэзка, да болю эмацыянальна лірычны герой гаворыць пра сваю гатоўнасць перанесці любыя нягоды дзеля таго, каб беларуская мова не толькі не згубілася сярод іншых моў, а і адчувала сябе годна і ўпэўнена: «Калі ж хто загадае: «Не трэба!» — // Адрачэцца ад мовы народ, — // Папрашу я і сонца, і неба: // Мне не трэба ні славы, ні хлеба, // Асудзіце на безліч нягод». Адна была просьба ў яго: «Толькі месяцаў назвы пакіньце, // Назвы родныя роднай зямлі, // Пра якія з маленства ў блакіце // Бор шуміць і пяюць жураўлі […]».

Пасля гэтага інтанацыя аповеду зноў мяняецца. Лірычны струмень як бы асвяжае развагі паэта. Дый як жа без прасветленасці, калі згадваюцца не якія-небудзь выпадковыя назвы, а тыя, што спадарожнічаюць чалавеку па сутнасці ўсё яго жыццё. Гэта — назвы месяцаў. Па-беларуску ж яны гучаць надта хораша, бо ў кожную ўкладзена часцінка, хай часам і маленькая, таго, што вызначае сутнасць пэўнага наймення, характарызуе яго, ці тлумачыць тое, што за ім стаіць. Нібыта пацерка з пацеркаю звязваецца і паступова атрымліваецца кар*а*левы ланцужок, што вабіць сваёй аздобай:

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад…

Пасля гэтага ішлі заключныя радкі. Таксама прамоўленыя з болем, але асабліва моцным, нават нейкім роспачным, гатовым перайсці ў плач:

Ці плачу я, ці пяю?..
Восень. На вуліцы цёмна…
Пакіньце мне мову маю.
Пакіньце жыццё мне.

Такая рэзкая танальнасць падкрэслівала бядотны стан беларускай мовы. Зразумела, што падобнае завяршэнне твора Галоўліту не спадабалася. Пімену

Емяльянавічу было загадана перапісаць канцоўку. Заявілі, што калі ён не выканае гэтае патрабаванне, верш «Родная мова» не будзе надрукаваны. Панчанку не заставалася нічога іншага, як пагадзіцца. Так і з'явіўся нейтральны варыянт, які яўна не адпавядаў той рэзкасці, што прагучала ў паэтавым прызнанні пайсці на любыя выпрабаванні, каб толькі жыла родная мова. Атрымалася хоць і праўдзіва, але не ўзамазвязана з папярэднім зместам твора:

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю —
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

Першапачатковы варыянт завяршэння твора Панчанка аднавіў толькі ў сваім аднатомніку «Выбранае» (1993).

## Другім разам… ці лепшым часам?

У пачатку другой паловы 80-х гадоў мінулага стагоддзя па сутнасці нарадзіўся другі Панчанка — яшчэ больш непрымірымы да заган грамадства, з абвостраным пачуццём барацьбы за справядлівасць. На хвалі змен у жыцці ён зноў выступіў у абарону роднай мовы. Напісаў верш «Развітанне» — свайго роду маніфест той нацыянальнай інтэлігенцыі, якая, дбаючы аб будучыні Беларусі, разумела, што гэтая будучыня немагчыма без развіцця роднай мовы, без функцыянавання (слова хоць нейкае і казённае, але ў дадзеным выпадку яно вельмі да месца) яе ва ўсіх сферах жыцця. За час, што прайшоў пасля напісання верша «Родная мова», становішча не толькі не палепшылася, а ў нечым і пагоршылася. Беларуская мова паступова выходзіла з ужытку. Знаходзіліся і тыя, хто, як некалькі дзясяткаў гадоў Хрушчоў, на поўным сур'ёзе сцвярджалі, што беларусам дастаткова і рускай мовы.

Такія настроі на новым этапе былі ўжо нават больш небяспечныя. Калі ў часы хрушчоўства толькі рабіліся захады, каб зменшыць ужыванне беларускай мовы, то ў 80-я гады гэта ўжо дало рэальныя вынікі. «Інтэрнацыяналісты» розных масцей «рэзалі» па-жывому, абгрунтоўваючы такія свае намаганні рэаліямі сучаснасці. Чаго, маўляў, асабліва хвалявацца, калі ў свеце падобная сітуацыя назіраецца і з шмат якімі іншымі мовамі. Адбываецца збліжэнне народаў, а, як вынік гэтага, і збліжэнне моў. Слабейшыя з іх у такім працэсе проста не выжываюць.

Голас Панчанкі гнеўна загучаў супраць падобных «інтэрнацыяналістаў»:

Вялікая дзяржава —
Вялікая ідэя.
І ўсё ж, таварыш мой,
Мазгамі шавяльні:
Каля агню братэрства
Растуць і ліхадзеі
І расцвітае
Вялікадзяржаўны шавінізм.

Адразу ж прыпомніў і некаторыя прыклады такога шавінізму: «Малыя народы — // Як грошы разменныя ў касах. // На бронзавых конях // Усюды сядзяць палкаводцы: // То пакарэнне Каўказа, // То высяленне Каўказа, // То Беластоцкая вобласць, // То ваяводства». І тут жа рэзка, нават куды больш рэзка, чым у некаторых іншых яго творах, напомніў, што, як бы ні стараліся падобныя «дабрадзеі», рана ці позна, а беспакаранымі яны не застануцца, і пакрыўджаныя народы будуць працягваць жыць:

Якія б войны
У нас не перакатваліся,
І як бы акупанты
Ні дратавалі зямлю,
Рана ці позна
Народы распраўляліся з катамі,
І зноў аралі-сеялі;
І гаварылі: «Люблю».

У вершы «Развітанне» паэт уступіў і ў завочную дыскусію з некаторымі непрымальнікамі ягонай пазіцыі: «Вучоны невук // Ці дурнаваты крытык, // Якія паэзію // Не разумеюць і не адчуваюць, // То ў жанры даносу, // То пагардліва адкрыта // Мяне з году ў год ушчуваюць: // «Каму патрэбна // Тваіх маніфестаў рыторыка? // Трэба пра шчасце пісаць // І далі прасторныя». Прагучаў годны адказ ім:

А я журуся:
Мала ў Беларусі
Разумных гісторыкаў,
Якія любяць і ведаюць
Родную гісторыю […]

У духу самога часу было сказана, бо акурат з перабудовачнымі працэсамі ў жыцці грамадства — як на ўсёй савецкай прасторы, так і на Беларусі, з'явіліся ахвочыя перапісваць гісторыю, ці ў не першую чаргу новую. Як і заўсёды ў падобных выпадках, асабліва ўвішныя аўтары кідаліся ў крайнасці. Адны нядаўняе мінулае адмаўлялі цалкам, іншыя ўсе «радасці» бачылі толькі ў былых часах. Падобны падыход быў асабліва небяспечным для Беларусі, бо, бадай, як ні ў адной саюзнай рэспубліцы, мала мелася гісторыкаў, «якія любяць і ведаюць родную гісторыю». Яны зноў ухапіліся за так званых нацдэмаў, а «нацдэмы», канешне ж, былі за родную мову. І пайшло, паехала… Ідэйных праціўнікаў кляймілі не менш, як ў трагічныя 30-я гады мінулага стагоддзя.

Ад усведамлення гэтага Пімену Емяльянавічу станавілася прыкра, няўтульна на душы. Таму гэты свой верш ён і закончыў на песімістычнай ноце, што адпавядала і назве твора:

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
«Я не веру — настане…»
Дарагі Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта настала змярканне.
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

Хоць, бадай, такую заяву не трэба ўспрымаць літаральна, як паспяшаўся сёй-той заявіць. Дый цяпер знаходзяцца прыхільнікі такой думкі. Навідавоку, аднак, іншае: Панчанка, пішучы сваё «Развітанне» ўсё ж з роднай мовай не развітваўся. Ён нагадваў, што развітанне і сапраўды можа адбыцца, калі не задумацца над катастрафічным становішчам яе. Ён біў у звон — моцна, самаахвярна, і «ўдары» гэтыя пачулі. Прыгадайма, які ўсплёск цікавасці да беларускасці адбываўся ў тыя гады, калі пісаўся верш «Развітанне». Канешне, на тое было шмат прычын, але, несумненна, паспрыяла гэтаму і праўдзівае, бескампраміснае слова Панчанкі.

## Вар'яцтва… жнівеньскай ночы

У Пімена Емяльянавіча ёсць некалькі вершаў, у якіх у той ці іншай ступені згадваецца Млечны Шлях. Кожны з іх — па-свойму цікавы, а аб'ядноўвае іх тое, што ўсе яны напісаны па-майстэрску. Вабныя яшчэ і таму, што паэт, як і кожны творца глыбіннага маштабу, адчуваў сябе з'ядналым з усім жывым. А гэта, канешне, і прырода. Дый не толькі прырода. У бязмежнай касмічнай прыродзе таксама адбываюцца працэсы, якія пакуль не спазнаныя намі, а то і невядомыя нам. Хто ведае, магчыма, і там ёсць жыццё. Якіх-небудзь сведчанняў, што над гэтым задумваўся і Панчанка, няма. Але, безумоўна, не мог не задумвацца, бо ўсе мы таксама як бы з космасу. З тых невядомых працэсаў, якія адбываюцца ўжо нават не мільёны, а мільярды гадоў. Млечны Шлях — гэта ж нібы фантастычная дарога, што пралягла ў бясконцасці і таксама вабіць сваёй загадкавай невядомасцю. Ці не ў хвіліны такога роздуму пісаўся Піменам Емяльянавічам і верш «Жнівеньская ноч як звар'яцела…»:

Жнівеньская ноч як звар'яцела,
Развязала чорныя мяхі.
Сотні тысяч зорак пераспелых
Сыплюцца на мокрыя імхі.

Галаву і сэрца мне працяла
Млечным Шляхам.
Край сасновы мой
Сёння ноччу нейкім стаў працягам
Зорнай таямніцы векавой.

Балбатня пра атамы — пустое,
У ператварэнняў — свой закон.
Толькі гэта неба залатое
Назаўжды ўзяло мяне ў палон.

Загадайце, хлопцы і дзяўчаты,
Спраўдзіцца усё ў жыцці у вас…
Зоркі, не пагасніце дачасна,
Я люблю вас,
Я кахаю вас.

Адзін жа з вершаў Панчанкі і называецца «Млечны Шлях». У ім злучаны згадкі маленства і больш позныя, звязаныя з жыццёвым сталеннем, мужаннем на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Прысутнічае і тая рэальнасць, калі лірычны герой ужо не можа не разумець, што ягоны жыццёвы шлях пераадольвае ўжо свае апошнія вёрсты. Усё меней часу застаецца да таго моманту, калі гэтая дарога абарвецца. Ад такога ўсведамлення прыходзіць далёка нярадасны настрой. Шмат пра што думаецца, многае пераасэнсоўваецца, але думкі абавязкова міжвольна сягаюць і ў касмічную вышыню, у завоблачныя далі, дзе, як некалі і ў маленстве, «пыліцца» Млечны Шлях. І ўсё часцей упэўніваешся, што час забыцца пра ўсё выпадковае, бо яно, хай сёння і ўплывае на твой лёс, не так ужо і важна. Перад той вечнасцю, з якой хутка ты застанешся сам-насам. Дый перад табой самім:

Вы начавалі над ракой
        на сініх паплавах?
Я начаваў.
        І сенам пах
        маленства Млечны Шлях.

Яшчэ ён пах тады расой,
        прытоенай слязой.
Загадкі зорныя плылі
        маўкліва нада мной.

Было і потым разгадаць
жыццё мне не лягчэй —
Бясконцы млечны шлях вачэй,
жывых людскіх вачэй.

Цяпер у зорную пару
жыву я між лясоў.
Шлях на мяне глядзіць вачмі
загінуўшых сяброў...

Было і ёсць жыццё ў мяне,
а будзе непазбежнасць.
Пара адкінуць мітусню
і вечную паспешнасць.

Пара, пара прыйшла і мне
не коўзацца, не зыбацца.
Сцвярджае век: ты чалавек —
не страх, не крах, не прах…

А з вышыні ўсю ноч на лес
і на мяне ўсё сыплецца
Трывожны ціхі зорны дождж,
журботны Млечны Шлях.

Ужо гэтага верша дастаткова, каб ва ўсёй паўнаце, глыбіннай сутнасці адчуць непаўторны свет паэзіі Пімена Панчанкі. Вартага ж увагі ў яго вельмі шмат. Асабліва гэта тычыцца твораў, калі пісаліся ўжо ў сталым узросце. Дый тады, калі паэт у нечым і падагульняў свой жыццёвы і мастакоўскі шлях. Задумваўся, што яшчэ можна пакінуць чытачам-нашчадкам, каб яно было варта іхняй увагі. Прымушала б задумацца, як над хуткаплыннасцю часу, так і ўсвядоміць, наколькі важна памятаць пра тое, што ніколі не страчвае свайго значэння, а высокамастацкая паэзія і ёсць тая эстэтычная вартасць, якая заўсёды спрыяе духоўнаму і душэўнаму абнаўленню чалавека. У значнасці гэтых панчанкаўскіх памкненняў я і паспрабаваў упэўніць чытача, неабыякавага да нацыянальнага прыгожага пісьменства. Дый сам духоўна ачысціўся, прыгарнуўшыся душой да гэтага хараства, якому, не сумняваюся, жыць столькі, колькі жыць беларускай літаратуры.



**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

# КРЫНІЦЫ ПРЫДЗВІННЯ*

## Напачатку было слова

Пабываць ва ўсіх музеях Полацка за кароткі час — нерэальна, фізічна немагчыма. Разам з Навумам Гальпяровічам выбіраем, на нашу думку, галоўны — Музей беларускага кнігадрукавання. Адзіны ў краіне. Цікавасць да яго асабліва надзённая цяпер, калі адзначаецца 500-годдзе з дня выдання першай беларускай друкаванай кнігі Францыскам Скарынам.

Урачыстае адкрыццё музея адбылося 8 верасня 1990 года, калі ў Полацку святкавалі Дзень беларускага пісьменства і 500-годдзе нашага слыннага першадрукара Францыска Скарыны. Ён жа сустракае нас і пры ўваходзе ў будынак — у параднай мантыі доктара навук, з разгорнутаю кнігаю ў руках і засяроджана-прасветленым тварам. Менавіта такім ён убачыўся мастаку Віктару Шматаву.

Перахапіўшы наш позірк, экскурсавод Вольга Анатольеўна цёпла ўсміхнулася:

— З блаславення Скарыны і пачнём падарожжа па залах нашага музея. Дарэчы, гэта музей так званага комплекснага тыпу. У яго ранг установы гістарычнай (дае магчымасць наведвальнікам зазірнуць у глыбіню вякоў), тэхнічнай (на ўласныя вочы ўбачыць працэс стварэння кнігі) і мастацкай (прасачыць на даволі значным адрэзку часу, як нараджалася, развівалася і ўдасканальвалася мастацтва афармлення кнігі). Пры гэтым працэс стварэння беларускай кнігі арганічна ўпісваецца ў кантэкст сусветнай кніжнай творчасці.

Уся экспазіцыя размешчана ў пятнаццаці залах на двух паверхах. Вольга Анатольеўна ўражвае лічбай: у фондах больш за дзесяць тысяч экспанатаў. Самых розных. І трапілі яны сюды таксама рознымі шляхамі. Адны — падораны, другія — набыты ў прыватных калекцыях, трэція — перададзены на захаванне. А ў цэлым даюць цудоўную магчымасць трапіць у чароўны свет кнігі і прасачыць яе лёс ад самага нараджэння.

Напачатку ўзгадваюцца знакамітыя асветнікі — Еўфрасіння Полацкая і Сімяон Полацкі, якія мелі справу з рукапіснай кнігай. Пасля паказваецца дзейнасць Францыска Скарыны і яго паслядоўнікаў — Пятра Мсціслаўца, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, тых, хто прынёс на Беларусь друкаваную кнігу. Атмасфера гэтай залы як бы настройвае на адпаведны лад, нараджае ў яго шэраг натуральных пытанняў. На чым нашы далёкія продкі пісалі? Як выглядалі першыя рукапісныя кнігі? Ці складаным быў працэс друкавання ў мінулыя часы?

Адказы на гэтыя пытанні знаходзім у наступных залах.

Калі краіна адзначае 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, адчуваецца павышаная ўвага да ўсяго, што звязана з жыццём і дзейнасцю Францыска Скарыны. Нашаму першадрукару прысвечана асобная зала. Шмат экспанатаў падрабязна апавядаюць пра лёс і жыццёвыя перыпетыі слыннага сына Полацкай зямлі.

Як вядома, сваю першую друкарню Францыск Скарына адкрывае ў Празе, потым — у Вільні. Усяго ім выдадзена 23 кнігі. На жаль, ніводнай з іх музей не

* Заканчэнне. Пачатак у № 7, 2017.

мае. Экспануюцца толькі копіі. Арыгіналы захоўваюцца ў бібліятэках і музеях па ўсім свеце. Навуковы супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу Мікалай Мікалаеў дапамог полацкім музейшчыкам зрабіць муляжы з пецярбургскіх арыгіналаў.

Можна пабачыць і тагачасную друкарню — мадэль тыповую для XVI—XVII стагоддзяў. І друкарскі станок, і наборная каса, і прэс зроблены па малюнках і чарцяжах таго часу. Мадэль рабочая. Пры жаданні на такім станку можна зрабіць дастаткова якасны адбітак. Дарэчы, праца друкара лічылася шкоднай, бо ён меў справу са свінцом, з якога адліваліся літары. Такая тэхналогія нам з Гальпяровічам добра знаёмая: у сваёй маладосці мы яшчэ заспелі яе ў правінцыйных раённых друкарнях.

Асобная зала, прысвечана дзейнасці Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, братоў Мамонічаў… Кожны з іх прадстаўлены цікавымі арыгінальнымі старадрукамі. У прыватнасці, ёсць копія нясвіжскага выдання «Катэхізіса» Сымона Буднага, якое з’яўляецца першай на тэрыторыі сучаснай Беларусі кнігай на беларускай мове. Васіль Цяпінскі выпусціў усяго адну кнігу — «Евангелле», якое не паспеў выдаць Скарына. Адметнасць кнігі ў тым, што ў ёй пададзены паралельна два тэксты: адзін на царкоўнаславянскай мове, другі — на старабеларускай.

Калекцыя старадрукаў у музеі даволі багатая. Тут і Статут ВКЛ, і «Брэсцкае Евангелле» 1563 года на польскай мове. Прадстаўлены копіі кніг з Лоскай друкарні пана Кішкі, Любчанскай і Слуцкай друкарняў. Асобнай увагі заслугоўвае «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага — першы дасканалы падручнік, на які абапіраліся пазней многія вучоныя, у тым ліку і Міхайла Ламаносаў.

А вось «Буквар» з Куцеінскай (пад Оршай) друкарні Спірыдона Содаля. Год выдання 1731-ы. Ён лічыцца першым букваром на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Калі не ўлічваць, што падобнае выданне крыху раней было падрыхтавана ў Вільні, тагачаснай сталіцы ВКЛ. Гэта «Буквар» 1618 года, які знайшоў Алесь Суша ў Лондане, у раёне, якім некалі валодалі магутныя тамплієры.

Аглядваючы калекцыю старадрукаў, нельга не заўважыць такую асаблівасць: побач з выданнямі Свята-Духаўскай брацкай друкарні суседнічаюць кнігі з Віленскага ўніяцкага манастыра, езуіцкія выданні побач з малітвасловамі для стараавераў. Значыць, экуменізм быў рэальнасцю ў паўсядзённым жыцці нашых продкаў.

Завяршаем агляд музея перад незвычайнай скульптурай — «Прысвячэнне роднаму слову». Работа таленавітага скульптара Паўла Вайніцкага сімвалізуе вобраз беларускага слова, беларускай культуры і як бы падсумоўвае ўсё ўбачанае і пачутае ў музейных залах, настройвае наведвальнікаў на адпаведны роздум.

Мы таксама выйшлі з музея, поўныя розных уражанняў і эмоцый. І як гэта звычайна бывае, сутыкнуліся з вядомым парадоксам: чым больш пазнаеш — тым больш узнікае пытанняў. Захацелася дазнацца пра жыццё і дзейнасць першадрукара крыху больш, чым можа дазволіць музейная экспазіцыя.

## Шляхамі Скарыны

З чалавекам, які ведае пра Скарыну ўсё, ці, дакладней, усё, што на сённяшні дзень магчыма, сустракаемся ўжо у Мінску. Гэта — намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, кандыдат культуралогіі Алесь Суша. Ён жа — аўтар Скарынаўскай энцыклапедыі ў трох тамах.

— *Алесь Аляксандравіч,* — звярнуліся мы да вучонага, калі сустрэліся з ім ва ўтульным кабінеце Гальпяровіча, — *сваю цікавую даследчыцкую працу вы падзялілі на тры тамы і кожнаму з іх далі адпаведную назву: «Чалавек-энцыклапедыя», «Чалавек свету» і «Чалавек-легенда». Характарызуючы markazнабаковую дзейнасць Скарыны, вы называеце яго сапраўдным энцыклапедыстам, волатам Адраджэння. Раскажыце, калі ласка, пра гэта крыху падрабязней.*

— Так, Скарына быў чалавекам эпохі Адраджэння, падобны да Леанарда да Вінчы і іншых выдатных дзеячаў таго часу, якія здолелі сябе таленавіта праявіць у самых розных іпастасях.

Адна з іпастасяў Скарыны — перакладчык. Тут ён праявіў сябе ярка, таленавіта, і не проста як адораны, але і прафесійна падрыхтаваны, надзелены пэўным густам чалавек. Пры гэтым хацелася б зазначыць дзве акалічнасці.

Па-першае, як вядома, на сваіх кнігах ён звычайна пісаў, што яны перакладзены на мову рускую — на той час пад гэтым разумелася старабеларуская мова. Нягледзячы на гэта, большасць беларускіх даследчыкаў усё ж лічаць, што пераклад зроблены на царкоўнаславянскую ў беларускай рэдакцыі. Іншымі словамі, гэта мова, блізкая да набажэнства, на якой і сёння ў праваслаўных храмах ладзіцца служба. Напэўна, з гэтым можна пагадзіцца.

Па-другое, з якой мовы перакладаў Скарына — таксама пытанне. Сам ён піша пра выкарыстанне арыгіналаў на грэчаскай, лацінскай і яўрэйскай мовах. Што тычыцца апошняй, то ў ягоных тэкстах ужываюцца не толькі асобныя словы на яўрэйскай мове (напрыклад, назвы кніг), але ў пэўных месцах і цэлыя фразы, як, скажам, у Кнізе Эсфіры, праўда, у кірылічнай транслітарацыі.

Тое ж самае можна сказаць і адносна грэчаскай мовы. У тэкстах ёсць асобныя словы, якія падаюцца па-грэчаску, але гэта не значыць, што Скарына перакладаў наўпрост з гэтай мовы. Як удумлівы даследчык, ён класічныя грэчаскія тэксты чытаў, звяраў з іншымі. Найбольш верагодна, што асноўнымі крыніцамі для перакладу былі тры: гэта ўласна царкоўнаславянскія тэксты, якія існавалі на той час, у тым ліку і на беларускіх землях; гэта, бясспрэчна, лацінскія тэксты і, вядома ж, чэшскія пераклады, найперш венецыянскае выданне Біблії 1506 года.

І глядзіце, што ў выніку атрымоўваецца. Скарына выкарыстоўваў лаціна-каталіцкія пераклады, праваслаўныя царкоўнаславянскія, чэшскія гусіцка-пратэстанцкія. Яны ўсе былі яму добра знаёмыя, з усімі працаваў. Таму можна гаварыць, што як прафесійны перакладчык, ведаючы старажытныя мовы, а таксама сучасныя яму выданні і спісы святога пісання, рабіў даступныя, зразумелыя шырокай аўдыторыі тэксты, якія можна было б выкарыстоўваць у царкве пры набажэнстве і якія адаптаваны для мясцовага слыху і розуму ў максімальна спрошчаным варыянце. Гэта была няпростая, складаная работа і ці не найважнейшае дасягненне Францыска Скарыны.

— *Работа вялікая, сур'ёзная, а царкоўнікі яе чамусьці не прынялі. Калі зайшла размова аб кананізацыі Скарыны, праваслаўная царква выступіла супраць гэтага.*

— Калі гаварыць аб кананізацыі — гэта адна справа. І зусім іншая — выкарыстанне скарынаўскіх кніг у царкоўнай службе. Дакладна вядома, што праваслаўныя святары даволі актыўна выкарыстоўвалі іх у XVI стагоддзі. І праз сто гадоў было тое ж самае. І нават пасля рэформаў канца XVI—XVII стагоддзяў, калі некаторыя нашы мітрапаліты не рэкамендавалі беларусам і ўкраінцам карыстацца кнігамі Скарыны, гэта ўсё ж адбывалася. Дарэчы, і ў Расіі гэтыя кнігі былі даволі шырока распаўсюджаны — іх прадавалі, куплялі, чыталі. У многіх тагачасных бібліятэках яны меліся і выкарыстоўваліся.

— *Вы адзначаеце яшчэ адну іпастась Скарыны — стваральнік літаратурнай мовы... Не адзін са стваральнікаў, а менавіта стваральнік.*

— Такі тэрмін пайшоў, так бы мовіць, у народ, дзякуючы пэўным літаратуразнаўчым даследаванням. Я толькі яго паўтарыў, але з пэўнымі агаворкамі. Таму што старабеларуская мова існавала і да Скарыны, працягвала існаваць і пасля яго. У чым жа заслуга нашага першадрукара? Найперш у тым, што падрыхтоўка прафесійнага перакладу вымагала пэўнай уніфікацыі, унармавання той мовы, якая тады была. І Скарына гэта зрабіў. Яго кнігі сталі прычынай і ў значнай меры стымулам для тэарэтычнага асэнсавання моўнага матэрыялу, а пазней і вялікай працы па выпрацоўцы норм старабеларускай мовы. Бо, як вядома, тады яшчэ адсутнічалі слоўнікі, граматыкі, элементарныя падручнікі. Той факт, што скарынаўскія кнігі

аддрукаваны вялікім тыражом і даволі шырока пайшлі ў народ, сведчыць аб стварэнні самастойнай моўнай з'явы, больш таго — літаратурнай з'явы.

Кнігі Скарыны аказалі самы моцны ўплыў на ўсіх наступных беларускамоўных пісьменнікаў. Гэта абсалютна бясспрэчна. Узгадаем Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага — наймацнейшы ўплыў на мову іх перакладаў. І нават на форму: выкарыстоўваюцца тыя ж шрыфты, тыя ж элементы аздаблення.

І нарэшце, самае галоўнае. Вялікая колькасць аўтарскіх прадмоў і пасляслоўяў, напісаных на старабеларускай мове і ў межах пэўнай традыцыі, з'явілася пачаткам прафесійнай літаратуры. Мова скарынаўскіх твораў стала не проста варыянтам гаворкі народнай, жывой, але яна вылілася ў форму высокага літаратурнага складу, у мову, на якой можна пісаць літаратурныя творы — самастойныя, яркія, самабытныя.

*— А калі вы гаворыце пра Скарыну як пра духоўнага пісьменніка, то зыходзіце толькі з ягоных прадмоў і пасляслоўяў?*

— На жаль, іншага ў нас не захавалася. Спадчына Скарыны — гэта толькі яго выданні. Выданні, у якіх асноўную частку складаюць біблейскія кнігі (тут ён выступае толькі як перакладчык) і вялікая (сапраўды вялікая!) колькасць аўтарскіх прадмоў і пасляслоўяў. Апошняе дазваляе нам казаць, што мы маем справу з прафесійнай мастацкай літаратурай, створанай у адпаведнасці з канонамі свайго часу.

Усе гэтыя творы выразна структураваныя: ёсць завязка, кульмінацыя і развязка. Відавочна актыўнае выкарыстанне Скарынам мастацкіх сродкаў — параўнанняў, эпітэтаў, разгорнутых метафар. Фактычна ўсе вядомыя сёння выяўленчыя сродкі ўжо ўжываліся Скарынам. Мова ў ягоных творах эмацыйна выразная. Мова дыялагічная. Аўтар не проста звяртаецца да чытача — ён заклікае яго да сумоўя, да размовы, да супольных разважанняў.

У дадзеным выпадку можна ўпэўнена казаць, што Францыск Скарына з'яўляецца не толькі перакладчыкам, але і пісьменнікам. Для вас можа стацца нечаканым, але наш першадрукар спрабаваў свае сілы і ў паэзіі. Захаваліся напісаныя ім вершаваныя тэксты ці, дакладней сказаць, тры фрагменты гэтых тэкстаў. Яны змешчаны ў некалькіх ягоных кнігах. Яны ёсць у Кнізе Эсфіры, у Кнізе Выхад, а таксама ў Кнізе Іова. Сімвалічна, што пасля вяртання на радзіму, у сталіцу беларуска-літоўскай дзяржавы — Вільню, Скарына прадоўжыў свае паэтычныя заняткі і ўжо ў першым сваім віленскім выданні — «Малой падарожнай кніжцы» — ён змясціў некалькі арыгінальных прац, у тым ліку акраверш «Делал доктор Скоринич». Больш вершаваных тэкстаў мы не ведаем. Можа, яны і ёсць, але пакуль не адшуканыя.

*— Пра што гэтыя вершы?*

— Натуральна, яны звязаны з рэлігіяй. Гэта, напрыклад, дэкалог — дзесяць старазапаветных запаведзяў Гасподніх, выкладзеных у вершаванай форме. Напрыклад, пра тое, каб чалавек не рабіў дрэннага іншаму, таму што сам тое ж атрымае. Так ці інакш усе гэтыя фрагменты напісаны на біблейскія тэмы.

Чаму мы ў дадзеным выпадку кажам пра вершы? Таму што ў гэтых тэкстах ужо бачны, і не проста бачны, а відавочны ўплыў сілабічнага вершаскладання. Гэта не мае адкрыццё. Пра гэта пісалі знакаміты расійскі славіст Анатоль Турылаў, беларускі літаратуразнавец Іван Саверчанка і іншыя.

*— Наколькі мэтазгодна, апраўдана называць Францыска Скарыну багасловам?*

— Абсалютна дакладна і ўпэўнена магу называць яго багасловам. Фактычна тое, што напісана ім у якасці прадмоў і пасляслоўяў, ёсць не што іншае, як багаслоўскія трактаты. Трактаты, пададзеныя ў мастацкай форме. Для шырокай аўдыторыі. Не для маладых святароў, каб іх нечаму навучыць. Не для адукацыі ў духоўных школах. А для таго, каб Біблію, Святое Пісанне, мог разумець просты люд.

Абсалютна бясспрэчна і тое, што Скарына ў гэтых тэкстах выступае і як філосаф. Дастаткова спаслацца на працы нашых вучоных — даследчыкаў гісторыі філасофскай думкі — Сямёна Падокшына, Уладзіміра Конана, некаторых

іншых. Аналізу эстэтычных поглядаў Скарыны прысвечаны цэлыя манаграфіі. Яго інтэлектуальная, філасофская спадчына даволі багатая.

— *А ці згодны вы з тым, што Скарыну называюць яшчэ і правазнаўцам? Ну якое права ў ягоных выданнях?*

— Сапраўды, здавалася б, якое там права ў кнігах Бібліі. Але, аказваецца, яго там даволі шмат. Асабліва ў Кнізе Другі Закон. Ды і ў некаторых іншых, хай сабе і ў меншай ступені. А ў сваіх прадмовах і пасляслоўях Францыск Скарына даволі глыбока аналізуе сутнасць права, робіць класіфікацыю відаў права, параўноўвае яго сучасны стан з тым, што было раней. У выніку ён лічыцца ці не адным з першых правазнаўцаў, які пачаў тэарэтычна асэнсоўваць законы права, аналізаваць яго ролю ў жыцці грамадства.

— *Калі гаварыць пра розныя іпастасі Скарыны, то хацелася б вось аб чым у вас запытацца. У сваіх працах вы сцвярджаеце, што Скарына быў не проста прадпрымальнікам, а прадпрымальнікам актыўным, энергічным. Але ж ён сам грошы не зарабляў. Яму фінансава дапамагаў брат, іншыя нябедныя людзі.*

— Так, вядома, што яму дапамагаў брат, фінансавалі іншыя людзі, часам вельмі высокага рангу, пачынаючы ад былых полацкіх месцічаў і завяршаючы ўласна каралеўскімі асобамі. Пры ўсім пры тым, Скарына як сапраўдны прадпрымальнік, часам увязваўся ў нечаканыя справы, якія да яго ніхто не рабіў. Ён шмат у чым быў, як цяпер бы сказалі, наватарам, рызыкаваў, укладваючы свае (і не толькі) сродкі. Я маю на ўвазе, найперш, кніжную справу, кніжны гандаль. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Скарына ўдзельнічаў у кніжным гандлі, у распаўсюджванні сваіх кніг. Як выдавец ён быў зацікаўлены, каб уласную прадукцыю прадаць як найхутчэй і як найбольш выгадна.

Ёсць гіпотэза, і даволі абгрунтаваная, што Скарына, напрыклад, ездзіў са спробай гандляваць сваімі кнігамі ў Маскву. Ініцыятыва, прама скажам, даволі рызыкоўная, таму што друкаваная кніга была для Масквы справай новаю, і як любая новая справа магла сутыкнуцца з рознымі нечаканасцямі. Што ўрэшце і адбылося.

Памятаю адзін дакумент, дзе пра гэта дакладна напісана. Гаворка ідзе аб тым, што кароль Жыгімонт II Аўгуст прыгадвае пра часы свайго бацькі, Жыгімонта I Старога, што ў яго быў друкар «рускіх кніг» і што ён павёз прадаваць свае кнігі ў Маскву. Але там іх не прынялі, спалілі, а сам друкар ледзь выратаваў жыццё ўцёкамі.

Цалкам магчыма, што гэта быў менавіта Францыск Скарына. Іншых друкароў «рускіх кніг» у часы Жыгімонта Старога проста не было.

Будзем шчырымі, Скарына напачатку быў толькі выдаўцом. У Празе ён друкаром, верагодна, не быў, уласнаручна кніг там не друкаваў. Ён карыстаўся паслугамі адной з мясцовых друкарняў. А вось у Вільні — так, сапраўды ўжо заснаваў сваю друкарню. І таму завём яго нашым першадрукаром. І гэта абсалютна абгрунтавана.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, можна сказаць, што Скарына не лётаў у высокіх аблоках, а грунтоўна стаяў на зямлі. Яго залішне ідэалізаваны вобраз стварае ў сучаснікаў адчуванне, што наш вялікі продак з'яўляўся ледзь не міфічнай асобай, якая не жыла і не кахала, не ела і не спала, і, безумоўна, не клапацілася пра матэрыяльнае забеспячэнне сваёй дзейнасці. А гэта не так. Ён быў звычайным, практычным чалавекам, які займаўся простымі, зямнымі справамі. Калі хочаце, справамі камерцыйнымі. Вось у гэтым сэнсе Скарына — прадпрымальнік. Акрамя гандлю кнігамі меў і іншыя заняткі, якія давалі сякія-такія сродкі. Скажам, да Альбрэхта Гогенцолерна, прускага канцлера, паехаў для таго, каб заняцца там новай для сябе дзейнасцю — лекарскай.

Хаця ў мяне на гэты конт ёсць і іншая версія, якая яшчэ нідзе не гучала. Яна няпростая і, магчыма, спрэчная, але пры ўсім пры тым мае права на жыццё. Я лічу, што Скарына паехаў у Прусію не толькі ў якасці лекара, але і ў якасці

своеасаблівага шпіёна-дыверсанта. Не здзіўляйцеся, калі ласка, і не рабіце вялікія вочы. Я ў гэтай версіі абапіраюся не на чуткі, не на міфы, а на канкрэтныя дакументы. Гэта лісты Альбрэхта ваяводзе Гаштольду і Віленскай радзе. У першых лістах герцаг піша: вось, маўляў, да нас прыехаў слынны доктар Скарына, чалавек вялікага розуму, вельмі адораны. Такіх я ніколі не сустракаў. Зрабіў нам вялікую ласку, многа ў чым дапамог. Я дапусціў яго ў сваё блізкае кола, фактычна вызнаў яго дваранінам (бо Скарына, як мы ведаем, не меў шляхецкага звання, быў мешчанінам). А цяпер у яго ёсць пільныя справы: па сямейных абставінах ён вымушаны вярнуцца ў Вільню. То вы яго прыміце, вырашыце ўсе пытанні на яго карысць, каб ён мог як мага хутчэй да мяне вярнуцца.

А праз два тыдні наўздагон ідуць лісты ўжо зусім іншага зместу. Гэты несумленны Скарына, піша разгневаны герцаг, апрача таго, што нечакана з'ехаў, хаця ў нас былі на яго вялікія планы як на друкара і на лекара (змагацца з эпідэміяй англійскай гарачкі), яшчэ і вывез з краіны нашага каралеўскага лекара і каралеўскага друкара. Затрымайце, пакарайце, — ледзь не крыкам крычыць герцаг, — пасадзіце гэтага шэльму ў турму, а маіх людзей вярніце назад.

За савецкім часам, мусіць, каб не разбураць прыгожы вобраз выдатнай асобы, гэтыя дакументы амаль не разглядаліся. Бытавала версія, што Скарына паехаў у Прусію, каб разгарнуць кнігадрукаванне, зарабіць грошай, але там у яго нешта не атрымалася і ён вымушаны быў збегчы. Заадно прыхапіў з сабою каралеўскага друкара, каб арганізаваць кнігадрукаванне ў Вільні.

Можа быць… Але нешта тут не вяжацца. І калі супаставіць гістарычныя факты, то маем вось што. Факт першы. Што такое тагачасная Прусія? Гэта краіна, якой усяго пяць гадоў. У 1525 годзе яна заснавана на базе Тэўтонскага ордэна — спрадвечнага ворага Вялікага Княства Літоўскага, з якім вяліся бясконцыя войны. І вось Альбрэхт Гогенцолерн, апошні магістр Тэўтонскага ордэна, прапаноўвае Жыгімонту І Старому мір. Але з адной умовай: прызнайце нашу новую дзяржаву ўжо не як ордэн, а як свецкую краіну пад назваю Прускае Герцагства.

Жыгімонт прапанову прымае. Альбрэхт становіцца герцагам і пачынае актыўнае эканамічнае рэфармаванне, у выніку якога краіна ўмацоўваецца, багацее. У хуткім часе ствараецца ўніверсітэт, развіваецца інтэлектуальная культура. У якасці дзяржаўнай рэлігіі прымаецца пратэстантызм. З гэтай мэтай арганізоўваецца друкарня, якая пачынае масава друкаваць літаратуру пратэстанцкага толку і якая актыўна засылаецца ў Літву.

Натуральна, што гэта магло не падабацца віленскім уладам. Асабліва каталіцкаму біскупу Яну, пад бокам у якога ствараецца такая рэлігійная пагроза. Аднак менавіта ў гэты час сакратаром у гэтага біскупа працуе Скарына. І вось ён едзе ў Прусію, уваходзіць у блізкае кола давераных асоб герцага. Скрадае адтуль друкара, які распаўсюджвае пратэстанцкія ідэі на ўвесь рэгіён. Больш за тое — вывозіць і лекара, тым самым стварае ў краіне, дзе лютавала эпідэмія, яшчэ большую пагрозу.

Цікава, што ў Вільні, нягледзячы на ўмольныя просьбы герцага, ніхто Скарыну не арыштоўвае, не садзіць у турму. Наадварот, ён паспяхова працягвае займацца сваёй справай, пры гэтым часам карыстаючыся апекай самых высокіх асоб. І пазней, калі наш першадрукар з-за фінансавых праблем трапіць у турму, то дзякуючы асабістым клопатам караля і біскупа Яна яго не толькі вызваляць, але і забароняць болей чапаць.

Ну і як расцаніць гэтыя факты? Таму мая версія аб тым, што Скарына працаваў на карысць Айчыны, цалкам верагодная. Нічога кепскага ў гэтым няма.

*— Цікавая версія… Нечаканую іпастась намалявалі вы для Скарыны. Але логіка ў вашых разважаннях ёсць. А наколькі праўдзівыя тыя даследчыкі, якія сцвярджаюць, што малюнкі ў скарынаўскіх выданнях не яго ўласныя, а запазычаныя?*

— З гэтым можна цалкам пагадзіцца. У адной са сваіх кніг я публікую некаторыя гравюры, што пацвярджаюць згаданую вамі версію. Дакладна ўстаноў-

лена: гэтыя гравюры ўжо выкарыстоўваліся раней у іншых выданнях. Скажам, у Псалтыры, выдадзеным у 1517 годзе, ёсць вялікая выява радаводнага дрэва Хрыста. І такі ж самы малюнак у пражскім выданні Новага Запавету за 1498 год. Гравюры абсалютна ідэнтычныя. І нават у віленскіх выданнях, ужо, здавалася б, далёка ад еўрапейскіх цэнтраў кнігадрукавання, Скарына выкарыстоўвае некаторыя гравюры з іншых выданняў. Напрыклад, з «Сусветнай хронікі» Хартмана Шэдаля 1493 года.

Але праўда і тое, што Скарыны прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні некаторых гравюр. Хутчэй за ўсё не як мастак, а як аўтар пэўных прапаноў, ідэй. У прыватнасці, гэта можна смела гаварыць пра гравюры з яго вядомым сегнентам — выдавецкім знакам ці друкарскай маркай. Гэты знак належыць толькі выданням Скарыны.

— *Адну са сваіх кніг вы назвалі «Чалавек свету»…*

— Так, Францыска Скарыну ў поўнай меры можна назваць чалавекам свету. Яго дзейнасць не ведала межаў: як у сэнсе разнастайнасці творчых заняткаў і талентаў, так і паводле геаграфіі яго падарожжаў і сувязяў з рознымі краінамі і прадстаўнікамі розных народаў. Фактычна ўвесь цывілізаваны свет таго часу яму быў добра вядомы, а ў многіх дзяржавах цудоўна ведалі яго. Кіраўнікі некалькіх еўрапейскіх краін называлі яго выбітным дзеячам, слаўным вучоным, надзвычай адораным і таленавітым мужам. Так што нашага знакамітага земляка можна назваць не толькі чалавекам свету, але і чалавекам-энцыклапедыяй.

Не магу сцвярджаць, што ўпершыню аб гэтым сказаў менавіта я. Гаварылася і да мяне. Але я ўпершыню звесткі аб знаходжанні Скарыны ў той ці іншай краіне падаў у адпаведнасці з тагачаснай палітычнай картай свету. Скажам, амаль усюды напісана, што Францыск атрымаў ступень доктара лекарскіх навук у Італіі. Ну не было ў той час ніякай Італіі! Была Венецыянская Рэспубліка, куды ўваходзіла Падуя. Альбо называецца Германія. Божа мой! Якая Германія? Была Святая Рымская Імперыя. Ці тая ж Данія… Яна была зусім іншай…

— *А што, Скарына працаваў і ў Дацкім Каралеўстве?*

— Ёсць на гэты конт адзін дакумент. У протаколах Падуанскага ўніверсітэта, дзе Францыск здаваў іспыты на доктара ў лекарскіх навуках, старшыня савета прадстаўляе яго як сакратара дацкага караля, а калі даслоўна, то сакратара караля Дацыі. Так у той час называлі Данію. Ёсць нават гіпотэза, што ў гэтай якасці Скарына ў 1512 годзе мог прыехаць у Рым, а ў Рыме мог прымаць удзел у складзе дацкай дэлегацыі у Пятым Латэранскім Саборы каталіцкай царквы і па дарозе назад заехаць у Падую.

— *Значыць, што славуты палачанін быў сакратаром ажно ў трох каралёў?*

— Ёсць яшчэ меркаванне, што ён быў сакратаром і пры двары чэшскіх каралёў, у аднаго з апошніх Ягелонаў.

— *А наколькі правамерна сцвярджаць, што Скарына працаваў у Вялікім Княстве Маскоўскім? Вы ж самі сказалі, што кнігі яго спалілі, а сам ён уцёк.*

— Працаваў ці не працаваў, але ж, верагодна, быў. Наколькі ўдалым можна назваць гэты візіт — пытанне складанае. Палачане на той час актыўна кантактавалі з Масквою. І віленскія купцы ездзілі пастаянна ў Масковію. Але дакументаў, што менавіта Скарына быў у Маскве, няма.

— *Алесь Аляксандравіч, полацкі перыяд Францыска Скарыны даследаваны даволі кепска. Што-небудзь новае апошнім часам адкрыта, адкапана, знойдзена?*

— Анічога. Ніякіх дакументаў не захавалася. Прынамсі, нам пра іх невядома. Ёсць сёе-тое пра бацьку, пра Скарынавых сваякоў, а пра самога Францыска полацкага перыяду нічога.

— *Толькі тое, што ён там вучыўся.*

— І то гэта ўсяго здагадкі. За савецкім часам прынята было пісаць, што ён атрымаў хатнюю адукацыю. Крыху пазней удакладнілі: мог вучыцца пры

Сафійскім саборы, дзе ў той час быў вялікі адукацыйна-асветніцкі цэнтр і працавалі адукаваныя святары. Сёння пераважае гіпотэза, што ён атрымаў адукацыю пры Бернардынскім манастыры ў Полацку. Гіпотэза даволі слушная. У рэшце рэшт, недзе ж мусіў вывучыць лацінскую мову да паступлення ў Кракаўскі ўніверсітэт.

— *Сапраўды чалавек-легенда. Не ведаем, калі нарадзіўся, не ведаем нічога пра яго дзяцінства і юнацтва. Не ведаем нават, калі памёр і дзе пахаваны.*

— Што датычыцца апошніх гадоў жыцця, то найбольш верагодна, што Скарына жыў у Празе і там памёр. Але дакладна пра гэта сказаць нельга. Ёсць дакументы пачатку 1552 года. Захавалася копія пісьма чэшскага караля Фердынанда на адрас Скарынавага сына Сымона з інфармацыяй пра тое, што бацька памёр, спадчына засталася, можна яе забіраць.

— *Калі ласка, крыху падрабязней пра сям'ю, пра яго сына.*

— Найбольш верагодна, што Сымон працаваў заграднікам, гэта значыць, як і бацька быў садоўнікам. Працаваў у Паўднёвай Чэхіі. Вядома таксама, што ў Скарыны быў не адзін сын. Яго дзеці ў множным ліку ўзгадваюцца ў некаторых дакументах. У тым жа лісце Альбрэхта пішацца, што ў Скарыны праблема з дзецьмі і яе трэба вырашыць.

Ёсць яшчэ адзін дакумент (калі не памыляюся, 1541 года), дзе паведамляецца пра пажар у Празе, у выніку якога загінуў Францішак — сын доктара Руса. Хутчэй за ўсё гаворка пра сына Скарыны.

— *А што гэта быў за канфлікт у сям'і Скарыны, пра які пісаў у сваім лісце Альбрэхт?*

— Канфліктаў я не ведаю. Была судовая справа з-за брата Івана. Гэта — старэйшы брат Францыска. Ён жыў у Познані, гандляваў пераважна з немцамі. Пасля таго, як памёр, засталася маёмасць, частка нерэалізаваных тавараў. Сваякі падзялілі паміж сабой. Пэўная частка спадчыны дасталася Францыску. Але праз нейкі час з'явіліся скаргі варшаўскіх яўрэяў: маўляў, Іван застаўся вінаваты шмат грошай, дык няхай тыя, хто атрымаў спадчыну, выплацяць нам доўг.

Адпаведныя прэтэнзіі былі прад'яўлены Скарыну. Яго выклікалі ў суд. Нават затрымалі для судовых разборак. Пакуль не з'явіўся Раман, сын Івана, які сказаў: «Бацькавы праблемы — гэта мае праблемы. І пакіньце шаноўнага доктара Францыска ў спакоі».

Тым не менш, Скарыну выпусцілі з турмы не адразу. Раману давялося яшчэ атрымоўваць ахоўныя граматы ад караля, ад іншых уплывовых асоб, каб вызваліць дзядзьку са зняволення.

— *Канешне, у жыцці і творчасці нашага першадрукара яшчэ многа белых плям, якія чакаюць сваіх карпатлівых даследчыкаў. А якую задачу на бліжэйшыя гады вы паставілі асабіста для сябе?*

— Калі па шчырасці, то асноўная мая задача як бібліятэкара — не даследчыцкая праца, а праца са спадчынаю Скарыны. Найперш, вядома, з кніжнаю спадчынай.

— *Колькі ў нас арыгінальных, аўтэнтычных Скарынавых кніг?*

— У Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца дзесяць ягоных кніг. Яны — арыгінальныя. Праўда, некаторыя дэфектныя, некаторыя няпоўныя. Ёсць друкаваныя кнігі, ёсць рукапісныя копіі з іх. Маем яшчэ «Малую падарожную кніжку», якую выкупіў Белгазпрамбанк і якая цяпер захоўваецца ў нашай бібліятэцы.

Карацей кажучы, арыгінальныя выданні Скарыны ў Беларусі ёсць. Іх няшмат, але самае важнае цяпер: стварыць неабходныя ўмовы, каб яны не псаваліся. У тым ліку і падчас экспанавання. У імкненні паказаць каштоўныя рарытэты як мага больш шырокай аўдыторыі мы не можам дапусціць іх страты. Гэта — першае.

Другая важная задача — апісанне спадчыны Скарыны. На вялікі жаль, да нядаўняга часу мы, беларусы, гэтым сур'ёзна так і не заняліся. А справа гонару — сур'ёзна разабрацца. Таму сёння праводзім вялікую працу па пошуку і

выяўленні ўсіх вядомых выданняў Скарыны, а таксама іх рукапісных копій. Ужо вядома 520 друкаваных выданняў у адзінаццаці краінах свету і больш за 40 рукапісных спісаў. Некаторыя з гэтых спісаў унікальныя, бо зроблены з друкаваных кніг, якія не захаваліся. Такім чынам, мы ў рэшце рэшт павіны ведаць для сябе, дзе, што, у якім стане захавалася.

Трэцяя задача — атрыманне лічбавых копій. Вярнуць арыгіналы ў Беларусь праблематычна. А віртуальная рэканструкцыя спадчыны Скарыны дасць магчымасць пазнаёміцца з ёю вялікаму колу людзей.

І чацвёртая задача — рэальнае вяртанне пэўных асобнікаў са збораў замежных краін. З дзяржаўных сховішчаў такое немагчыма, а з прыватных калекцый — рэальна.

*— Што ўжо зроблена і што яшчэ робіцца па ўшанаванні Скарыны, да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання?*

— Пачну здалёк. Вы, магчыма, не паверыце, але яшчэ сто гадоў таму ў нас пра Скарыну ніхто не чуў. Ну, можа, чалавек пяць (у лепшым выпадку!) ведалі гэтае імя. Першы беларускамоўны нарыс пра Скарыну надрукаваў у 1909 годзе ў «Нашай ніве» Сяргей Палуян. І толькі ў 1925—1926 гадах пачалі з'яўляцца больш-менш сур'ёзныя публікацыі нашых вучоных.

І вось за гэтыя сто гадоў мы вярнулі імя Скарыны з нябыту. Яно ўвайшло ў шырокі грамадскі ўжытак. Стала сінонімам нацыянальнага героя. Велічныя помнікі перашадрукару стаяць у Мінску, Полацку, Лідзе, Празе, Калінінградзе. Шмат гадоў ідуць размовы пра тое, што годны помнік Скарыну павінен стаяць і ў Вільні. Хочацца верыць, што ў рэшце рэшт гэтыя размовы ўвасобяцца ў канкрэтныя справы.

За апошнія дзесяцігоддзі праведзена нямала цікавых даследаванняў жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны. Пра гэта можна шмат гаварыць, але я скажу агульна. Гэта і шматлікія навуковыя канферэнцыі, і «круглыя сталы» вучоных з розных краін свету, і асабістыя росшукі беларускіх даследчыкаў. Сярод апошніх сваёй нястомнай актыўнасцю вылучаецца доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. У прыватнасці, ён выказаў меркаванне, што Скарына пахаваны не ў Празе, а ў Чэскі-Крумлаве, у парафіяльным касцёле Святога Віта. Заняцца там пошукамі праху нашага знакамітага земляка выказалі жаданне святары мінскага касцёла Святых Сымона і Алены на чале з ксяндзом-пробашчам Уладзіславам Завальнюком.

Шаноўны прафесар Мальдзіс падтрымаў яшчэ адну вельмі цікавую гіпотэзу. На яго думку, Скарына, які добра ведаў «правы боскія і правы чалавечыя», мог быць асноўным аўтарам першага Статута ВКЛ 1529 года. Гэты Статут называюць яшчэ першай еўрапейскай канстытуцыяй. У пацвярджэнне сваёй думкі, прафесар прыводзіць такія аргументы. Па-першае, іншай такой адукаванай і кваліфікаванай у юрыспрудэнцыі асобы, як Скарына, у тагачасным ВКЛ верагодна не было. Па-другое, другога друкара ён патаемна вывез з Прусіі магчыма якраз для выдання Статута. Аднак зрабіць гэта не ўдалося толькі з-за праследаванняў прускага герцага. У выніку Статут застаўся на стагоддзі ў рукапісе…

Хачу прыгадаць яшчэ такі факт. У 1981 годзе Акадэміяй навук БССР была аб'яўлена Скарынаўская праграма. І на працягу многіх гадоў яе актыўна, мэтанакіравана выконвалі. Выпусцілі Скарынаўскую эцыклапедыю, цэлую серыю зборнікаў матэрыялаў, дакументаў, даследаванняў, прысвечаных перашадрукару, падрыхтавалі шыкоўныя альбомныя выданні. Словам, зроблена ўсяго вельмі і вельмі многа. Трэба тое і сёння!

Францыск Скарына варты больш годнага ўшанавання. Гэта адзін з нешматлікіх вельмі пазнавальных і абагульняючых вобразаў Беларусі. Па ўсіх сацыялагічных апытаннях ён стаіць на першым месцы сярод нацыянальных герояў, гістарычных і культурных дзеячаў. Па вялікім рахунку, гэта сапраўдны тытан нацыянальнага Адраджэння. Дый не толькі нацыянальнага.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ПРАЎДА. БЭТА-ВЕРСІЯ




Ці часта спектаклі на гістарычныя тэмы робяцца папулярнымі ў гледача? Вырашаць тэатральным крытыкам. Але відавочна, што тэатральнаму рэжысёру куды складаней, чым рэжысёру мастацкага, дакументальнага кіно данесці да гледача багатую фактуру ў займальнай, цікавай форме. Трэба мець тонкі густ, дасканала валодаць прыёмамі сцэнічнага ўвасаблення. Складана даводзіцца і аўтарам драматычных твораў, падзеі якіх звязаны з далёкім мінулым…

І ўсё ж зрабіць цікавы гістарычны спектакль цалкам магчыма! І гэта пераканаўча даводзяць пераможцы конкурсу твораў для драматычнага тэатра «Францыск Скарына і сучаснасць», які быў абвешчаны ў мінулым годзе Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, адкрытым акцыянерным таварыствам «Ашчадны банк «Беларусбанк» з нагоды 525-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны і 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Сёння маем і аднайменную кнігу, якая змяшчае гістарычныя, сучасныя п’есы, сцэнічныя ідэі.

«Правядзенне конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць» было заклікана спрыяць пераемнасці лепшых традыцый народа, садзейнічаць далейшаму развіццю яго нацыянальнай самасвядомасці, сродкамі тэатра актыўна ўплываць на працэсы патрыятычнага выхавання прадстаўнікоў грамадства, у высокамастацкіх вобразах раскрыць унутраны свет чалавека ва ўсіх яго складанасцях і ўзаемасувязях з гістарычным мінулым і сённяшнімі пераўтварэннямі жыцця», — піша ў прадмове да выдання намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. І сапраўды, п’есы зборніка раскрываць асобу першадрукара шматвектарна, з аглядкай і на ўмовы яго жыцця, і на сучаснае пераасэнсаванне яго дзейнасці. Цікава, што творы раздзела «Сучасная п’еса» прадстаўляюць розныя варыянты сумяшчэння часавых планаў дзеяння.

У п’есе «Доктор свободных наук» Мікалая Рудкоўскага сучаснасць перацякае ў далёкае мінулае і наадварот. Звычайная кніга ў мяккай вокладцы з’яўляецца сувязным звяном паміж дзвюма эпохамі, бо «люди уходят, а книги остаются». Жывуць у двух светах і героі п’есы. Мужчына, які даказвае ў цягніку «Мінск—Вільнюс» неабходнасць існавання друкаванай кнігі, ператвараецца ў загадкавага «Майстра», прадстаўніка таемнага таварыства, што заключае дамову са Скарынай… Дабрабыт блізкіх, асабістае шчасце ці абавязак, звышмэта — жыццё першадрука-

ра паказана драматургам як бясконцы, цяжкі шлях да праўды. Той, якая нараджаецца толькі ў спрэчках. Бо Скарына больш за ўсё на свеце жадае, каб «люди читали и сами думали, рассуждали, даже спорили, отличали добро от зла, собственную истину от чужого мнения, и никто не вправе будет насаждать им свою волю». Сімвалы, прадказанні, размовы з душамі памерлых… П'еса «Доктор свободных наук», створаная ў булгакаўскім духу, дэманструе жахі, жарсці, мары і патаемныя жаданні кожнага з нас.

Дзеянне ж п'есы Алены Іванюшанкі «Скорина» Бета-версия» адбываецца ў сучаснасці. Вось толькі алюзіі яе — на час скарынаўскі. Безумоўна, гэтым аўтар падкрэслівае аднолькавасць надзённых праблем XVI і XXI стагоддзяў. Пакутлівы пошук спонсараў, непрыняцце інавацый, славуты «чалавечы фактар» у любой справе — карагод тых самых, па сутнасці, што і ў нашага асветніка, перашкод кружыць таленавітага вынаходніка Андрэя і яго каманду. Дзяржава і трымальнікі прыватнага капіталу не спяшаюцца выдаткоўваць грошы на праект хатняга робата, «машины с искусственным интеллектом». Варожа ставяцца да такой прапановы і пенсіянеры, якім робат прызначаны дапамагчы спраўляцца з хатнімі справамі, тлумачыць, як карыстацца тэхнікай, дапамагаць глядзець за ўнукамі… Падобны да Скарынавага і лёс галоўнага героя. «Скорина вдохновлял меня учиться и работать за границей, Скорина вдохновил вернуться домой с идеей, которая может сделать Беларусь лучше. Это не просто дядька из школьного учебника и билборда у продовольственного магазина. Я точно знаю», — кажа пра сябе Андрэй. Падобнасць — і ў здрадніцтве кампаньёнаў, і ў пазыках брата, і ў любоўнай гісторыі… Не атрымае чытач і адназначнага хэпі-энда. Справа Андрэя рэалізуецца, хоць і не зусім так, як хацелася. Але ж як зманліва гучаць словы руплівай памочніцы і дарадцы Веры, звернутыя да галоўнага героя напрыканцы твора: «А у Скорины были дети?»

Адваротны прыём выкарыстоўвае Віктар Марціновіч у п'есе «Кар'ера доктара Раўса», якая, дарэчы, ужо прайшла паспяховую сцэнічную апрабацыю. Яго Скарына жыве ў сваім часе, але вымушаны звяртацца да менеджараў, прарэктараў, паліцэйскіх… Сустракацца з сумна вядомымі кожнаму бюракратычнымі хадамі. І пакутліва даводзіць, што ён не чэх, не паляк, не масковец, прадзіраючыся праз бясконцыя шэрагі архітыповых служак закону, лісліўцаў, здраднікаў.

«Гістарычныя» п'есы зборніка таксама яскрава індывідуальныя, розныя. У кожнай, бадай, дадаецца нешта новае да звыклага партрэта першадрукара. Цімафей Ільеўскі, прыкладам, раскрывае таямніцу змены Скарынай уласнага імя. Міхаіл Туруноўскі ўзважвае на шалях долю божага і нячыстага на шляху першадрукара да высокіх дасягненняў. Ірына Аўдзеева і Сяргей Шыдлоўскі паказваюць абаяльныя бытавыя падрабязнасці жыцця асветніка і яго акружэння. З гумарам, іроніяй, без глянцу…

Шмат новых сэнсаў у вядомай гісторыі Юдзіфі знойдзем мы і ў «сцэнічнай ідэі» Сяргея Кавалёва. Ці толькі шлях служэння свайму народу прайшла біблейская гераіня, што адсекла галаву палкаводцу Алаферну? Ці, магчыма, гэта шлях горкага кахання, непрызнання ўласнага гераізму?

Няпростыя, часам правакацыйныя, але нязменна цікавыя ў сваёй «вастрыні» гісторыі расказаны аўтарамі сцэнічных твораў кнігі «Францыск Скарына і сучаснасць». А гэта, безумоўна, яскрава сведчыць пра жаданне дакапацца да праўды, з'яўленне абсалютна новага погляду нашых сучаснікаў на жыццё і творчыя перамогі незабыўнага Францыска Скарыны.



